*Вольга Сянкевіч*

Починаетъся книга Руѳъ еже
была баба Иесеова отца цари
Давыдова. З неяже изыдоша
вси цари Иудины. Зуполне вы
ложена докторомъ Францискомъ Скориною
изъславнаго града Полоцька

# РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА

**1 КЛАС** АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНАГА ЛІЦЭЯ

*Вольга Сянкевіч*

# РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА

ПАДРУЧНІК

па беларускай літаратурнай і культурнай адукацыі

для вучняў **1 КЛАСА** агульнаадукацыйнага ліцэя

BIAŁYSTOK 2013

RODNAJA LITARATURA
LITERATURA OJCZYSTA
Podręcznik do kształcenia literackiego i kulturowego z języka białoruskiego
dla klasy I liceum ogólnokształcącego

Opracowała: Olga Sienkiewicz

Projekt graficzny i skład: Anna Miszczuk

Redaktor: Anna Radziukiewicz

Korekta: Aleksander Wierzbicki

Słownik terminów literackich: dr Nadzieja Panasiuk

Na okładce wykorzystano grafiki Franciszka Skaryny.

Podręcznik jest dopuszczony do użytku szkolnego przez ministra właściwego do spraw oświaty i wychowania i wpisany do wykazu podręczników przeznaczonych do kształcenia ogólnego dla mniejszości narodowych i etnicznych oraz społeczności posługującej się językiem regionalnym. Podręcznik jest przeznaczony do kształcenia ogólnego dla białoruskiej mniejszości narodowej do nauczania języka białoruskiego, kształcenie w zakresie rozszerzonym na IV etapie edukacyjnym – szkoły ponadgimnazjalne, na podstawie opinii rzeczoznawców: dr Teresy Chylak-Schroeder i dr Jadwigi Głuszkowskiej-Babickiej. Rok dopuszczenia 2013.

Numer ewidencyjny w wykazie: 661/1/2013

Podręcznik finansowany przez Ministerstwo Edukacji Narodowej.

ISBN 978-83-937510-0-6



Elektroniczna wersja podręcznika zamieszczona jest na portalu Scholaris.

FUNDACJA
IM. KSIĘCIA
KONSTANTEGO
OSTROGSKIEGO



Fundacja im. Księcia Konstantego Ostrogskiego
15-399 Białystok, ul. Składowa 9

www.ostrogski.pl

Wydanie pierwsze
Druk i oprawa: Orthdruk, Białystok

## Змест



## У краіне маладосці і родных крыніц

## Праз дым стагоддзяў

## Ад Сярэднявечча да Асветніцтва

*Са шчырымі пажаданнямі поспехаў у пошуках уласных жыццёвых дарог, радасці з асэнсавання беларускага слова і родных крыніц, веры ў дабро. Няхай збудуцца ўсе Вашыя спадзяванні, планы і мары !*

*Аўтарка*

* * *

Пасля вялікага падарожжа
З маленькай буры
Супакой прыходзіць.
Знясіленая звярына
Да крыніц вяртаецца,
Аслабленая птушка
Да гнязда спяшаецца...
Пакланіся і ты
Сваёй крыніцы,
Калысцы, быццам арцы...
І Слову,
Якое дало табе імя
І ГОНАР ЧАЛАВЕКАМ ЗВАЦЦА!

*Юрка Баена*








*II Агульнаадукацыйны ліцэй з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы (злева).*
*II Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім*

**Школа** – вельмі жывы, імпульсіўны арганізм. У ім, як у калейдаскопе, хутка пераплятаюцца з сабой розныя сцэны, настроі, сітуацыі, напрыклад, вясёлае з сумным, аптымістычнае з песімістычным, сур'ёзнае са смешным.

Кожная школа мае свае асаблівасці, свой характар, выпрацоўвае свае традыцыі, свой стыль працы і гэтак далей. Калі гутарка вядзецца аб нацыянальнай меншасці, то ўжо праз сам гэты факт школьніцтва набывае свае характэрныя рысы, свае прыкметы.

Калі гаварыць пра Гайнаўскі ліцэй, варта звярнуць увагу хаця б на некаторыя з іх. Характэрным, напрыклад, было тое, што ад самага пачатку ліцэй быў той школай, у якую пераважна ішлі дзеці з бліжэйшых вёсак. Гэта для іх беларускі ліцэй стаў першым і найважнейшым этапам на шляху да адукацыі і грамадскай сталасці.

Калі ў 1950 г. я закончыў пачатковую школу і трэба было падумаць аб далейшай навуцы, то мне бацька катэгарычна заявіў: «Ёсць у Бельску свая школа і туды трэба ісці». Так і адбылося. Думаю, што так было не толькі са мною, але з дзесяткамі і сотнямі іншых сялянскіх дзяцей, якія для далейшай вучобы выбіралі якраз «сваю школу» – беларускі ліцэй. [...]

Аляксандр Іванюк і Васіль Сакоўскі, *Беларускі ліцэй у Гайнаўцы*

• Аляксандр Іванюк – шматгадовы настаўнік беларускай мовы, дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы ў гадах 1968-1971 і 1981-1991

**1** У прыведзеным тэксце аўтар двойчы выкарыстоўвае словазлучэнне *свая школа*. Як разумееш гэтыя словы? Адкажы развітымі сказамі.

**2** Адшукай у тэксце:
а) антонімы да слоў:
радаснае – (сумнае), вясёлае – .........., аптымістычнае – .........., сур'ёзнае – ..........,
б) сінонімы да слоў:
цікавы – (займальны), жывы – .........., рысы – .........., хутка – ...........

**3** Падрыхтуй кароткую інфармацыю пра свой ліцэй. Выкарыстай публікацыі даступныя ў школьнай бібліятэцы ці сайце школы. Выкарыстай пытанні:
Калі, у якія часы пачала працу ваша школа?
Як вялікая гэта адукацыйная адзінка?
Якімі дасягненнямі ў навуцы ці спорце можа ганарыцца школа?
Якія пазакласныя заняткі даступныя вучням вашай школы?
Якія падзеі з жыцця школы варта залічыць да істотных, чаму?

• адукацыя:
– дашкольная, пачатковая, сярэдняя, вышэйшая
– агульная, прафесійная, тэхнічная
– яслі, дзіцячы садок (прадшколле), пачатковая школа, гімназія, прафесійная школа, тэхнікум, ліцэй, каледж, універсітэт
• школа:
– з дадатковым навучаннем беларускай мовы
– з паглыбленым вывучаннем прадметаў (напр. матэматыкі)
– з музычным ухілам
– двухмоўная
• навучанне:
– вучань, вучаніца, першакласнік, аднакласнік, сябар, сяброўка
– дырэктар, намеснік дырэктара, настаўнік, настаўніца, педагог, бібліятэкар
– клас, кабінет, зала, настаўніцкі пакой, школьная бібліятэка, класны кіраўнік, класная выхавальніца
– навучальны год, паўгоддзе, урок, заняткі (пазакласныя), конкурс, экзамен на атэстат сталасці, абітурыент

*Васіль Вітка*

## Першае расчараванне

– Заўтра па мяне зойдзе Дзімачка! — паведаміла наша першакласніца.

І праўда, Дзіма зайшоў. Бабка накарміла дзяцей абедам. Дала ўнучцы і яе сябру па яблыку. І яны, задаволеныя і радасныя, пабеглі ў школу.

Праз два дні Дзімачка зноў прыйшоў. Але, на вялікае наша здзіўленне, унучка сустрэла яго рыданнямі:

– Не хачу, не хачу, каб ён па мяне заходзіў!

– Чаму? Вы ж разам сядзіце.

– Я перасяду на другую парту! — горка ўсхліпваючы, сказала яна.

– Непрыгожа гэтак. Ты крыўдзіш свайго сябра.

– Тады перавядзіце мяне ў другую школу!

– Што з табою? Дзіма — такі харошы хлопчык.

– Я яго бачыць не магу! Як толькі ён увайшоў, сэрца ў мяне абарвалася...— заліваючыся слязамі, вымавіла ўнучка і схапілася за сэрца.

Ледзь мы супакоілі нашу пакутніцу. Стараючыся загладзіць вінаватасць і няёмкасць перад Дзімачкам, мы пачалі ўгаворваць яго не крыўдзіцца на ўнучку.

Дзіма і не думаў крыўдзіцца. Спакойна і разважліва ён сказаў:

– Я ведаю, яна мяне больш не любіць.

Бабка зноў шчодра частавала нашага госця, просячы не чакаць унучкі, а ісці ў школу аднаму.

Дзіма ахвотна згадзіўся і пайшоў. Праз пяць хвілін выправілася ўнучка. Але ў клас яны ўвайшлі — кожнае паасобку.

На другі дзень наша першакласніца прыйшла дадому з дзяўчынкай.

– Гэта мая сяброўка Любачка,— шчасліва паведаміла яна.

А дзед з бабаю самі сабе падумалі: О сяброўства, о любоў! Дзе канчаецца адно і пачынаецца другое? І чаму яны не могуць жыць у дабры і згодзе нават на школьнай парце першага класа?

**1** Адшукай у тэксце словазлучэнні на тэму – школа. Выпішы і вусна складзі з імі сказы.

**2** Перакладзі сказы на польскую мову:

Радасныя і задаволеныя дзеці пайшлі ў школу.
Пятрусь і Міхась сядзелі разам, за адной партай.
Бацькі перавялі дачку ў другую школу.
Яны ўвайшлі ў клас – кожнае паасобку.
Першакласніца прыйшла дадому з новай сяброўкай.

**3** З прыведзеных ніжэй слоў выбяры адно, самае адпаведнае да ўстойлівага звароту – *сэрца абарвалася*. Словы для выкарыстання:

• абарвацца – адарвацца, аддзяліцца, упасці, зваліцца, адразу спыніцца, душэўна балець, перарвацца.

*Васіль Вітка*

## Свята настаўніцы

Ужо гатовая ісці ў школу, Юля раптам спахапілася:

– Ой, сёння ж свята!

– Якое, Юлечка? — спыталася бабка.

– Дзень настаўніка.

Позна было шукаць кветак. І бабка зрэзала апошнія астры, якія дацвіталі ў гаршках на балконе. Букет атрымаўся бедны і сіратлівы. Гэта адчувала і ўнучка, несучы яго ў школу.

Вінавата падышла яна да стала настаўніцы і паклала кветкі. Села за парту і ніяк не магла супакоіцца. Вельмі ж яна любіла сваю настаўніцу. Хацелася зрабіць ёй нешта асабліва прыемнае.

Юля адкрыла партфелік. Ой, якая знаходка! У партфеліку ляжаў «Залаты пеўнік» — адна-адзіная цукерка. Дзяўчынка абрадавалася шчаслівай нечаканасці. Яна дастала цукерку і паклала побач з астрамі.

Настаўніца ўвайшла ў клас. І хоць яшчэ не зірнула на стол, але так радасна ўсміхулася — мабыць, такі ўбачыла Юлін падарунак.

**1** Адкажы на пытанні, запішы адказы:

1. Пра якое свята ўспомніла Юлечка?
2. Якім атрымаўся букет зроблены бабуляй?
3. Чаму дзяўчынка не магла супакоіцца?
4. Што аказалася шчаслівай знаходкай і чаму?
5. Як вяла сябе настаўніца ўвайшоўшы ў клас?

**2** Прачытай уважліва кароценькія ўрыўкі з аповесці Якуба Коласа пад загалоўкам *У палескай глушы*. Прадстаўленыя ў творы падзеі адбываюцца зараз перад першай рускай рэваюцыяй (1905 год). Звярні ўвагу на стаўленне сялян да адукацыі.

– Так, стараста, трэба пачынаць (сказаў настаўнік).

– Ну, я ўжо заказаў, каб пасылалі хлопцаў у школу.

– Чаму ж толькі хлопцаў? Трэба, каб і дзяўчаткі хадзілі.

– Дзе яны пойдуць? – махнуў рукою староста: – Скажы ім пра школу, дык будуць смяяцца; вельмі дзіўным ім гэта пакажацца. Хоць бы хлапчукі ўсе пайшлі.

Лабановіч, наколькі мог, тлумачыў старасту, што і дзяўчаткам таксама трэба вучыцца, і даводзіў, скуль гэта патрэба вынікае.

Стараста слухаў, прыплюшчыўшы вочы, і толькі згаджаўся:

– Гэта так, панічок...

– Гэта вы справядліва кажаце.

– А вядома так.

– Што праўда, то праўда.

Але настаўнік бачыў на твары старасты, што ўсе аргументы зусім не пераконвалі яго ў тым, што дзяўчатам трэба навука. Што навука трэба мужчынам (а навуку стараста разумеў, як уменне чытаць, пісанне ж – ліха яго бяры, без яго можна абысціся лягчэй), стараста не спрачаўся.

[...]

Ужо колькі разоў паглядаў настаўнік на гадзіннік, думаючы, ці не пара яму ў школку.

Праўда, сёння толькі пачатак, толькі збор дзятвы; ён пакуль што азнаёміцца і зробіць запіс у журнал. Усё ж такі на сэрцы будзе спакайней: будуць зроблены хоць сталыя крокі да работы.

А дзеці крыху асвойтаўшыся, пачыналі гусці смялей, весялей. Часамі чулася іх беганка па лаўках, смех, крыкі. Некаторыя ціхенечка падыходзілі да дзвярэй кватэры настаўніка і з найвялікшаю цікавасцю заглядалі ў шчылінкі. Таксама забягалі яны і ў кухню, нібыта напіцца вады. Яны баязліва тапталіся, азіраліся, а некаторыя паціху пыталі ў бабкі:

– А што, бабка, ён сярдзіты?

А калі Лабановіч паказаўся ў кухні, яны, як мышы, згледзеўшы ката, кінуліся наўцёкі. Старожка залілася вясёлым, доўгім смехам: яе вельмі насмяшылі дзеці і іх страх перад настаўнікам.

Яна пераказала Лабановічу, як распытвалі пра яго вучні, паціраючы свае вушы, як бы раней пагадзіўшыся з тым, што іх будуць круціць.

• асвойтацца – тое, што і асвоіцца

**3** Дапоўні сказы, карыстайся тэкстам.

Вясковы стараста зусім не быў перакананы ў тым, што ............................

Навука паводле старасты, гэта ............................................................................

У першы дзень навукі малады настаўнік ........................................................

Дзеці пасмялелі ..............................................................................................

Забягалі вучні ў школьную кухню ....................................................................

Старожку рассмяшыў страх ............................................................................

**4** Знайдзі, запішы словы і словазлучэнні звязаныя з вышэйшай адукацыяй. Выкарыстай для гэтага ўрыўкі з апавядання Івана Навуменкі пад загалоўкам *Таполі юнацтва*.

У той апошні перадваенны год я жыў няўклюдна, бесталкова. З атэстатам выдатніка закончыў дзесяцігодку, без экзаменаў паступіў у політэхнічны інстытут, мне далі інтэрнат, стыпендыю. Але, не правучыўшыся месяца, я без усякай прычыны пакінуў інстытут, прыехаў у сваё мястэчка. Бацька лаяўся, маці ціха ўздыхала. Каб зачапіць за што-небудзь рукі і не быць нахлебнікам у сям'і, я паступіў картатэтчыкам у бухгалтэрыю кравецкай арцелі. Вядома, пасада і работа мяне зусім не цікавілі. Толькі два дні ў тыдзень – у суботу і нядзелю – настрой у мяне падымаўся. У гэтыя дні прыязджала дамоў мая аднакласніца Гэля Машчынская, якая вучылася ў педагагічным інстытуце ў бліжэйшым ад нашага мястэчка горадзе. З-за Гэлі я і вярнуўся ў мястэчка.

Я хадзіў да Машчынскіх, робячы выгляд, што сябрую з іхнім Аркадзем. Аркадзь вучыўся ў восьмым класе. Я насіў яму кнігі, памагаў рашаць задачы, праседжваючы па дзве-тры гадзіны штовечар. Аркадзь ні аб чым не здагадваўся. Маці Гэлі і бацька, вядома, разумелі. Маці была ласкавая: калі размаўляла са мной, то заўсёды з нейкай як бы вінаватай усмешкай на твары. З бацькам – галоўным аграномам райза – я бачыўся рэдка, ён вечна вандраваў па раёне. Застаючы мяне з Аркадзем, ён моцна, па-мужчынску, паціскаў мне руку і, ні аб чым не распытваючы, ішоў у свой пакой.

Пра адносіны Гэлі да мяне я нічога не ведаў. Калі мы яшчэ вучыліся ў школе, толькі адзін раз хадзілі разам у кіно. У дзень майго семнаццацігоддзя яна падаравала мне кнігу – «Сагу аб Фарсайтах». У школе яна ўсё ж ставілася да мяне па-сяброўску. Цяпер, прыязджаючы дамоў і застаючы ў кампаніі з Аркадзем, хмурылася, ні разу на яе твары я не заўважыў радаснай усмешкі.

Я чакаў, спадзеючыся на цуд...

• жыць няўклюдна – дрэнна, недастаткова, нясcкладна, неахайна
• быць няўклюдай – быць нязграбным, пазбаўленым спрыту, непаваротлівым
• бесталковы – тупаваты, някемлівы, бязладны

**5** Перакажы змест паводле плану:

1. Поспехі ў дзесяцігодцы.
2. Месяц у інстытуце.
3. Вяртанне ў мястэчка, праца.
4. Радасныя выхадныя.
5. Быць бліжэй Гэлі Машчынскай.
6. Адносіны Гэлі да хлопца.
7. У чаканні цуду, які не наступіў.

**6** Звярні ўвагу на правапіс прыслоўяў з прыстаўкай *па-*: па-мужчынску, па-сяброўску. Падбяры яшчэ некалькі прыкладаў.




*«Стагі перад бурай», Алег Кабзар*

*Янка Брыль*

## Жнівень

Апошнія дні месяца хочацца дажыць, перажыць як найхутчэй, каб спакойна, памалу пачаць новы месяц, зноў з першага дня. Як у школе калісьці, ад сшытка памятага, дзе-нідзе заплямленага, а то і з дрэннай адзнакай за нейкі ўрок ці за паводзіны, хацелася, не закончыўшы яго як след, да апошняй старонкі, перайсці да новага.

Параўнанне, можа, не зусім адпаведнае, так мне думаецца не пра прыход любога месяца, а іменна пра *мой жнівень*, як быццам я сам выбраў яго для нараджэння. Калі я служыў у рэдакцыях, у выдавецтве, у апараце Саюза пісьменнікаў – для адпачынку найахвотней выбіраў яго. Бо і проста жнівень люблю, калі яшчэ ўсё лета, ды ўжо не толькі ў красе, але і ў багацці. Вось пішу, а за акном, за дрэвамі, за Нёманам, недзе на лузе – дружны і доўгі клёкат адразу некалькіх буслоў, сёлета пачуты так, у харавым выкананні, упершыню. Таксама невыказна журботна-прыгожае сведчанне летне-перадасенняй красы.

**1** Уважліва прачытай тэкст. Адкажы, чаму аўтар выдзяляе ў тэксце словазлучэнне «*мой жнівень*».

**2** Падбяры сінонімы да прыведзеных слоў. Выкарыстай словы, што ў дужках: (туга, жаль, працяглы, смутак, згодны, сенакос, сяброўскі, хараство, прыгажосць).

краса – ...................., ........................
луг – ....................
журба – ...................., ......................., .....................
дружны – ...................., ........................
доўгі – ....................

**3** Выпішы з прыведзенай мініяцюры Янкі Брыля фразы – прыкметы жнівеньскай пары. Папоўні іх словазлучэннямі з ніжэйпададзеных сказаў.

У жнівеньскія дні сонца грэе па-ранейшаму шчодра і горача. Але ўжо губляюць зялёную афарбоўку кусты арэшніку, на бярозе відаць залаціста-жоўтыя лісточкі. Жнівень – час уборкі ўраджаю, выспяваюць арэхі і жалуды. Птушкі ўжо збіраюцца чародамі. Першымі адпраўляюцца ў далёкі шлях ластаўкі, стрыжы, за імі зязюлі. Ніводны месяц так не багаты на грыбы, як жнівень. Гэта падасінавікі і падбярозавікі, лісічкі і рыжыкі, баравікі і масलякі, махавікі і апенькі. Багатая пара, а з кожным днём яркіх фарбаў прыбывае.

**4** Дзе вы адпачывалі ў жніўні? Як правялі вольны час? Раскажы ці складзі дыялог, выкарыстоўваючы дадзеныя ніжэй словазлучэнні, фразы.

Найлепшы адпачынак для мяне – гэта спорт (экскурсія, турыстычны паход, шахматы, цікавая кніга, мастацтва).
Добрага (прыемнага) вам адпачынку!
Еду ў горы, у Татры. Там заўсёды можна цудоўна адпачыць.
Ці ты запланаваў ужо нейкі маршрут свайго падарожжа?
А як з рыштункам?
Маю матрацы, спальныя мяшкі, рукзак (заплечнік).
А на чым паедзеш?
На аўтобусе, на цягніку, затым пешкі.
А дзе будзеш жыць?
У палатках, невялічкіх гасцініцах, летніх доміках.
І што там убачыш?
Магутныя горы, вадаспады, ледавікі, даліны з прыгожымі вёскамі...
Усходу сонца нельга апісаць, яго трэба перажыць. Вечарамі будзем грэцца пры вогнішчы.
Прыемнага адпачынку!

*Людміла Дрожжа*

**Павуцінка**

Старонкі дзявочага дзённіка

*7 верасня*

У нашым 10 А – новы класны кіраўнік. Малады фізік, толькі што пасля ўніверсітэта... Заінтрыгавалі. Няўжо нашу сельскую школу ашчасlівіць малады настаўнік са сталіцы? Дзіўна. Чамусьці нейкае хваляванне ў душы...

Ён увайшоў у клас на першы ўрок, назваў сябе, разгарнуў журнал, знаёміўся, пазіраў на кожнага, як быццам ужо ведаў. У яго мяккі, спакойны позірк. Паглядзім як ён у нас прыжывецца!

*12 верасня*

Усе класы ўжо трэці дзень на бульбе. Наш Антон Сяргеевіч, здаецца, добра пазнаёміўся з намі. Сёння настаўнік два разы прыходзіў нам дапамагаць, жартаваў, а мне сказаў, што не варта набіраць поўны кош – бо будучая маці павінна нарадзіць здаровых дзяцей. Я добра разглянула нашага настаўніка. У яго цёмна-русыя валасы, высакаваты прыгожы лоб, вельмі асаблівая ўсмешка.

Ніколі не любіла восені, а сёння з радасцю аглядала наваколле. Доўгая павуцінка ўчапілася за галіны дзвюх бяроз, што раслі абапал дарогі. Звычайная такая павуцінка. Я першай разарвала яе і яна засталася ў маіх валасах.

*20 верасня*

Я зусім не ўмею рашаць задач па фізіцы. Стаю хвілін дзесяць каля дошкі ў поўнай бездапаможнасці. Нечыя падказкі, кашаль. Нічога лепшага не прыдумала, як намаляваць крэйдай на дошцы рамонак. Няхай па ім пагадаюць, чаму я не рашыла задачу. Саджуся за парту. Усе смяюцца, і Антон Сяргеевіч усміхаецца. Ён жартуе, што таксама намалюе рамонак супраць майго прозвішча ў класным журнале – аб’явіць байкот пяцібальнай сістэме... Супраць майго прозвішча застаецца кропка... Ну і няхай.

*5 кастрычніка*

Пішу ноччу. Толькі што прыйшла з вечара «Залатая восень». Па школьнай традыцыі дзяўчаты пашылі сабе аднолькавыя сукенкі. Тканіна аднолькавая, а фасон у кожнай розны. Швачка ўкалола мяне іголкай і падала гэта за добрую прыкмету – значыць буду прыгожай. Я старалася! Упершыню падфарбавала вейкі, падмалявала вусны...

Дзяўчаты сказалі, што давяршыла свой вобраз. Я і сама сабе спадабалася. Усё б было цудоўна, калі б на вечары быў ён.

Антон Сяргеевіч з’ехаў у Мінск. А я ўвесь тыдзень чагосьці чакала ад гэтага вечара, думала, фантазіравала.





*«Бык, птах і карона», Аляксандр Сільвановіч*

...Які загадковы змрок у скверы! І нейкае палахлівае чаканне ў душы. Чаго я хачу? Увайсці ў загадковы змрок сквера і ведаць, што нехта возьме мяне за руку, і адчуць, як цяпло разальецца па ўсім целе.

*3 лістапада*

Зноў пішу ноччу. Паўгадзіны таму прыехала са школы. Сёння быў вячэрні ўрок астраноміі. Антон Сяргеевіч вучыў нас «чытаць» карту зорнага неба....

Я задзіраю галаву і гляджу на неба. Адна за адной згасаюць дзве зоркі. «Ах, не паспела загадаць жаданне» – маё шкадаванне такое гучнае, шчырае....

– А якое ў цябе самае вялікае жаданне?

– Любіць чалавека, – не задумваючыся, выпальваю я.

– Якога? – мне здаецца, што ён хітравата пазірае на мяне.

– Разумнага, добрага, пяшчотнага, вясёлага, велікадушнага, рашучага.

*10 снежня*

Выпаў снег. І ўся наша горка за школай закоўзана, заслізгана санкамі, лыжамі. Сёння на ўрок фізкультуры прыйшоў Антон Сяргеевіч. Нехта прынёс вялікія санкі. Горка крутая, падступная.

Пры спуску санкі ўзлятаюць яшчэ на адзін пагорачак, з якога ляцяць покатам і пераварочваюцца. Нікому яшчэ не ўдалося не перакуліцца. Антон Сяргеевіч стаіць на горцы і падсмейваецца з нас. Тады хлопцы падымаюць санкі на горку і ставяць іх перад нашым класным. Ён адразу прымае гэты вясёлы выклік і рашучым жэстам запрашае да сябе ў кампанію...

– Спроба другая, – гучна аб'яўляе Антон Сяргеевіч і зноў ставіць санкі на край горкі.

Тут я ў адзін момант апынулася ў санках, моцна ўчапілася за яго куртку.

Па-аехалі! У мяне заняло дух... Санкі спыняюцца... Лагаднее вецер, які здава-

лася напалову рассек мой твар. Мы сядзім на санках і чуем, як плешча наш 10 А...

*12 студзеня*

Сёння апошні дзень зімовых канікул. Ну і сюрпрыз мне яны падаравалі! Два дні таму ў майго стрыечнага брата было вяселле. Ён зусім нядаўна прыйшоў з арміі. Мне купілі новую аксамітную вішнёвую сукенку. Не магла адысці ад люстэрка...

*29 студзеня*

...У школе ўсё аднастайна. Антон Сяргеевіч захварэў, і пасля канікулаў мы яго яшчэ не бачылі. Чамусьці сумую, нечага не хапае. Не саджуся ў аўтобус, пешшу іду сем кіламетраў. Змрок, слізгота, раскіслая зіма.

*1 лютага*

Нарэшце ён з'явіўся. Схуднелы, бледны, убег на першы ўрок фізікі, усіх агледзеў, усміхнуўся. Сказаў, што сумаваў. Прайшоў па класе паміж радамі, спыніўся ля дошкі і зноў паўтарыў:

– Я сумаваў, я зразумеў, што люблю вас.

Мы апускаем галовы, бо ведаем, што не заслужылі такога прызнання, але ў мяне спявае душа.

*12 сакавіка*

Учора на класнай гадзіне была псіхалагічная гульня. Мы пісалі характарыстыкі з пяці прыметнікаў – пісалі хто на каго хацеў, на суседа па парце, на аднакласніка... Чыталі ўголас. Ну й насмяяліся! Перад самым званком Антон Сяргеевіч усім раздаў па лісточку, кожнаму напісаў свае пяць слоў. Чытаю: «Марына Верасовіч, – далей пяць прыметнікаў – капрызная, самалюбная, нястрыманая, самаўпэўненая, ветраная».

Я ашаломлена і не паспяваю рукавом закрыць гэту ганьбу, як Каця ўжо свідруе паперу сваімі вострымі вочкамі, вядома ж усё разнясе па класе. Слёзы душаць горла. Завошта? Што я яму зрабіла? Трымаюся колькі ёсць сілаў...

Еду аўтобусам, шмат размаўляю і нават смяюся. Дома маўчу ўвесь вечар. Шукаю на галаве сівы волас. Ён павінен дзесьці з'явіцца. Такі стрэс бяследна не праходзіць. Апоўначы саджуся і пішу. Характарыстыка на класнага кіраўніка 10 А Антона Сяргеевіча Вайніцкага: «Прагматычны, разумны, асцярожны, неаб'ектыўны, нерамантычны.»

*5 красавіка*

...Апатыя. На класную гадзіну прыйшоў дырэктар. Яго з'яўленне нічога добрага не абяцае. Паўгадзіны ён задае адно і тое ж пытанне: чаму мы з'ехалі ў вучобе? Усе маўчаць. Дырэктар надзімае шчокі і пагрозліва кідае на адыход: «Што, і на экзаменах будзеце маўчаць, мо на экзамены вам напляваць?»

Яго лінію падцягвае Антон Сяргеевіч з нейкай здзекліва-спачувальнай інтанацыяй:

– Я разумею, што вясна аслабляе волю. Але паўтараць вам ніхто не будзе. Хіба толькі вашыя бацькі. Гару жаданнем сустрэцца з імі...

- дзённік – форма апавядання ў выглядзе запісаў па днях ад імя першай асобы
- павуціна – сетка з тонкіх нітак, утворана з клейкага рэчыва, якое выдзяляецца павуком

1 У чым адметнасць прыведзенага тэксту? Вызнач асноўныя асаблівасці дзённіка.

2 Якія праблемы асэнсоўваюцца ў тэксце: грамадскія, маральныя, сацыяльныя, палітычныя?

3 Растлумач загаловак твора *Павуцінка*.

4 Ахарактарызуй галоўную гераіню твора.

5 Складзі кароткія запіскі ў форме дзённіка. Выкарыстай лексіку тыпу:
- **дні тыдня**: нядзеля, панядзелак, аўторак, серада, чацвер, пятніца, субота
- **падзел часу**: світанак, раніца, поўдзень, вечар, поўнач, сёння, учора, заўтра
- **лічэбнікі**: адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць, адзінаццаць, дванаццаць, трынаццаць, чатырнаццаць, пятнаццаць, шаснаццаць, семнаццаць, васемнаццаць, дзевятнаццаць, дваццаць, дваццаць адзін...
- **назвы месяцаў**: студзень, люты, сакавік, красавік, май (травень), чэрвень, ліпень, жнівень, верасень, кастрычнік, лістапад, снежань

6 Дапоўні схему:

| | | |
|---|---|---|
| першы (месяц) | студзень | студзеньскі |
| другі | .................... | лютаўскі |
| .................... | .................... | сакавіцкі |
| чацвёрты | .................... | красавіцкі |
| .................... | май (травень) | .................... |
| шосты | .................... | чэрвеньскі |
| .................... | .................... | ліпеньскі |
| восьмы | жнівень | .................... |
| дзевяты | .................... | вераснёўскі |
| .................... | .................... | кастрычніцкі |
| адзінаццаты | .................... | лістападаўскі |
| дванаццаты | снежань | .................... |

7 Раскажы пра свой клас. Выкарыстай словы і словазлучэнні з тэксту Людмілы Дрожжы. Звярні ўвагу на прыведзеную лексіку:

– наш I А матэматычна-фізічны, біялагічна-хімічны, з музычным ухілам
– усе мы аднагодкі, гарадскія, нямногія жывуць у вёсцы
– пачаткова асцярожныя, замкнутыя ў сабе, здолелі хутка пазнаёміцца, пасябраваць, зжыцца
– у ліцэі пасур'ёзнелі, пасталелі, сталі больш шанаваць адзін аднаго
– нас трыццаць, палова дзяўчат, сярод іх некалькі выдатніц, шмат таленавітых, добрых вучняў

*Барыс Сачанка*

## Букет бэзу

Зінаіду Паўлаўну я ўспамінаю заўсёды з душэўным болем і лёгкім шчымлівым смуткам. Вось і цяпер бачу блакітны ранак далёкага першага верасня, калі мы, вучні невялічкай палескай сямігодкі, апрануўшыся як хто, але ўсе аднолькава радасныя і ўрачыстыя, таўпіліся ля ганка школы...

Потым мы разбегліся па класах, дзе было чыста і так добра пахла крэйдай і фарбамі. Селі за парты, выцягнулі з сумак сшыткі, кніжкі і чакалі, калі нарэшце зойдзе яна, наша новая настаўніца.

Забрынчаў званок, і амаль у той жа момант дзверы асцярожна адчыніліся і ў клас увайшла яна, маленькая, шчуплая, валасы светлыя, пышныя і спадаюць на лоб дробнымі пасмачкамі.

– Добры дзень – сказала гучна і весела, і пачырванела – ці не ад хвалявання. Падышла да стала, разгарнула журнал. – Я буду ў вас класнай кіраўніцай і буду весці матэматыку. А цяпер давайце знаёміцца. Завуць мяне Зінаіда Паўлаўна, а вас...

Яна ўсміхнулася і пачала дрыготкім і вельмі напеўным галаском выклікаць усіх нас па парадку па спісу. І мне – не ведаю чаму – захацелася зрабіць нешта такое, каб сапсаваць усю святочнасць гэтага дня, сапсаваць новай настаўніцы настрой. Я выняў з кішэні шпільку і ткнуў ёю ў бок сябру па парце. Той раўнуў, як бык, на ўвесь клас.

Шчокі ў Зінаіды Паўлаўны запунсавелі, яна паволі паднялася і, уставіўшыся ў мяне блакітнымі вачыма, алоўкам паказала на кут...

І гэта падліла масла ў агонь.

Назаўтра я залез у калгасны сад, і вартаўнік прыбег за мною проста ў клас. Класная кіраўніца загадала мне высыпаць на стол налатошаныя грушы і яблыкі. Я не паслухаўся, і зноў, гэты раз аж два ўрокі, прастаяў за партаю...

Праз дзень я натварыў яшчэ нейкага глупства. А там і пайшло...

Ніхто ні дома, ні ў школе не мог зразумець, што са мною сталася. Раней па матэматыцы я меў толькі выдатна і добра, цяпер жа насупраць майго прозвішча ў журнале заскакалі тройкі, двойкі і нават адзінкі...

Мяне вадзілі ў настаўніцкую, выклікалі да дырэктара. Але нічога не па-

магала. Варта толькі было ўбачыць у класе Зінаіду Паўлаўну, як мяне так і цягнула зрабіць які выбрык.

Класная кіраўніца сачыла за мною вельмі раўніва, старалася не прапусціць нават маленькай маёй правіннасці. Потым раптам нібы яе хто падмяніў. Што б я ні рабіў – яна не звяртала ўвагі. І гэта злавала мяне больш за ўсё. Не маючы як адпомсціць настаўніцы, я пачаў жадаць Зінаідзе Паўлаўне якой хваробы.

Ды класная кіраўніца не хварэла. Яна была ўвішная і дакладная і заўсёды роўна ў дзевяць пераступала парог нашага класа.

Захварэла Зінаіда Паўлаўна нечакана вясною, перад самымі экзаменамі. Упершыню за ўвесь год яна не прыйшла ў школу роўна ў дзевяць, і мы аж дзве гадзіны бегалі па двары. Не прыйшла яна і заўтра і паслязаўтра... І тады я ўспомніў, як некалі хацеў настаўніцы хваробы. Успомніў, і мне здалося, што ва ўсім вінаваты я і толькі я. Гэта я не даваў ёй спакою, гэта я не раз даводзіў яе да слёз. Каб не я, Зінаіда Паўлаўна не падарвала б здароўя і не хварэла б...

Са школы я прыходзіў пануры і злосны. Урокі ані не лезлі ў галаву, і я цэлымі днямі блукаў абы-дзе – у полі, па лесе. Неяк нават трапіў у стары, запушчаны папоўскі сад. Там, сярод здзічэлых кустоў парэчак і маліінніку, я знайшоў кусцік бэзу. Адна галінка пасталела і ўжо выкінула першую гронку кветак. Ліловыя зорачкі аж ірдзелі ад свежасці і расы.

І тут я падумаў: як было б добра цяпер падараваць Зінаідзе Паўлаўне букет такога вось роснага ліловага бэзу...

Адвячоркам, калі змерклася, я сеў на веласіпед і паехаў у мястэчка – яно было кіламетраў за пяць ад нашай вёскі. Там, я добра ведаў, у агародчыках цвіў бэз. Памятаю: як толькі я выехаў за вёску, насустрач мне з-за лесу выйшла нізкая чорная хмара. Паветра калатнуў гром. Але я не вярнуўся назад. Наадварот, я ўзрадаваўся – у навальніцу лягчэй будзе красці бэз...

Я не памыліўся. У самы лівень, мокры да апошняй ніткі, я пералез праз нечы высокі дашчаны плот і пад самым акном наламаў цэлае бярэмя бэзу.

Усю ноч я не спаў – сядзеў у двары, дзе жыла на кватэры наша класная кіраўніца, і чакаў моманту, каб незаўважна занесці ў хату бэз. Гэты момант надарыўся толькі на досвітку, калі гаспадыня, старэнькая і глухая на адно вуха бабулька, пайшла ў хлеў даіць карову. Я ціхенька прачыніў дзверы і проста на кухні на стол палажыў вялізны росны букет.

...Зінаіда Паўлаўна хутка ачуняла і зноў прыйшла ў школу. І дзіва – мне здалося, што дабрэйшай і прыгажэйшай настаўніцы за яе не было яшчэ ніколі ў нашай школе...

❖ жанр (від) – форма літаратурнага твора, эпічнымі жанрамі з'яўляюцца: *раман, аповесць, апавяданне, навела*; лірычнымі: *песня, пасланне, гімн, верш, ода, элегія і інш.*; драматычнымі: *камедыя, трагедыя, драма*

1 Да якога літаратурнага жанру належыць твор Барыса Сачанкі?

2 Хто з’яўляецца апавядальнікам у гэтым тэксце, у які спосаб вядзе свой расказ?

3 Перакажы змест апавядання паводле схемы:
– экспазіцыя (уступная частка, у якой даюцца першыя звесткі)
– завязка дзеяння
– развіццё
– кульмінацыйны пункт
– развязка

4 Вызнач асноўную тэму твора. Якое грамадскае пытанне зацікавіла аўтара і падштурхнула да адлюстравання з’явы?

5 Задумайся над паводзінамі галоўнага героя. Якія пачуцці: дакоры сумлення, спагада іншаму чалавеку, сорам і г. д. прымусілі героя тэксту прасіць прабачэння ў класнага кіраўніка? Абгрунтуй сваё выказванне.

6 Якім зваротам карыстаецца настаўніца знаёміўшыся са сваімі вучнямі? Пазнаёмся з класам, выкарыстай фразы:
– маё прозвішча, імя, мяне завуць (зваць)
– мне вельмі прыемна з вамі пазнаёміцца
– прабачце, з кім я размаўляю?
– пазнаёмцеся, гэта мая сяброўка Зося, а гэта – Віктар
– калі не памыляюся, мы бачыліся на экзаменах

7 Запомні дадзеныя ніжэй канструкцыі моўнага этыкету:
Прабачце мне!
Выбачайце, калі ласка!
Даруйце мне за (спазненне, недалікатнае пытанне, бестактоўнасць...)
Я прашу прабачэння...
Вельмі шкадую, што нарабіў клопату.
Мне прыкра, што так здарылася.
Я не маю нічога на сваё апраўданне. Проста страціў цярплівасць і валоданне сабою.

*Максім Багдановіч*

* * *

Выйшаў з хаты. Ціха спіць надворак.
Наплывае радасць, з ёю – сум.
Не злічыць у небе ясных зорак,
Не злічыць у сэрцы светлых дум.

Шмат зазнаў я горычы з нудою,
Што шчаміла, мучыла, пякла...
Ўсё ужо прайшло, сплыло вадою, –
Моладасць не знікла, не прайшла!

• надворак – частка двара каля хаты, дома
• шчаміць – сціскаць што-небудзь, балець

**Максім Багдановіч** (1891–1917) – класік беларускай літаратуры, прадстаўнік пачатку XX стагоддзя. Самы адукаваны, таленавіты пясняр беларускага слова. Пражыўшы ўсяго няцэлых дваццаць шэсць гадоў, аставіў па сабе непаўторныя, самыя лепшыя творы, скарбы беларускай культуры. Пры жыцці паэта выйшла кніга выбраных вершаў *Вянок*.

1 Дапоўні сказы думкамі з верша М. Багдановіча. Словы да выкарыстання: юнацтва, мінулае, складаны, горкі, зменлівы, маладосць...

Лірычны суб'ект перапоўнены ўспамінам ............................................................ .
Перажытае аказалася .......................................................................................... .
У яго неспакойны ........................................................................................ настрой.
Адзіным, вечным астаецца ................................................................................. .
Верш можна ўспрымаць, як гімн ......................................................................... .

2 Падбяры антонімы да слоў:
ціха – ..............., радасць – ..............., светлы – ..............., шмат – ..............., горыч – ...............,
старасць – ..............., наплываць – ..............., злічыць – ..............., знікнуць – ............... .

3 Падбяры з верша па адным сіноніме да слоў:
– нягучна, спакойна, ............
– смутак, жаль, журба, ............
– многа, дастаткова, значна, ............

*Іван Навуменка*

## Вераніка

Наш дзесяты клас быў гераічны. Нас у класе было шаснаццаць хлопцаў, і амаль усе мы марылі пра подзвігі. Чатырнаццаць з шаснаццаці збіраліся паступаць толькі ў ваенныя вучылішчы. Астатніх двух – Федзю Пячкура і Ва-



*Праца Лявона Тарасэвіча, 1998*

лерыя Самасада, якія разлічвалі трапіць у «цывільныя» інстытуты, – мы за вочы называлі дэзерцірамі. Адносна Федзі думкі, праўда, крыху разыходзіліся. Федзеў бацька, стрэлачнік, сагітаваў сына прабівацца ў чыгуначны інстытут. Ён даказваў, што інжынер-чыгуначнік – самая лепшая прафесія на свеце. Федзя, які жыў ля самай чыгункі і іншы раз дапамагаў бацьку чысціць стрэлкі, пагаджаўся з гэтым, за што мы і лічылі яго адступнікам, бо яшчэ год назад Федзя таксама стаяў за ваеннае вучылішча. Усё ж Федзю рабілася сякая-такая скідка. У ваенны час чыгуначнікам таксама прыходзіцца нялёгка, гэта мы добра ведалі.

Валерыю Самасаду скідкі не рабілася ніякай. Ён збіраўся паступаць на біялагічны факультэт, лавіў матылькоў, засушваў усялякую траву. І таму ў нашых вачах ён быў страчаны для арміі чалавек. Валерый і сам не таіў сваіх чыста цывільных намераў. Ён ніколі не купляў часопіса «Огонёк», дзе штотыдзень друкаваліся агляды з еўрапейскага, афрыканскага і азіяцкага тэатраў ваенных дзеянняў, не цікавіўся ваеннай справай і нават не здаў нормы на значок «Юны варашылаўскі стралок». Валерый мог цэлую гадзіну расказваць пра якога-небудзь жука-вадзяніка, якога ён злавіў сачком у сажалцы, і мы на Валерыя хутка махнулі рукой.

Усе ж астатнія цвёрда наважылі прысвяціць сябе вайсковай справе. Былі ў нас свае авіятары, артылерысты, маракі, агульнавайсковыя камандзіры, нават ваенны ўрач і інтэндант. Падрыхтоўка да паступлення ў ваенныя вучылішчы ішла адпаведна намі ж распрацаванай сістэме. Кожны з нас раніцай абліваўся халоднай вадой і ўсялякім спосабам развіваў сваю мускулатуру. Найбольшых поспехаў у гэтым дамогся Слава Загароўскі. Калі ён у локці згінаў руку, яго мускулы станавіліся цвёрдымі, як камень. На турніку Слава падцягваўся чатыр-

наццаць разоў і на адной правай руцэ – пяць разоў. Ён далей за ўсіх кідаў гранату, хутчэй за ўсіх бегаў. Пад вадой Слава мог трымацца цэлых сто сем секунд.

Аднойчы, яшчэ ў час канікулаў, мы рашылі праверыць сваю вытрымку на голад. Слава нічога не еў чатыры дні. Ён піў толькі ваду. Усе астатнія вытрывалі без яды па два дні. Толькі Грыша Селязень пражыў без харчу ўсяго адзін дзень. Пад вечар ён не вытрываў і наеўся. Расказвалі, што Грыша ўвабраў усё тое, чаго не з'еў за дзень галадоўкі.

Калі гаварыць пра Грышу, то мы не былі ўпэўнены, што яго прымуць у ваеннае вучылішча. Ростам ён быў ніжэй за ўсіх, на турніку падцягваўся ўсяго два разы, ды і то яго туды падсаджвалі. Любая дзяўчына магла кінуць гранату далей за Грышу. І ўсё-такі Грыша Селязень не адступаў ад свайго намеру трапіць у ваеннае вучылішча. Ён шэсць разоў узапар прагледзеў кінакарціну «Если завтра война», лепш за другіх ведаў воінскія знакі на пятліцах і рукавах, вывучыў на памяць біяграфію Аляксандра Суворава.

Тады мы параілі Грышу паступаць у інтэнданцкае вучылішча. Нельга было ўсё ж адмаўляць яго вайсковых заслуг. А што датычыць фізічнай загартоўкі, то для інтэндантаў яна не так ужо і патрэбна. Сядзі сабе на складзе і лічы патроны. Грыша згадзіўся стаць інтэндантам. Ён ірваўся ў войска і таму не адмаўляўся ні ад якой службы...

Вядома, была і другая прычына, чаму мы проста не маглі жыць без подзвігаў. Амаль кожны з нас падаў заяву на атрыманне пашпарта, і нас вось-вось павінны былі занесці ў спіскі для галасавання. Усе нашы хлопцы без выключэння завялі сабе прычоскі. Мы адпрасоўвалі сабе штаны і пільна сачылі за тым, каб была роўная складка. Мы іншы раз парушалі рэжым школьніка і пасля кінасеанса аставаліся на танцы. Нас пачыналі хваляваць зорныя майскія вечары, прыцішаны шэпт на лавачках у скверыку і задуменныя пералівы гармоніка дзе-небудзь на ціхай вуліцы. Вось чаму нам больш за якую-небудзь другую падабалася песня «Любімы горад». У ёй спявалася пра вялікія подзвігі, аб якіх мы марылі, і пра вялікае каханне, якога мы чакалі як узнагароды за гэтыя подзвігі.

Што ж датычыць кахання, то ў нашым дзесятым класе па-сапраўднаму закаханы быў толькі Слава Загароўскі. Пра гэта ведалі не толькі вучні, але, мабыць, і настаўнікі. Толькі сам Слава ніколі не раскрываў свой сакрэт. Ён быў горды і зацяты, гэты Слава, і хлопцы ніколі да яго не прыставалі з роспытамі.

Яшчэ калі мы вучыліся ў дзевятым класе, да нас прыйшла новая вучаніца – Вераніка Хмялеўская. Бацьку яе, палкоўніка, паранілі на фінскай вайне, і ён прыехаў жыць у нашу ціхую Малінаўку. Вераніка была вельмі прыгожая. Такая прыгожая дзяўчына яшчэ не вучылася ў нашай школе. На яе можна было глядзець, не адрываючы вачэй, усе шэсць урокаў. Вераніка прыгожа хадзіла, прыгожа сядзела за партай, прыгожа размаўляла. У яе ўсё было прыгожае: смуглявы твар, пастава, сінія вочы, доўгая каса, смех – усё тое, што дадзена чалавеку ад нараджэння і чаго не купіш ні за якія грошы.

Калі гэта можна назваць закаханасцю, то ўсе нашы хлопцы не былі раўнадушныя да Веранікі. На перапынках мы дурэлі, бараліся, мераліся сілай.

І ўсё гэта рабілі, мабыць, толькі для таго, каб звярнуць на сябе ўвагу Веранікі. Нават Валерый Самасад аднойчы цэлы дзень нешта даводзіў Вераніцы пра райскую птушку, якая жыве ў далёкай Інданезіі. Але дзяўчына не выказвала ні да кога асаблівай прыхільнасці. Яна размаўляла з усімі аднолькава: ветліва, прыязна, і болей нічога.

Зусім іншае хутка адчуў клас у адносінах Веранікі да Славы Загароўскага. Гэтых адносін мы доўга не маглі разгадаць. Слава ні ў чым не ўступаў Вераніцы. Яму прырода таксама не пашкадавала ні прыгажосці, ні розуму, ні сілы. Ён законна лічыўся адным з першых у класе.

Нашы хлопцы не сумняваліся: любая дзяўчыша з дзесятага класа дазволіла б сябе праводзіць дадому, каб з ёй пайшоў Слава. Да прыходу Веранікі самай прыгожай у класе лічылася Ліда Шашолка. Калі яшчэ ў дзевятым класе быў навагодні бал-маскарад, яна, надзеўшы маску цыганкі, цэлы вечар хадзіла ўслед за Славам і набівалася яму паваражыць. Ліда ў той вечар танцавала толькі з ім. Пасля хлопцы цішком перадавалі адзін аднаму атрыманыя ад дзяўчат звесткі, што Ліда нібыта прызначала Славу спатканне і што ён ад гэтага спаткання адмовіўся. Ліда нам не вельмі падабалася. Залішне ўжо яна задзірала нос. Таму на яе прыгажосць ніхто не звяртаў увагі: мы былі задаволены Славам, што ён не захацеў сябраваць з гэтай ганарыстай Лідай.

І вось прыйшла да нас Вераніка. Была ўжо апошняя чвэрць навучальнага года. Вераніка паявілася ў класе ў той дзень, калі мы павінны былі рашаць кантрольную па геаметрыі з прымяненнем трыганаметрыі. Задачы абяцалі нам цяжкія. На іх рашэнне адвялі цэлых два ўрокі. Нам было не да Веранікі ў гэты дзень.

Але іменна тады клас і зразумеў, што за дзяўчына прыйшла да нас. Калі настаўнік раздаваў нам праштампаваную паперу на чарнавікі і чыставікі, ён у нерашучасці спыніўся перад задняй партай, за якую села новенькая дзевяцікласніца.

Вы ж прапусцілі цэлых два тыдні, – сказаў настаўнік. – Можаце цяпер не пісаць. У нас будзе яшчэ адна кантрольная, у самым канцы чвэрці.

Вераніка ўзяла лісткі, нічога не адказаўшы. У той дзень мы не звярталі ўвагі на новенькую. Хапала нам клопатаў і без яе. Вераніка напомніла дзявятаму класу аб сваім існаванні сама. Празвінеў званок з першага ўрока, але ніхто не падымаў галавы ад сваіх лісткоў. Задачы настаўнік сапраўды даў цяжкія. І вось у гэты момант з-за сваёй задняй парты паднялася Вераніка і падышла да стала. Яна паклала перад настаўнікам рашэнне, перапісанае начыста. Клас застыў у нямым чаканні. Настаўнік таксама не ведаў, што рабіць.

– Вы пасядзіце, – сказаў ён. – Я зараз праверу.

Вераніка пайшла на сваю заднюю парту. Клас нічога не рабіў. Усе пазіралі на настаўніка і чакалі, што ён скажа.

– Правільна! – узрадавана прамовіў нарэшце настаўнік.

– Усё правільна. Цяпер я за вас не баюся.

Слава Загароўскі, які сядзеў на першай парце, моцна пачырванеў. Яшчэ не было выпадку, каб ён першы не рашыў задачы ці не напісаў укладання. Цяпер

жа яго абагналі. І абагналі не тыя, з кім ён усё-такі мераўся сілай, а нейкая дзяўчынка, якой дагэтуль ніхто не ведаў.

У класе ў той дзень гаварылі толькі пра Вераніку. На ўроках хлопцы непрыкметна кідалі позіркі на заднюю парту, дзе сядзела новенькая. Выказваліся розныя здагадкі і меркаванні, якія, аднак, яшчэ болей заблытвалі справу. Нехта сказаў, што Вераніка другагодніца і таму так хутка рашыла задачу. Гэтая здагадка была абвергнута самімі дзяўчатамі. Яны ўжо ведалі пэўна, што Вераніка ніякая не другагодніца. Было выказана меркаванне, што Вераніка так добра ведае матэматыку таму, што вучылася ў ленінградскай школе. Ленінград – гэта ж не Малінаўка. Там і настаўнікі лепшыя, і патрабаванні большыя. Але і гэтая думка пераважнай большасцю галасоў была адхілена. Мы ведалі, што наша школа не благая, бо ўсе, хто ездзіў паступаць у ленінградскія і маскоўскія інстытуты ці вучылішчы, яшчэ не правальваліся на экзаменах.

– Бацька Веранікі палкоўнік-артылерыст, – дакладваў Грыша. – А ў артылерыі без матэматыкі ні кроку, гэта ж ясна. Вось ён і займаецца з дачкою матэматыкай.

Сапраўды з Грышам можна было згадзіцца. Але мінуў тыдзень, і прыйшлося адкінуць гэтую апошнюю здагадку. Вераніка рабіла трыумфальнае шэсце па ўсіх навуках, якія выкладаліся ў дзевятым класе. Яе ўкладанне па рускай літаратуры зачытвалі перад усім класам. Яна першай зрабіла кантрольны пераклад з англійскай мовы. Ёй паставілі выдатныя адзнакі па фізіцы, хіміі, геаграфіі, чарчэнню.

– Зубрылка, – сказала аднойчы ў адрас Веранікі Ліда Шашолка. – Сядзіць дома і зубрыць дзень і ноч. Ведаю я такіх...

Лідзе хлопцы не далі дагаварыць. Болей за яе самую не зубрыў ніхто. Але ж гэта не дапамагала ёй стаць выдатніцай.

Пазней выявіліся і другія таленты Веранікі. Яна ўмела іграць на піяніна і добра спявала. Здала яна таксама нормы на ўсе абаронныя значкі. Кніг Вераніка перачытала столькі, што ёй можна было зайздросціць.

– У прыродзе сустракаюцца выключныя экземпляры, – выказаўся аднойчы Валерый Самасад. – Ім дадзена болей, чым астатнім. Гэта можна наглядаць у царстве раслін, жывёл, і таксама на людзях. Вераніка – багата адароны чалавечы тып...

– Сам ты тып, – абрэзалі Валерыя. – Раўняе жывёлу з чалавекам.

З таго часу і пачалося прытоенае, глыбока схаванае спаборніцтва паміж Славам Загароўскім і Веранікай. Слава, вядома, уступаў дзяўчыне. Ён не прачытаў столькі кніг, ён нават баяўся падыходзіць да школьнага піяніна, якое стаяла ў піянерскім пакоі. Калі Вераніка адказвала ўрок, ёю можна было заслухацца. Мала таго што гаварыла яна выразна, правільна будуючы кожны сказ, у яе яшчэ быў надзвычай прыемны голас, і сама яна ў гэты час проста ззяла...

Слава таксама меў тысячу выдатных якасцей, якія маглі падабацца любой дзяўчыне. Ён быў самы смелы, самы разумны, самы моцны. Рэдка ж спалучаюцца ў адным чалавеку ўсе гэтыя адметныя якасці. Але Вераніка нібыта не

заўважала Славы. Яна глядзела на яго як і на ўсіх астатніх, і не аддавала яму ніякай перавагі перад другімі.

А далей пайшло яшчэ горш.

Аднойчы перад самымі экзаменамі Слава зрабіў выдатную стойку, якая назаўсёды запомнілася ўсім, хто тады вучыўся ў дзевятым класе. Ён стаў на рукі на першай парце і так прайшоў увесь рад, да самай апошняй парты. Хлопцы былі ў захапленні. Слава высока трымаў гонар тых, хто наважаў прысвяціць сваё жыццё высакароднай вайсковай справе.

Але Вераніка не толькі не ўхваліла гэтага ўчынку, а нават зняважыла Славу.

– Не вялікі гонар падняць ногі вышэй галавы, – сказала яна. – Збіраешся паступаць у цырк, то навошта скакаць па партах...

Горш абразіць было нельга. З гэтага часу пайшла ўжо адкрытая вайна Веранікі са Славам. Не праходзіла дня, каб яны не абмяняліся якімі-небудзь колкасцямі. Вераніка зневажала Славу як магла.

Яна высмейвала кожны яго крок, кожнае яго слова. Слава не заставаўся даўжніком. Ён таксама не шкадаваў з’едлівых кепікаў у адрас Веранікі. Так яны закончылі дзевяты клас.

У дзесятым класе працягвалася тое ж самае. Вераніка не прызнавала за Славам ніякіх дадатніх якасцей. Яна яго падкалвала яшчэ больш, чым раней. Хлопец плаціў дзяўчыне тым самым. Але дзесяцікласнікі паразумнелі. Хітрыя ад прыроды дзяўчаты хутка скемілі, што гэта вайна ідзе не так сабе. Здагадка паміж тым пакрысе пацвярджалася. Калі Славу намякалі, што ён нераўнадушны да Веранікі, то хлопец адразу мяняўся з твару. Ён чырванеў, гарачыўся, бянтэжыўся і гэтым самым выдаваў сябе з галавой. Ліда Шашолка проста ненавідзела Вераніку. Яна заўсёды станавілася на бок Славы ў яго паядынках з Веранікай, але гэтай падмогі Слава быццам не заўважаў.

Пасля аднаго выпадку мы пераканаліся, што і Вераніка нападае на Славу не проста так. На Кастрычніцкія святы ў школе быў наладжаны вечар. На яго прыйшлі не толькі вучні, але і выпускнікі школы, якія вучыліся цяпер у інстытутах. На вечары быў і свой школьны лейтэнант. Ён закончыў дзесяцігодку два гады назад і прыехаў у Малінаўку на пабыўку. Вераніка прыйшла на вечар у новай сукенцы, і з яе не спускалі вачэй ні студэнты, ні лейтэнант. Усе запрашалі Вераніку танцаваць. Але яна адмаўлялася. Яна сядзела ціхая і задуменная. Такой яе не бачылі ніколі.

Быў на вечары і Слава. Ён сеў побач з Лідай Шашолкай, і яны аб нечым доўга размаўлялі. Пасля пайшлі танцаваць. Ліда танцавала ўвесь час са Славам, здавалася, што ім абоім было вельмі весела.

Вераніка не даседзела да канца вечара. Яна знікла неяк ціха і непрыкметна. Ніхто не бачыў, калі яна пайшла.

Пасля гэтага Вераніка перамянілася. Яна стала нейкай строгай, задуменнай. На Славу яна болей не нападала. Яна проста старалася яго не заўважаць.

Пра тое, што паміж Славам і Веранікай нешта ёсць, цяпер ужо ведаў увесь наш клас. Толькі гэта былі дзіўныя, незразумелыя адносіны. І Слава, і Вераніка

пазбягалі адзін аднаго, ніколі паміж сабой не размаўлялі і не сустракаліся. Знашага дзесятага класа болей ніхто не быў закаханы, і мы з трывогай глядзелі на гэтых дваіх, якія так упарта таіліся адно ад другога.

Так прайшоў той апошні год нашага навучання ў школе. За гэты год мы ўсе пасур'ёзнелі і сталі трошачкі болей шанаваць адзін аднаго. Нам усім трэба было рабіць нейкі крок у невядомае жыццё, і гэта прыкметна зблізіла, з'яднала клас. Толькі Слава і Вераніка па-ранейшаму пазбягалі паміж сабою сустрэч і размоў.

Надыходзіў май, наш апошні школьны май. Усім класам мы згаварыліся пайсці ў лес па дзеразу. Гэты паход у лес мы прыдумалі не толькі для таго, каб нарваць лапак і ўпрыгожыць сваю школу, мы хацелі як-небудзь звесці Славу з Веранікай і пакінуць іх дзе-небудзь адных. Няхай бы яны нарэшце памірыліся. Хопіць ім гуляць у хованкі...

Свой план мы здзейснілі. Мы зрабілі так, што Слава з Веранікай засталіся ўдваіх на адной дзялянцы. Яны проста не маглі не пагаварыць адно з другім. Мы радаваліся, што яны нарэшце паміж сабой аб усім дамовяцца.

Але ніякай добрай гаворкі паміж Славам і Веранікай, відаць, не адбылося. Слава выйшаў з лесу маўклівы і змрочны. Веранікі мы наогул не маглі дачакацца. Яе ў лесе не было...

Мы неслі ў школу дзеразу і размаўлялі аб усім пабочным. Адчувалі сябе ўсе няёмка. Каля рэчкі нас дагнала Вераніка. Яна была вясёлая, узбуджаная. Слава на дзяўчыну не глядзеў. Вераніка весялілася, а ён рабіўся ўсё больш змрочны...

З гэтага часу ўсё зноў пайшло па-ранейшаму, Вераніка пры ўсякім выпадку падкалвала Славу, высмейвала і пацяшалася з яго. Толькі Слава цяпер маўчаў. Нешта нібы звязала яму язык. Мы думалі, што гэтым незразумелым адносінам не будзе канца.

Але канец наступіў. Ён наступіў нават раней, чым яго чакалі. Наш дзесяты клас вытрымаў свае апошнія экзамены, і цяпер ішла падрыхтоўка да развітальнай урачыстасці. Вераніка, Слава і Валерый Самасад заслужылі атэстаты выдатнікаў, а ўсе астатнія самыя звычайныя атэстаты. Гэтыя атэстаты нам павінны былі выдаць на школьным вечары. Мы, чатырнаццаць хлопцаў, свайго намеру не змянілі. Мы збіраліся паступаць у ваенныя вучылішчы.

Але вечара ў той год не было. Атэстаты нам аддалі без ніякай урачыстасці. Пачалася вайна, напаў Гітлер.

Усіх хлопцаў на трэці дзень вайны выклікалі ў ваенкамат. Нам знялі машынкай прычоскі і ўсім шаснаццаці загадалі быць вечарам на станцыі. На станцыю прыйшлі праводзіць нас усе дзяўчаты дзесятага класа. Прыйшла і Вераніка. Яна стаяла ў купцы дзяўчат маўклівая і, здавалася, нават спалоханая. Дзяўчаты гаварылі, жадалі нам хуткай перамогі і звароту дамоў, а яна маўчала. У яе не было для нас ніякіх слоў.

Мы і на гэты раз здагадаліся, што трэба зрабіць. Мы трошкі адышліся ўбок з такім разлікам, каб Вераніка асталася адна са Славам Загароўскім. І яна

асталася. Вераніка нешта гаварыла Славу, яна была ўсхваляваная і ад гэтага яшчэ болей прыгожая. Але нам было няёмка падслухоўваць чужую размову. Таму ніхто не ведаў, што сказала тады Вераніка Славу. Мы толькі бачылі, як яна паправіла на штрыфелі Славінага пінжака значок «Юны варашылаўскі стралок».

Такой Вераніку мы запомнілі назаўсёды. Болей яе нам не прыйшлося пабачыць. Нас вярнулася з вайны толькі шасцёра, і ўсё ж мы не змаглі абараніць Веранікі. Яе расстралялі фашысты ў нашай Малінаўцы яшчэ ў сорак другім годзе за тое, што яна друкавала на машынцы лістоўкі. Расстралялі Вераніку каля самай рэчкі, у бярозавым гайку, там яна і пахавана. Мы, шасцёра, хто прайшоў вайну і застаўся жывы, помнім Вераніку. Але двое нашых, мабыць, не толькі помняць яе. У Малінаўку сяды-тады прыязджае Слава Загароўскі. Ён цяпер падпалкоўнік, і ў яго на скронях лёгкая сівізна. Слава жанаты, у яго двое дзяцей. Але на бераг нашай невялічкай рэчкі, дзе пахавана Вераніка, ён прыходзіць заўсёды адзін. Ён падоўгу ходзіць там і пра нешта думае.

Прыходзіць на гэты бераг, калі прыязджае ў Малінаўку, і другі чалавек – Валерый Самасад. Ён цяпер дацэнт. Тады, у дзесятым класе, ніхто з нас не здагадваўся, што Валерый таксама кахаў Вераніку.

**1** Ад імя каго вядзецца пераказ у апавяданні пад загалоўам *Вераніка*, хто выступае апавядальнікам у творы?

**2** Перакажы галоўны сюжэт твора. Выкарыстай план:
а) мары і подзвігі дзесяцікласнікаў
б) новая вучаніца
в) прытоенае спаборніцтва
г) трывога дзесяцікласнікаў за закаханых
д) апошні школьны май
е) нечаканае развітанне

**3** Прадстаў герояў апавядання. Займальна раскажы гісторыю жыцця аднаго з іх.

**4** Напішы характарыстыку аднаго з герояў апавядання Івана Навуменкі. Выкарыстай словы і план.

❖ **характарыстыка** – паказ, апісанне, аналіз знешніх і ўнутраных рыс характару літаратурнай постаці, героя мастацкага твора, ацэнка яго, напр.:
а) паводзін – чалавек з характарам, героі настойлівыя, моцныя; ім характэрна ганарлівасць, асцярожнасць, скрытасць, гордасць, недаверлівасць, дзёрзкасць, замкнутасць

б) адносін да іншых – непасрэднасць, падазронасць, ахвота рабіць наперакор
в) жыццёвых прынцыпаў і поглядаў на жыццё – аб’ектыўнасць, прынцыповасць, рашучасць, скептыцызм
г) адносін да справы, навукі – абавязковасць, акуратнасць, дбайнасць, патрабавальнасць, руплівасць, талковасць, удумлівасць
д) здольнасцей, сілы і слабасці характару – знаходлівасць, мудрасць, разважлівасць, таленавітасць, недасведчанасць, бясстрашнасць, вынослівасць, паслядоўнасць, супярэчлівасць

Характарыстыка – як форма выказвання ствараецца паводле плану. Развіццё кожнага з пунктаў пачынаецца ад абзаца!
– прадстаўленне постаці
– знешні выгляд героя
– унутраная характарыстыка постаці (да выкарыстання вышэйпрыведзеная лексіка)
– ацэнка героя

5 Абмяркуй паводзіны Славы і Веранікі. Што магло быць прычынай іх юнацкай «гульні»? Што выклікае ўсмешку, а што асуджэнне?

6 Што магло змяніць уяўленне пра Вераніку. Звярні ўвагу на заканчэнне твора.

❖ **Аналіз мастацкага твора** будзе поўны і дапаможа раскрыць сэнс вобразаў і карцін, калі будзем прытрымлівацца прынцыпу адзінства формы і зместу. У кожным мастацкім творы ёсць два бакі: тое, што выяўляецца (змест), і тое, як выяўляецца (форма).

***Змест твора*** – асноўная сутнасць выказвання, складаюць яго асэнсаваныя жыццёвыя з’явы (думкі, пачуцці, праблемы).

***Форма твора*** – гэта спосаб і характар выяўлення зместу. Змест у мастацкім творы адыгрывае вядучую ролю, аднак форма таксама не пасіўная. Яна ўздзейнічае на змест – глыбей раскрывае яго, або зацямняе. Часам можа мець самастойнае, арганізуючае значэнне.

У асобным мастацкім творы да зместу звычайна адносяцца тэма, праблема і ідэя.

***Тэма*** – тое, што ляжыць у аснове пераказу, кола жыццёвых з’яў, падзей, якія складаюць змест літаратурнага твора.

***Праблема*** – вострае жыццёвае пытанне, якое зацікавіла аўтара і падштурхнула яго да адлюстравання пэўнай супярэчлівай з’явы. Часам найбольш вострыя праблемы выносяцца ў назвы твораў: *Знак бяды, Чужая бацькаўшчына*...

***Ідэя*** – сэнсавае абагульненне, асноўная думка твора, вывад, выснова, тое што вынікае з сюжэта.



*«Рыбакі». Станіслаў Паскробка*

*Віктар Швед*

* * *

За летам лодак рад смуткуе.
Ліствой заплакалі галіны.
З кім у дарогу паплыву я?
Хіба ўжо толькі з успамінам.

Ты адплыла, астаўся з марай.
Як Рабінзон пасля крушэння.
Блукаю ў восеньскім пажары.
Я сам, таксама, ужо асенні.

• крушэнне – няшчасны выпадак, катастрофа
• блукаць – хадзіць без ніякай мэты

1 Якое пытанне ставіць лірычны герой?

2 У якіх абставінах вядзе ён сваё выказванне, прызнанне?

3 Ці апрача заангажаванасці аўтара ў аповед прыкмячаеш элементы, напр. іроніі? Калі так, адшукай адпаведны радок верша.

4 Якія словы, словазлучэнні лічыш дамінуючымі ў творы? Ці змяшчаюцца яны ў крузе экзістэнцыянальнай тэматыкі?

5 Восеньскі пейзаж з'яўляецца адбіццём і ілюстрацыяй унутранага стану лірычнага героя. Які ён?

6 Акрэслі асноўную думку верша – ідэю.

*Віктар Швед*

## Ты недзе ёсць

А я чакаю, я шукаю,
За мною ўжо і маладосць.
Хоць не знайшоў яшчэ, дык знаю:
Ты недзе ёсць, ты недзе ёсць.

Вось прамінула і паўвеку,
Як злодзей час гады крадзе.
Шукаю сэрцу чалавека
Штодзённа я ў таўпе людзей.

Людзей пад сонцам вельмі многа,
Сцяжынкай кожны йдзе сваёй.
Мо нашы сыйдуцца дарогі
І сутыкнемся мы з табой?

Дык недзе ёсць жа ты, напэўна.
Так блізкі сэрцу чалавек.
Мая любоў, мая царэўна,
Знайду – хоць бы шукаў і век!

1 Чаму варта параўнаць вышэйзгаданыя вершы Віктара Шведа? У чым іх падабенства – настрой, матыў, вострае адчуванне часу, тэматыка, форма, сітуацыя лірычнага героя, спосаб вядзення аповеду?

2 Чым розніцца верш *Ты недзе ёсць* ад папярэдняга? Фразы для выкарыстання: пазіцыя лірычнага героя, сітуацыя выказвання, дынаміка пераказу, эмацыянальны стан героя, бадзёрасць, аптымізм.

3 Звярні ўвагу на словы, які акрэсліваюць дзеянні лірычнага героя. Якая ў іх семантычная афарбоўка?

4 Складзі абагульняючую думку да вершаў Віктара Шведа.

**Віктар Швед** – (нар. у 1925 г.) паэт, перакладчык, журналіст, грамадскі дзеяч. Беларуска-беластоцкі паэт (так акрэсліў яго Сяргей Чыгрын) застаецца прыхільнікам традыцыйнай паэзіі, паэзіі шчырай, зразумелай і нацыянальнай. Пра родную Беласточчыну і яе жыхароў у Шведа напісана шмат, сярод іх вершы пра ягоную праслаўленую вёску Мора. Ён вясковы лірык, які шчыра і хвалююча вядзе размову са старэйшымі, з моладдзю і самымі маленькімі слухачамі і чытачамі. У жартаўліва-гумарыстычных вершах для дзяцей ці пра дзяцей паэт паказвае дасціпныя прыклады дзіцячай вынаходлівасці, хітрыкаў, фантазіі. Віктар Швед – паэт з вялікім пачуццём адказнасці за свой народ і стан нацыянальнай культуры.

Выказванні Віктара Шведа пра сябе (з кнігі Барыса Сачанкі *Сняцца сны аб Беларусі...)*:

«Для дзяцей трэба пісаць вершы пагоднага характару, жартоўныя, вясёлыя. І такія я пішу. Нашы дзеці паспеюць яшчэ ў жыцці насумавацца. Гэта па-першае. А па-другое, пішучы толькі для дзяцей, куды мне было б падзецца з той маёй настальгіяй, якая распірае мае грудзі, настальгіяй за адыходзячым у нябыт маім светам, а таксама з глыбокім пачуццём, што нараджаецца ў сэрцы?!»

*Віктар Швед*

## Не ведаў, што ты дома

Выйшла мама раніцай на двор
Даглядзець жывёліну нямнога.
А, тым часам, сын яе, Рыгор,
З ложка ў сне скаціўся на падлогу.

Мама кажа: – Пасінячыў нос,
І не плакаў, мілы мой, вядома.
– Меў я, мама, вочы поўны слёз,
Ды не ведаў, што была ты дома.

1 Прачытайце верш з падзелам на ролі. Зрабіце пастаноўку і другіх вершаў для дзяцей, напрыклад з паэтычнага зборніка *Васёлка*.

*Барыс Сачанка*

## На зямлі беластоцкай
### («Сняцца сны аб Беларусі...», фрагмент)

Дзе толькі, у якіх краях не жывуць цяпер беларусы! Раз'ехаліся, разбрыліся па ўсім, можна сказаць, свеце. Ёсць і такія, што жывуць быццам дома, на спрадвечнай бацькоўскай зямлі, і, аднак не ў Беларусі, як напрыклад, беластачане – жыхары блізкіх да Белавежскай пушчы вёсак і мястэчак, што па волі лёсу апынуліся пасля Вялікай Айчыннай вайны ў межах Польшчы. [...]

Беласточчына займае ў гісторыі нашага народа не малое месца. Тут знаходзіцца Супрасль – цяпер невялікае мястэчка, дзе быў пабудаваны адзін з выдатнейшых помнікаў сусветнай архітэктуры – Благавешчанскі манастыр, знішчаны, на жаль, фашысцкімі акупантамі ў 1944 г. У XVI стагоддзі гэты манастыр набыў вядомасць ва ўсім славянскім свеце перш за ўсё сваёй бібліятэкай, якая налічвала сотні рукапісных кніг і лічылася адной з буйнейшых у Вялікім княстве Літоўскім. Пры манастыры працавала і друкарня... Вядома ва ўсім свеце і тутэйшае мястэчка Заблудава, дзе Іван Фёдараў разам са сваім памочнікам Мсціслаўцам выдалі ў 1569 г. багата ілюстраванае «Евангелле вучыцельнае», а ў наступным – 1570 – «Псалтыр з Часасловам». На Беласточчыне ў Мастаўлянах нарадзіўся Кастусь Каліноўскі, тут ён друкаваў і распаўсюджваў потым па ўсёй Беларусі газету «Мужыцкая праўда». [...]

*Аляксандр Вярбіцкі*

## Супрасльскі манастыр

Пачаткі Супраслі непарыўна звязаны са славутым Супрасльскім манастыром. Спачатку манастыр быў заснаваны ў Гарадку, родавай маёмасці Хадкевічаў, у 1498 годзе, маршалкам Вялікага Княства Літоўскага Аляксандрам Хадкевічам і смаленскім архіепіскапам Іосіфам Солтанам. Аляксандр Хадкевіч хацеў стварыць рэлігійны цэнтр, які спрыяў бы пашыранню асветы і развіццю ягоных зямель. Манахі ў Гарадок прыбылі з кіеўскіх манастыроў, але неўзабаве стала ім нявыгадна ў непаседлівым суседстве гарадоцкага замка і яны ў 1500 годзе перанесліся па цячэнню рэчкі Супраслі ў ціхае ўрочышча Сухі Груд у Блудаўскай пушчы, дзе ў 1501 годзе была ўзведзена першая царква Яна Багаслова ў гонар Яна Хадкевіча, бацькі Аляксандра. Два гады пазней пачалася будова мураванай Дабравешчанскай царквы, завершаная ў 1510 годзе. Гэтая царква была ўзведзена паводле арыгінальнага дызайну, спалучаючы элементы гатычнай і візантыйскай сакральнай архітэктуры з дадаткам абарончых развязак. Першым ігуменам Супрасльскага манасты-



*На рацэ Супраслі. Месца, дзе на пачатку XVI ст. быў пабудаваны гарадоцкі замак*

ра быў Пафнуцій Сегень, ураджэнец Бельска-Падляшскага. У 1507 годзе епіскап Солтан склаў першы ўстаў манастыру паводле правіл манастырскага жыцця акрэсленых святым Васіліем Вялікім. У 1514 годзе Іосіф Солтан, які ў 1507 годзе стаў кіеўскім мітрапалітам, прысвойвае манастыру званне стаўрапігіяльнага, а гэта абазначае вывад яго з падпарадкавання мясцовым іерархам ў непасрэдную залежнасць ад патрыярха. У 1533–1565 гадах манах Нектарый, серб па паходжанню, аздабляе інтэр'ер Дабравешчанскай царквы візантыйскімі фрэскамі. Манастыр становіцца не толькі адным з буйнейшых цэнтраў беларускай духоўнасці, але набывае таксама агульнаславянскае значэнне, утрымоўваючы сувязі з Кіевам, Слуцкам, Масквой, Сербіяй і Балгарыяй. У чарговыя гады ўзводзіцца Уваскрэсенская царква над катакомбамі, трапезная, будынак з манаскімі келлямі, млын і іншыя гаспадарчыя аб'екты.

У 1596 годзе была заключана Брэсцкая унія, якая падпарадкоўвала праваслаўных вернікаў у Рэчы Паспалітай рымскаму папе. Тадышні супрасльскі архімандрыт Іларыён Масальскі не прыняў пастаноў уніі, а такое стаўленне было палічана за бунт супраць караля і Масальскі быў адхілены ад кіравання Супрасльскім манастыром. На яго месца быў прызначаны Нікадзім Шыбанскі, які прыняў унію, а манастыр перайшоў у падпарадкаванне базыльянскаму манаскаму ордэну. Чарговыя гады прыносяць застой у асветніцкай дзейнасці Супрасльскага манастыра, якая аднак зноў адраджаецца ў канцы XVII стагоддзя. У мурах манастыра пачынае дзейнічаць друкарня, паперня, будуецца палац архімандрытаў, брама-званіца, чарговыя келлі, цагельня. XIX стагоддзе прыносіць заняпад манастыра, у яго пачатку спыняе працу друкарня. У 1842 годзе расійскія ўлады канфіскуюць маёмасць манастыра, а ў 1919 – польскія.

У 1877 годзе рукапісы Супрасльскай бібліятэкі пераводзяцца ў Вільню.

У 1939 годзе манастырскія храмы і будынкі моцна пашкоджаны, а ў 1944 годзе адступаючыя немцы ўзарвалі Дабравешчанскую царкву і спалілі некаторыя манастырскія аб'екты разам з тадышняй бібліятэкай. Пасля вайны ў ацалелых будынках месціўся тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі. У 1996 годзе польскі ўрад перадаў увесь манастырскі комплекс Праваслаўнай царкве. У 1999 годзе адбудаваны корпус Дабравешчанскай царквы-крэпасці.

• Супрасль – мястэчка размешчана на паўночны ўсход ад горада Беласток, на захадзе этнічнай тэрыторыі беларусаў. У шаснаццатым стагоддзі, культурны і рэлігійны цэнтр заходнебеларускіх зямель.

1 Раскажы гісторыю Супраслі паводле плану. Выкарыстай афіцыйны сайт горада, вышэйпрыведзены артыкул або іншыя даступныя табе крыніцы.

– размяшчэнне горада
– гісторыя заснавання: час, фундатар манастыра
– разбудова манастыра, яго значэнне ў праваслаўным свеце
– багатае культурна-навуковае жыццё на працягу XVII–XVIII стагоддзяў
– заняпад манастыра ў XIX ст.; ліквідацыя бібліятэкі і друкарні
– Супрасль цэнтрам тэкстыльнай прамысловасці ў XIX стагоддзі
– знішчэнне архітэктурных помнікаў у час II сусветнай вайны
– аднаўленне дзейнасці Супрасльскага манастыра ў 80-я гады XX стагоддзя
– сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы ў горадзе, багатая прапанова
– цыклічныя культурныя мерапрыемствы
– развіццё рэкрэацыйнай сферы



*Манастыр у Супраслі*



*Царква ў Гайнаўцы*

*Вольга Сянкевіч*

**Гайнаўшчына**

Гайнаўка – горад малады. Пачаткі паселішча сягаюць канца XVII стагоддзя, калі паявіўся тут вартаўнічы лесу. Вядома, што з канца XVI ст. ваколіцы Гайнаўкі стаюцца маёмасцю польскіх каралёў, а ў гадах 1795–1807 праз гэтыя абшары праходзіла мяжа паміж Расіяй і Прусіяй. Гайнаўка на многія гады асталася ў межах Расіі.

У XIX стагоддзі, побач сялібы ахоўніка лесу і каралеўскага тракту ў Белавежу паўстала вёска. На пераломе XIX і XX стст. Гайнаўка стаецца важнай чыгуначнай станцыяй, тут крыжуюцца шляхі ў Белавежу, Бельск, Седльцы і Ваўкавыск. У перыяд Першай сусветнай вайны немцы моцна эксплуатуюць пушчу, у міжваенны час – гэта вядомы цэнтр лясной гаспадаркі. Другая сусветная вайна прыносіць знішчэнне і прамысловасці, і насельніства.

Гарадскія правы Гайнаўка атрымала ў 1951 годзе. У далейшым дамінуе ў горадзе дрэваапрацоўчая прамысловасць. Гайнаўка – гэта важны асяродак беларускай меншасці ў Польшчы, а беларуская мова мае ў горадзе статус дапаможнай мовы. Існуе тут Музей і асяродак беларускай культуры, шмат моладзі вучыцца ў Агульнаадукацыйным ліцэі з дадатковым навучаннем беларускай мовы. Ажывае мястэчка ў траўні, калі адбываюцца Дні царкоўнай музыкі. Гайнаўшчына – рэгіён эканамічна небагаты. Зразумела, што штуршком для гаспадарчага ажыўлення рэгіёну ёсць турызм. Такія магчымасці дае навакольная прырода: за-

хаваныя комплексы натуральнай расліннасці, першабытны, унікальны лес – Белавежская пушча. Гэты магутны лес стаў прытулкам для тысячаў відаў жывёлін і раслін, у тым ліку і для зубра. Але пушча на працягу вякоў бяднела звярамі, асабліва ў XVIII стагоддзі. Каралеўскія, а затым царскія паляванні былі, можна сказаць, вандалізмам. Бесталкова знішчалі пушчу не толькі ўладары народаў, але і купцы. Кожнай вайне яна плаціла даніну. Карміла літоўска-беларускае войска князя Вітаўта ідучае на Грунвальд. Хавала сваіх сыноў у час войнаў і паўстанняў.

У мінулым стагоддзі галасней загаварылі пра неабходнасць аховы прыроды. Адначасова з уваходам Польшчы ў склад Еўразвязу заіснавала патрэба вядзення экалагічнай палітыкі, якая вяжацца з абмежаваннямі метадам указаў і забарон. Жыхарам навакольных вёсак часам даводзіцца нялёгка: палі трэба ахоўваць ад дзікоў, аленяў, зуброў, ваўкоў, а страляць нельга.

Пушча – гэта не толькі прырода, але таксама людзі і іх гісторыя.

Вядома, неабходна актывізацыя рэгіёну і паляпшэнне ўзроўню жыцця, развіццё сельскіх экалагічных гаспадарак і агратурызму, захаванне прыродных і культурных вартасцяў Гайнаўшчыны.

*Музей у Гайнаўцы. Фрагмент экспазіцыі. Разьбы Уладзіміра Наумюка і Славаміра Смыка (унізе)*



1 Складзі цікавую інфармацыю пра Гайнаўку і яе ваколіцы для патрэб турыстычнага бюро.

2 Чым Гайнаўшчына можа захапіць турыстаў з Польшчы ці Еўропы? Што варта ім паказаць, запрапанаваць?

3 Адшукай у інтэрнэце вынікі Усеагульнага нацыянальнага перапісу насельніцтва 2011 і пералічы самыя шматлікія нацыянальныя і этнічныя меншасці пражываючыя ў Польшчы. Колькі сярод іх беларусаў?

## Першыя стагоддзі старажытнага Бельска

У раннім сярэдневякоўі развіццё Бельска залежала ад мясцовых умоў. Неабходна заўважыць, што гэты рэгіён дзяліўся на дзве вялікія тэрыторыі, і на кожнай з іх была іншая культура і іншае насельніцтва. Паўночную частку Бельскай зямлі засялялі яцвягі, паўднёвую – славянскія плямёны.

Ад якога часу можам гаварыць аб гісторыі горада, які з'яўляецца самым старажытным на Падляшшы? З дайшоўшых да нашага часу дакументаў не многа можам даведацца аб заснаванні паселішча. Гэта пэўна перыяд XI–XII стагоддзяў, калі пісанне адпаведных дакументаў было рэдкасцю.

У нешматлікіх дайшоўшых да нас дакументах аб Падляшшы сярод існуючых гарадоў выступаюць: Бярэсце (Брэст) перад 1070 годам, Драгічын – 1142 г., Мельнік ужо існаваў у XII ст.

Першыя гістарычныя звесткі пра Бельск знаходзім у валынскім летапісе пад 1253 г. Там гаворыцца аб ім як аб даўнім, а не новым горадзе, распалажаным найдалей на поўначы Драгічынскай зямлі.

На працягу стагоддзяў назва горада не змянялася, хоць Бельск знаходзіўся ў прахадных варотах паміж этнаграфічнымі раёнамі Польшчы, Літвы, Русі і перажываў розныя зменлівасці лёсу. Карты з XVI ст. змяшчаюць назву «Бельско», аднак з бегам часу канчатак «о» адпаў і засталася па сённяшні дзень форма «Бельск». Пасля першай сусветнай вайны была дададзена другая частка назвы – «Падляшскі».

Крэпасць пераходзіла шмат разоў з рук у рукі, часта мяняла гаспадароў, у яе багатым мінулым чаргаваліся часы росквіту і заняпаду. У 1240–1242 гг. татары ўварваўшыся на Падляшша зраўнялі з зямлёю крэпасці ў Драгічыне, Мельніку, Суражы і Бельску. Нашэсце татараў паўтарыліся яшчэ ў 1259 і 1260 гадах. Пасля гэтага, літоўскі князь Міндоўг загадаў уключыць частку Падляшша (Драгічын, Мельнік, Сураж, Бранск і Бельск) пад панаванне літоўскіх князёў.

Неўзабаве насоўваецца новая небяспека. У 1377 годзе крыжаносцы



*Парк у Бельску-Падляшскім. Углыбі Замкавая гара*

ў варварскім нашэсці цалкам знішчаюць горад Бельск. Аднак ад гэтай навалы абаранілася бельская крэпасць. Два гады пазней напады паўтарыліся.

Гарадскія правы Бельск атрымаў 9 студзеня 1430 года. Даў іх гораду вялікі князь літоўскі Вітаўт у Гродне. Гарадскія правы прызнавалі новыя свабоды, давалі гораду гаспадарчую карысць, спрыялі яго далейшаму хуткаму развіццю.

У бельскім замку частымі гасцьмі былі Уладзіслаў Ягайла, Вітаўт. У 1486 г. Бельск наведаў Казімір Ягелончык, дзесяццю гадамі пазней прыбывае Аляксандр Ягелончык. Праездам з Кракава ў Вільню затрымліваецца Зыгмунт I з каралевай Бонай. Апрача Ягелонаў тры разы наведвае Бельск кароль Стэфан Баторы.

Дадзеныя Бельску правы і прывілеі, з увагі на іх вялікае значэнне для горада, захоўваліся асабліва старанна гарадскою радай. Заўсёды прадстаўлялі іх чарговым вялікім князям літоўскім і каралям польскім для пацвярджэння. Іх пацвярджалі ўсе, у тым ліку і апошні кароль – Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

*паводле Т. Каляградскага*

- паселішча – месца заселенае людзьмі
- крэпасць – умацаваны пункт з абараняльнымі пабудовамі
- нашэсце – напад ворага, запаланенне ім чужой тэрыторыі
- чаргавацца – перыядычна заменьвацца адно адным
- варварскі – жорсткі, грубы, некультурны
- рада – орган дзяржаўнай улады, кіравання

1 Якія плямёны засялялі Бельскую зямлю ў сярэдневякоўі?

а) ........................................
б) ........................................

2 Адкуль бяруцца цяжкасці пры вырашэнні пытання аб пачатках Бельска? Адкажы поўнымі сказамі.

3 Пералічы самыя старыя гарады Падляшша. Якіх стагоддзяў сягаюць іх пачаткі?

4 Чаму даволі часта мяняліся гаспадары крэпасці, а горад перажываў розныя зменлівасці лёсу? Які аргумент (аргументы) здаецца найбольш пераканаўчым?
а) нядбайнасць, пасіўнасць уладароў
б) гістарычна-геаграфічнае размяшчэнне паселішча
в) аграмаднае багацце крэпасці
г) змаганне за ўплывы Захаду і Усходу

5 У якіх стагоддзях Бельск быў пад панаваннем літоўскіх князёў? Хто з іх прычыніўся да равіцця горада?

6 Хто з вядомых табе гістарычных асоб наведаў Бельск у даўнія часы? Якое гэта мела значэнне для Бельска?

*Ратуша ў Бельску-Падляшскім*






*На Бугу ў Драгічыне*

*Аляксандр Вярбіцкі*

## Драгічын

Пачаткі існавання Драгічына хаваюцца ў тую эпоху, калі яшчэ невядомае было тут пісьменства і пра тую сівую даўніну можам даведвацца адно толькі з археалагічных раскопак. А мясцовасць пачынае свой буйны росквіт у раннім сярэднявеччы. Гэтаму росквіту спрыяла выгаднае распалажэнне на беразе Буга, буйнай ракі, бо ў тую эпоху менавіта рэкі былі галоўнымі камунікацыямі, асабліва гандлёвымі. Цераз Драгічын пралягаў шлях з усходу на захад, з Чорнага на Паўночнае мора і мясцовасць стала буйнай факторыяй, з якой адпраўляліся ўсходнеславянскія купцы на захад Еўропы. Археолагі знайшлі ў Драгічыне арабскія манеты з паловы VIII стагоддзя. Ды не толькі гандлёвы цэнтр існаваў там, вакол яго сталі ўзнікаць і рамесніцкія майстэрні, і іншыя ўстановы. Не быў гэта, аднак, надта мірны час, Драгічын увесь час быў таксама свайго роду спакушальным месцам, на якога экзатычнае багацце наступалі захопнікі з розных бакоў. У іх ліку былі яцвягі, пра якіх вядомы польскі летапісец Ян Длугаш памылкова меркаваў, што Драгічын быў іх

сталіцай; да Драгічына сягалі толькі іх набегі. У 1038 годзе паход на Драгічын здзейсніў славуты кіеўскі князь Яраслаў Мудры.

Хвіліннай сталіцай стаў Драгічын у 1253 годзе, калі там галіцка-валынскі князь Даніла Раманавіч прыняў папскую карону караля Русі. Была гэта палітычная здзелка, па якой князь спадзяваўся атрымаць папскую дапамогу ў барацьбе з татарскім нашэсцем, а папа спадзяваўся падпарадкаваць сабе ўсходнеславянскае праваслаўе шляхам царкоўнай уніі. Аднак дапамогі з захаду князь не атрымаў і унію парваў. Драгічын быў пад рознымі суседнімі ўладараннямі і канчаткова апынуўся ў межах Вялікага Княства Літоўскага. У 1513 годзе Драгічын становіцца цэнтрам новага ваяводства – Падляшскага, якое ў 1569 годзе, пры нагодзе Люблінскай уніі, адыходзіць ад ВКЛ да Кароны.

У той час Драгічын з’яўляецца не толькі гандлёвым і адміністрацыйным цэнтрам, ён таксама становіцца буйным цэнтрам рэлігійнага жыцця. У горадзе ў пачатку XVII стагоддзя дзейнічалі пяць праваслаўных цэркваў і тры каталіцкія касцёлы, ды апрача іх два кляштары і два манастыры. У выніку Брэсцкай уніі частка праваслаўных храмаў прымае яе пастановы, але не ўсе.

Неўзабаве Рэч Паспалітую залівае шведскі „патоп”, а за ім венгерскае войска; у выніку марадзёрства апошняга ў Драгічыне з чатырохсот хат асталося толькі восемдзесят. Да таго ж яшчэ ў горадзе спыніліся татарскія альянты караля Яна Казіміра, прычыняючыся да дадатковага знемажэннея насельніцтва.

Драгічын быў асаблівым горадам, складаўся ён з дзвюх частак: левабярэжнай „рускай” і правабярэжнай „ляцкай” з адхоннай Замкавай гарой. Абедзве гэтыя адзінкі атрымалі асобныя гарадскія прывілеі ў 1498 годзе. У 1795 годзе, пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, гэтыя часткі апынуліся ў розных

*Драгічын. Свята-Мікалаеўская царква. Свята-Троіцкі касцёл*





дзяржавах: Рускі Драгічын апынуўся ў межах Аўстрыі, „ляцкі” ў Прусіі, але абодва захавалі гарадскія правы. У 1805 годзе ў Рускім Драгічыне ўспыхвае буйны пажар. У 1813 годзе Рускі Драгічын наведвае вялікая паводка, якая моцна знішчае горад, у тым ліку абодва праваслаўныя манастыры. У выніку гэтага яны спыняюць сваю дзейнасць у 1820-х гадах. Паступова там затухае жыццё – у 1863 годзе траціць ён гарадское права. У 1921 годзе за ім замацоўваецца назва Руская Старана, якую насяляла шаснаццаць жыхароў. Зараз гэтая апусцелая мясцовасць уключана ў вобруб вёскі Гура ў гміне Корчаў Мазавецкага ваяводства.

Правабярэжны Драгічын захоўвае яшчэ след сваёй даўняй велічы ў якасці цэнтра каталіцкай Драгічынскай дыяцэзіі. Пры курыі дзейнічае Духоўная семінарыя. У горадзе функцыянуюць тры каталіцкія касцёлы і адна праваслаўная царква. Горад налічвае каля тысячы жыхароў.

1 Якога перыяду сягаюць пачаткі Драгічына? Што паспрыяла хуткаму развіццю паселішча?

2 У межах якіх княстваў, дзяржаў знаходзіўся Драгічын у мінулым?

3 Дакажы, што ў часы Адраджэння Драгічын становіцца цэнтрам рэлігійнага жыцця.

4 Як, на працягу стагоддзяў, склаўся лёс левабярэжнай, *рускай* часткі Драгічына?

*Аляксандр Вярбіцкі*

## Мельнік

Мельнік распаложаны на правым беразе Буга, паміж Берасцем і Драгічынам. Дакументальныя звесткі пра пачаткі мясцовасці не захаваліся. Згадкі пра яго пачынаюцца з 1240 года ў Іпацьеўскім летапісе і паведамляюць пра знішчэнне Мельніка татарамі Батыя. Чарговая згадка ў тым жа Іпацьеўскім летапісе паведамляе пра пабыўку ў тамашняй Багародзіцкай царкве караля Русі Данілы Раманавіча і ягоную малітву перад іконай Хрыста Збавіцеля ў 1260 годзе: „И еха Василько за брата и провади его до Берестя и посла за ним люди своя и помолися Богу, яже есть икона в городе Мельнице в церкви Святой Богородицы и обещася Данило украсить ю.” Мельнік бывае пад уладай літоўскіх і польскіх князёў. У 1420 вялікі князь Вітаўт фундуе ў Мельніку касцёл.

У 1440 годзе мазавецкі князь Баляслаў надае Мельніку хэлмінскае (пакрыжацку кульмскае, ад горада Кульм, які па-польску называецца Хэлмнам) гарадское права.

Мельнік актыўна ўваходзіць на старонкі гісторыі з пачаткам XVI стагоддзя. Тады ўжо мясцовасць была ў складзе Вялікага Княства Літоўскага і апынулася яна якраз на адным са шляхоў паміж сталіцамі Літвы і Кароны – Вільняй і Кракавам. Мельнік сталі наведваць польска-літоўскія манархі. Менавіта ў 1501 годзе спыніўся там вялікі князь Аляксандр Ягелончык, едучы з Вільні ў Кракаў каранавацца на польскага караля. У тым жа годзе вялікі князь Аляксандр Ягелончык надае Мельніку магдэбургскае права.

Кароль Аляксандр Ягелончык пабываў у Мельніку яшчэ ў 1503 годзе, а ў 1506 годзе на тамашнім замку спыніўся вялікі князь Зыгмунт I па дарозе на кракаўскую каранацыю; наведаў ён Мельнік і ў 1513 годзе. Мельніцкі замак упершыню згадваўся ў XIV стагоддзі. Замак быў пабудаваны на высокім надбужанскім адхоне на каменнай аснове. Сцены замка былі з дубіны і сасніны, абкладзенымі глінай дзеля забеспячэння ад пажараў. У 1550-х гадах замак усё ж такі згарэў, да таго ж Буг змяніў сваё рэчышча і ў выніку новыя камунікацыі сталі абмінаць горад, які паступова траціць сваё значэнне. Войны другой паловы XVII стагоддзя руйнуюць Мельнік. Горад цярпіць не толькі ад шведскага „патопу”, венгерскіх ваякаў і маскоўскіх войск, але і ад частых паходаў літоўскіх войскаў. Да ўсяго гэтага дайшла яшчэ моравая эпідэмія ў 1651–1663 гадах. У пачатку XVIII стагоддзя чарговыя паходы войск у рамках Паўночнай вайны ды эпідэмія халеры зводзяць лік мельніцкіх гараджан да 95 асоб.

Неўзабаве каля Мельніка былі выяўлены залежы крэйды, а гэта дало невялікі штуршок для адраджэння горада. Пазней наступаюць падзелы Рэчы Паспалітай, у выніку якіх фармуецца недалёка Мельніка дзяржаўная граніца, а гэта спіхае мясцовасць у перыферыйны ранг. У 1934 годзе Мельнік траціць гарадское права. Асабліва пачатак Другой сусветнай вайны быў журботны для Мельніка. Пад саветамі, у 1939–1941 гадах, жыхары мястэчка вымушаны былі пакінуць свае сядзібы, якія апынуліся ў двухкіламетровай прыгранічнай паласе, бо згодна савецкім законам у такой паласе забаранялася пражыванне цывільнага насельніцтва, і перасяліцца навонкі мястэчка.

Зараз Мельнік з’яўляецца гмінным цэнтрам, пражывае ў ім каля дзевяцісот душ.

**1** Дапоўні сказы:

Першыя паведамленні пра Мельнік ..............................................................................

Пра ўзрост значэння Мельніка ў XVI сведчаць ...........................................................

**2** У некалькіх сказах перадай гісторыю мельніцкага замка.

**3** Якія гістарычныя падзеі прывялі да заняпаду і знішчэння Мельніка.

*Алесь Барскі*

## Беластоцкі край

Мой Беластоцкі край – мая Айчына!
З табою звязаны мой лёс і доля.
Люблю лясы твае, люблю даліны,
Кахаю шчыра бацькаўскае поле.

Калышашся ў напевах песні роднай,
І мыеш твар у промнях залацістых,
І толькі тут я поўнасцю свабодны,
І толькі тут душой заўсёды чысты.

Сямяцічы і Гайнаўка, і Бельск старынны,
Саколка ціхая, зялёная Дуброва,
Любоў да вас – мая адвечная павіннасць
І вернасць матчынай спрадвечнай мове.

Шасціць калоссе у палях шырокіх,
Бурліць крыніца песняю адвечнай,
Звініць нядзельны звон з царквы далёкай, –
На роднай Беласточчыне я вечны.

Зямля мая, мой беларускі краю,
Над Нарваю, над Бугам задуменным
Я вольны тут, душой адпачываю,
Мой краю вечны, краю незаменны.

• напевы – тое, што і мелодыя
• шасціць – лёгка шуміць, шаргоча
• бурліць – бурна цячэ

**Алесь Барскі** – (нар. у 1930 г.) ураджэнец Беласточчыны, жыве ў Варшаве. Паэт-белавежац, публіцыст, даследчык беларускай літаратуры. Паэзія Барскага асаблівая і асабістая. Вяртанне ў краіну дзяцінства, захапленне роднай прыродай – гэта істотныя матывы яго творчасці. Кола праблем, якое хвалюе паэта, вельмі шырокае, а тэмы, да якіх звяртаецца, самыя разнастайныя: вёска і горад, прырода і каханне, роздум аб жыцці і смерці, аб чалавечым прызначэнні і чалавечых заганах. Лірычны суб’ект у паэзіі Барскага аддае перавагу пачуццям, тонкім перажыванням.



*Краявід каля Дубіч Царкоўных*

1 Якія суб’ектыўныя ўмовы маглі паўплываць на характар верша *Беластоцкі край*?

2 Да кожнага назоўніка падбяры адпаведны прыметнік:
край – беластоцкі, поле – ..........., песня – ..........., прамень – ..........., Бельск – ..........., мова – ..........., звон – ..........., царква – ..........., Беласточчына – ..........., Буг – ........... .

3 Чым ёсць *Беластоцкі край* для лірычнага суб’екта? Адшукай у творы словы блізкія па значэнню да словазлучэння *беластоцкі край*.

4 Якімі дзеясловамі акрэслівае свае адносіны да бацькаўшчыны лірычны суб’ект?

5 Знайдзі ў вершы доказы таго, што беластоцкая зямля спрыяе дасягненню ўласнай згоды і ладу, супакойвае аўтара.

❖ Лірычнае выказванне ў вершы вядзецца ад першай асобы, перажыванні і факты, аб якіх расказваецца, можна аднесці да біяграфіі самога аўтара, таму дазваляецца прыняць, што аповед вядзецца ад імя паэта – Алеся Барскага. Верш *Беластоцкі край* – гэта непасрэдны, узнёслы, перапоўнены бязмежнай любоўю зварот да Бацькаўшчыны.

Мова верша *Беластоцкі край* маляўнічая, вобразная, а перад усім глыбока эмацыянальная. Паэтычнае майстэрства выяўляецца праз метафары: *калышашся ў напевах песні роднай, мыеш твар у промнях залацістых,* таксама эпітэты:

*край вечны, край незаменны*... Варта дадаць, што і прыведзеныя геаграфічныя назвы гучаць складна і напеўна ў вершаваным радку, а тым больш у страфе. Створаны аўтарам краявід Беластоцкага краю поўны духоўнасці і хараства.

*Алесь Барскі*

* * *

Я сын зямлі беластоцкай,
і іншай мне маці не трэба,
там сосны высока-высокія
ад зямлі да блакітнага неба.
Там рэчкі сінія-сінія
і ветры з далонямі кволымі
бягуць па зялёнай краіне,
як сябры заўсёды вясёлыя.
Там сонца прыходзіць у дрэвы,
і дрэвы да сонца імкнуцца,
і вабіць краіна нас спевам,
і просіць і просіць вярнуцца.

• кволы – тут, невялікі па сіле інтэнсіўнасці, далікатны

1 Хто з’яўляецца лірыным суб’ектам у гэтым вершы? Прадстаў сітуацыю, у якой ён выказваецца. Звярні ўвагу на займеннікі і прыслоўе *там*.

2 Чым вабіць сваіх сыноў беластоцкая зямля? Якімі колерамі створаны яе вобраз.

3 Адшукай у творы эпітэты, метафары, параўнанні. Якая іх роля ў мастацкім творы? Выкарыстай дзеля гэтага *Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў* змешчаны ў падручніку.

4 Як разумееш два апошнія радкі верша?

5 Вызнач асноўную тэму верша. Звярні ўвагу на інфармацыю пад вершам *Беластоцкі край*.

6 Пачуцці аўтара знайшлі адлюстраванне ў поглядах лірычнага суб’екта.
Дакажы гэты факт.

7 На аснове прыведзеных вершаў і змешчаных пад ім аўтарскіх інфармацый напішы кароткае выказванне на тэму: *Паэзія Алеся Барскага вырастае з зямлі*.



• Выказванні Алеся Барскага змешчаны ў кнізе Барыса Сачанкі *Сняцца сны аб Беларусі...:*

«Беларуская нацыя, ідучы па дарозе самапагарды, дайшла да прорвы. Было б вялікай наіўнасцю, каб мы паверылі, што іншыя народы памогуць адраджэнню беларускай душы, асабліва тыя, якія прычыніліся да яе паўсмерці. Сілы для гэтага адраджэння трэба шукаць у сваім беларускім народзе.

І я хачу, каб было мне цяжка. І гэта не таму, што я падзвіжнік або мазахіст, а таму, што для мяне адказнае жыццё з'яўляецца сінонімам цяжару».



*Зубры на палях гміны Шудзялава на Сакольшчыне*

*Аляксандр Вярбіцкі*

## Сакольшчына

Тэрыторыя цяперашняга Сакольскага павета сёння абмежавана ад усходу дзяржаўнай мяжой з Беларуссю, ад поўдня масівам Кнышынскай пушчы, ад поўначы ракой Бобрай, а ад захаду ракой Бярозаўкай; гэтая апошняя рэчка ў XVI–XVIII стагоддзях была межавой паміж Каронай і Вялікім Княствам Літоўскім, паміж Трокскім і Падляшскім ваяводствамі, паміж Бельскай і Гарадзенскай землямі.

У сівую даўніну на тэрыторыі цяперашняй Сакольшчыны раслі адно лясы, чалавечых пасяленняў амаль не было. Археалагічныя раскопкі выявілі наяўнасць сярэдневяковага гарадзішча каля Трасцянкі, што ў дванаццаці кіламетрах на паўночны захад ад Саколкі; знойдзеныя там прадметы паказваюць на іх усходнеславянскае паходжанне, а манеты – на арабскае.

Лес, які ў сярэдневякоўі зарастаў усю Сакольшчыну, тадышнія храністы называлі Гарадзенскай пушчай; пазней атрымае яна назву Навадворскай, ад Новага Двара, што каля вытокаў Бобры. У 1524 годзе кароль Зыгмунт I Стары перадаў сваёй жонцы Боне Сфорца паласу пушч ад рэчкі Супрасль аж да Коўна, тут апынулася і сённяшняя Сакольшчына. Каралева Бона заініцыявала г.зв. валочную памеру, у рамках якой праводзілася добраўпарадкаванне існуючых пасяленняў і закладка новых.

Галоўнымі асяродкамі, вакол якіх адбывалася засяленне, былі на Сакольшчыне цяперашнія гмінныя цэнтры: Новы Двор, Дуброва, Кузніца, Саколка, Карыцін, Сідра, Янаў і Хадароўка, якая, аднак, пазней, саступіла Сухаволі. Адметным грамадскім цэнтрам былі Крынкі, якія адміністрацыйна не былі ў Сакольскім павеце, толькі ў Гарадзенскім; дзяржаўная граніца, устаноўленая пасля Другой сусветнай вайны аддзяліла Крынкі ад Гродна. Затое Адэльск, які здаўна быў у Сакольскім павеце, пасля вайны апынуўся за граніцай.

Сакольшчына, так у мінулым, як і цяпер, была тэрыторыяй шматканфесійнай. Тут сутыкаліся праваслаўе з каталіцызмам, ды і цяпер тут шмат касцёлаў і цэркваў. У мястэчках Сакольшчыны да галакосту ў Другую сусветную вайну жыло многа яўрэяў, асаблівай дынамікай адзначаліся крынскія жыды, якія ў царскі час пабудавалі ў Крынках шмат гарбарняў, узводзячы свой горад у ранг найбуйнейшых цэнтраў гарбарскай прамысловасці на ўсю Расійскую Імперыю; у Крынках захаваліся вялікія яўрэйскія могілкі – кіркут ды іудзейскі культавы будынак – сінагога. На схіле XVII стагоддзя кароль Ян Сабескі пасяляе на Сакольшчыне татараў; шмат іх жыве там і цяпер. У Багонніках і Крушынянах дзейнічаюць мусульманскія культавыя збудаванні – мячэці, а непадалёку ад іх мусульманскія могілкі – мізары. Не абмінула Сакольшчыны і пратэстанцтва – у Сідры ў XVII стагоддзі быў узведзены кальвінскі храм – збор, ад каторага сёння астаўся толькі падмурак. Можа гэтая шматканфесійнасць і спарадзіла асаблівую шматмоўнасць насельніцтва Сакольшчыны, якое яшчэ паміж сабою размаўляе па-беларуску, а навонкі карыстаецца польскай мовай.

• валока – мера плошчы роўная 21,36 гектара

*Даўняя Сакольшчына*






*Мячэць у Крушынянах. Яўрэйскія могілкі ў Крынках*

1 Дапішы назву горада, які з’яўляецца цэнтрам названай тэрыторыі.

Сакольшчына – ......................................
Гайнаўшчына – ......................................
Беласточчына – ......................................

2 *Сакольшчына – зямля некалькіх канфесій і нацый.* Падрыхтуй кароткую нататку. Выкарыстай іншыя даступныя крыніцы.

*Мікола Гайдук*

## Мера чалавечнасці

Наша вёсачка была рассыпана на хутары. У нас не было вуліцы, дзе ў звычайных вёсках-вуліцоўках праходзіць большасць іхняга грамадскага жыцця. Не было азначанага канца вёскі і «канцавога» крыжа на ім як святасці – своеасаблівага мясцовага алтара, перад якім свянцілі велікодную пасху, якому кланяліся кумы, везучы дзіця да хрысту, да якога вёска праводзіла нябожчыка і пад якім развітвалася з ім. Жыццё старэйшых і моладзі нашай вёскі было больш звязана з мястэчкам ды местачкоўцамі – пераважна такой самай бядотай, як і мы. У Нізбодку хадзілі ў царкву і касцёл, школу, крамы, да шаўцоў і краўцоў, на торг, падзарабіць. І ўсё ж нашыя вяскоўцы трымаліся дружнай грамадой. Памагалі адзін другому ў рабоце і ў прыгодзе. Бралі кумаў ці дружыну ў вяселле пераважна са свае вёскі. Калі ж здаралася, што каго-небудзь з нашай вёскі хацелі чужыя набіць ці неяк інакш пакрыўдзіць, нашыя аднавяскоўцы згодна станавіліся гарой за свайго. І хоць, бывала, сварыліся і нават біліся паміж сабою за шкоду, за перааранае, перакошанае, за дзеці і за што толькі, але ніколі не бегалі са скаргамі адзін на другога ў паліцыю, да

ўладаў, хоць і было да іх вельмі ж блізка. Былі, вядома, большыя ці меншыя заскарэлыя ўзаемныя прэтэнзіі, злосць ці нават нянавісць. Некаторыя дуліся ды не гаварылі паміж сабою цэлымі гадамі. Аднак падчас акупацыі, напрыклад, ніхто на нікога не данёс немцам пра перахоўванне былых савецкіх салдат, сувязі з партызанамі, патаемныя млынкі, калацццё свінней і шмат пра што іншае, за якое пагражала смерць, прымусовыя работы ў Германіі ці цяжкія пабоі. Гэта таксама была адна з меркаў, і то найважнейшая мерка, бо ёю мерылася чалавечнасць, пашана да чалавечай істоты.

• хутар – адасоблены сялянскі зямельны ўчастак разам з сядзібай уладальніка
• своеасаблівы – не падобны на іншых, які мае свае адметныя ўласцівасці, арыгінальны
• крама – магазін, гандлёвая лаўка
• заскарэлы – даўні, грубы
• пабоі – удары, збіванне

**Мікола Гайдук** – (1933–1998) празаік, журналіст, збіральнік фальклору, педагог. Вядучай тэмай яго творчасці з'яўляецца гістарычная тэма, асабліва мінулае Беласточчыны. Эсэ празаіка пад загалоўкам *Паратунак* – гэта займальнае падарожжа ў гістарычную даўніну заходніх тэрыторый беларускіх зямель. Аўтар шматлікіх артыкулаў у *Ніве, Czasopisie, Przeglądzie Prawosławnym*. Выдаў зборнік казак і легенд: *Легенды Беласточчыны, Аб чым шуміць Белавежская пушча*. Гэта плён пачутых аповедаў і запісаў, плён вандровак аўтара па роднай зямлі. Мікалай Гайдук быў дырэктарам Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім у гадах 1965–1971.

1 Чаму канцавы крыж пры вёсцы аўтар называе мясцовым *алтаром*?

2 Як разумееш складанае слова *вёска-вуліцоўка*? Чым яна адрозніваецца ад вёскі на хутарах?

3 Якія суадносіны панавалі сярод аднавяскоўцаў? Дапасуй да названай рысы канкрэтныя паводзіны жыхароў вёскі:

| | |
|---|---|
| дабразычлівасць | ........................................................ |
| прыязнасць, згоднасць | трымаюцца дружнай грамадой |
| сварлівасць | ........................................................ |
| чэсныя людзі, не прыніжаліся да нікчэмнасці | ........................................................ |
| заўзятасць | ........................................................ |
| мелі сваю годнасць | ........................................................ |

4 У чым праяўлялася чалавечнасць сярод жыхароў вёскі, як разумее гэтае слова аўтар? Звярні ўвагу на апошні сказ.

5 Апішы традыцыйную, даўнюю вёску. Апрача твора Міколы Гайдука выкарыстай інфармацыі з эсэ Уладзіміра Караткевіча пад загалоўкам *Зямля пад белымі крыламі* і тэкст Аляксандра Вярбіцкага.

*Уладзімір Караткевіч*

## Вёска, о родная вёска мая!

(«Зямля пад белымі крыламі», фрагмент)

[...] За выключэннем некаторых раёнаў Палесся, беларускую хату ніколі не беляць знадворку, толькі ўнутры. Але старая беларуская вёска, тым не менш прайграючы ў весялосці знешняга выгляду перад вёскай, скажам, карпацкай або малдаўскай, мае нейкі дужа мілы, задумлівы і паэтычны каларыт, дзякуючы прысадам вялікіх дрэў на вуліцах і ў завулках, векавым дубам на сядзібах, вялізным дзічкам на былых межах, садкам і, урэшце, таму, што калі не адразу за хатамі, то хаця б на гарызонце амаль абавязкова відаць лясы ці пералескі, што калі не тут жа, то непадалёку – рака, рачулка ці возера. Шмат зеляніны, шмат вады, шмат неба над галавою...

[...] Хата заўсёды будуецца вокнамі на вуліцу, уваход калісь быў, у пераважнай большасці выпадкаў, з двара, а цяпер, усё часцей, з вуліцы. Франтон часта аздабляецца разьбою. На Давыд-Гарадоччыне, напрыклад, на ўсіх хатах знак сонца і расліны вакол яго. Разьба і навокал акон і на аканіцах. Не ўсюды, але часта. Раней хату абкружала прызба, цяпер хаты, вядома, на фундаментах...

[...] На беразе рэчкі прыткнуліся наводдаль адна ад адной некалькі спраўных хат са студнямі, пунямі і адрынамі, у якіх так добра спаць на сене. Крыху далей, у звіліне Лошы, векавыя дрэвы былога фальварка. Ад дома засталіся толькі прыступкі ганка, якія вядуць у нікуды. А ля дарогі высачэзны крыж з неашкуранага, крывога дубовага ствала з гэткай жа папярочынай.

❖ **эсэ** – нарыс, артыкул, від літаратуразнаўчага, крытычнага, філасофскага твора ў свабоднай форме. Вялікае значэнне ў эсэ маюць роздум аўтара, яго ўражанні ад непасрэдных фактаў, падзей, выяўленне аўтарскай індывідуальнасці.

1 Якія вёскі, паводле аўтара, весялейшыя, чым беларускія?

2 Што дабаўляе беларускім хатам задумлівасці і паэтычнага каларыту? Адшукай у тэксце 4-5 прыметаў, запішы.

3 Якія ўзоры ці матывы здаблення дамінавалі на драўляных ліштвах, падстрэшніках, вуглах, ганках і аканіцах хат?

*Аляксандр Вярбіцкі*

## Нашы вёскі

Сённяшні стан нашых ваколбеластоцкіх вёсак нагадвае старажытнагрэчаскі міф пра Геракла і Антэя: Геракл перамог Антэя адрываючы апошняга ад зямлі-карміцелькі. Вось вёскі нашы, быццам міфічны Антэй, з'яўляюцца дзецішчамі маці-зямлі. Геракл жа, гэта магутны ўрбанізацыйны працэс, які адрывае людзей ад зямлі, ад вёскі, якая зараз пусцее і слабее.

Жыццё на вёсцы, асабліва земляробства, звязана з жыццём зямлі, з яе цыклічнымі зменамі ў рытм пор года. Вясна гэта пара сяўбы і пасадкі культурных раслін, а восень гэта ўборка плёнаў і гэтым працам падпарадкаваны рытм вясковага жыцця. У ранейшы час кожны селянін займаўся ўсімі вясковымі працамі: араннем, сяяннем, жнівом, малацьбой.

Гэтак здабываў ён хлеб.

Вясковаму жыццю было падпарадкавана і вясковае будаўніцтва. Тыповымі будынкамі ў нашых вясковых гаспадарках былі: хата, у якой жылі сялянскія сем'і, хлеў, дзе трымалі жывёл, свіран, дзе захоўвалі збожжа, склеп, дзе зімавалі гародніну. Найбольшым будынкам была наогул стадола, якую ў розных рэгіёнах Беласточчыны называлі па-рознаму, таксама клуняй і гумном; захоўвалі там сена для корму жывёл і салому для падсцілання іх.

А цяпер вёска змянілася – няма ўжо ўніверсальных гаспадарак, дзе гадавалася і вырошчвалася ўсё пакрысе. Цяпер вёскай авалодала канцэнтрацыя і спецыялізацыя, дзе гаспадары на вялікіх зямельных палетках вырошчваюць толькі адну раслінную культуру або ў велізарных павільёнах трымаюць дзесяткі ці сотні свіней або кароў для продажу мяса або малака вонкаваму карыстальніку. А малыя гаспадаркі згарнуліся адно да вясковых панадворкаў, якія часта зімою пустуюць, а толькі ўлетку прымаюць гарадскіх гасцей. І можна нават падумаць, што яны ледзь дыхаюць, як адарваны ад зямлі міфічны Антэй.



*«Раніца ў Лешуках». Алег Кабзар*

*Сакрат Яновіч*

## Элегія пакінутага гнязда

Хаты вясковыя – гнёзды пакінутыя, якім не пачуць ужо галасоў маладых. Пад кашаль старэчы слухаць вам байкі пра лёс залаты сыноў, што ў чыноўніках ходзяць, і пра дочак замужжы панскія. А яны ж – не тыя птушкі, каб у старонне роднае вярнуцца. Пагінуць на свеце шырокім, паразлятаўшыся хто куды і нават туды, дзе ніхто не чакаў іх. Ім, аднак, хлебна ёсць там, на спадчыне той чужой, хоць – бывае – і зусім зязюльчынай. Куюць галасіста песню сваю шчасця ад сытасці безайчыннай, здаволеныя над здаволенымі.

А вёску тваю няхай яма заваліць разам з мінулым яе нялюдскім ды працаю гаротнаю, з доляй горкаю і сварнёю без сціхання, з усімі зайздрасцямі яе ды праўдамі тымі і няпраўдамі!..

Унукі твае, хаціна ты хілая, кажуць і казаць будуць: не дай Бог пад стрэхою тваёю нарадзіцца!

- чыноўнік – дзяржаўны служачы, які выконвае службовае заданне
- староннe – мясцовасць, краіна
- хлебна – дастаткова, багата

• спадчына – маёмасць, якая перайшла на каго-небудзь; з'явы культурнага жыцця, побыту пераняты ад мінулых эпох ці продкаў
• зязюльчын – не свой; ад назвы птушкі, якая звычайна не ўе гнязда і кладзе яйкі ў чужыя гнёзды
• здаволены – тое, што і задаволены
• няхай яма заваліць – (народны ўстойлівы зварот) няхай прападзе, знікне
• гаротны – поўны гора, нястач, бедны
• хілая – слабая, хваравітая

**Сакрат Яновіч** – (1936–2013) празаік, эсэіст, перакладчык, аўтар шматлікіх беларускамоўных і польскамоўных выданняў, напр.: *Загоны, Доўгая сьмерць Крынак, Wielkie miasto Białystok, Białoruś, Białoruś*... Заснавальнік *Таварыства Villa Sokrates* і рэдактар штогодніка *Annus Albaruthenicus* (Год Беларускі). Сакрат Яновіч быў папулярызатарам беларускіх спраў і беларускай літаратуры. Шырокі разгалос у Польшчы атрымала яго кніга-эсэ *Białoruś, Białoruś*, дзе на багатым фактычным матэрыяле разглядаюцца польска-беларускія ўзаемаадносіны. Яго творчасць поўная наватарства не толькі ў мастацтве слова, але таксама ў своеасаблівай канцэпцыі чалавечага лёсу ва ўмовах беларуска-беластоцкай тутэйшасці.

❖ **элегія** – даслоўна жалобная песня, верш прасякнуты сумным настроем

**1** Што падказвае чытачу загаловак твора, у якім напрамку будзе схіляцца інтэрпрэтацыйная тэза?

**2** Да слоў *элегія* і *гняздо* падбяры словы блізкія па значэнню і тыя, якія атаясамліваюцца з імі (таксама прыметнікі):

*элегія*: сум, роздум, ............., ............., ............
*гняздо*: дом, пачатак жыццёвага шляху, ............, ............, ...........

Спалучы выбраныя словы ў фразы і запішы. Ці атрымалася іншая прапанова загалоўка?

**3** Якім стылістычным прыёмам карыстаецца аўтар у апавяданні-мініяцюры? Выкарыстай раздзел з падручніка *Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў: Паэтычныя фігуры*. Дапоўні схему, запішы яшчэ некалькі прыкладаў.
вясковыя хаты – (у тэксце ) хаты вясковыя
пакінутыя гнёзды – ............................................
твая вёска – .........................................................

**4** Адзнач добрыя адказы. Незвычайны парадак слоў у творы, іх перастаноўка надае фразе:

а) своеасаблівую інтанацыю
б) рытмізаванасць аповеду
в) лірычную ўдумлівасць
г) эмацыянальнасць
д) грубасць мовы

5 Якімі асобымі прыметамі надзяляе апавядальнік сённяшнюю беластоцкую вёску? Адшукай словазлучэнні ў тэксце і зрабі абагульненне.

6 Галоўнай праблемай твора Сакрата Яновіча на тваю думку ёсць:
а) дэградацыя беластоцкай , беларускай вёскі
б) праблема блудных сыноў, што пакідаюць свае хаты і ідуць множыць дабрабыт іншых
в) праблема беларускай ментальнасці
Дакажы свой выбар.

7 Як ты ставішся да выказаных у мініяцюры думак, у чым згаджаешся з аўтарам? Якой бачыш сённяшнюю вёску?

8 Складзі дэфініцыю да тэрміну *мініяцюра*, выкарыстай прыведзеныя словы: мастацкі твор, малая форма, лаканічнасць, глыбіня, багацце згадак, верш у прозе, фрагментарнасць, за Янам Леанчуком часам называюць *сакраткамі*.
Мініяцюра – ..............................................................................................................................

Сакрат Яновіч пра сябе (з кнігі Барыса Сачанкі *Сняцца сны аб Беларусі...*):

«Пайшоў вучыцца ў Беласток. Усю ноч ішоў. У горадзе ўпаткаў кніжкі Коласа і Купалы. Стаў беларусам. Пасыпаліся з мяне беларускія вершы. Нарэшце! Беласток даў свядомасць роднай мовы. Горад, не вёска. Вышэйшая асвечанасць. І ... чужасць польскай псіхікі. Верш апублікаваў адзін. Болей не прабаваў. Не ўмею. Зрэшты, у мяне няма слыху. А вершы – гэта музыка. Калі яны добрыя».

*Сакрат Яновіч*

## Доня-дочанька

Прыбяры, дочанька, хату, бо я, старая, зусім змарылася. Пасяджу крыху на лаве, няхай ногі адпачнуць. Буду вячэру гатаваць, каб бацька не сварыўся, з малацьбы прыйшоўшы. Палі, дочанька, кветкі на акне, бо павялі яны і без пары пасохнуць. Падарыла іх мне бабуля твая, калі я замуж выходзіла. Цвітуць яны кожнае лета колерамі харошымі. Падмяці, дочанька, сенцы, бо, глянь, Сяргееў Юрык ідзе і мо да нас зойдзе? Памятаю, якраз на Грамніцы ён нарадзіўся, матку яго даглядала я, ночы бяссонныя праводзячы. Стройны які вырас хлапчына, хоць у сваты выпраўляй зараз...

Куды бяжыш, дачанька?! Вазьмі хустку! Накінь на плечы, каб не прамерзла на вуліцы ветранай!

Бяжы, донюшка! Я сама ўжо як-небудзь прыпарадкую хату…

1 Хто з'яўляецца апавядальнікам у творы Сакрата Яновіча? У які спосаб вядзе свой аповед? (маналог, дыялог, прызнанне)

2 Да каго, якімі формамі слова звяртаецца вясковая жанчына, ці толькі да дачкі?

3 У чым праяўляецца глыбіня мацярынскіх пачуццяў?

4 Якія словы надаюць унутраную дынаміку мініяцюры. Звярні ўвагу на словы, якія пачынаюць большасць сказаў.

5 Да дзеясловаў дапішы форму 2 асобы загаднага ладу ў адзіночным і множным ліках:

| | | |
|---|---|---|
| прыбраць | прыбяры | прыбярыце |
| сесці | сядзь | сядзьце |
| быць | .................. | .................. |
| паліць | .................. | .................. |
| падарыць | .................. | .................. |
| бегчы | .................. | .................. |

6 Прастора дзеяння ў творы абмежаваная, невялікая, а што з часам падзей? Звярні ўвагу на час дзеясловаў.

7 Апавяданне-мініяцюра С. Яновіча захапляе прастатой, ласкавасцю аповеду, глыбінёй думкі. Пацвердзі гэтае выказванне прыкладамі з тэксту.

*Ян Чыквін*

## Гайнаўшчына

Ружамі пахнуць вятры адвячоркамі,
Гнездзіцца ў гушчарах маўчанне горкае.

Арэшнік да вуха рабіну клоніць,
Бяроза ўздыхае ў дзявочым паклоне.

Суседка ціхутка суседцы прарочыць,
На пяску вецер свой пакідае почырк.

Знаёмая дарога, лес, лугі, поле –
На Гайнаўшчыне дыхаецца ўволю.

І радасна ідзеш дамоў, лёгкі ногі,
Калі ведаеш: чакаюць з дарогі.

**Ян Чыквін** – (нар. у 1940 г.) паэт, даследчык рускай і беларускай літаратур, перакладчык. Аўтар паэтычных зборнікаў: *Іду, Неспакой, Свет першы і апошні, Жменя пяску...*, літаратуразнаўчых выданняў: *Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа, Беларуская літаратура Польшчы. Бібліяграфічны даведнік*. Шмат гадоў узначальвае літаратурнае аб'яднанне *Белавежа*, рэдактар штогодніка *Тэрмапілы*. Ён ахвотна эксперыментуе, любіць метафару і дакладнасць у выбары слова.

Ян Чыквін пра сябе (з кнігі Барыса Сачанкі *Сняцца сны аб Беларусі...*):

«Жыў я ў вёсцы ўсяго дзесяць сваіх першых годзікаў. Сёння мне здаецца, што яны – найшчаслівейшы адрэзак майго існавання. Бо потым абставіны адарвалі мяне ад каранёў, і цэлы свет мой страціў першабытную стабільнасць. Не паспеў я, так сказаць, даканчыць сваё дзяцінства. Цяпер гэта мне выразней відаць. Вяртаючыся ў маленства ўжо чалавекам немаладым, я не толькі гартаю пражытыя мною дні – старонкі таго перыяду, але, магчыма дапісваю тое, чаго не паспеў пражыць».

1 З вялікай пранікнёнасцю, здаецца ўсімі органамі пачуццяў лірычны суб'ект стварае пейзаж роднай Гайнаўшчыны. Знайдзі радкі верша, у якіх ён спрабуе пранікнуць у таямніцу наваколля.

2 Чым радуюць аўтара родныя мясціны, адкуль лёгкасць на душы?

3 Пастаў націскі ў кожнай двухрадковай як размова страфе і пастарайся прачытаць верш захоўваючы напеўную сілабічную рытміку.

4 Складзі пісьмовую працу на тэму: *Беласточчына ў паэзіі Алеся Барскага, Яна Чыквіна і Віктара Шведа*. Верш і словы да выкарыстання:
– твор, верш, лірыка, паэтычная творчасць, паэзія
– аўтар, паэт, творца, белавежац – член беларускага літаратурнага аб'яднання ў Польшчы «Белавежа»
– паказвае, адлюстроўвае, расказвае, распавядае, стварае, малюе, апісвае
– малая айчына, бацькаўшчына, бацькоўскі парог, родная зямля, краіна дзяцінства, родны кут, край незаменны, беластоцкі край, беластоцкая зямля, дарагія мясціны і краявіды
– спадабалася, прыцягнула ўвагу, засталася ў памяці, зрабіла вялікае ўражанне




*Трасцянка*

– любіць, кахаць, шанаваць, берагчы, цаніць, тужыць, сумаваць, узрастаць, звязаць (лёс).

*Віктар Швед*

## Беласточчына

Беласточчына, мая замелька родная,
Жывеш заўсёды ты ў глыбі маіх грудзей.
Нідзе мясціны не сустрэў ніводнае,
Што мне была б хоць крышку даражэй.

Вось родны краявід, палоскі вузкія,
Якія дробніў люд вясковы з году ў год;
Сярод палёў — пасёлкі беларускія,
Дзе ад вякоў жыве мой дарагі народ.

Гляджу, прысела хатка там вясковая,
Дзе крокі першыя ў жыцці сваім рабіў,
Дзе ад бацькоў вучыўся роднай мове я,
Якую ў шуме дзён ікмлівых не забыў.

На Беласточчыне пражыў я маладосць,
Ды што пражыў — я нарадзіўся тут.
Таму была найдаражэйшаю і ёсць
Мне Беласточчына, мой родны, мілы кут.

*Ян Чыквін*

* * *

Ці гэта прывычка жыць як раней,
Ці гэта жыць няўменне –
Рассталіся мы... А для мяне –
Гэта глытанне камення.

Дні без цябе ночы цямней.
Ночы – дня відней, Таня.
Рассталіся мы... Але для мяне –
Гэта агню глытанне.

А можа гэта маёй маладосці
З граніц сваіх цяжка так выйсці?
Яшчэ не сустрэўшы кагосьці,
Ужо развітаўся я з чымсьці.

1 Якую функцыю спаўняе ў вершы пунктуацыя: шматкроп'е, працяжнікі, пытальнік?

2 Якой тэме прысвечаны верш?

3 Якімі мастацкімі тропамі карыстаецца паэт акрэсліваючы стан параненай душы лірычнага героя? Адшукай, раскрый іх сэнс.

4 У чым магчымая прычына расстання закаханых? Які светапогляд прадстаўляе лірычны герой?

5 Якая, паводле цябе, асноўная ідэя верша?

*Надзея Артымовіч*

* * *

нерухома стаяць
мае дні
шчыліны ў часе
усё большыя
мой каляндар патрэсканы
нерухома стаяць
мае дні
  як перапалоханы цень
  чалавека

## ТЫ

на гарызонце
плыве
твая бель
мой неспакой

у белы дзень
я думаю
што ёсць у жыцці
толькі адна
пабеленая рака

твой белы смех
маім агнём
а постаць твая бела
сшытая з кожным маім днём

у жоўтых лісцях
дрыжыць
пабелены блакіт

часам
у маўчанні
жыве белая вясна

**Надзея Артымовіч** – (нар. у 1946 г.) паэтка самотнасці і адзіноцтва, так акрэсліў яе паэзію Аляксандр Баршчэўскі. Паэтэса экзістэнцыянальных трывог, гаворыць у сваіх вершах непасрэдна, ад свайго імя і высоўвае наперад біяграфічнасць. Стварае непаўторныя пейзажы чалавечай душы. У паэтычным свеце Надзеі Артымовіч дэфармаваны час і прастора. Адзін з галоўных матываў яе творчасці – матыў адзіноцтва, другі – амаль культавыя адносіны да роднага Бельска. Вершы яе з'яўляюцца свайго роду запрашэннем чытача да супольнага ўдзелу ў інтэрпрэтацыі свету.

Надзея Артымовіч пра сябе (з кнігі Барыса Сачанкі *Сняцца сны аб Беларусі...*):

«Верш паўстае з нейкай праблемы, якая пачынае мяне раптам мучыць і якую я хачу назваць, акрэсліць для сябе. Верш – гэта маё пытанне, маё сумленне. Мой верш не запісваецца на паперы, пакуль не вынашу яго поўнасцю і не ўбачу кшталт... Калі ўжо трэба вылучыць нейкія матывы, то ёсць, напэўна, матыў, пранізваючы ўсе мае вершы, матыў прамінання, сум па бацькаўшчыне і неадступны матыў пошукаў чалавечнасці ў чалавеку».

**1** Складзі нататку на тэму: *Літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», яго дзейнасць і значэнне*. Звярні ўвагу на:
– час і месца стварэння арганізацыі
– членаў і актывістаў
– выдавецкую працу
– вядучыя тэмы творчасці белавежцаў
– значэнне для падтрымкі беларускай меншасці ў Польшчы
Выкарыстай таксама інфармацыі, што змешчаны ў падручніку пад творамі белавежцаў.

*Наталля Арсеннева*

## Хворая восень

Дождж імжыць ужо некалькі дзён,
І на свеце так нудна і шэра.
На асенні дурны забабон,
Як на грыпу, зямля захварэла.
Хрыпла плача з-за мокрых вуглоў
І трасецца асінавай трасцай,
Жоўтай пенай аслізлых лістоў
У далечу плюе, дзе ўдасца.
Будзе гэтак туляцца, стагнаць,
Пакуль лёд не сатне яе сіні,
Пакуль снежань не прыйдзе ёй даць
Снежнабелы драбок аспірыны.

• трасца – ліхаманка, малярыя
• дроб – кавалачак чаго-небудзь

Адшумелі свой час неспакойныя восеньскія вятры. Нізкія, разарваныя ветрам мітуслівыя хмары выплакалі халодныя слёзы.

Кароткія, змрочныя дні наводзілі паныласць і смутак, прыгняталі добры настрой і адчуванне. Быў той час, калі людзі прасілі: «Прыходзіла б ужо зіма. Няхай бы падсушылі марозікі зямлю, каб яна не тапілася ў гразі і ў балоце». [...]

*паводле Якуба Коласа*

*Восень у Белавежскай пушчы. Знізу: рэканструкцыя традыцыйнага будаўніцтва ў Будах*

*Зоська Верас*

## Вецер выў

Вецер асенні шалеў, выючы ўсімі тонамі роспачы і болю. Выў вецер, бяздольны пан і ўладар апусцелых абшараў. Выў і праклінаў адзіноцтва сваё.

Кідаў праклящці, як громы магутныя; у бяссільнай злосці сваёй ламаў галіны бязвінных дрэў.

Гнаў цэлыя хмары мёртвага лісця. І плакаў, і стагнаў. А яму ўторылі совы вялікавокія з глыбіні чорных дуплаў...

Дрыжалі бязлістыя жалобныя дрэвы. Ціхім шэлестам скардзіліся жоўтыя хмары лісцяў. Чырвонымі слязамі сыпалі каліны і рабіны.

З шэрага халоднага неба ліліся хвалі дробнага дажджу.

А вецер выў...

❖ увасабленне – аўтар карыстаецца ў творы асаблівым відам метафары, прыпадабняе з'яву прыроды паводзінам чалавека, пераносіць на яе чалавечыя ўласцівасці

**1** *Ён быў, кідаў – яна была – яно было*, падбяры іншыя прыклады.

**2** Чаму ў слове *бяссільны* прыстаўка канчаецца на *с*, а ў слове *бязвінны* на *з*? Успомні правапіс прыставак *з-, уз-, без- (бяз-), раз-, цераз-* перад глухімі зычнымі гэта значыць: к, п, с, т, ф, х, ц, ч, ш.

**3** Карыстаючыся вышэйпрыведзенымі тэкстамі і асабістым успрыманнем прыроды складзі апавяданне на адну з тэмаў:

а) *«Апошні восеньскі лісток»* б) *«Хворая восень»*

❖ апавяданне – як форма выказвання патрабуе: уступу, развіцця тэмы, заканчэння. Яно характарызуецца дынамікай, у ім магчымыя элементы апісання і дыялогу. Пластычнасці падзеям прыбаўляе форма цяперашняга часу.

Словы да выкарыстання:

восень – ранняя, залатая, пагодлівая, мокрая, глыбокая, дажджлівая, сумная, позняя, прыйшла, пачалася, наступіла, надышла

надвор'е – непагадзь, ветранае, сыра, сонечна, сінія цяжкія хмары, воблачнае, белы туман, імжыць

краявід – зямля апусцела, не чуваць птушыных галасоў, адцвілі кветкі, дрэвы пажаўцелі, губляюць лісты, кружыцца павуцінне, шэрае неба, парывісты халодны вецер, сумныя дрэвы.

*Анатоль Трафімчук*

## Яна і я

Што ёсць каханне? Ці існуе яно наогул? Гэтыя і іншыя пытанні аб існаванні найвышэйшага пачуцця заўсёды турбавалі, турбуюць і будуць турбаваць чалавецтва ў цэлым і кожнага індывідуума асобна.

Як падае тлумачальны слоўнік, каханне – гэта «вялікае сардэчнае пачуццё да пэўнай асобы іншага полу».

І вось, паўстаюць пытанні, ці сапраўды існуе такое «вялікае сардэчнае пачуццё», і калі існуе, то як вызначыць яго межы? Разгортваючы гэтую думку шырэй, як вызначыць той дзівосны пункт, калі каханне, скажам так, пачынаецца і... заканчваецца?

Ніхто, думаецца, не будзе спрачацца, што каханне, калі яно ёсць (гэта ўмова будзе мецца на ўвазе і далей адносна паняцця «каханне» да поўнага вырашэння нашай праблемы), – пачуццё ірацыянальнае, невытлумачальнае [...]

**1** Да назоўніка *пачуццё* падбяры 4-5 прыметнікаў.
Каханне – гэта пачуццё (якое?): ................., ................., ................., ................., ................. .

**2** З якімі дзеясловамі спалучае аўтар слова *каханне*? Выпішы, ствары ўсе тры формы часу:
*каханне пачынаецца*, ................................., ................................., .................................,

| прошлы час: | цяперашні час: | будучы час: |
| --- | --- | --- |
| *пачалося* | *пачынаецца* | *пачнецца* |
| ......................... | ......................... | ......................... |
| ......................... | ......................... | ......................... |
| ......................... | ......................... | ......................... |

**3** Якія пытанні хвалююць аўтара? Прачытай выразна, абавязкова павысь інтанацыю на тым слове, у якім заключаецца пытанне.
**Калі** каханне пачынаецца?
Калі **каханне** пачынаецца?
Калі каханне **пачынаецца**?

*Павел Гаспадыніч*

## Яна і я. Тварэнне хараства

«Сапраўды моцнымі асобамі людзі становяцца толькі тады, калі яны здолелі з годнасцю прайсці праз тры выпрабаванні: вайну, няволю і каханне», – так

лічылі старажытныя грэкі. І не пагадзіцца з гэтым немагчыма. Аднак, што мы разумеем пад паняццем «каханне», бадай, самым вялікім выпрабаваннем годнасці людзей? Адказаць на гэтае пытанне вельмі складана, тым больш, што кожны з нас разумее каханне па-свойму. Але бясспрэчна і тое, што «з кахання паходзіць усё», як калісьці трапна заўважыў Гесіёд.

Вось, напрыклад, як даецца абазначэнне паняцця кахання ў энцыклапедычным даведніку: «Любоў (маецца на ўвазе і самое каханне) – інтымнае і глыбокае пачуццё, накіраванае на іншую асобу, чалавечую агульнасць або ідэю. У старажытнай міфалогіі і паэзіі – касмічная сіла, падобная да сілы прыцягнення. У Платона і ў платанізме любоў – эрас – сіла, якая падахвочвае да духоўнага росту, эстэтычнае захапленне і імкненне да сузірання ідэй праўдзіва сутнаснага, дабра і прыгажосці».

Кожны ж з нас, у адпаведнасці са сваім жыццёвым вопытам, светабачаннем, розумам і г. д. не толькі расшырае гэтае абазначэнне да бязмежнасці, але і дадае ў яго сваё ўласна новае, выкрэслівае нешта непадыходзячае менавіта яму і наогул стварае ўласны міф кахання. У сваю чаргу каханне патрабуе ахвяр. А ў пераважнай большасці гэтыя ахвяры (свядомыя ці не, добраахвотныя ці не, поўныя ці частковыя) прыносяць на алтар самага вечнага і самага моцнага пачуцця ва ўсім свеце дзяўчаты. Так, самая прыгожая палова чалавецтва – яна ж і самая шчыраахвярная. Без яе не было б нічога...

Ці мы забыліся аб продках сваіх, як яны кахалі? Успомніць хоць бы каханне нясвіжскага князя Міхала Казіміра Радзівіла («Рыбанькі») і Францішкі Уршулі Вішнявецкай, якое, успыхнуўшы з першага погляду, не згасла да канца іх жыцця. І ніякія звычкі, ніякія там «30 месяцаў» не здолелі нават сцішыць полымя іхняе ўзаемнае жарсці. Хаця, канешне, гэтаму «пасадзейнічала» сама Францішка, што, дарэчы, гаворыць аб спрадвечна большай ініцыятыўнасці дзяўчат у каханні. Францішка Уршуля хвалявалася, калі мужу даводзілася пакідаць дом па справах, хоць і старалася не паказваць выгляду. Яна ўпотай раўнавала яго да ўсіх прыгожых жанчын, самакрытычна ацэньваючы сваю знешнасць. Аднак маладая княгіня здольная была ўтрымаць Міхала Казіміра сваім розумам і літаратурным талентам. Яна засыпала мужа лістамі ў вершаванай форме, якія апошні выдаў у Нясвіжы асобнай кнігай: «Лісты да мужа». Дарэчы, у Францішкі Уршулі і Міхала Казіміра амаль кожны год нараджаліся дзеці, былі сярод іх і блізняты. Ці ўсё гэта было «проста так»?

А калі прыгадаць каханне Францішка Скарыны і Маргарыты Адвернік? Маргарыта была жонкаю аднаго з бліжэйшых сяброў Францішка, віленскага купца Юрыя Адверніка. Аднак гэтая перашкода не магла стрымаць гарачае, вірлівае пачуццё ў Скарынавым сэрцы. І ў сваю чаргу Маргарыта натхняла яго на вялікую, плённую працу. Аб гэтым сведчаць гравюры першадрукара, зробленыя для «Бібліі рускай», на якіх настойліва паўтараецца выява адной і той жа прывабнай маладой жанчыны.

Тая незнаёмка амаль заўсёды на другім плане. Але ў ілюстрацыі да «Песні Песняў» менавіта на яе схіленую галаву ўскладвае карону прамудрасці Ісус




*Зрэканструяваны двор сям'і Касцюшкаў у Косаве на Беларусі.*
*Партрэт Тадэвуша Касцюшкі*

Хрыстос, а рукі жанчыны цягнуцца да ляжачага ля яе ног герба Францішка Скарыны, на якім – выява Сонца побач з Месяцам. Незнаёмка гэтая – Маргарыта...

Між тым іхняе каханне не было адкрытым і «свабодным». Маргарыта, пэўна, вагалася паміж уласнымі пачуццямі і сямейнымі абавязкамі. Абое закаханыя не маглі дзеля ўласнага шчасця пераступіць праз лёс Юрыя Адверніка – добрага, шчырага, вернага сябра і мужа. Яны адмыслова хавалі свае пачуцці. Урэшце, пасля смерці мужа Маргарыты, закаханыя ажаніліся. І як вынік іх шчаслівага, хаця і не доўгага, сямейнага жыцця – з'яўленне двух хлопчыкаў – Сымона і Францішка.

А калі прыгадаць самаадданае, палкае, шчырае каханне славутага Тадэвуша Касцюшкі і Людвікі Сасноўскай? Колькі ж значыла каханая для героя, на якія подзвігі яго натхняла!.. Менавіта, дзякуючы ёй, мы можам ганарыцца, што ў гісторыі беларускага народа ўспыхнула вечнай неўміручай зоркай постаць вялікага героя. Хаця праслаўлены ўраджэнец беларускай зямлі, палкаводзец, генерал, ганаровы грамадзянін Францыі, нацыянальны герой Злучаных Штатаў Амерыкі, Польшчы і Беларусі заставаўся ў канцы свайго жыцця халастым і бяздзетным.

Толькі праз паўгода пасля першага знаёмства Тадэвуш адкрыта прызнаўся ў каханні Людвіцы Сасноўскай. Яна адказала яму ўзаемнасцю... Але бацька дзяўчыны адмовіў Тадэвушу ў шлюбе: «Галубкі не для вераб'ёў, а магнацкія дочкі не для бедных шляхцюкоў».

Магчыма, бацька каханай Касцюшкі і даў бы дазвол, каб не прайграўся ў карты пану Станіславу Любамірскаму, якому трэба было аддаваць адзін са сваіх маёнткаў. Але «ўзамен» Любамірскі прапанаваў таму аддаць дачку замуж за свайго сына... Дзяўчыну сасваталі.

Аднак Тадэвуш і Людвіка не склалі рук. Касцюшка з сябрамі вырашылі выкрасці нявесту – маладыя таемна павянчаюцца, а стары Сасноўскі з цягам

часу даруе. Ды не трэба было давяраць Тадэвушу свой сакрэт Станіславу Аўгусту Панятоўскаму... Магчыма Касцюшка шукаў падтрымку і дапамогу ў манарха, які пахваліў ягоны рыцарскі намер, але той, як усе каралі, палохаючыся змоў на баку, папярэдзіў аб выкраданні Сасноўскага.

У прызначаны час дзяўчына выйшла ў сад. Разам з Тадэвушам яны пачалі ўжо свае ўцёкі, але раптам паслугачы гетмана Сасноўскага дагналі іх і вярнулі дзяўчыну. Тадэвуш вымушаны быў з'ехаць за мяжу, дзе ў імя сваёй каханай здзейсніў нямала гераічных учынкаў і стаў значнай фігурай. [...]

У 1784 годзе ў генеральскім чыне, з вышэйшымі вайсковымі ўзнагародамі, славай і прызнаннем Касцюшка вярнуўся на радзіму. Але грошай у яго не было, з-за гэтага «амерыканскаму герою», пра подзвігі якога з захапленнем гаварыла ўся Рэч Паспалітая, у войску сваёй краіны не знайшлося месца. Даведаўшыся пра гэта, Людвіка, якая па-ранейшаму моцна яго кахала, паспрабавала парупіцца аб ягоным лёсе. Ды раптам... яна даведалася, што Касцюшка збіраецца жаніцца і, раўнуючы, пагарачылася: дала слова ніколі больш не прамаўляць імя свайго каханага і не прымаць удзелу ў яго жыцці.

У гэты час яна мела ўжо чацвёра дзяцей. Касцюшка ж па-ранейшаму кахаў толькі яе, аднак быў ужо не ў сілах нешта змяніць. Таму, убачыўшы нешта падобнае да Людвікі ў дачцы харунжага Жураўскага, шаснаццацігадовай Тэклі, вырашыў ажаніцца з ёй. Але ізноўку – адмова бацькі дзяўчыны. Толькі на гэты раз Тадэвуш не супраціўляўся лёсу. Даведаўшыся пра ўсё, Людвіка палічыла сябе вінаватай ва ўсіх жыццёвых няўдачах Касцюшкі. Яна кляла сябе за рэўнасць, мяркуючы, што шлюб ейнага каханага з Жураўскай магло расстроіць толькі яе нежаданне, нядобрая думка.

Людвіка аднавіла спробы тайком ад Тадэвуша наладзіць яго кар'еру. У кастрычніку 1786 года яна адважылася напісаць прашэнне самому каралю Панятоўскаму. Паколькі менавіта ў гэты час соймам вырашалася пытанне аб павелічэнні арміі Рэчы Паспалітай, Людвіка звярнула ўвагу манарха на свайго героя. Падрабязна апісваючы яго воінскія заслугі і высокія чалавечыя якасці, яна між іншым пісала, што проста абавязана заняцца ягоным лёсам.

Магчыма, дзякуючы менавіта самаадданаму каханню Людвікі, Касцюшка атрымаў у рэшце рэшт пасаду камандзіра брыгады. І тады жанчына адкрылася яму. Аднак, баючыся парушыць клятву, дадзеную мужу перад алтаром, яна так і не рашылася на сустрэчу з каханым чалавекам. Толькі напісала яму некалькі лістоў, дзе запэўнівала, што кахае яго па-ранейшаму.

У 1817 годзе Людвіка стала ўдавой. Дазнаўшыся, што адзінокі Касцюшка жыве ў швейцарскім мястэчку Салюры, яна пачала збірацца да яго. Але не было наканавана збыцца і гэтаму: хутка, праз два месяцы пасля смерці ейнага мужа, памёр і Тадэвуш.

Людвіка перажыла каханага чалавека на дваццаць гадоў. Усе апошнія гады не было для яе большай радасці і болю, чым слухаць паланез, напісаны Тадэвушам напярэдадні паўстання. Паводле ўспамінаў дзяцей, Людвіка, слухаючы гэтую музыку, усміхалася. Але па твары яе цяклі слёзы...

Вось якое было каханне...

Ды ці мала ў беларускай гісторыі славутых постацяў, якія маглі кахаць палымяна, самааддана, ахвяруючы ледзь не ўсім... Асабліва гэта датычыцца дзяўчат, дзякуючы якім столькі здзяйснялася... Францішка Уршуля Вішнявецкая, Маргарыта Адвернік, Людвіка Сасноўская і яшчэ шмат-шмат хто іншы.

А таму, яшчэ раз «блаславўляючы» бескарыслівае, самаадданае, палкае каханне і, асабліва, каханне дзяўчат (бо менавіта яны ствараюць з мужчын герояў, славутых асоб і г. д.), хочацца скончыць гэтыя нататкі словамі Сухамлінскага:

«Паважай дзяўчыну, ахоўвай яе гонар, годнасць, незалежнасць. Дзяўчына, якая здолела абудзіць у табе пачуццё сімпатыі, можа стаць тваёй жонкаю, маці тваіх дзяцей. Каханне – гэта не толькі захопленае любаванне, насалода прыгажосцю, створанай для цябе, але і бясконцае тварэнне хараства ў каханым».

1 Прачытай першы абзац тэксту і адкажы на пытанне: праз якія выпрабаванні (праверка самога сябе) здараецца праходзіць чалавеку?

2 Як акрэслівае слова *каханне* тлумачальны слоўнік беларускай мовы, а як энцыклапедычны даведнік? Параўнай першы тэкст пад загалоўкам *Яна і я* і другі абзац наступнага. У чым розніца?

3 Пра каханне якіх, вядомых нам продкаў расказвае аўтар? Якія гэта стагоддзі: XVI, XVIII?

4 Якімі метадамі берагла сваё каханне Францішка Уршуля Вішнявецкая? Чаму яно *пачаўшыся з першага погляду, не згасла да канца жыцця?*

5 Чым, апрача самога шчасця кахання, было гэтае пачуццё для Францішка Скарыны – вядомага гуманіста і першадрукара? Адшукай прыметнікі і спалучы са словам *каханне*.

6 Што перашкодзіла Тадэвушу Касцюшку ажаніцца з каханай жанчынай – Людвікай Сасноўскай? Адзнач добры адказ.
а) абыякавыя адносіны дзяўчыны
б) адмова бацькі
в) падтрымка сяброў
г) пройгрыш бацькам Людвікі аднаго з маёнткаў

7 *Шляхі-дарогі Людвікі Сасноўскай і Тадэвуша Касцюшкі* – раскажы паводле плану:
а) прызнанне Тадэвуша ў каханні
б) адмова бацькі дзяўчыны ў шлюбе
в) рыцарскі намер Касцюшкі

г) раскрыццё плану юнака
д) выезд за мяжу
е) вяртанне героя ў Рэч Паспалітую
ё) спроба ажаніцца з дзяўчынай падобнай да Людвікі
ж) рашэнне Людвікі заняцца лёсам каханага
з) пасада камандзіра брыгады
і) прызнанне Людвікі ў неўміручым, усё жывым каханні
й) адзінокая смерць Касцюшкі ў Швейцарыі

8 Чаму аўтар называе свой тэкст *Тварэнне харастваъ*? Адкажы, звярні ўвагу на апошні абзац.

9 Якая з прыведзеных інтэрпрэтацый кахання здаецца табе найбліжэйшай. Прадстаў уласнае разуменне гэтага слова.

Старое беларускае вяселле не магло раней адбыцца без сватання. Сватацца – гэта значыць прасіць згоды радню дзяўчыны ці яе самую на шлюб. Сватам выбіраўся жанаты мужчына, пераважна вясёлы, гаваркі чалавек. Размова з бацькамі дзяўчыны напамінала торг. Вось прыклад сватаўства з рамана Івана Мележа *Людзі на балоце.*

[…] Стары Корч праз акуляры, важка разглядаў Ганну. Ганне ад яго ўпартага, незразумелага позірку было няёмка.

– Ваш тавар, наш купец! – прабурчаў Пракоп…

– Купец – усім купцам купец! Самы малады, чуб залаты, дабра поўныя клеці – лепшы на свеце!

– Купца не ганім – сказаў бацька. – Толькі – дзеўка гадамі шчэ не ў пары!.. Пагуляць бы шчэ трэба!

– Э, што з той гульбы! Ад гульбы конь псуецца, так і дзеўка!

– Семнаццаць гадкоў усяго!

– Самы час, самы лепшы квас! А то – пераспее, закісне, стане ўсім ненавісна!.. Шкадаваць будзе – бацьку. Матку клясці, што не далі замуж пайсці! Жаніх бо які: што ўродай, што славай, што красой, што справай!…

– Наша таксама – дзякуй Богу! – уступіўся за Ганну бацька.

– І старанная, і разумная, і слухмяная, – адразу падтрымала яго мачыха. – І з твару – другую такую пашукаць! Хай хоць хто скажа: нічым не абдзяліў Божа!

– А Яўхім – хіба, сказаць не першы хлопец на ўсе Курані? І да ўсяго – дастатак! Пойдзе каторая – не нахваліцца на долю, і паесць, і пап'е ўволю!

– Наша, канешне, не багатая… – адгукнуўся быў бацька, але мачыха не дала яму дагаварыць, кінулася сама ў наступ:

– Небагатая, затое з рукамі! Лішнім ротам не будзе! Як каторая з поўнай скрыняй! І зварыць, і спячэ, і сарочку чалавеку пашые! І свінча, і дзіця

даглядзіць! Вішчаць ад голаду не будуць!..

– Дай Бог, бо ў нашага купца – дабра без канца! І свіні, парасяты, і авечкі, і ягняты, і гумно, і клець – абы паспець!..

– Чаго тут мянціць попусту! – уступіў стары Глушак, нецярпліва скрыпучы. – Знаем усе, і мы, і яны – не далёкія... адным словам – пірог бярэце?

Стары павёў акулярамі на мачыху, на бацьку, Ганны не запытаўся. Мачыха, памаўчала для прыліку трохі, як бы разважаючы.

– Ды мы што ж?.. Мы не супроціў. Калі яно ўжэ на тое... Ганначко. Пакланіся ўжэ сватам, вазьмі пірага. [...]

• каравай – вясельны абрадавы пірог круглай формы

1 Што табе вядома пра вясельныя абрады даўней і сёння: якія з іх зусім зніклі, якія існуюць у зменёнай форме, што з музычным афармленнем і вясельным хлебам – караваем? Паразважай.

*Наталля Яромкіна*

## Свабода
*Абразок*

Я не размаўляла з табой даўно. Так даўно, што пачала ўжо забываць твой голас. І раптам ты патэлефанаваў.

– Прывітанне. Адкажы мне: што такое свабода?

– Свабода? Не ведаю...

– Я зусім заблытаўся. Свабода – гэта адсутнасць улады – Так ці не?

– Не. Анархія – гэта не свабода. У тым выпадку, калі няма ўлады, свабоды няма, бо калі кожны робіць усё, што хоча, ён не звяртае ўвагі на таго, хто побач. Няма агульнай свабоды.

– Магчыма. Але ты паразважай крыху. Калі знойдзеш адказ, скажы мне. Да пабачэння.

Я выйшла на вуліцу. Пачала пытацца ў людзей. Яны ўсе адказвалі: «Свабода – гэта калі...» Але я не жадаю ведаць, калі свабода, я пытаюся, што – свабода. Ці хто. А людзі паціскалі плячыма...

Чалавек, якога я паважаю больш за ўсіх, у свой час спяваў, што свабода – гэта каханне. І я набіраю твой нумар.

– Свабода – гэта каханне?

– Не.

– Чаму?

– Бо каханне – гэта не свабода. Гэта – адданасць душы.

Зноў памылілася. Крыўдна...

Глыбокая ноч. Тэлефон. Ты.
– Ведаеш, я здагадаўся. Свабода – гэта мы. – Чаму?
– А чаму б і не?

• свабода – магчымасць праяўлення суб'ектам сваёй волі, стан чалавека, адсутнасць абмежаванняў, незалежнасць

1 Чаму, паводле героя, *каханне* нельга назваць *свабодай*? Дакажы.

2 Складзі тры сказы са словам *свабода*.

3 Як разумеюць паняцце кахання героі абразка «Свабода»?

4 Складзі дыялог, размову паміж сябрамі на тэму, напр. хатняй працы. Памятай, у дыялогу кожная рэпліка звычайна запісваецца з абзаца і перад ёй ставіцца працяжнік.

*Барыс Сачанка*

## Чаравікі-туфелькі

З інстытута прыбегла радасная, узрушаная. Мімаходзь кінула на стол папку і ветрам уварвалася ў бацькаў кабінет.

– Папахен, у нас у суботу вечар! – гулліва крыкнула яшчэ з парога. – Мне трэба новыя туфлі.

Стары, лысы да апошняга воласу прафесар зняў акуляры, асцярожна палажыў на стол ручку, якою толькі што пісаў новую сваю работу, і, стомлена паціраючы даланёю скроні, сказаў:

– Лізачка, хто ж гэтак гаворыць з бацькам?

– А што? – здзівілася дзяўчына.

– Па-першае, я табе ніякі не папахен, а тата, – устаючы з-за стала, сказаў прафесар. – Па-другое... Прысядзь, калі ласка, дачушка, на канапку.

Ліза села.

– Я вось што хацеў табе сказаць, – пачаў прафесар, прысаджваючыся да дачкі. – Як ты ведаеш, я таксама не нарадзіўся адразу прафесарам і некалі вучыўся ў інстытуце. Дык вось. Калі мне было столькі год, як табе, са мной здарыўся адзін прыкры выпадак: у мяне падраўся чаравік. У майстэрні паабяцалі адрамантаваць яго праз дзень. А паколькі другіх чаравікаў я не меў, то назаўтра ў інстытут я пайшоў босы. Пайшоў рана, чуць свет, каб ніхто не бачыў. Сеў у самы куток...

– Далей можаш не расказваць, – перапыніла Ліза бацьку. – Я ўсё ведаю...

– Што ж ты ведаеш? – усміхнуўся прафесар.

– Усё, усё ведаю. Ведаю, што табе не адрамантавалі таго чаравіка ні заўтра, ні паслязаўтра, ні праз тыдзень... І ўсе гэтыя дні ты хадзіў босы на лекцыі... Ведаю, што табе штогод хоць раз ды сніцца, як ты босы, ужо прафесар, ідзеш па праспекце ў інстытут. Ведаю, што ты будзеш цяпер пытаць, колькі пар туфляў у мяне. Мне абрыдла ўсё гэта слухаць, я не хачу, не хачу твайго нічога!..

Падхапілася, тупнула абцасікам моднай туфелькі і, уся ў слязах, выбегла з кабінета, моцна ляпнуўшы дзвярыма.

Стары прафесар паківаў галавою і ўстаў з канапкі. Прайшоўся сюды-туды па кабінеце, потым сеў за стол. Але болей не мог напісаць ні радка – у галаву лезла зусім другое.

Адсунуўшы ўбок паперы, ён перабіраў у памяці зноў усё сваё жыццё, думаў, як гэта і чаму так здарылася, што яго не разумее і не хоча разумець родная дачка...

- папка – вокладка з кардону, скуры для папер
- лекцыя – вуснае выкладанне вучэбнага прадмета або якой-небудзь тэмы
- сямейныя дачыненні: бацькі, маці, бацька, бабуля, дзед, дзіця, сын, дачка, унук, брат, сястра, унучка, сваяк, сваячка, дзядзька, цётка, нявестка, зяць, радня

1 Хто яны – героі апавядання? Прадстаў кожнага з іх у чатырох-пяці сказах.

2 Што было прычынай спрэчкі паміж прафесарам і дачкой?

3 Што паглыбляла канфлікт паміж героямі? Звярні ўвагу на абставіны, у якіх узрастала Ліза і свет яе бацькі.

4 Якімі прыёмамі карыстаецца аўтар, паказваючы здарэнні з перажытага (рэтраспектыва, таямніца, пошук, раскрыццё)?

5 У шасці-васьмі сказах перакажы змест апавядання Барыса Сачанкі. Памятай, у пераказе нельга карыстацца дыялогам ці выказваць уласныя думкі.

*Вольга Рымша*

## Рэквіем

Ён знаходзіўся ў самай сярэдзіне жыцця, у тым трагічным узросце, калі страсці яшчэ не адшумелі, але стомленасць ужо дыхала ў самае сэрца. Кожны дзень ён асцярожна датыкаўся сваім існаваннем да грамадства, якое дыхала лекамі, нянавісцю і халоднымі позіркамі, але не адчуваў сябе яго часткай. У свае сорак два з лішнім ён так і не здолеў знайсці сваё месца пад сонцам

і таму, здавалася, знаходзіўся ў звыклым яго пошуку. Але на самай справе ён ужо даўно анічога не шукаў. З таго часу, як шмат гадоў таму несправядлівасць, якая прывяла яго за руку ў дзіцячы дом і пакінула там, зламала ў ім нейкі рухавік, і ён згубіў сябе. Засталася толькі ціхая цялесная абалонка, якая працягвала дзейнічаць па інерцыі. Нават вялікія шэрыя вочы былі ўсяго толькі органамі зроку са слабавыражанай пігментацыяй. Уся непрыкметная яго істота выпраменьвала няшчасце.

Супрацоўнікі цанілі яго як безініцыятыўнага, беспярэчнага выканаўцу, але не як чалавека. Незапатрабаваным застаўся ягоны маленькі ўнутраны сусвет, у якім зараз была звалка дабрачыннасці і заганаў. Дабро і зло ў ім змяшаліся і ператварыліся ў кавалак бясколернага пластыліну, з якога пры жаданні можна было яшчэ нешта вылепіць, але не знаходзілася ахвочых. Яго быццам не заўважалі, і ён адчуваў сябе непатрэбным: ніякай карысці – адны нязручнасці. Ні на што талковае яго не абмяняеш. Карміць яго трэба. Размаўляць з ім. І разумець. Хаця б зрэдку...

Людзі абыходзілі яго, безнадзейна слабахарактарнага, і ён не раскрыўся, застаўся бутонам і пачаў вянуць. А потым зросся са сваёй адзінотай і ўжо не шукаў выйсця з гэтага пачварнага сінтэзу. Ён нават баяўся завесці сабаку, бо не ўмеў любіць і не спрабаваў навучыцца. Часам нешта незразумелае неакуратна варушылася там, дзе павінна знаходзіцца душа, і тады яму хацелася крычаць, але ён маўчаў, таму што чужародная дзетдомаўская дысцыпліна глыбока пусціла карані ў ягоную свядомасць: выхаванне было дадзена яму, каб утойваць свае пачуцці... Калі апошнія і ўзнікалі, яны былі старанна запакаваны ў паперу мінулага. Ён увесь час звяртаўся да мінулага. Ён трымаўся за мінулае абедзвюма рукамі да болю ў пальцах, і адпусціць не хапала смеласці. Так было і сёння.

Ён выйшаў з тралейбуса пад дождж і паплёўся ў напрамку шэрага будынка, не заўважаючы хранічных лужын, смешна выцягнуўшы шыю і недарэчна падскокваючы, нібы хацеў прайсці паміж кроплямі.

Насустрач ішла яго маці, зусім такая, якой ён бачыў яе ў апошні раз: заплаканая і разгубленая. Даўно застылая на твары ўсмешка скрывіла яго вусны.

А з-пад доўгіх пальцаў лёсу, заглушаючы дождж, лілася мелодыя рэквіем.

- рэквіем – жалобны музычны твор
- страсць – моцнае пачуццё, моцнае захапленне чым-небудзь
- рухавік – сіла, якая пабуджае да чаго-небудзь
- інерцыя – бяздзейнасць, пасіўнасць
- талковы – разумны, кемлівы
- бутон – пупышка кветкі
- неакуратна – нестаранна, недакладна, неахайна
- паплесціся – пайсці не спяшаючыся

• узрост:
Колькі табе гадоў?
Мне шаснаццаць гадоў. Якраз скончылася шаснаццаць. Я прыкладна ў вашым узросце. Яму ўсяго два годзікі.
А вам колькі гадоў?
Ты маладзейшы за мяне на пяць гадоў. Я паўналетні. Жанчыне столькі гадоў, на колькі яна выглядае. Мне сорак з лішнім, дакладней пад пяцьдзесят. Ужо ў пажылым веку. Мы равеснікі, аднагодкі.
Яму пад трыццааць?
Ён дарослы. Малады, але не падлетак, юнак.

**1** Прачытай першы абзац апавядання і адшукай словы, якія знаёмяць нас з галоўным героем.
а) ........................................ б) ........................................
в) ........................................ г) ........................................
д) ........................................ е)........................................

**2** Знайдзі ў тэксце словазлучэнні, якія апісваюць знешні выгляд галоўнага героя.
а) ........................................ б) ........................................

**3** Прачытай другі і трэці абзацы, назаві рысы характару героя:
а) ........................................ б) ........................................
в) ........................................ г) ........................................

**4** Адкажы, якімі прыроджанымі схільнасцямі выдзяляўся прадстаўлены ў апавяданні мужчына. Звярні ўвагу на другі абзац.

**5** Як паўплывала на героя выхаванне ў дзіцячым доме? Адзнач добры адказ.
а) адмоўна б) станоўча

**6** Знайдзі доказы на тое, што *чужародная дзетдомаўская дысцыпліна* абмежавала развіццё людскіх пачуццяў і закараніла ў чалавеку пачуццё прыніжанасці на ўсё жыццё:
а) ........................................................................................................................
б) ........................................................................................................................
в) ........................................................................................................................
г) ........................................................................................................................

**7** Як аўтарка ставіцца да грамадства і супрацоўнікаў героя. Знайдзі доказы ў тэксце.

**8** Ацані постаць героя, выкажы ўласныя погляды і заўвагі. Звярні ўвагу на яго:
– паводзіны: маўклівы, негаваркі, нясмелы, ціхі, палахлівы, разважлівы, рахманы (potulny)

– адносіны да людзей: паслухмяны, верны, згодны, цярплівы, абыякавы, недаверлівы, раўнадушны (obojętny), пасіўны, скептычны, нядбалы
– сілу і слабасць характару: непахісны, бездапаможны, бязвольны, супярэчлівы, апатычны, халодны, невясёлы, хісткі
– настрой і перажыванні: яму боязна, трывожна, адчуваць сябе ніякавата, адчуваць агіду, выклікаць спагаду (litość), спачуванне, зазнаць шмат клопату, баяцца жыцця, зненавідзець

9 Які мастацкі сродак выкарыстоўваецца аўтарам у апошнім сказе? Раскрый яго сэнс.

10 Ці загаловак твора адпавядае яго зместу? Абгрунтуй свой адказ.

11 Падрыхтуйся да справаздачы з пазакласнага чытання (самастойнага). Выступленне падзялі на дзве часткі:
а) справаздаўчая (інфармацыя адносна аўтара, загалоўка, выдання, жанру твора, праблематыкі, зместу, кампазіцыі)
б) крытычная (асноўныя вартасці твора)
Да самастойнага чытання выкарыстай *Ніву* ці іншыя выданні даступныя ў школьнай бібліятэцы. Можна ўвайсці на інтэрнэтную старонку *www.knihi.com*, дзе знойдзеш шмат тэкстаў культуры.

*Ян Скрыган*

## Слепата

У прыморскім санаторыі на Каўказе за адным сталом са мною абедала маладая жанчына Вера. Я знаў, што яна піяністка, што адпачывала пасля гастрольных падарожжаў, і глыбока-трывожна паважаў яе.

Яна звычайна прыходзіла крыху пазней за другіх, віталася сціплым уклонам галавы і садзілася на край стала. Яна трымала сябе строга і сціпла, гаварыла скупа, але душэўна і разумна, заўсёды пакідаючы пасля сябе такое адчуванне, што хацелася зноў скарэй бачыць яе. У яе была нейкая адмысловая жаночая чароўнасць і гожасць, каторая не кідаецца ў вочы, а пазнаецца разам з самім чалавекам. Бываюць жа такія людзі, што, сустрэўшыся нечакана, надоўга ў душы пакідаюць свой след.

Часамі мы рабілі з ёю невялікія падарожжы па наваколлі. Што раніцы сустракаліся на беразе: я прыходзіў з усходам сонца і заставаў яе ўжо там. Адна перад морам, скінуўшы махрасты халат на яшчэ стылы ад ночы пясок, яна займалася гімнастыкаю. Мы віталіся, махаючы над галавою рукамі, і яна мне крычала:

– Вы доўга любіце спаць, дарагі таварыш! Марнуеце час! Не шкадуеце, што міма праходзіць гэтулькі хараства!

І праўда, можа гэта ад яе кругом было хораша. Мы купаліся ў ранішняй марской свежай вадзе, і мне здавалася самым лепшым, што пругкія плыні абмываюць разам мяне і яе. Пасля мы выціраліся прапахлымі морам ручнікамі, цяпер сыходзіліся ўжо блізка, зноў гаварылі адно аднаму «добрай раніцы» і варочаліся дахаты, калі нашы калегі яшчэ толькі ўставалі з пасцеляў. На снеданні я зноў бачыўся з Вераю: яна як бы спяшалася насустрач майму позірку. Калі ж за сталом яе крэсла было доўга пустое, я нудзіўся і чакаў яе.

– Трохі запазнілася, прашу прабачыць. Забавілася на практыкаванні, – звычайна гаварыла яна ў такія часы, як бы папраўдзе была перада мною ў чым вінавата.

Аднаго разу з калегам мы ляжалі на гарачым беразе і жмурыліся ад сонца, разглядаючы на гарызонце лёгкі дымок парахода. Калега без ніякае прычыны сказаў:

– А слаўная жанчына твая суседка.

– Вера? – папытаўся я.

– Але. Толькі шкода, што ў яе гэтак з вокам. Такая прыгожая і – няшчасны чалавек.

– А што ў яе з вокам? – здзівіўся я.

– Яно пакалечана. Хіба ты не бачыў, што калі яна глядзіць, то трошкі прыжмурваецца, каб роўныя былі павекі? І заўсёды стаіць трошкі бокам, каб не відно было калецтва: не хоча паказаць скроні.

– Гэта не ў Веры! – рэзка не згадзіўся я. – Можа ты думаеш пра каго другога?

– Як? Хіба ты дасюль і не бачыў? – весела зарагатаў мой калега і пачаў пацяшацца з мае няўважлівасці.

Сустрэўшыся з Вераю, я знарок пільна ўгледзеўся ў твар. Вера заўважыла гэта, спалохана махнула вейкамі, нечакана павярнулася так, каб відна была правая скроня, і шумна прыкусіла край губы, нібы зацінаючы нейкі глыбокі боль. Ад куточка вока, там, дзе кладзецца першая маршчынка мудрае чалавечае сталасці, як след выкручастай, ядавіта-шпаркай змейкі, цягнуўся тоненькі шрам, хаваючыся пад лёгкай кудзеркай на скроні, – след дотыку смерці, след вайны.

Нешта чыстае, высокае і святое кранулася мяне. Самая харошая, харашэй за ўсіх на свеце была гэтая жанчына.

І пасля, калі б я ні сустракаўся з Вераю, перада мною міжволі ўсплываў твар калегі, і мне здавалася, што вочы яго засцілае страшная чалавечая слепата.

- адмысловы – своеасаблівы, адметны, выдатны
- халат – верхняе хатняе або рабочае адзенне
- плынь – імкліва цякучая водная маса

• выгляд чалавека:

– рослы чалавек, нізкага росту, рост сярэдні, сын ростам на галаву вышэйшы за бацьку

– знешні выгляд – стройны, спакойны, стомлены, малады, ахайны (schludny), неахайны, нязграбны

– асілак (siłacz), дробны, дужы, кволы (słabowity), прысадзісты, хударлявы, прыгожы

– аблічча суровае, інтэлігентны твар, блакітныя вочы, чорныя вейкі, бледныя, румяныя шчокі, нос прамы, вушы адтапыраныя (odstające), зубы роўныя, губы сціснутыя

1 Хто з'яўляецца апавядальнікам у творы? Прадстаў яго.

2 Чым звяртала на сябе ўвагу маладая піяністка Вера? Запішы некалькі прыкладаў.

а) прыходзіла ў сталовую крыху пазней за другіх

б) ..........................................................................................

в) ..........................................................................................

г) ..........................................................................................

3 За што галоўны герой глыбока паважаў Веру? Адзнач добры адказ:

а) прыгожую ўсмешку

б) знешні выгляд

в) адносіны да людзей

г) глыбіню і чароўнасць характару

4 Звярні ўвагу на ўспрыманне героямі твора хараства, у тым жаночага хараства. У чым бачыш рознае стаўленне абодвух мужчын да Веры?

5 Прадстаў постаць маладой жанчыны – піяністкі. Звярні ўвагу на яе знешні выгляд, адносіны да іншых, пачуцці, уласныя перажыванні.

6 Чаму аўтар назваў сваё апавяданне *Слепата*? Да каго з герояў падыходзіць гэтае слова?

7 Якое важнае грамадскае пытанне ставіцца ў творы? Зрабі вывад, што вынікае з сюжэта.

*Рыгор Барадулін*

## Жыццё і паэзія

Часцяком само жыццё ставіць гэтае пытанне. Яно гучыць дваяка. Альбо паэзія, альбо жыццё? А ці паэзія жыццё?

[...] Чалавек нараджаецца паэтам. Ці не таму ўсе ў маленстве пішуць вершы, бачаць свет па-свойму, твораць свой свет.

У італьянскім жывапісе паэзія ўваблічваецца ў вобразе жанчыны ў нябесна-блакітным убранні, аздобленым зорамі; галава ейная крылатая. Крылатая думкаю.

Па законах паэзіі трываліцца ўсё, што акаляе чалавека – усе з'явішчы ў прыродзе, усе рэчы, найменні ўсяго бачнага і нябачнага.

Чалавек нічога новага не выдумляе, ён толькі стараецца зрабіць нешта адэкватнае створанаму Усявышнім. І ў гэтым як бы суперніцтве таксама жыве паэзія.

[...] Усё ў прыродзе мае карані, як і само дрэва жыцця. Карані ёсць у красківі ў аблачынкі. Карані ёсць у вобраза і ў думкі. Перакаці-поле коціцца, аблачына плыве, думка сягае да недасяжнага. А ва ўсіх корань адзін – паэзія.

Адна настаўніца душы – паэзія. Але яна няўлоўная, як вецер.

Хто дагнаў вецер? Хто яму нешта сказаў, пачуў ад яго нешта канчатковае?

Чалавек, які набраўся нахабнасці назваць сябе паэтам – вятрак, што думае, нібыта ён вецер трымае за бараду. Тым і жыве.

А бальшыня думае, што якраз у галаве ў паэта вецер. А паколькі вецер вечны, вечныя й лаўцы ветру – паэты.

Можна зачыніць дзверы й вокны, каб не чуць вецер. Ды ён усё роўна жыве, хвалюецца й хвалюе іншых, гоніць хвалі ды бушлаваціць дрэвы ў гэтым ветраным і праветраным свеце.

Чалавек – паэт у большай ці меншай ступені, лавец ветру, лавец марнаты, лавец жыцця ўвогуле. Смяяцца з паэта – смяяцца з сябе.

Без паэзіі няма жыцця, як і паэзіі няма без жыцця. Яны двухадзіныя.

Некалі вядомы ў свеце перуанскі паэт Сэсар Вальеха пытаўся:

*А калі пасля гэтулькіх слоў*
*Не выжыве слова?*

Гэты вечны страх паэтаў за слова й трымае слова й неўміручасць яго, а тым самым робіць вечнай паэзію. [...]

- часцяком – даволі часта
- закон – агульнапрынятае правіла
- нахабнасць – назойлівасць, бессаромнасць
- хваляваць – выклікаць узбуджанасць адчуваннем трывогі ці радасці

1 *Чалавек нараджаецца паэтам* – чым аргументуе гэтую думку аўтар? Звярні ўвагу на другі абзац і адкажы.

2 Як уяўляюць паэзію італьянскія жывапісцы? Раскажы двума-трыма сказамі.

3 Як акрэслівае паэзію і яе стваральнікаў аўтар, да чаго параўноўвае? Адшукай у тэксце фразы і запішы:
паэзія – гэта корань жыцця
паэзія – .......................................
паэзія – .......................................
паэты – .......................................

4 Прачытай некалькі апошніх сказаў і адкажы на пытанне: якую сувязь паміж паэзіяй і жыццём прыкмячае аўтар?

5 З якімі вобразамі атаясамліваеш паэзію? Які яе сімвал стварыў бы ты?

## Народныя песні

У вуснай творчасці беларускага народа шырока распаўсюджаны песні, звязаныя з працоўнай дзейнасцю людзей (калядныя, купальскія, жніўныя...), з асноўнымі перыядамі чалавечага жыцця (радзінныя, вясельныя, хаўтурныя) у якіх рабілася спроба асэнсаваць лёс кожнага чалавека паасобку і яго каштоўнасць для людской супольнасці. Здаўна песні дапамагалі выявіць чалавечыя пачуцці і перажыванні сугучныя настрою. Змест песень, як ужо сказалі, адпавядаў канкрэтнай жыццёвай сітуацыі. Песні перадаваліся вусна з пакалення ў пакаленне.

Народныя песні нясуць у сабе самае дарагое, тое што напаўняла чалавечую душу, чым яна жыла, чым пакутавала і цешылася, да чаго імкнулася.

* * *

Расхіліцеся густы лозанькі
скуль вецер вее.
Падзівецеся кары очанькі
скуль да вас мілы едзе.
Рады лозанькі расхіліціся
каб не ветры, марозы.
Рады очанькі падзівіціся
каб не горкія слёзы.

*запісана ад Мар'і Карнейчук, Белавежа*



* * *

Новая камора, старыя завесы,
аддаў бацька дочку
за рэкі, за лесы.
І сказала маці, сем лет не бываці,
а я маладзенька – рочку не ўтрывала.
Зрабілася ж я сівай зязюленькай
паляцела ў вішнёвы сад каваці.
Выйшаў старшы брацец да мяне страляці:
як сіва зязюленька, ляці ты над мора,
як наша сестронька, просім у камору.

*запісана ад Уладзіміра Сікорскага, Белавежа*

* * *

Ой чыя ж то волока
Доўга і шырока.
А тут жэнчыкі жалі
Сэрпікамі бросалі
Урожай збіралі.
А ім спіны боліэлі,
А ім рукі помліэлі.

Доўга, доўга трэба жаті
Покуль квіэточку ўбраті.

* * *

Ой, вярбіна зялёная
Над вадою схілілася,
Ці ад ветру схілілася,
Расой буйнай умылася
Пад вярбою, над вадою,
Там дзяўчына журылася,
З касы русай дзівілася,
Слязой горкай умылася.

1 Якой жыццёвай сітуацыі адпавядае змест песень?

2 Вызнач паводле тэматыкі прыналежнасць кожнай з песень да групы, напр.: калядныя, вясельныя, купальскія, жніўныя, жартоўныя, сямейна-бытавыя ці любоўныя песні.

3 Для народнай паэзіі характэрны прыём метафарызацыі дзеясловаў, ён найчасцей заснаваны на ўвасабленні. Знайдзі такія прыклады ў народных песнях.

*Максім Багдановіч*

* * *

Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог,
Улажылі спаць мяне вы на зямлі.
Не курыцца светлы пыл усцяж дарог,
Ў небе месяца прагляну ў бледны рог,
Ў небе ціха зоркі расцвілі.

Знічка коціцца агністаю слязой,
Прашумела мякка скрыдламі сава;
Бачу я, з прыродай зліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,
Чую ў цішы, як расце трава.

1 Верш Багдановіча – гэта самы цудоўны пейзажны малюнак, дзе прырода поўніцца рознымі гукамі. Якімі вобразамі ствараецца ў вершы ўражанне цішыні вечара?

2. Як разумееш метафары: *«у небе месяца прагляну́ў бледны рог, у небе ціха зоркі расцвілі»*? Падбяры адпаведныя фразы.

3. Метафарычнае пара́ўнанне *«знічка коціцца агністаю слязой»* узмацняе вобразы вечнай прыроды. Якія іншыя выразы перадаюць злітнасць чалавека і прыроды, іх гарманічную ра́ўнавагу? Адшукай у вершы.

❖ Выразнае чытанне верша

Кожны паэтычны твор – гэта непаўторны свет, які раскрывае чытачам думкі, перажыванні (радасць, смутак, боль, надзеі) лірычнага суб'екта, гэта споведзь яго сэрца. Прачытаць выразна твор, значыць перадаць голасам усе думкі, пачуцці выказаныя ў творы. Выканаўца павінен звярнуць увагу на выдзяленне голасам тых слоў, якія найбольш важныя для перадачы сэнсу верша, гэта значыць зрабіць лагічны націск на іх. Вялікае значэнне маюць таксама паўзы, якія дапамагаюць акрэсліць закончанасць думкі. Паўзы найчасцей супадаюць са знакамі прыпынку. На выразнае чытанне складаюцца: адпаведны тэмп, інтанацыя верша, сіла голасу.

4. Навучыся выразна чытаць верш Максіма Багдановіча згодна з умоўнымі абазначэннямі і заўвагамі аўтара.

| – лагічная паўза
| | – больш працяглая лагічная паўза
напр. месяц - слова (падкрэслена лініяй), на якое падае лагічны націск
( ↑ ) – націскное слова, якое вымаўляецца з павышэннем голасу
( ↓ ) – слова з паніжэннем голасу

сіла голасу – звычайная
інтанацыя – усхваляванага роздуму
тэмп – запаволены
асноўная думка верша – прырода багатая і разнастайная, трэба вучыцца яе адчуць, пачуць, бачыць

↓ ↓ ↓
Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог,
↑ ↓
Улажылі спаць мяне вы на зямлі. | |
↑ ↓
Не курыцца светлы пыл усцяж дарог,
↑ ↓
Ў небе месяца прагляну́ў бледны рог,
↑ ↓
Ў небе ціха зоркі расцвілі.

↑ ↓
Знічка коціцца агністаю слязой, |
↑ ↓
Прашумела мякка скрыдламі сава; |
↓ ↑
Бачу я, | з прыродай зліўшыся душой,
↓ ↑
Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной, |
↓ ↓
Чую ў цішы, | як расце трава.

* * *

У лесе бывае шмат ягад і грыбоў. У святочныя дні там шумліва блытаюцца песні птушак з песнямі шустрых дзяўчат. Жыве лес звонкім жыццём, і ў тым жыцці – у зялёным, у сонечным – чуваць гармонія шчасця, гармонія светлае радасці. А вечарамі, калі па вёсцы клапатліва задзынкаюць начныя жукі, калі пранясецца над вёскай ціхамірны подых начнога спакою – над Дняпром тады сакавіта пальецца беларуская звонкая песня.

Добра пайсці тады ў лес аднаму, убіцца ў глухі хмызняк над Дняпром і моўчкі слухаць, як у сівым кудлатым тумане над соннай вадою б'юцца прыгожыя гукі, як растаюць яны водгуллем недзе там, за Дняпром, дзе спяць сенажаці.

*паводле Міхася Зарэцкага*

**1** У мастацкім тэксце вобразна апісана прырода поўная гукаў і фарбаў. Пры дапамозе якіх моўных сродкаў ствараецца гэты вобраз? Назаві:
а) метафары: *б'юцца гукі, ...*
б) эпітэты: *звонкае жыццё, ...*

**2** Дай загаловак тэксту, напр. *На змярканні*. На аснове двух вышэйпрыведзеных тэкстаў, верша і прозы, складзі нядоўгае апісанне ўбачанай і пачутай прыроды на схіле дня. Словы і словазлучэнні да выкарыстання:
летні адвячорак, цёплая ноч, час блізіцца да ночы, усё зморанае чакае адпачынку, нельга адарвацца ад гукаў цішыні, імгла лажыцца на зямлю, чарнее небасхіл, змрок бяжыць па вуліцах, цішыня агартае душу, вецер ледзь чутна калыша, не адарвацца ад вячэрняй пары, на небе заблішчалі зоркі, устаў (глянуў з неба) круглы месяц.



*Пухлы*

*Данута Бічэль-Загнетава*

## Трыялет

Лёгкія сняжынкі ў цішы
Долу апускаюцца нясмела...
Светла ў полі, светла на душы...
Лёгкія сняжынкі ў цішы...
Спіць сасна ў бахматым шалашы,
А навокал так бялютка-бела...
Лёгкія сняжынкі ў цішы
Долу апускаюцца нясмела...

❖ **трыялет** – класічная форма васьмірадковага верша з дзвюма рыфмамі, якія ўкладаюцца паводле схемы абаааабаб. Характэрнай рысай трыялета з'яўляецца паўтарэнне першага радка ў чацвёртым і сёмым, а другога ў восьмым радку трыялета.

1 Якія пачуцці выклікае верш? Якія словы найлепш перадаюць яго настрой?

2 Пры дапамозе якіх словазлучэнняў ствараецца ўражанне святла, чысціні, спакою?

3 Ці верш Дануты Бічэль-Загнетавай адпавядае патрабаванням трыялета? З якой мэтай першы радок паўтараецца тройчы?

*Максім Танк*

* * *

Дрэвы паміраюць,
Калі перастаюць пазнаваць
Змены года
І не адгукаюцца рэхам;

Вада – калі забывае,
Куды ёй плыць,
І нікому не спатольвае смагі;

Зямля – калі перастае
Радзіць хлеб
І быць калыскай песняў;

Чалавек – калі страчвае здольнасць
Здзіўляцца і захапляцца
Жыццём.

- патоля – супакоенасць, спагада
- смага – моцнае жаданне піць

❖ **верлібр – свабодны верш**, не мае строгай рытмічнай арганізацыі, не карыстаецца рыфмай, па мове ён нават блізкі да прозы. Мова верша – лаканічная, афарыстычная, вобразная, эмацыянальная. Вершы такога тыпу ў большасці – гэта філасофская або медытатыўная лірыка. Пачынальнікам верлібра ў беларускай літаратуры быў Максім Багдановіч.

1 Як разумее слова *паміранне* лірычны суб'ект у творы Максіма Танка? Ці гэта: проста перастаць жыць, знікнуць, абмежавацца да пасіўнасці, патраціць ідэалы, інерцыя, абыякавасць...? Наколькі смерць разглядаецца тут у сэнсе фізічным альбо духоўным?

2 Удумайся ў змест верша і паспрабуй перадаць яго сваімі словамі.

❖ Сучасная беларуская літаратура – адна з высокаразвітых літаратур, можна сказаць, што яна багатая і сталая, калі мае такіх выдатных і таленавітых майстроў слова як: Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Максім Танк, Алесь Разанаў, Уладзімір Арлоў. Больш чым на 50 моў свету перакладзены аповесці Быкава, больш чым на 30 – творы Шамякіна, кніжкі Разанава – вядомыя ў Польшчы і Германіі. Постсавецкая літаратура – гэта пара творчага разняволення асобы, новых тэм і жанраў.

*Уладзімір Караткевіч*

* * *

Абяцаюць нам новы раскошны дом,
Але тут нам жыць і канаць,
Тут пад кожным навекі здабытым бугром
Нашы продкі забітыя спяць.

Яны аддалі нам меч і касу,
Слова з вуснаў, цяпер нямых...
І нам немагчыма пайсці адсюль
І пакінуць са смерцю іх.

• бугор – невялікае ўзвышша, узгорак

**Уладзімір Караткевіч** – (1930–1984) адзін з самых буйных талентаў беларускай савецкай літаратуры, майстар прыгожага пісьменства, заснавальнік гістарычна--прыгодніцкага жанру. Ён найбольш вядомы сваімі раманамі, але быў таксама таленавітым драматургам, паэтам, сцэнарыстам, эсэістам. Прыйшоў Караткевіч у літаратуру ў другой палове пяцідзесятых гадоў, ужо пасля смерці Сталіна, у часы адлігі. Літаратура свабадней уздыхнула, але трэба памятаць, што надалей знаходзілася ў непасрэднай залежнасці ад партыйнай ідэалогіі, а да сапраўднай творчай свабоды было далёка.

1 Верш У. Караткевіча можна ўспрымаць як:
а) прызыў захаваць і зберагчы вольны дом – айчыну
б) трывога за захаванне аўтэнтычнасці роднага
в) абавязак падтрымаць ідэалы продкаў
г) патрэба збудаваць раскошны дом на магілах забітых продкаў
Адзнач дрэнны адказ.

2 Прачытай уважліва верш і скажы, якая форма займенніка найчасцей паўтараецца? Як думаеш, чаму?

3 Чаму аўтар выдзяляе слова *тут*? Ці яно абмяжоўваецца толькі да слоўнікавага значэння: *у гэтым месцы*? Абмяркуй.

4 Сімвалам чаго могуць быць: *меч, каса*? Папоўні.
*меч* – сімвал мінулай славы, сувязь паміж мінулым а сучасным, ......................................
*каса* – сімвал мірнай працы, ..........................................................................................

5 Чаму нам *немагчыма пайсці адсюль* і трэба застацца ў сваім доме?

а) нельга дапусціць да забыцця пра знішчэнне ўладамі ўласнага народа
б) трэба сцерагчы родны дом перад чужым, раскошным
в) адсюль нас не пускаюць.
Адзнач дрэнны адказ.

6 Якія словы, словазлучэнні трывожаць чытача, чаму?
напр.: забітыя продкі, ..................................., ..................................., ...................................

**Васіль Быкаў** – (1924–2003) самы вядомы, таленавіты беларускі пісьменнік пасляваеннага часу. Яго творчасць ніяк не змяшчалася ў канонах савецкай літаратуры, расславіла беларускае, мастацкае слова па-за межамі краіны. Як адзін з першых асудзіў сталінскую сістэму, часы прымусовай калектывізацыі, якая аказалася трагічным эксперыментам над народам. Змагар за адраджэнне нацыянальнай культуры.

❖ У апавяданні *На чорных лядах* тэма бальшавіцкага таталітарызму спалучаецца з нацыянальным пытаннем. В. Быкаў звяртаецца да нядаўняй гісторыі Беларусі пачатку дваццатага стагоддзя, дакладней да слуцкага паўстання 1920 года супраць бальшавіцкай акупацыі Беларусі, паўстання ў абарону ідэалаў незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Восем чалавек, удзельнікаў разбітага ўжо слуцкага паўстання ўцякаюць ад бальшавікоў. Каб не папасціся ў рукі чырвонаармейцаў – адважваюцца на самагубства. Не падтрымала іх Беларусь, масы асталіся збоку. І на гэты раз паўстанцам не ўдалося. Жыць, па рашэнні камандзіра, астаўся толькі пятнаццацігадовы Валодзька. Трагедыя паўстанцаў – гэта нацыянальная трагедыя беларусаў.

*Васіль Быкаў*

## На чорных лядах
(урыўкі)

[...] Ад самае раніцы яны аслабела валакліся па лесе, кожны стараўся не дужа адстаць ад папярэдняга, а ўсе разам ад камандзіра, які то хістка сягаў наперадзе, то спыняўся сярод хваін, слухаў, азіраўся... Навокал пакуль што было ціха і глуха ў гэтым глухім кутку лесу.

Яны не размаўлялі цяпер, ды і даўно не размаўлялі паміж сабой, бо ўсё было перагаворана, вядома: спрачацца не было пра што. Есці таксама ў іх не было нічога, не было чаго закурыць... Адбівацца ў іх не было чым.

Але добра яшчэ, калі ўсіх пераб'юць. А калі каго возьмуць параненым, непрытомным, павязуць у горад ды пачнуць вызначаць, чый, каму якая радня, хто бацькі, жанкі, дзеці? Тады што? Не, яны даўно ўжо ведалі, што пагібель

– не найгоршае з усяго, што нарыхтаваў ім іх паўстанцкі лёс. Горш, калі яны, гінучы, пацягнуць на пакуты іншых, тых, дзеля каго па сутнасці распачалі ўсё тое. Нават забітымі яны не знойдуць паратунку ад бальшавікоў.

[...] Камандзір, крокі на тры адступіўшы ад ямы, як заўжды, з засяроджана стрыманым выглядам думаў сваю неадчэпную думу пра гэтых людзей. Цяпер ім патрэбна была якая гадзіна спакою, каб не пашкодзілі тыя. Праўда, пакуль было ціха, але ён не меў ніякай гарантыі, што цішыня задоўжыцца і дасць ім магчымасць зрабіць задуманае.

Вядома, усё тое было жахліва, не па-чалавечы і не па-боску, напэўна, але што ім было рабіць? Увесь гэты жах утварыўся не па іхняй волі – д’ябал ці лёс падвялі іх да такога выніку.

Каб толькі давесці ўсё да канца, а там... А там хай жыве Беларусь! Без іх.

[...] Як заўжды, масы асталіся ўбоку. Не падтрымала іх Беларусь. Цяпер вось расплачваюцца. Як заўжды на вайне – галоўная плата кроў, і плаціць той, хто найменш вінаваты. Як яны тут – былы камандзір роты ды гэтыя дзядзькі – шарагоўцы. А яшчэ хлопчык... камандзір колькі ні думаў, ніяк не мог пагадзіцца з пагібеллю Валодзькі. І не ведаў, што можна прыдумаць, як схітрыць, каб неяк зберагчы ягонае жыццё.

[...] – Ды як будзем? Па адным ці ўсе разам?

– Па адным, – ціха мовіў камандзір – з нагана.

– У яме?

– У яме. Каб меней грукату.

Мабыць, усе ўсё зразумелі і сціхлі, нават не дыхалі. Камандзір абвёў усіх чужым напружаным позіркам і адчуў, што трэба нешта сказаць на развітанне. Ці на суцяшэнне. Калі ў іхнім становішчы яшчэ існавала якое суцяшэнне. І ён сказаў:

– Што ж, спадары... Нам не ўдалося, можа, удасца іншым. Яны нас успомняць. Усё ж мы не за сябе, не за сваё, якога ў нас не было. Мы – за Беларусь. Нашу няшчасную старонку. Прымі, Божа, твае ахвяры...

[...] Калі, як заўжды, боязна вычакаўшы стрэлу, яны азірнуліся, дык Казак адчуў, што настала яго чарга. Без напамінку або загаду ён разам са стрэльбай лёгка шаснуў у яму, дзе праз кароткі час лопнуў рэвальверны стрэл. На край ямы ступіў амаль змярцвелы Валодзька.

– Сулашчык! – гукнуў да яго камандзір. – Пастой...

Валодзька спыніўся, ледзьве ўтрымаўшыся на беражку ямы. Ён нават не зірнуў туды, штосьці новае адчуўшы ў голасе камандзіра.

– Табе, Сулашчык, заданне: закапаць, зараўнаць. Каб следу не асталася. І – жыві!

– Я!

– Ты, а хто ж. Жыві. За нас. За бацьку. Дай я цябе абдыму.

[...] Пасля ён (Валодзька) закопваў яму-магілу і плакаў. Ужо можна было не стрымліваць слёз, саромецца тут не было каго. У яму ён не зірнуў ні разу, ён гроб і гроб рыдлёўкаю рыхлы жвір з берагоў і думаў, што знатная будзе

магіла, сухая, калі б такая дасталася бацьку. Крыўдна было да слёз, але бацьку ён закапаў на прырэчнай балацявіне, у тарфяніку. Выкапаць глыбока там не было як, падступала балотная вада ды й часу надарылася якая гадзіна. Такі вось лёс чалавека, якога Валодзька любіў усё жыццё. Жыць з якім усё жыццё марыў. Ды жыць не давялося. Здаецца, болей за ўсіх бацька любіў Беларусь, і за гэтую сваю любоў дзевяць год прагібеў на нарымскай катарзе, нажыў там сухоты. За той час бязбацькавічам падрос у Клецку Валодзька. Доўгія гады марыў, як дачакаецца і сустрэне з катаргі свайго сацыяліста-бацьку, як яны затым заўсёды будуць разам. І праўда, дачакаўся. Ды разам давялося пабыць нямнога, бацьку зноў паклікала Беларусь. Ідучы на фармаванне палка, той нізашто не схацеў браць з сабой пятнаццацігадовага сына, казаў: рана, хай чакае яго з перамогай пад бела-чырвона-белым штандарам.

[...] Мабыць, ужо адвячоркам з рыдлёўкай у руцэ ён і пабрыў па лесе. За ім, пералятаючы з дрэва на дрэва, сакатала і сакатала, бы гналася зграя сарок, і ён не ведаў, як ад іх адкараскацца.

Ён ішоў і ішоў, сам не ведаючы, куды, – абы прэч з гэтых жудасных чорных лядаў...

• ляда –дзялянка высечанага лесу, хмызняку

1 Чаму паўстанцы рашыліся на самазабойства? Звярні ўвагу на пачатковыя абзацы.

2 Што больш за ўсё трывожыла камандзіра перад самазабойствам?

3 Чаму, паводле слоў камандзіра, слуцкае паўстанне было разбіта? У чым ён бачыць народную трагедыю беларусаў?

4 Ці збыліся надзеі слуцкіх паўстанцаў? Ці Беларусь ушаноўвае іх памяць?

*Аляксей Дудараў*

## Вечар

Драма ў дзвюх дзеях
(урывак)

Дзейныя асобы:
М у л ь ц і к, 80 год.
Г а н н а, 76 год.
Г а с т р ы т, 78 год. Нашы дні. Усходняя Беларусь.

## Дзея першая

Вуліца сучаснай неперспектыўнай вёскі. Хата, яе фасад. Пад вокнамі лавачка. Злева, каля плота, стары рыпучы журавель. На адным яго канцы ледзь пагойдваецца абшарпанае, драўлянае вядро, на другім – груз. [...]

Толькі-толькі пачынаецца дзень. Шэрая раніца. Сонца яшчэ спіць. Недзе далёка самотная зязюля лічыць некаму гады. Нястройны і яшчэ нясмелы птушыны хор і смелы ўрачысты покліч «ку-ка-рэ-ку-у-у-у» абвяшчаюць усёй вёсцы, што надышоў новы дзень. Павольна-павольна з-за вугла сваёй хаты выходзіць М у л ь ц і к з вядром. Высокі, худы, нетаропкі ні ў руках, ні ў словах, ні ў думках. Павесіў на калок вядро, пачаў адчыняць варотцы з вуліцы на двор сваёй хаты.

М у л ь ц і к (*пазіраючы на сад*). Уставай, уставай ужо... І сёння трэба жыць. З табой, з зямлёю і з людзьмі... Людзі добрыя ўсе, мо толькі забыліся пра гэта... Бягуць, едуць, ляцяць... Ці то ўцякаем ад некага, ці то даганяем – ліха нас ведае, якая нам галавешка ў штаны трапіла... (*Падыходзіць да калодзежа, пачынае даставаць ваду*.) Як у чыгунку жывём! Як быццам нас на агонь паставілі... Аж бурбалкі, аж пара прэ... Немаведама хто толькі гэту поліўку сёрбаць будзе, калі яна ўрэшце зварыцца... (*Дастаў вядро, пераліў у сваё, аднёс у бок ад калодзежа, выліў на зямлю*.) Гэта на тваю хату, Сёмка... (*Вяртаецца, зноў пачынае даставаць ваду*.) Як паспакайнець? Няма спакою, і дабрыні не знойдзеш... Дабрыня ціхая... (*Дастаў вядро, пераліў, аднёс, выліў*.) А гэта на тваю хату, Іван... (*Вяртаецца, зноў дастае ваду*.) Думаеш, глупствам займаюся? Няма каму ваду з калодзежа браць... Раз’ехаліся ўсе... А калодзеж жывы павінен быць... З яго чэрпаць трэба, каб вада ў зямлю не пайшла, каб не застаялася, каб свежай была... Во я і выбіраю яе штодня... За былых сваіх суседзяў, за дзяцей іх і за свайго сына... (*Аднёс вядро, выліў*.) На тваю хату, Пятрок... Ах, дзеткі, дзеткі... Такія вы ў нас грамацеі выраслі! Яны табе і пра космас адбарабаняць, і Бога на лапаткі пакладуць, і, калі захочуць, дакажуць, што Іуда некалі добрую справу зрабіў... Усё могуць. Толькі сваіх дзяцей не хочуць на свет пускаць... Ці то баяцца, ці то лянуюцца, ці то хочуць, каб ніхто жыць не замінаў... Дык ты сам жывеш, дык і другому дай... Ненароджаныя дзеткі – гэта ж усё адно як памершыя... Слухаеш? Ну, слухай, слухай... Холадна, мабыць, там і цёмна... Дзе там? У космасе, канечна... Дзе ж яшчэ? Я во падумаю-падумаю, а што, калі б мае бацька-маці ўзялі дый не нарадзілі мяне?! Га? Ды я б ім гэтага ніколі не дараваў! Салодкага, праўда, мала з’еў: тры вайны адпляскаў, шабляй махноўцы секлі, кулакі ў трыццаць другім цвікамі на кладзішчы да крыжа прымалацілі, на фінскай ногі адмарозіў, у партызанах немцы расстрэльвалі, потым ваяваў – два разы параніла, тры разы кантузіла. І гэта яшчэ не ўсё! Двух дзетак за вайну пахаваў, і нішчымніца пасляваенная была, і хату пярун паліў, і карова здыхала, і жонка памерла, і сын апошні гадоў пяць пісем не піша... Толькі паўспамінаць, дык язык забаліць, расказваючы... Слухаеш? Слухай, слухай... І прачынайся... Пеўні ўжо ахрыплі, цябе гукаючы...

Разам з Сонцам прачнулася і радыё. Са старэнькага дынаміка, што стаіць на падаконніку, паліліся пазыўныя, а затым бадзёра-радасны голас дыктара.

Г о л а с  д ы к т а р а. Добрай раніцы, таварышы!

М у л ь ц і к. Здароў...

Г о л а с  д ы к т а р а. Сёння аўторак, трыццаць першага ліпеня!

М у л ь ц і к. Што ты кажаш! А я думаў – трыццаць другога...

Да калодзежа падыходзіць Г а н н а. Такая ж, як і Мульцік, старэнькая, белая. І яна нікуды не спяшаецца. Спынілася, паслухала.

Г а н н а. Чаго й та ты, Васіль?

М у л ь ц і к. Што?

Г а н н а. Бубніш нешта сам сабе... Маліўся, ці што?

М у л ь ц і к. Размаўляў... з Сонцам размаўляў...

Г а н н а. Ашалеў пад старасць... З Богам, з Богам трэба размаўляць, а ты немаведама з кім...

М у л ь ц і к. Немаведама... Вунь свеціць... І грэе ўсіх... Усё на зямлі ад цяпла і святла... Калі душа ў чалавека цёплая і светлая, значыць, кавалак сонца па зямлі ходзіць... Ёсць такія людзі, ёсць... [...]

Г а н н а. Вады з твайго калодзежа вазьму...

М у л ь ц і к. Бяры... (*Уважліва глядзіць некуды ўдалячынь, падымаецца, выходзіць уперад*.)

Г а н н а. Што там?

М у л ь ц і к. Ідзе нехта...

І Ганна падыходзіць. Глядзяць удваіх.

Павярнуў... У Займішча, мабыць...

Ганна падыходзіць да калодзежа, марудна апускае драўлянае вядро. Тужліва рыпіць журавель, звіняць жалезкі.

Г а н н а. Грышка твой усё не піша?

М у л ь ц і к. З'ехаў пасля арміі і як у балота праваліўся... Саўсім забыўся, што ў яго бацька ёсць.

Г а н н а. Была б Наста жывая, дык пісаў бы і прыязджаў.

М у л ь ц і к. Бацьку дзеці лягчэй забываюць... Твая праўда...

Г а н н а. Сон я сёння бачыла... Можа, разгадаеш?

М у л ь ц і к. Знайшла цыганку...

Г а н н а. Дык ты ж Сонцу молішся!

М у л ь ц і к. Расказвай, разгадаю...

Г а н н а. Іваньку бачыла... Старэйшага свайго... Здаецца, роўненькае поле жытнёвае, неба над ім чыстае-чыстае! І жаўрукі ў ім вісяць. І як быццам Іванька мой ідзе гэтым полем, раз-пораз жменю зерня дастае з кішэні і сыпле сабе пад ногі. Я стаю на ўзмежку дый думаю: «Навошта ён зерне кідае ў зям-

лю? Жыта ж ужо вырасла, у каласы пайшло, а ён нанава сеяць надумаўся...» Спытаць хацела, а голасу няма. Ён і прайшоў. Я і не спытала... [...]

М у л ь ц і к. Я табе кажу – добры сон... Чакай.

Г а н н а. Што чакаць?

М у л ь ц і к. Радасці, дзіва нейкага...

Г а н н а. Ну, дзякуй табе... Маліся далей, пайду казу пасвіць... У Займішча буду заходзіць, мо ўзяць што?

М у л ь ц і к. Хлеба купі... І пенсію сёння павінны даць.

Г а н н а. Ага...

Разышліся. Мульцік панёс вядро з вадой дахаты. З другога боку вуліцы выходзіць Г а с т р ы т. Маленькі, жвавы і нейкі калючы дзядок. Усё ў яго вострае: і барада, і плечы, і локці, і калені, і нос. Прыйшоў па ваду з чайнікам. Дастаў, наліў у чайнік, выпіў з носіка. Пастаяў, уздыхнуў, прысеў на лавачку.

Г а с т р ы т (*кліча*). Васіль!

За плотам з'явіўся М у л ь ц і к.

М у л ь ц і к. Га?

Г а с т р ы т. Калі паміраць думаеш?

М у л ь ц і к (*без паўзы*). У сераду...

Г а с т р ы т (*збянтэжыўся*). У гэту, ці што?

М у л ь ц і к. У якую, ліха яе ведае, а што ў сераду – гэта як піць даць. Самы зручны дзень. Памру, значыць, зранку... Не, не! Пасля абеду. Памыюць вадой вось з гэтага калодзежа... [...]

Г а с т р ы т. Брэшаш!

М у л ь ц і к. А ты не гаўкай тады! Прыпёрся, ёлкі-маталкі, да старога чалавека і пра смерць бае. Знайшоў пра што... А я, можа, на ўсю сотню замахнуўся як даўгажыцель гор...

Г а с т р ы т. Нашто табе столькі свет капціць?

М у л ь ц і к. Унукаў дачакацца трэба... Каб ведаць, што маё насенне корані пусціла ў гэтым свеце.

Г а с т р ы т (*усміхнуўся*). Дык а яны, можа, ужо ёсць, а ты і не ведаеш. Унукі... Корані... Піша каму-небудзь твой Грышка?

М у л ь ц і к (*ніякавата*). Піша... Мне піша... Во нядаўна...

Г а с т р ы т. Брэшаш... Мае не пішуць, і твой павінен не пісаць...

М у л ь ц і к. Піша!

Г а с т р ы т (*спакойна*). Брэшаш...

М у л ь ц і к (*зірнуў на дарогу*). Пачакай, пачакай... Едзе нехта! У вёску едзе!

Выбеглі ўперад, глядзяць. Чакаюць. Уздыхнулі.

Г а с т р ы т. Павярнулі... Па грыбы прыкацілі... А ты ўжо ўзрадаваўся! Не

прыедуць... (*Засмяяўся.*) Дальбог, мы з табой, як крумкачы ці чарапахі, гадоў сто трыццаць пражывём! Яны ж і на хаўтуры не прыедуць! Сорамна будзе ў труне ляжаць... [...] (*Папрасіў.*) Васіль, растлумач ты мне... Хоць забі – не разумею...

М у л ь ц і к. Што растлумачыць?

Г а с т р ы т. Ты проста прыдурак ці толькі прыкідваешся? Сонцу, як людаед, моліцца [...]. Здзяцініўся пад старасць! Нездарма цябе Мульцікам клічуць.

М у л ь ц і к. Ідзі ты, Мікіта, адсюль...

Г а с т р ы т. Не пайду.

М у л ь ц і к. Не трывож майго сэрца!

Г а с т р ы т. Не пайду! Вуліца не твая.

М у л ь ц і к. Тады злазь з лаўкі, падла! Лаўка мая, сам рабіў...

Гастрыт устаў з лаўкі, сеў побач на траву.

Г а с т р ы т. Падавіся сваёй лаўкай. Куркуль!

Мульцік маўчыць.

Мiраед!

Мульцік маўчыць

Перажытак кулацкі!

М у л ь ц і к. Сталоўка ўжо адчынілася, Мікіта... Ідзі гуляш калгасны ў Займішча есці... Вадзіцы з майго калодзежа напіся і ідзі.

Г а с т р ы т. І пайду. А ты бульбай нішчымнай давіся!

М у л ь ц і к. Яешню з салам сёння буду есці... Яйкі свае, і сала сваё... Сам сябе ўсё жыццё карміў, кармлю і да смерці карміць буду...

Г а с т р ы т. Брэшаш! Грошай шкада, во і цягнеш з сябе жылы... А нашто яны табе? Богу ўзятку даваць уздумаў?

М у л ь ц і к. Грошай не шкада. Не хачу нават пад старасць як той клоп жыць... Хадзіць па зямлі і ў сталоўцы абедаць... Гэта ж сорам!

Г а с т р ы т. Гэта не сорам! Гэта абшчэственная пітанія! І потым я заслужыў... У мяне пенсія!

М у л ь ц і к. Пенсія хутка ва ўсіх будзе... Хто толькі нас гуляшамі карміць будзе?..

Г а с т р ы т. Ведаеш, хто ты?

М у л ь ц і к (*махнуў рукой*). Ведаю, ведаю... Элемент.

Г а с т р ы т. І не наш!

М у л ь ц і к. Шкада, што ты наш... Бяда народная...

Г а с т р ы т. Я калі-небудзь на цябе ананімку напішу. Пабачыш.

Злосны, пайшоў. Чайнік з калодзежнай вадой застаўся каля лаўкі.

М у л ь ц і к (*адзін*). Ты не крыўдуй на яго... Душа ў чалавека баліць. На зямлі нарадзіўся, вырас, а рук да гэтай зямліцы ніводнага разу не прыклаў... А зямлі ласку, любоў сваю аддаць трэба... Тады яна і накорміць, і сагрэе, і суцешыць, і сілы дасць пад старасць... Яна жывая... Дачка твая, наша маці... [...]

З'яўляецца Г а н н а. З сумкай хлеба, стомленая і вясёлая.

Г а н н а. Канчай маліцца – будзем весяліцца... [...] Пісьмо табе прынесла...

М у л ь ц і к (*захваляваўся, але наўмысна спакойна*). Ад каго?

Г а н н а. Ну, ад каго ты думаеш?

М у л ь ц і к (*рашуча*). Давай!

Г а н н а. Не-не-не! Табе радасць, дык ты ўжо і мяне парадуй... Згоцай «Лявоніху» з прыпеўкамі... Як да вайны на маёўцы. [...]

Мульцік сагнуўся, каб пусціцца ўпрысядкі, і знерухомеў.

М у л ьц і к (*схапіўся за спіну*). Ой!

Г а н н а. Чаго й та ты?

М у л ь ц і к (*стаіць, сагнуўшыся, як пытальнік*). Порхаўка старая! Прысядкі ёй трэба! З маім здароўем – «Лявоніху»! Хадзі во, разгінай мяне, каб табе не ведаю што... У мяне ж сярэдзіна!

Г а н н а. А, Госпадзі! (*Падбегла.*) Што ж рабіць? [...]

М у л ь ц і к (*сярдзіта*). Галавой думаць трэба... Самадзейнасці ёй захацелася...

Ганна падвяла Мульціка да лаўкі, асцярожна-асцярожна паклала яго на яе. Мульцік паволі выпрамляецца.

Давай пісьмо.

Г а н н а (*дастае з-пад кофты*). На, на...

Мульцік, лежучы, разрывае канверт, нецярпліва выцягвае белы лісток.

М у л ь ц і к. У цябе акуляры з сабой? [...]

Г а н н а. Зараз, зараз... (*Дастае з сумкі.*) На... (*Устрывожана.*) Ну?! Што там у яго?

М у л ь ц і к. Маё гэта пісьмо, Ганна, маё... Пасылаў з месяц таму... Вярнулася... Зноў Грышка выбыў некуды... Во табе і «Лявоніха ня жонка была...»

Паўза. Старая павольна падыходзіць да лаўкі, сядае побач.

Г а н н а. Не сярдуй, Васіль...

М у л ь ц і к. Кінь ты...

Г а н н а. Табе хоць ёсць ад каго чакаць...

М у л ь ц і к. Дачакаешся...

Г а н н а. А я б, здаецца, з раніцы да ночы скакала, каб толькі ведаць, што мой Віцёк няўдачны калі-небудзь успомніць пра мяне... Хай ужо і пісьма не напішаць... Абы толькі ўспомніў... Не сярдуй... (*Дастае з сумкі хлеб.*) Булкі табе хопіць?

М у л ь ц і к. Хопіць...

Г а н н а. А то дзве магу пакінуць...

М у л ьц і к. Хопіць адной...

Г а н н а. Ну, пайду...

Пайшла. Стары зноў разгарнуў пісьмо. Пакруціў у руках, паглядзеў і горка-горка засмяяўся. Падыходзіць Гастрыт.

[...]

Г а с т р ы т. Атрымаў, я бачу?

М у л ь ц і к. Ну, атрымаў, а табе што? [...]

Г а с т р ы т. Грошай, канечне, просіць. Прапіўся да ніткі, во і бацьку ўспомніў.

М у л ь ц і к (*стомлена і не злосна*). Каб ты здох! Ну, што ты за чалавек? Гастрыт, адно слова – Гастрыт... Чаго ты на ўвесь свет злуеш? Дзяцей разагнаў, яны да цябе ні нагой, вось і злуеш...

Г а с т р ы т. Я – дрэнны. Я разагнаў. А ты добры. І да цябе не едуць...

М у л ь ц і к. Гваздану я цябе калі-небудзь... [...]

Г а с т р ы т. Я па свой чайнік прыйшоў... Забыўся тут... Дзе падзеў?

М у л ьц і к. Вунь стаіць!

Гастрыт падышоў, узяў чайнік, выліў з яго ваду...

Г а с т р ы т. Вады свежай можна ўзяць?

М у л ь ц і к. Бяры...

Гастрыт пачынае даставаць ваду.

Г а с т р ы т. Што гэта ў свеце робіцца, Васіль?

М у л ь ц і к. Не ведаю.

Г а с т р ы т. Чым далей – тым людзі паганей робяцца... [...] Мы ім шчасце паўвека заваёўвалі... Заваявалі... Сытыя ўсе, абутыя-адзетыя... І недавольныя! Якой ім яшчэ трасцы трэба?

М у л ь ц і к. Шчасце з чужых рук заўсёды кіслае... Шчасце самому сабе рабіць трэба... Абутыя-адзетыя... І ўпрогаладзь жывучы радасныя песні спяваць можна... Галодных у нас даўно няма... Не ў сытасці шчасце...

Г а с т р ы т. А ў чым жа яно? Растлумач мне, цёмнаму, святы чалавек.

М у л ь ц і к. У працы... У радаснай працы... А вы адбілі ахвоту ў людзей радасна працаваць на зямлі...

Г а с т р ы т. Хто гэта мы?

М у л ь ц і к. Ты і такія ж асталопы, як ты... [...]

Г а с т р ы т. Што ты мне вешаеш? [...]

М у л ь ц і к. Ты ж некалі ўсіх добрых гаспадароў з вёскі павыганяў... Тых, хто любіў зямлю... Любіў і слухаў...

Г а с т р ы т. Я супраць кулакоў...

М у л ь ц і к. Колькі іх было на ўсю нашу вёску? Два.

Г а с т р ы т. Брэшаш, болей...

М у л ь ц і к. Два. Зяпа і Мішук Цяркоўскі... Ад іх усе Вежкі плакалі... А каго Васіль Барабулінак эксплуаціраваў? У яго ж парабкаў не было, ён са свайго мазаля жыў...

Г а с т р ы т. Ён народную зямлю эксплуаціраваў...

М у л ь ц і к. Зямля з радасцю аддае ўсё таму, хто да яе рукі прыкладае... Ты проста не хацеў працаваць, як усе, а хацеў наглядчыкам над людзьмі быць... Лёгка, няпыльна і ў пачоце! Вось і муціў ваду, пускаў усім пыл у вочы... Сазнацельным прыкідваўся!

Г а с т р ы т. Я лінію праводзіў...

М у л ь ц і к. Толькі крывую і сваю. У Вежках ты моладзь ад зямлі адбіў. Ты... Колькі гадоў сачыў за тым, каб, значыць, ніхто лішнюю бульбіну ці мех зерня ад зямлі не ўзяў... А чаму ж не браць, калі яна дае? Бегаў па гародах, каб хто лішнюю баразну не прагнаў. Хай пустуе, бур'янам зарастае... Не маглі!! З усіх сіл адбіваў ахвоту ў людзей працаваць. Крычаў да хрыпаты, што пазорна мець скаціну ў хляве, хлеба, бульбы шмат збіраць з агарода... Вось калі гол як сакол – значыць, сазнацельны! Калі ў хляве пуста – маладзец! А калі ў цябе каля хаты заместа крапівы жыта калосіцца – буржуй! міраед! кулак! Пуста ў хляве – пуста і ў душы будзе. І хто ты такі быў! Ні начальнік, ні падначальнік, а так... Прышчык «сазнацельны»... Мы б з голаду ўсёй краінай здохлі, каб, не дай Бог, сталі ўсе такія «сазнацельныя», як ты... І тое, што мой Грышка, Ганнін Віцёк і твае дзеці па свеце бадзяюцца, шукаюць немаведама чаго – ты вінаваты! Яны ж на зямлі выраслі, яна ж іх маці, яны ж павінны былі заместа нас на яе прыйсці, каб хлебам людзей карміць... Не пайшлі... Таму што ведалі: такія гастрыты, як ты, не дадуць ім ні спакою, ні волі... [...]

Г а с т р ы т. Васіль! Я цябе па-суседскі папярэджваю: кінь гэту філасофію, не смушчай людзей. Ты ведаеш, супраць чаго выступаеш?

М у л ь ц і к. Супраць дурноты!

Г а с т р ы т. Васіль, я чэсны! Я магу ананімку напісаць...

М у л ьц і к. Пішы...

Г а с т р ы т. Выклічуць... куды трэба за такія закідоны.

М у л ь ц і к. Не пужай. Скончыўся твой час... Гэта цябе самога трэба было выклікаць з самага пачатку. [...]

❖ Аляксей Дудараў зяўляецца адным з самых вядомых сучасных драматургаў, ад якога распачалося адраджэнне беларускага тэатральнага мастацтва. Яго п'есы *Парог* і *Злом* ставіліся ў польскіх тэатрах.

У аснове п'есы *Вечар* – лёс траіх людзей, што дажываюць свой век у вёсцы. Розныя яны па сваіх характарах, кожны з герояў увасабляе пэўную філасофію жыцця. Васіль-Мульцік – натура багатая, у ім тоіцца глыбокі, мудры змест бытавання на зямлі: *свет добры... мы яшчэ дрэнныя*. Гарманічна дапаўняе яго Ганна – жанчына чулая, мудрая. Зусім іншая натура ў Мікіты-Гастрыта. Нават, калі надышоў вечар жыцця, у душы яго пануе няшчырасць і недавер. Ён жыве паводле фальшывых савецкіх прынцыпаў, але пачынае разумець, што ўсё жыццё *напалову жыў*. Фінальная сцэна драмы хвалюе: старыя, ужо без Гастрыта (памірае) чакаюць, прыслухоўваюцца, што нехта ідзе да вёскі.

1 Героі ў драматычным творы маюць сваю адметнасць, ім трэба саміх сябе характарызаваць сваімі дзеяннямі, дыялогамі і маналогамі. У некалькіх сказах прадстаў кожнага з герояў п'есы:
а) Ганну,
б) Васіля-Мульціка,
в) Мікіту-Гастрыта.
Хто з іх выклікае ў чытача спачуванне ці абурэнне, захапленне ці гнеў?

2 Паразважай над мянушкамі галоўных герояў. Якая з іх больш ласкавая, асацыюецца, напр. з *мультфільмам*, якая пякучая, як *хвароба страўніка*. Чаму не мае мянушкі Ганна?

3 У драме «Вечар» закранаюцца галоўныя пытанні чалавечага існавання. Якія?

4 Вобраз (топас) зямлі, характэрны для беларускай літаратуры XIX-XX стагоддзяў адзначыўся і ў творы А. Дударава. Чым зямля была для Мульціка, чым захапляла?

5 Розныя каштоўнасці існуюць для Мульціка і для Гастрыта. Якія яны?

6 За што можна любіць Васіля-Мульціка? У чым праяўляецца паэтычнасць яго душы? Звярні ўвагу на яго стаўленне да зямлі, трактоўку сонца, разуменне шчасця.

7 Чаму А. Дудараў назваў свой твор «Вечар»? Раскрый сэнс загалоўка.



Праца Лявона Тарасэвіча, 2006

*Руслан Баёк*

## Беларуская музычная альтэрнатыва

*– Гэтае аб'яднанне вядомае перш за ўсё сваімі шматлікімі музычнымі акцыямі пад агульным назовам «Вольныя танцы». Існуючы ў межах Таварыства беларускай мовы з 1996 года, Беларуская музычная альтэрнатыва арганізавала і правяла больш за дваццаць канцэртаў з удзелам беларускіх рок-зорак першай велічыні. Выдатным вынікам дзейнасці БМА апошняга часу стаўся CD «Вольныя танцы: слухай сваё!», дзе сабраны творы самых розных беларускіх гуртоў, пачынаючы ад легендарных «Крамы», «Уліса» ці «Новага неба» і заканчваючы яшчэ як след не раскручанымі «Млынам» або «Склепам».*

*CD «Вольныя танцы: слухай сваё!» надзвычай адметны сваёй сты-*

*лістыкай: поп-грандж, электроніка, jazz folk, rock – слухач тут знойдзе, бадай, усе напрамкі, у якіх развіваецца сучасная беларуская рок-музыка.*

*Сёння госць нашага «Калізея» – адзін з арганізатараў «Вольных танцаў» Віталь Супрановіч.*

*Віталь, як атрымалася, што ты вырашыў заняцца канцэртнай дзейнасцю?*

– Пачалося ўсё з таго, што мы з Сяргеем Сахаравым надумалі стварыць архіў беларускай музыкі. Да гэтага мы асвятлялі розныя музычныя падзеі на старонках газеты «Раніца». А потым ужо вырашылі заняцца ўсім гэтым больш сур'ёзна і перайшлі да арганізацыі канцэртаў.

*– Цяпер, калі на рахунку БМА, а значыць, і на тваім рахунку, ужо больш за дванаццаць музычных акцый, ты, як ніхто іншы, можаш судзіць аб папулярнасці гэтых праектаў.*

– Скажу толькі факт: калі фэст па тых ці іншых прычынах адкладваецца, на нас адразу ж абрынаецца цэлы град тэлефанаванняў фанаў. Гэта, на мой погляд, якраз і ёсць сведчанне папулярнасці праектаў Беларускай музычнай альтэрнатывы... Наогул жа я заўважыў, што беларуская рок-музыка паступова становіцца надзвычай уплывовай і перспектыўнай сферай – ва ўсіх сэнсах.

*– Чым, апроч арганізацыі канцэртаў, займаецца БМА?*

– Дзякуючы нашым намаганням у кожным абласным цэнтры можна замовіць запіс таго ці іншага беларускага гурта ці выканаўцы. Між іншым кампакт-дыск «Вольныя танцы: слухай сваё!» – першы беларускамоўны кампакт, выдадзены без дапамогі спонсараў і выраблены на заводзе (ў Ізраілі). Гэтым дыскам нам удалося давесці, што беларуская музыка – гэта не дзесятак раскіданых выканаўцаў, а сапраўдная вялікая сям'я, якая з'яўляецца аб'ектам павагі дзесяткаў тысячаў маладых людзей... У працяг жа адказу на тваё пытанне скажу, што яшчэ мы займаемся вырабам календароў, значкоў, плакатаў, маек і іншай атрыбутыкі.

*– Ці ёсць у тваёй дзейнасці нейкія больш-менш акрэсленыя прыярытэты што тычыцца пэўных стыляў або гуртоў?*

– Мой прыярытэт вызначаецца проста: СЛУХАЙ СВАЁ. А таму мне падабаецца ўсё – ад Алеся Камоцкага да «Зьніча».

*– І ўсё-такі па якіх дадзеных вы адбіраеце ўдзельнікаў? Напрыклад, удзельнікаў тых жа «Вольных панцаў».*

– У першую чаргу гэта – беларускамоўнасць. Далей ужо глядзім на дынаміку твораў і павагу публікі. Дарэчы, некаторыя англа- і рускамоўныя гурты наўмысна перакладаюць свае тэксты на беларускую, каб прыняць удзел у нашых канцэртах.

*– А ці здолеў хто-небудзь з удзельнікаў «Вольных танцаў» засвяціцца за мяжой?*

– Так. І не проста засвяціцца. Мы разаслалі кампакт па розных (не толькі беларускіх) рэдакцыях і радыёстанцыях, і вынікі не прымусілі сябе доўга чакаць. Напрыклад, гурт «Палац» са сваёй кампазіцыяй «Ночы» ўвайшоў у зборнік расійскай музыкі.

• музыка, канцэрт
музыка: камерная, лёгкая, народная, сімфанічная, танцавальная
хачу пачуць эстрадную музыку
я люблю класічную музыку
мне больш падабаецца джаз
інструмент: акардэон, гітара, піяніна, скрыпка, фартэпіяна, барабан
праграма канцэрта багатая
выступае хор, ансамбль песні і танца, эстрадная група, спявак, салістка
я ў захапленні, уражаны дасканалым спевам

1 Уважліва прачытай уступ да інтэрв'ю і назаві беларускія гурты, пачынаючы ад легендарных.

2 Адшукай у тэксце інфармацыі на пастаўленае рэдактарам пытанне: *«Чым займаецца БМА»*? Адкажы ў 3-4 сказах.

3 Якімі прыярытэтамі кіруюцца людзі з БМА, напрыклад пры адборы ўдзельнікаў? Адкажы ў 3-4 сказах.

*Галіна Багданава*

## Яна ў прадчуванні палёту



*«Партрэт дачкі». Міхал Станюта*

Здараецца, чалавек усё жыццё набліжаецца да сваёй, прыродай і Богам закладзенай сутнасці. Мастаку дадзены дар першым яе заўважыць і ўвасобіць, прадказаць чалавеку не толькі дзень сённяшні, але і будучыню.

Многія людзі з гадамі ўсё болей і болей робяцца падобнымі да напісаных шмат гадоў таму партрэтаў. На твары з'яўляюцца зморшчынкі, і сіла, здавалася б, не тая.

Але погляд, унутранае свячэнне, святло, якое нясуць яны па жыцці, святло, якое калісьці мастак пераўтварыў у фарбы, застаецца тым жа.

Цікавілася я ў Стафаніі Міхайлаўны (народнай артысткі Беларусі – Стафаніі Станюты) пра тое, як быў напісаны партрэт, які цяпер зберагаецца ў Нацыянальнай мастацкай галерэі.

У 1923 годзе, калі яе бацька, ужо на той час вядомы мастак Міхась Станюта вырашыў напісаць гэты твор, Стафанія вучылася ў Маскве, была зачараваная тэатрам і танцамі [...].

Летам яна прыехала з Масквы ў Мінск на канікулы. І вось жа аднойчы проста так зайшла да бацькі ў майстэрню.

Нечым у той дзень яна ўразіла яго. Ці то поўным задуменнай музыкі поглядам, ці то лёгкімі, пластычнымі рухамі, а можа...

Можа, ён быў зачараваны ўсё тым жа ясным унутраным святлом, якое гэтая незвычайная жанчына здолела захаваць у сабе да глыбокай старасці.

Так ці іначай Міхась Станюта пачаў пісаць сваю дачку... На яркім, квяцістым фоне дзяўчына з цудоўнымі, доўгімі, густымі косамі, у простай, падобнай на туніку, сукенцы, успрымаецца як скульптура. Мастак, і праўда, здаецца, не пісаў, а вылепіў яе фарбамі, якія жывуць, пульсуюць на партрэце.

У свой час М. Станюта (1881–1974) быў захоплены дэкадансам. Вострае, а можа, у нечым і містычнае ўспрыманне натуры адчуваецца і ў «Партрэце дачкі».

Варта згадаць пра тое, што якраз у гэты паслярэвалюцыйны час амаль усе беларускія мастакі, у тым ліку і Міхась Станюта, услаўляюць у сваіх творах новага гаспадара жыцця – рабочы клас. Менавіта пралетарый, чалавек, які не заўсёды меў багаты ўнутраны свет, але затое дакладна выконваў сваю пэўную, вызначаную грамадствам функцыю, быў галоўным героем тагачасных мастацкіх выставак.

Як успамінала С. Станюта, больш за ўсё на свеце, яе бацька любіў блукаць з эцюднікам па наваколлі Мінска. Калі ён спыняўся, ставіў эцюднік і пачынаў маляваць, забываў пра ўсё, і яна, яшчэ дзяўчынкай, навучылася яму не перашкаджаць. Яна гуляла дзе-небудзь збоку і толькі ўбірала ў сябе сонечнае святло, мелодыі птушыных спеваў, ззянне жывой прыроды. Можа быць, менавіта яго, гэтае ззянне, раптам і заўважыў бацька ў сваёй васемнаццацігадовай дачцы ў той дзень, калі захацеў яе намаляваць?

Сярод гарадскога шуму, сярод безаблічнага, стомленага манатоннай працай натоўпу ляцела па вуліцы, ляцела над вуліцай лёгкая, імклівая дзяўчына Мара... Мара пра тое, што прыйдзе час і народзяцца новыя людзі, што будуць думаць не толькі пра вынікі... а пра нешта высокае, светлае, вечнае...

Тады, у тыя нялёгкія гады, на пачатку XX стагоддзя, стагоддзя вялікіх трагедый і вялікай роспачы, яна, юная актрыса, мела смеласць быць натхнёнай, быць вольнай – як птушка.

[...] Яе шмат малявалі. Але ніхто не здолеў увасобіць яе Таямніцу так, як гэта зрабіў яе бацька. Бо яе Таямніца – гэта і яго Таямніца. Гэта Таямніца творчасці, адухоўленасці, якая і ёсць эліксір вечнай маладосці.

Кажуць, мастакі і рэжысёры, калі выбіраюць сваіх герояў, часта ўвасабляюць тых, на каго могуць стаць падобнымі ў сталыя гады.

- мастак – тут жывапісец
- сутнасць – унутраны змест, аснова, галоўнае ў чым-небудзь
- эцюд – твор выкананы з натуры, які з’яўляецца першапачатковым накідам будучага палатна, маляванне фарбамі для практыкавання

1 Дзе зберагаецца партрэт народнай артысткі Беларусі – Стафаніі Станюты, напісаны яе бацькам і прызнаны шэдэўрам жывапісца? Якую назву ён атрымаў?

2 У які перыяд быў створаны *Партрэт дачкі*? Адзнач дабрыя адказы:
а) у часы савецкай улады
б) у дарэвалюцыйны час
в) на пачатку дваццатага стагоддзя

3 Хто, які слой грамадства, стаў галоўным героем тагачасных мастацкіх выставак і чаму?

4 Чым ачаравала мастака постаць дачкі, што зусім нечакана пачаў яе пісаць? У якім яна была ўзросце?

5 Апрача партрэтаў М. Станюта ствараў пейзажы, графічныя працы. У чым знаходзіў інспірацыю, што натхняла мастака да працы? Звярні ўвагу на ўспаміны дачкі.

6 Ці згодны ты з выказваннем Г. Багданавай (у адным з перадапошніх абзацаў тэксту), што перыяд творчасці бацькі і дачкі выпаў на *нялёгкія часы*, асабліва для таленавітай, нацыянальнай інтэлігенцыі? Абмяркуй свой адказ.

7 Складзі кароткую (5-6 сказаў) нататку пра беларускага савецкага мастака і педагога – Міхася Станюту.

*Галіна Багданава*

## Доўгі шлях у космасе вечнасці

Ён любіў вандраваць. Па родным краі, у марах сваіх ды фантазіях, у гісторыі і нават у космасе... Нястомны вандроўнік Язэп Драздовіч. Ён нарадзіўся 13 кастрычніка 1888 года ў засценку Пунькі Глыбоцкага раёна. Вучыўся ў Віленскай мастацкай школе ў прафесара І. Трутнева і мастака І. Рыбакова. На сваёй роднай Дзісеншчыне ён стварыў бібліятэку, аматарскі тэатр, а ў 1921 годзе беларускую школку. Рупна збіраў матэрыялы для Віленскага беларускага музея, працаваў выкладчыкам малявання ў Віленскай беларускай гімназіі.

1930-я гады ў Заходняй Беларусі – гэта гады панавання Польшчы, калі чынілася расправа над беларускім нацыянальным рухам. І Язэп Драздовіч вярнуўся на родную Дзісеншчыну, ён вандруе ад вёскі да вёскі, пакідаючы ў хатах, дзе кватараваў, незвычайныя, чароўныя маляваныя дываны з выявамі


*Графікі Язэпа Драздовіча*

чароўных замкаў і прыгожых кветак. Ён глыбока ведаў і вельмі любіў народную творчасць. Умеў ствараць карціны-алегорыі – «Сусветная будыніна» (1920), «Усход» (1920), «Дух цемры» (1932).

У 1920-я гады Язэп Драздовіч стварыў цэлую графічную серыю, прысвечаную замкавай архітэктуры («Крэва», «Ліда», «Мір», «Гальшаны» і іншыя). У 1940-я – напісаў шмат палотнаў з гісторыі Полаччыны – «Песня Баяна», «Пярсцёнак Усяслава Чарадзея», «Палачане выганяюць навязанага ім князя». Шмат карцін прысвяціў ён і жыццю Францыска Скарыны, зрабіў ягоны бюст, стварыў партрэты-барэльефы А. Грыневіча, Б. Пачопкі, запісваў фальклор, збіраў творы народнага мастацтва.

Але ці не самая адметная старонка ў творчасці выдатнага беларускага жывапісца – гэта творы на касмічную тэму.

Яго карціны – гэта не проста фантазіі, а мары пра гарманічна збудаванае жыццё. Марсіянскія муры Драздовіча надта ж нагадваюць зямныя.

У серыях «Жыццё на Марсе» (1931), «Жыццё на Сатурне» (1932), «Жыццё на Месяцы» (1932) мастак пераўзыходзіць па сіле вобразнай фантазіі самых смелых тагачасных фантастаў.

Сімвалічна ўспрымаецца палатно «Артаполіс» (1934–1935), на якім сярод лесу паўстае прыгожы, гарманічны горад мастацтва. Спрабуе ўявіць Драздовіч і тых, хто можа жыць на далёкіх планетах. Яны нечым падобныя да зямлян, але... можа, больш адкрытыя, больш дружныя...

Прынамсі, пра гэта думаеш, разглядаючы «Сустрэчу вясны на Сатурне».

Першымі, каму паказваў і тлумачыў свае карціны Язэп Драздовіч, былі яго землякі. Ён тлумачыў ім свае карціны і расказваў пра тое, як збудаваная сонечная сістэма. Ён не раз паўтараў, што ні ў полымі, ні ў холадзе не можа нарадзіцца жыццё. Толькі цяпло, дабрыня даюць надзею на плён...

Апошнім творам Я. Драздовіча быў маляваны дыван «Зачараваны замак». Мастак памёр у 1954 годзе і быў пахаваны на Ляплянскіх могілках, паблізу ад таго засценку Пунькі, дзе нарадзіўся.

«Космас» Язэпа Драздовіча з'явіўся ў 1940-я гады. Сівабароды дзядзька з задумлівым, глыбокім поглядам цёмных вачэй як бы растае лунаючы ў касмічнай прасторы, між зораў. Вечнае блуканне і вечная надзея. У руцэ ягонай – крохкая, такая маленькая, такая прыгожая і далікатная – Зямля.

Тады, напярэдадні самай страшнай трагедыі XX стагоддзя – Другой сусветнай вайны – гэта быў як бы напамін пра тое, што жыццё чалавека, як і жыццё ўсёй нашай планеты, уяўляюць найвялікшую каштоўнасць.

1 Язэп Драздовіч – гэта не толькі выдатны беларускі жывапісец, ён ..........................
..........................................................................................................................................
Папоўні сказ інфармацыямі з першага абзаца.

2 Прачытай трэці абзац і адшукай доказы на тое, што Я. Драздовіча можна назваць заснавальнікам беларускага гістарычнага жывапісу.

3 Вядучыя серыі – тэмы палотнаў і графічных прац Язэпа Драздовіча гэта:
а) ..................................................
б) ..................................................
в) ..................................................

4 Адшукай у Вікіпедыі працы мастака. Звярні ўвагу на карціну *Космас* і параўнай яе з апісаннем у артыкуле Галіны Багданавай.

*Максім Багдановіч*

* * *

Непагодны вечар. Сумна, дружа, мусі?
Каб разважыць смутак, ціха запяваю:
– Ой, ляцелі гусі ды з-пад Белай Русі,
Скалацілі воду ціхага Дунаю.

Ёсць любоў на свеце, здрада і растанне;
Шмат яшчэ чаго нам прыйдзецца зазнаці...
Ўсё мацней пяю я аб чыімсь каханні,
І тугі у спеве болей не схаваці.

1 ***Белая Русь*** – як разумелі гэтую назву ў папярэдніх стагоддзях? Да адказу выкарыстай ніжэйпададзены тэкст. Звярні ўвагу на другія найменні сённяшняй Беларусі.

❖ ***Белая Русь, Чорная Русь, Літва*** – так на працягу стагоддзяў называлі землі сённяшняй Рэспублікі Беларусь і прыгранічныя абшары.

Назва Белая Русь першапачаткова паявілася ў крузе заходнееўрапейскай культуры ў XIII стагоддзі. Белая Русь – гэта гістарычная краіна на тэрыторыі Беларусі, часткова Расіі, а галоўныя яе цэнтры гэта: Мінск, Магілёў, Полацк, Віцебск, Смаленск. Адносна беларускіх земляў назва Белая Русь з'явілася ў XIV ст. у Іпацьеўскім летапісе.

Польская назва, паводле Марціна Кромэра, звужае значэнне слова да большасці тэрыторыі сённяшняй Беларусі, што значыць землі на ўсход ад Мінска. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай назва Белая Русь замацавалася за ўсходняй Беларуссю, а землі на захад ад Мінска зноў пачалі называць Літвой (раней Чорная Русь), як у эпапеі Адама Міцкевіча.

Чорная Русь – землі, дзе больш доўгі час захавалася язычніцтва. Чорная – бо паганская, неправаслаўная, заходняя зямля – ахоплівала ўсю паўднёва-заходнюю частку сучаснай Беларусі, старажытныя землі дрыгавічоў, у тым часткова Беласточчыну. На тэрыторыі Чорнай Русі ў XII стагоддзі ўзнікла Гарадзенскае княства, пазней – Навагародскае, Ваўкавыскае і г. д. Чорная Русь адыграла ролю цэнтральнай часткі, вакол якой ішло ўтварэнне ВКЛ. Варта ведаць, што тэрмін Чорная Русь функцыянаваў побач назвы Літоўская Русь. Найменне Чорная Русь у XIX стагоддзі адносілася ўжо да мінулага.

Абагульняючы, вядома, што заходнія землі Беларусі ў XVI–XIX стагоддзях называлі Літвой, а ўсходнія – Белай Руссю. Назва Беларусь для абазначэння ўсіх земляў краіны распаўсюдзілася толькі ў другой палове XIX ст., а назва Літва ў гэты час перамясцілася на паўночны захад, на тэрыторыю суседняга балцкага народа.

*апрацавала Вольга Сянкевіч на аснове артыкула А. Рагалёва*



*Музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку*

**2** Як называлі беларускую мову ў XIX стагоддзі і як яе ахарактарызаваў Адам Міцкевіч? Прачытай выказванні паэта, нараджэнца Навагрудчыны і вызначы яе характэрныя рысы.

*Адам Міцкевіч*

## Пра беларусаў і іх мову

[...] На беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай, гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі.

[...] З усіх славянскіх народаў русіны, гэта значыць сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губерняў, захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рыс. У іх казках і песнях ёсць усё. Пісьмовых помнікаў у іх мала, толькі Літоўскі Статут напісаны іх мовай, самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зmененай.

1841–1844

*Матчына слова: Кніга пра беларускую мову,*
укладанне Уладзіміра Паўлава

*Бруна Дрвенскі*

# Беларусь як зона сутыкнення розных культурных традыцыяў і фармавання асноваў грамадзянскай супольнасці




*Польска-беларуская граніца.*
*Пагранпераход у Белавежы*

Большую частку сваёй гісторыі Беларусь падзяляе з суседнімі народамі. Яна была ў добрым і дрэнным сэнсе адной з удзельніцаў у будаўніцтве і развіцці кіеўскай, літоўскай, польскай, расійскай і савецкай дзяржаўнасці. З гэтай прычыны беларусы асабліва моцна адчулі розныя вятры гісторыі, што і тлумачыць чаму яны не могуць, у адрозненне ад сваіх суседзяў, ідэнтыфікавацца толькі з адной дзяржаўнай і культурнай традыцыяй. Затое беларусы могуць лічыць сябе нашчадкамі ўсіх гэтых дзяржаўных традыцыяў нароўні з нацыямі, якія маюць прэтэнзіі на выключнасць у іх культываванні. Тое, што з'яўляецца патэнцыяльным козырам для беларусаў, стала для іх, аднак, крыніцай фрустрацыі ў перыяд фармавання сучасных нацыяў.

Для назіральнікаў звонку і асабліва з аддаленых заходніх краінаў Беларусь бясспрэчна ўяўляе сабой нешта новае, да чаго трэба прызвычаіцца і што цяжка адназначна акрэсліць. Для французаў, якія прызвычаіліся да нацыянальнай тоеснасці, заснаванай на дзяржаўнай бесперапыннасці, Беларусь уяўляецца як нешта малавыразнае, як пераходная тэрыторыя на шляху да Масквы і нават як дзяржава, можа быць асуджаная на непазбежную страту незалежнасці.

Існаванне Беларусі з'яўляецца таксама загадкай як для бліжэйшых суседзяў, так і для многіх яе ўласных жыхароў. Гэтае існаванне сёння ўсё яшчэ часта ставіцца пад знакам запытання. На працягу сваёй гісторыі беларускае насельніцтва трапляла пад розныя ўплывы, што тлумачыць, чаму яно не магло ніколі цалкам прыняць аргументацыю розных сваіх суседзяў, якія адмаўлялі яго спецыфіку. Гэта дае Беларусі права на існаванне як дзяржавы.

Іншасць Беларусі адчуваюць і яе суседзі. Палякі, якія нарадзіліся сярод беларусаў і якіх лёс параскідаў па свеце, ведаюць спецыфіку гэтай зямлі, якая ўвабрала ў сябе занадта многа польскіх уплываў, каб стаць расійскай, і якая ўвабрала таксама занадта многа ўплываў расійскіх, каб змагла стаць польскай.

Расіяне, якія жывуць у Беларусі, у сваю чаргу часта выказваюць меркаванне, што спецыфіка гэтай краіны праяўляецца ў больш лагодных, чым у суседніх краінах, адносінах паміж людзьмі і што людзі тут больш талерантныя.

Значыць, Беларусь існуе, калі яе жыхары, як і знешнія назіральнікі, заўважаюць яе адметнасць. Неабходна акрэсліць, у чым яна заключаецца:

– наколькі адметнасць Беларусі выводзіцца з рысаў, якія сама яна стварыла?

– наколькі адметнасць Беларусі з’яўляецца вынікам яе саўдзелу разам з рознымі суседзямі ў розных дзяржаватворчых і культуратворчых працэсах?

– наколькі адметнасць Беларусі выводзіцца з яе гістарычнай ролі пасрэдніка паміж яе суседзямі, якія вельмі адрозніваюцца па дзяржаўных і культурных традыцыях?

## Культурныя традыцыі Беларусі

Паколькі беларусы да апошняга часу амаль ніколі не жылі ва ўласнай дзяржаве, цалкам адмежаванай ад суседзяў, цяжка ў іх заўважыць асобныя беларускія гістарычныя рысы, зрэшты як і нацыянальныя. Да дагістарычных часоў, калі беларускія землі яшчэ не належалі ні да адной з дзяржаваў, узыходзяць сляды язычніцкіх элементаў славянскасці. Хоць Беларусь і падзяляе іх з іншымі славянскімі народамі, але тут яны пакінулі найбольш моцны след.

Наступным важным элементам беларускай гістарычнай тоеснасці з’яўляецца горад Полацк, які з XII ст. выконваў самастойную ролю і з якога пазней зыходзілі культурныя ўплывы на суседнія краіны. Полацк з’яўляецца важным сувязным звяном паміж традыцыямі, якія паходзяць з Візантыі, Кіева, і традыцыямі, якія сфармаваліся пазней у Маскве.

Уніяцтва – таксама адметная рыса гісторыі Беларусі; яно пакінула тут свой след. Аднак яно не з’яўляецца выключна беларускай з’явай, бо не магло існаваць без спалучэння візантыйскіх і кіеўскіх традыцыяў з уплывамі Рыма і Польшчы. Такім чынам, выразна відаць, што нават найбольш спецыфічныя беларускія рысы пачынаюць ззяць, толькі стаўшы звяном міжнароднага ланцуга сувязяў.

Прымаючы ўдзел у развіцці традыцыяў, якія перакрыжоўваліся паміж сабой на працягу вякоў, насельнікі зямель рускай Літвы, а затым Беларусі былі пасрэднікамі ў распаўсюджванні культурных уплываў, што ішлі з Захаду на Усход ці наадварот. Дойліды, рамеснікі, пісьменнікі, друкары, выкладчыкі з Полацка і ўсёй Беларусі адыгралі немалую ролю ў развіцці расійскай культуры. Беларускі сялянскі фальклор падкормліваў славянскім аўтэнтызмам культуры суседніх народаў. Можа, гэта тлумачыць, чаму столькі польскіх пісьменнікаў і кампазітараў паходзіць з беларускай зямлі. У польскай культуры каштоўнасці, якія стварыла эліта, займаюць прывілеяванае становішча. Сутыкненне «польскай элітнасці» і «беларускай сялянскасці» стварыла вельмі творчую «мяшанку», якой польская культура ўдзячная да сённяшняга дня. Прозвішча Міцкевіча з’яўляецца найвышэйшым сімвалам гэтага сімбіёзу, але можна бясконца пералічваць асобных людзей і цэлыя роды, якія аказалі прыкметны ўплыў на развіццё польскай культуры і паходзяць з зямель, населеных беларусамі: Сапегі, Радзівілы, Касцюшка, Манюшка, Ажэшка і г. д. Уласцівасцю гэтай зямлі было тое, што яна дала свету шмат слынных людзей, якія аб’ядналі ў сабе рысы розных культурных традыцыяў.

У XX ст. габрэі-літвакі, г. зн. габрэі беларускія, адыгрывалі важную ролю ў развіцці сусветнага жывапісу, і цяжка было б вызначыць такі факт, не заўважаючы інтэгруючую ролю, якую адыгрывала ў гэтым працэсе беларуская зямля. Марк Шагал – найбольш вядомая постаць у гэтым асяроддзі, але той факт, што ён не з'яўляецца ізаляванай з'явай, змушае нас задумацца: чаму менавіта беларуская зямля стала калыскай такога культурнага працэсу?

Калі коратка ахарактарызаваць гісторыю Беларусі, то можна зрабіць гэта ў выглядзе аднаго сказа: Беларусь – зона пастаяннага сутыкнення разнастайных уплываў і ўзаемапранікнення розных культурных традыцыяў. Беларусь у нейкай ступені з'яўляецца зямлёй, прызначанай для развіцця ідэяў адкрытага грамадства, універсалізму і інтэрнацыяналізму. Аднак сёння ад кожнага асобнага чалавека і кожнай групы людзей патрабуецца выразнае акрэсленне іх тоеснасці, што, у сваю чаргу, выклікае сітуацыю, калі адсутнасць адназначнага адказу трактуецца як праява ненармальнасці.

пераклалі з польскай мовы
*Ганна Цішук* і *Юрась Вашкевіч*

• Бруна Дрвенскі зяўляецца аўтарам кнігі пра Беларусь на французскай мове. Ён прэзідэнт асацыяцыі «Францыя-Беларусь», працуе ў Нацыянальным інстытуце ўсходніх моваў і цывілізацыі ў Парыжы.

1 Якой, паводле слоў французскага вучонага, бачаць сучасную Беларусь назіральнікі з заходніх краін?

2 Чым аўтар тлумачыць права Беларусі, як дзяржавы, на самастойнае існаванне? Знайдзі адказ у тэксце. Ці згаджаешся з вывадамі аўтара? Калі не, дапоўні адказ сваім варыянтам.

3 Прачытай тры першыя абзацы з раздзела «Культурная традыцыя Беларусі» і выпішы адметныя рысы гісторыі краю, якія паўплывапі на далейшае яго развіццё.

4 Знайдзі ў тэксце Б. Дрвенскага доказы таго, што Беларусь, будучы пад рознымі ўплывамі, ніколі поўнасцю не прыняла аргументацыі сваіх суседзяў. Адказ запішы ў 4 - 6 сказах.

5 Пералічы прозвішчы родаў ці асобных людзей, якія аказалі ўплыў на развіццё польскай культуры і паходзяць з зямель населеных беларусамі.

6 Назаві прозвішча вядомага сусветнага жывапісца дваццатага стагоддзя, які істотны этап свайго жыцця правёў на Беларусі, менавіта ў Віцебску.

**7** Чаму беларуская зямля стала калыскй творчых людзей-гуманістаў?
Фразы для выкарыстання:
– зона сутыкнення культурных уплываў Захаду і Усходу
– багацце славянскага аўтэнтычнага фальклору
– моцныя сляды язычніцкіх элементаў славянскасці
– абшар узаемепранікання розных культурных традыцыяў
– шматканфесійнасць, затым і большая талерантнасць, памяркоўнасць для рознасці

**8** Якую ідэю вызначае Беларусі аўтар тэксту? Уважліва прачытай заканчэнне. Запішы адказ у форме развітых сказаў.

*Tadeusz Konwicki*

## Dobra Ziemia Dobrych Ludzi

Kilka lat temu zwrócił się do mnie z ankietowymi pytaniami białoruski periodyk „Niwa” wychodzący w Białymstoku. Bez złej intencji, z całą dobrą wolą, ale z niewiarygodnej gnuśności nie odpowiedziałem na te pytania. Ucieszyłem się tą ankietą, bardzo mi ona konweniowała, szykowałem papier i pióro, zbierałem się tydzień i drugi, lecz w końcu nic nie napisałem, A pytania brzmiały, o ile dobrze pamiętam: Jaki wpływ na moje pisanie wywarła Białoruś i co zawdzięczam Białorusi.

No i teraz nagle pośrodku zimy, dziwnej zimy przemieszanej z wiosną albo z jesienią, zimy złej dla starych ludzi i dla sercowców, zimy-chałtury, zimy-braku, zimy-odrzutu eksportowego, teraz nagle zachciało mi się odpowiedzieć na tę ankietę, o której już pewnie zapomnieli nawet jej organizatorzy.

Co zawdzięczam Białorusi? Zawdzięczam jej to, że do dziś nie umiem dobrze pisać po polsku, że na zawsze zbakierowała mi ucho, że swoją melodyką zagłuszała tę piastowską, sandomierską czy kielecką intonację, której uczę się, uczę się i nigdy się już nie nauczę. Zawdzięczam jej ową nostalgię, która mnie chwyta za resztki włosów pośrodku białego dnia w Warszawie, w Paryżu czy w Manhattanie. Zawdzięczam jej ten przejmujący niepokój, który mnie gdzieś gna, choć stoję w miejscu, dokądś gna, dokąd boję się dotrzeć, ale w końcu muszę dotrzeć.

Białoruś, Białoruś. Dlaczego nazywasz się Białoruś, jeśli nie masz w sobie bieli, jeśli bielą twoją są rude rżyska jesienne, jeśli bielą twoją są postawy szarego płótna wyłożone na słońcu, jeśli bielą twoją jest gorący pot umęczonych ludzi. Powinnaś się nazywać Dobroruś, powinnaś się nazywać Dobrą Ziemią Dobrych Ludzi.

Moje oczy są pełne Białorusi. Patrzę na Prowansję i widzę pagórki spod Oszmiany. Patrzę na Dunaj i widzę Niemen, widzę zamglony łagodnym smutkiem drugi brzeg Niemna. Patrzę na autostradę w Los Angeles i widzę sannę pod Gudogajami, słyszę łomot pacyn śniegu, czuję ostry zapach końskiego potu, przeczuwam czerwone okienko samotnej chaty pod pagórem bogatego śniegu, jedynego i prawdziwego bogactwa tej ziemi.



*Гарадзішча на смаргонскай зямлі*

Po jakiemu ja w dzieciństwie mówiłem? Czy „po prostemu", czy „po miastowemu"? Czy więcej słów, bajek, pieśni słyszałem białoruskich, czy polskich? Ile razy i kiedy przekraczałem tę niedostrzegalną granicę między białoruskością i polskością?

Nie wryłaś się w ludzką pamięć, Białorusi. Nie odbierałaś innym wolności, nie rabowałaś cudzej ziemi, nie mordowałaś ludzi zza sąsiedniej miedzy. Miałaś dla obcych szacunek i gościnny kołacz, miałaś dla rabusiów ostatnią krowę i ostatnią kromkę żytniego chleba ze znakiem krzyża, miałaś dla nieszczęśliwych krwawiące serce i biedne nie pieszczone życie do oddania. Dlatego mało kto ciebie pamięta.

Mnie też pod koniec wojny uratowano życie w białoruskim domu. Prości ludzie, nie młodzi i nie starzy, zwykli chłopi sczerniali od ciężkiej pracy, na pewno analfabeci, jeśli idzie o piśmienność, i profesorowie, jeśli idzie o znajomość psychologii i losów człowieczych, ci prości ludzie uratowali mnie, osiemnastolatkowi, życie, podarowali na złe i dobre te wszystkie lata, które z mozołem spychałem za siebie. Uchronili mnie może tylko przed śmiercią, a może przed wieloletnią bydlęcą wegetacją, przed takim wariantem losu, o którym ze zgrozą myślę w bezsenne noce. I boleśnie żałuję, że nie mogą opisać tego krótkiego incydentu, którego byli cudotwórcami.

Kiedy przypomnę białoruskie słowo, kiedy zawieje wiatr z północnego wschodu, kiedy zobaczę płócienną koszulę ze smutnym haftem, kiedy usłyszę krzyk bólu bez skargi, zawsze uderzy mi żywiej serce, zawsze wyskoczy skądś łagodna tęsknota, zawsze popłynie raptowny chłód nieokreślonych wyrzutów sumienia, poczucia wspólnoty i zawstydzenia.

Białorusi, Białorusi szarozielona z ogromnym niebem nad płową głową, za dobra, za łagodna, za szlachetna jesteś na nasze czasy.

*(„Kalendarz i klepsydra" — 1976)*

1 Вядомы беларускі вучоны Яўхім Карскі, назву *Белая Русь* тлумачыць тым, што, *пануючым тыпам беларусаў былі крайнія бландзіны з блакітнымі або светла-шэрымі вачыма*. Якія існуюць версіі аб паходжанні назвы *Белая Русь*? Выкарыстай тэкст Т. Канвіцкага, выкажы свае меркаванні.

2 Чаму польскі пісьменнік з такой сімпатыяй і цеплынёй успамінае Беларусь, асабліва Новую Вілейку, Ашмяны? Як акрэслівае беларускую зямлю і людзей гэтай зямлі?

*Янка Купала*

## Спадчына

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеннія праталіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены.

Аб ёй мне будзіць успамін
На ліпе бусел клёкатам
І той стары амшалы тын,
Што лёг ля вёсак покатам;

*Возера Нарач*



І тое нуднае ягнят
Бляянне – зоў на пасьбішчы,
І крык вароніных грамад
На могілкавым кладбішчы.

І ў белы дзень і ў чорну ноч
Я ўсцяж раблю агледзіны,
Ці гэты скарб не збрыў дзе проч,
Ці трутнем ён не з’едзены.

Нашу яго ў жывой душы,
Як вечны светач – полымя,
Што сярод цемры і глушы
Мне свеціць між вандоламі.

Жыве з ім дум маіх сям’я
І сніць з ім сны нязводныя...
Завецца ж спадчына мая
Ўсяго *Старонкай Роднаю*.

- спакон вякоў – з даўніх часоў
- праталіны – месца, дзе растаў снег і агалілася зямля
- тын – агароджа з жэрдак пераплеценых прутамі лазы
- покатам – адзін каля аднаго, без асобага парадку
- бляяць – крычаць (пра авечак, коз)
- зоў – кліч, ад зваць, клікаць
- збрысці – сысці, пакінуць
- проч – пакіданне на некаторы час з прычыны нязгоды
- светач – прыстасаванне для асвятлення, тое, што нясе з сабой ідэю, асвету, свабоду
- вандолы – заломы, ніз, яр
- усяго – толькі, не больш чым, наогул

**Янка Купала** (1882–1942) – класік беларускай літаратуры, дзеяч нацыянальнага адраджэння, аўтар паэтычных зборнікаў: *Жалейка, Гусляр, Шляхам жыцця, Спадчына*, паэм: *Курган, Бандаоўна, Магіла льва, Яна і я*, драматычных твораў: *Паўлінка, Раскіданае гняздо, Тутэйшыя*. Янка Купала – адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы. Творы Купалы прасякнуты думкай пра свабодную Беларусь, вядома, апрача трагічных часоў сталінізму, калі знішчалася вольная незалежная думка, нацыянальная інтэлігенцыя. Літаратурная спадчына Купалы належыць да самых выдатных дасягненняў нацыянальнай мастацкай культуры. Сапраўднае прозвішча паэта – Іван Луцэвіч.



**1** Чалавеку ад нараджэння даецца спадчына – родная старонка, вельмі дарагая лірычаму герою. Такое ўражанне складваецца ад прачытанага твора. Што можна сказаць пра асобу, якая вядзе свой маналог? Адкажы ў 3-4 сказах.
Словы для выкарыстання:
выказваецца непасрэдна, асоба верна сваёй традыцыі, адданая айчыне, патрыёт, патрабуе да жыцця роднай старонкі – зямлі прадзедаў, выказвае трывогу за яе, гаворыць упэўненена і ад сэрца

**2** Звярні ўвагу на шматзначныя месцы-словы ў вершы:
значэнне загалоўка,
запісанне апошняга радка і яго разуменне,
паўтарэнні асабовых і прыналежных займеннікаў
Раскрый іх значэнне напр: спадчына – скарб, маяк, святло...

**3** Вобразы – праявы спадчыны намаляваны паэтам праз паказ:
а) прыроды (таксама ў будзённым і драматычным абліччы) – *шэлест лесу*...
б) гісторыі – (дуб) *апалены*...
в) пачуццяў – *яна мне ласкай матчынай*...
Падбяры з верша іншыя прыклады і запішы.

**4** Настрой верша выразна мяняецца ад радасна-замілаванага ў першай, другой страфе да сумна-тужлівага. Знайдзі словы ці словазлучэнні, якія паказваюць устрывожанасць, неспакой.

**5** Якую страфу можна назваць тэмаю *клопат*, клопат пра сваю спадчыну? Што непакоіць паэта?

**6** Якія радкі верша сцвярджаюць права паэта мець уласнае асабістае разуменне і перажыванне спадчыны? Адшукай у вершы.

*Якуб Колас*

## Купальскія светлякі

(Казкі жыцця)

Расцярушыла ночка свой цёмны пыл, распляла над зямлёю свае чорныя косы, а сама, як маці прытаілася ў лесе, каб вартаваць і ахоўваць сон людзей і сон прыроды. Гэта была добрая ночка.

А каб на зямлі не было так маркотна ў час яе прыходу, яна пазмятала з неба ўсе хмаркі, і яно заззяла тысячамі рознакаляровых агеньчыкаў-зорак. Слаўна блішчалі гэтыя адвечныя нябесныя вочы. Яны дрыгацелі ў пералівах жывых агнёў, нібы брыльянцістыя матылькі, што сеўшы на краску, трапечуць крыльцамі, сатканымі з праменняў. А можа яны, робячы гэтыя дзіўныя рухі, спявалі там сабе песні, але голас песень не мог даляцець да зямлі з бяздонных глыбінь, бо зоркі былі вельмі далёка ад яе. Аднак было добра адно тое, што бляск зорак асвятляў і ночку і тым самым рабіў меней адчувальным змрок. Тыя ж, каму прыходзілася ў гэты час быць у далёкай дарозе, калі ў сэрца закрадалася трывожная думка: а ці той гэта шлях? – пазіралі на зоры і па іх знаходзілі дарогу. А калі хто прачынаўся ўночы і таксама заўважаў зоркі на небе, дык і яму было весялей, і ён выказваў уголас сваё здаваленне.

Адзін чалавек шукаў у гэтую ноч кветку папараці, бо кажуць, што ў купальскую ноч зацвітае яна агнявістым цветам. Многа людзей шукала гэтую кветку, але ніхто не знайшоў па той простай прычыне, што папараць ніколі не цвіла з таго часу, калі пачала расці на свеце. Аднак чалавек усё ж такі знайшоў кветку папараці, і гэта ніколечкі не супярэчыць таму, што гаварылася раней, бо гэты чалавек не сапраўдны, а казачны. У казцы ж усё можа быць. Гэтая знаходка зрабіла чалавека шчаслівым. Усякія згрызоты і непрыемнасці не craналі яго. На душы ў яго было спакойна і радасна. А цікавей за ўсё тое, што яму сталі вядомы галасы прыроды і ён мог разумець яе думкі.

Ідзе чалавек і чуе, як перамаўляюцца дрэвы між сабою. Ён спыніўся. Яго зацікавіла гутарка двух велізарных дубоў, што стаялі ўскрай лесу. Ноч, цішыня, блісканне тысяч зор, як відаць, настроілі іх на філасофскі лад.

– Чым цікава жыццё – казаў адзін дуб – дык гэта тым, што яно, хоць і ідзе па пэўных законах, але вечна змяняецца і разгортвае новыя старонкі. І колькі б ты ні жыў, ніколі не пасягнеш яго мнагалучнасці.

– У гэтым ёсць і мудрасць жыцця, брат мой дуб, бо калі б мы пазналі яго таямніцы, нам не было б і ахвоты жыць на свеце.

– І няўжо ж ніколі, ну, не мы, а нашыя патомкі, не дасягнуць гэтага сусвету ва ўсёй яго складанасці?

– Думаю, што ніколі. Бо вось і мы: чым больш высока падымаемся над зямлёю, тым большыя і шырэйшыя даляглядзы адчыняюцца перад намі... Я, ведаеш, люблю гэтыя бліскучыя зоры: іх святло і вабіць і прыцягвае.

– Знайшоў чым захапляцца, дурань стары! Хі-хі-хі! – пачуўся новы тоненькі-тоненькі галасок, які ішоў аднекуль з-пад каранёў дуба.

Чалавек зірнуў уніз. Па дубовых каранях і па траве пад дубамі поўзалі харошанькія светлякі. Галоўкі ў іх былі цёмныя, можа іх зацямняла ноч, бо яна стаяла тут недалёка і таксама слухала музыку цішыні і шолахі прыроды, яе гутарку. Затое ж жывоцікі гэтых светлячкоў-жучкоў свяціліся зеленаватымі агеньчыкамі. Але трэба было вельмі ўважліва прыглядзецца, каб іх прымеціць. Чалавек стаў слухаць, аб чым гаманілі светлячкі. Іх было тут вельмі многа. З іх чарады адабраўся адзін жучок. Сам ён быў тоненькі, але жывоцік меў крыху таўсцейшы, з прычыны чаго і агенчык яго выдаваўся крыху больш прыметна. Ён прымасціўся на кары дубовага кораня, нарыхтаваўся сказаць прамову жучынай грамадцы. І ён сказаў:

– Ёсць многа на свеце агнёў, але яны аджылі свой час. Жыццё не стаіць на адным месцы, як казаў – вы чулі самі – і гэты дуб, значыць, і агонь павінен перайсці ў іншыя формы. Такімі формамі і з'яўляемся мы, чуеце, жучкі? Мы! Я засмяяўся – вы чулі? Я засмяяўся, калі пачуў ад гэтага старога дуба, што яму падабаецца святло зорак... Дзіўная справа гэта заскарузласць на свеце! Тут, пад яго ўласным карэннем, на яго ўласнай кары, запаліліся для свету новыя агні, а ён іх не бачыць. Ды якія агні!... Эй, жучок на лістку суніцы!

– Я! – адазваўся жучок.

– Вы паглядзіце на яго агеньчык: колькі хараства!

Колькі новых бляскаў, я б сказаў, новых агнявых вобразаў! І што такое зоры ў параўнанні з нашымі агнямі? Бляск гнілякоў, балотны агонь!... Або звярніце вы ўвагу – я не саромеюся сказаць гэта – на мой агонь: гэта адна, адна чыстая паэзія, паэзія вышэйшага гатунку! Вось што такое нашы агні.

У сухім леташнім лісці пад карэннем дуба шаснула яшчарка.

– Ну, а скажыце, будзьце ласкавы – прамовіла яна – каму свеціць ваш агонь?

– Як каму свеціць? Перш за ўсё ён свеціць нам самім. Мы ствараем новае хараство агнёў, у гэтым стварэнні мы адчуваем радасць. А нам – цьфу на сонца, на зоры, на месяц, на купальскія агні, што пазапальваны па лесе ў гэтую ноч. Каля іх сялянская дурнота спраўляе свае танцы. Мы ж самі – сонца, зоры, месяц!...

– Ха-ха-ха! – засмяялася ночка. – Мілыя вы жэўжыкі! Усё гэта вельмі пацешна, але самі вы – толькі малюпасенькі адбітак сонца, а вы плюеце на яго. Ну, што ж? Ваш час, пазабаўляйцеся, дзеткі. Я зараз сыду з зямлі, і ваш мілы агеньчык пагасне ў бляску дня.

Засмяяўся чалавек:

– Мілыя жучкі! Калі я адыду ад вас на два крокі, вашы агні знікнуць з маіх вачэй.

Чалавек разумеў іх, але мова чалавека была для іх незразумелая.

- святляк – невялікі жучок, які свеціцца ў цемры
- косы – доўгія, заплеценыя разам валасы

• краска – палявая кветка
• згрызоты – спрэчкі, звадкі
• заскарузлы – адсталы, закаснелы, агрубелы
• суніца – poziomka
• жэўжык – свавольнік, гарэза

**Якуб Колас** (1882–1956) – класік беларускай літаратуры, сапраўднае прозвішча паэта – Канстанцін Міцкевіч. Колас, гэта паэт з эпічным складам, празаік-рэаліст, аўтар сатырычных і бытавых апавяданнаў: *Соцкі падвёў, Бунт, Нёманаў дар, Малады дубок, Калядны вечар, Васіль Чурыла*. Ён стваральньнік арыгінальнага жанру – *казкі жыцця*, а затым стваральнік вялікіх эпічных жанраў у беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя, напр. трылогіі *На ростанях*. Колас з'яўляецца аўтарам вядомай паэмы *Новая зямля*, шэдэўра беларускай нацыянальнай паэзіі.

1 Адшукай у першым абзацы мастацкае апісанне зорак. Да чаго параўноўвае іх аўтар, якімі эпітэтамі акрэслівае?

2 Чаму, апрача казачнага чалавека, ніхто не знайшоў кветку папараці ў купальскую ноч?

3 Чым, паводле дуба, цікава жыццё? Назаві прыкметы:
а) *вечна змяняецца*
б) ....................................
в) ....................................
г) ....................................

4 Дапоўні сказ.
Светлякі-жучкі поўзалі ....................................................... і ................................................ .

5 Як можна ўспрымаць прамову жучка? Адзнач трапныя адказы, прыдумай свой.
а) услаўленне ролі светлякоў
б) доказ пагарды да іншых агнёў
в) захапленне самім сабой
г) пераацэнка акружаючага наваколля
д) жыццёвая мудрасць жучка

6 Чаго, гаворачы пра сябе, не прыкмячалі і не разумелі светлякі? Што ўсведаміла ім ноч?

7 Чаго вучыць нас твор Якуба Коласа?

## Заняткі, вераванні ўсходніх славян да прыняцця хрысціянства

Ад спрадвечных часоў беларусы займаліся земляробствам. Зямлю яны любілі і працавалі на ёй з ахвотай. Маючы шмат сенажацяў, разводзілі хатнюю жывёлу. У той час было многа дзікіх звяроў. Чалавек паляваў на іх, каб абараніцца, але мець і карысць. Тагачасныя людзі вельмі рана пачалі займацца рыбалоўствам. Былі яны таксама вельмі добрымі пчалярамі. Старадаўнія беларусы займаліся і рамёствамі – бондарствам, ганчарствам, ткацтвам, кушнерствам, кавальствам.

Беларускі народ багаты сваімі песнямі, казкамі і легендамі. З іх можна даведацца пра жыццё і веру ў паганскую пару. Людзі заўважылі цудадзейны ўплыў сонца, якое перамагае зіму, ажыўляе дрэвы і ўсе расліны, мае сваё дзеянне, свой уплыў на прыроду. І таму ў кожную пару года ў гонар бога сонца праўляліся святы.

Зімою, у канцы снежня ў гонар бога сонца праўляліся Каляды. На Каляды сонца на небе падымаецца вышэй, больш грэе. Калі сонца нарэшце перамагае зіму, а дзень робіцца большы за ноч людзі святкавалі Вялікдзень. А песні гэтай пары – валачобныя і веснянкі – заклінаюць вясну.

Далей святкавалася Купалле – паганскае свята ў гонар летняга бога сонца.

Ярыла – гэта таксама бог сонца і ўрадлівасці, што ўяўляўся прыгожым маладзцом на белым кані ў белай вопратцы.

Богам грому і маланкі – сівым асілкам – быў Пярун, а галоўны бог неба Род. У лесе быў Лясун, які палохаў людзей і блытаў сцежкі.

У вадзе быў Вадзянік, у вадзе, у лесе, у полі былі русалкі, якія мелі выгляд маладых дзяўчат з доўгімі валасамі. А хаты сцярог Дамавік.

Язычніцкая рэлігія ўзнікла як вынік залежнасці чалавека ад сіл прыроды. Кожнай з прыродных з’яў людзі імкнуліся надаць сваё тлумачэнне.

Яны пакланяліся добрым і злым духам, а таксама духам памёршых продкаў. Памерлых дзядоў і бацькоў нашыя продкі шанавалі, у памяць іх ладзілі святы. Такое свята адзначалася вясной пасля Вялікадня – гэта Радаўніца. Але найбольшае свята ў памяць дзядоў і прадзедаў адзначалася позняй восенню, у апошнюю суботу кастрычніка або першую лістапада. Яно звалася Дзяды – памінальны абрад ушанавання памяці сваіх папярэднікаў.

*паводле В. Ф. Голубева, У. П. Крука, П. А. Лойкі*

- язычніцтва – рэлігія заснаваная на пакланенні многім багам, да прыходу хрысціянства продкі беларусаў былі язычнікамі
- Каляды – народнае зімовае свята дахрысціянскага паходжання, у старадаўнія часы свята канца года
- Радаўніца – веснавыя Дзяды, абрад памінання продкаў на дзевяты дзень пасля Вялікадня

1 Якія віды рамёстваў развіваліся на тэрыторыі Беларусі ў старадаўні перыяд? Папоўні схему, дапішы назву прафесіі і заняткі майстроў.

а) бондарства – бондар – робіць драўляны посуд (бочкі, дзежы, цабры...)

б) ганчарства – ...........................................................

в) ...........................................................................

г) ...........................................................................

д) ...........................................................................

2 Якія прыродныя з'явы выклікалі найбольшую павагу, часта боязь людзей і чаму?

3 Пералічы паганскіх багоў, якім пакланяліся даўнія продкі беларусаў. Звярні ўвагу, што багамі сонца былі Дажбог, Ярыла, Хорс, Купала – чаму аж чатыры?

4 Як ставіліся продкі беларусаў да памерлых дзядоў і бацькоў? Як зваліся памінальныя абрады?

*Павел Касцюкавец*

## Купальскі абрад

Купалле прыпадае на час летняга сонцавароту (сонца паварочвала на лета, а лета на спякоту). Яно прысвячаецца Сонцу – крыніцы энергіі і жыцця на зямлі.

Даследчыкі розных часоў сыходзяцца на думцы, што ў славянскай (а значыць і беларускай) міфалогіі існаваў персанаж – Купала. Магчыма адтуль і назва свята.

Адным з важнейшых культаў купальскага свята з'яўляецца культ Сонца. З ім былі звязаны іншыя купальскія матывы і тэмы: агонь і вада – так розныя стыхіі, раслінныя матывы – ачышчальная і засцерагальная магія і г. д.

У купальскім абрадзе самымі важнымі з'яўляюцца вогнішчы (агонь увасабляў сабою сонца). Як правіла, яны былі вялікіх памераў, каб жыта ўдалося высокім, а ўраджай багатым. Вогнішчы звычайна разводзілі на ўзвышаных месцах, часамі вогнішчы раскладалі на берагах рэк, азёр, за вёскай. Ачышчальная і гаючая сіла агню заключалася ў спальванні старых рэчаў, адзежы хворых дзяцей. Рытуальным было паленне «мая» – засохлай зеляніны, якою ўпрыгожваліся хаты на Тройцу. Дымам ад «мая», а таксама спецыяльна спаленых лекавых раслін акурвалі дзяцей, хворых. Часта вакол вогнішча абводзілі жывёлу. Абавязкам на Купалле было пераскокванне праз вогнішча. З мэтай аховы ўраджаю ад вядзьмарак і ведзьмакоў у жыта кідалі галавешку з купальскага вогнішча. На Купалле быў звычай катаць запаленае кола вакол сяла, а таксама вадзіць кругавыя карагоды. Абодва гэтыя звычаі звязаны

з загаворна-заклінарнай магіяй. Сонца круглае, кола таксама. Лічылася, што дзякуючы колу і карагодам, Сонца дае жыватворную сілу (цяпло, ежу) і будзе ўвесь год міласцівае да чалавека.

Поруч з Сонцам у купальскім абрадзе вельмі важны культ вады.

У беларусаў вада складае прадмет асобага шанавання, асабліва крынічная. На Купалле хлопцы і дзяўчаты спраўляюць рытуальнае купанне ў рэках, азёрах, таму, што вада ў гэтую ноч валодае магутнай жыццёвай сілай. Яна, па паданню, робіць людзей прыгожымі. Аналагічны сэнс уносіць на Купалле сумяшчэнне абодвух культаў, напр., у вянкі, што пускаюць на ваду, устаўляюць запаленыя свечкі.

Раслінны культ на Купалле цесна пераплятаецца з салярным. Аб гэтым сведчаць такія абрады, як перакіданне вянкоў паміж дзяўчатамі і хлопцамі праз вогнішча, аздабленне зеленню жылля, паленне «мая». Расліны і травы ў купальскую ноч валодалі не толькі гаючай, але і чароўнай сілаю.

Напярэдадні купальскай ночы, пад вечар, дзяўчаты і жанчыны адпраўляліся збіраць купальскія травы і кветкі – зёлкі. Імі потым лячылі членаў сям'і. Такімі рытуальнымі купальскімі раслінамі з'яўляліся купалкі (святаянскія зёлкі), рута, браткі, валошка, папараць, палын, ружа.

Ад вядзьмарак і ведзьмакоў абкладалі крапівой калодзежы, вокны, дзверы. Крапіва бараніла ад злых сіл і чараў, увасабляла сабою агонь (сонца). Яна таксама з'яўлялася раслінай, звязанай з аграрнай магіяй. Крапіву дабаўлялі ў хлеб. Купальскія травы кідалі ў печ у час навальніцы для таго, каб уміласцівіць бога грому Перуна.

Купальская ноч – ноч таямніц і цудаў. Абавязковым элементам з'яўлялася і эротыка: скачкі парамі праз вогнішча, уплятанне рытуальных кветак у косы з мэтай прываблівання хлопцаў, супольнае купанне ў аголеным выглядзе [...]

У абрадавых купальскіх песнях знойдзецца апісанне ўсяго, што адбываецца на Купалле, і тлумачэнне многа з таго, што там дзеецца. Прыкладам больш позняй купальскай песні можа служыць «Купалінка», запісана Г. І. Цітовічам. Мелодыя яе вылучаецца гібкасцю, выразнасцю, шматгалоссем.

Купалінка

*Купалінка, купалінка,*
*Цёмная ночка,*
*Цёмная ночка,*
*Дзе ж твая дочка?*

*Мая дочка ў садочку*
*Ружу, ружу поліць,*
*Ружу, ружу поліць,*
*Белы ручкі коліць.*

*Кветачкі рвець, кветачкі рвець,*
*Вяночкі звівае,*
*Вяночкі звівае,*
*Слёзкі пралівае.*

Класічным узорам купальскіх песень з'яўляецца твор, запісаны беларускім фалькларыстам Г. І. Цітовічам «Ой рана на Йвана».

Тут ярка выяўлены лірычны пачатак, падкрэслены двуххорным шматгалоссем, да тых пор бытуючым на поўначы Беларусі.

### Ой, рана на Йвана

*Ой, рана на Йвана*
*Проці Йвана ночка-мала.*
*Ой, рана на Йвана.*

*Ой, рана на Йвана.*
*Дзе, Купала, начавала?*
*Ой, рана на Йвана.*

*Ой, рана на Йвана.*
*Начавала ў чыстым полі.*
*Ой, рана на Йвана.*

*Ой, рана на Йвана.*
*Чым, Купала, вячэрала?*
*Ой, рана на Йвана.*

*Ой, рана на Йвана.*
*Вячэрала белым сырам.*
*Ой, рана на Йвана.*

*Ой, рана на Йвана.*
*Чым, Купала, запівала?*
*Ой, рана на Йвана.*

*Ой, рана на Йвана.*
*Запівала гарэліцай.*
*Ой, рана на Йвана.*

• купалкі (святаянскія зёлкі) – dziurawiec

1 Знайдзі ў тэксце радкі, якія тлумачаць паходжанне назвы свята – Купалле.

2 Скажы, што сімвалізуе вогнішча ў купальскім абрадзе і якую сілу прыпісвалі агню славяне ў дахрысціянскі перыяд?

3 Назаві, не менш чым тры, асноўныя культы, звязаныя з абрадам Купалля. Чаму менавіта яны?

4 Чаму на Купалле дзяўчаты і хлопцы спраўлялі рытуальнае купанне ў рэках і азёрах?

5 У чым праяўляўся культ расліннасці, а ў чым элементы эротыкі?

6 Цяпер, святкаванне Купалля на Беласточчыне ладзяць грамадскія арганізацыі або гмінныя ўправы. Ці была/быў ты на гэтым мерапрыемстве? Калі так, выкажы свае ўражанні.



*Праца Аляксандра Сільвановіча*

*Ірына Масляніцына*

**Непрыгожая дзяўчына**
Народнае паданне

Ціха пагойдваючы на хвалях, нясе рака сплеценыя пяшчотнымі дзявочымі рукамі купальскія вянкі. Адны сплываюць удалечыню, нібы падганяюць іх думкі-мары гаспадынь як мага хутчэй пакінуць звыклыя сумныя берагі. Другія, наадварот, не спяшаюцца пакідаць родныя мясціны, падоўгу кружацца на месцы, нібы баяцца згубіць шчырыя словы дзявочай надзеі. А колькі шчасця, колькі радасці бывае, калі ў рацэ зблізяцца і паплывуць разам два вянкі: яго і яе. Але бывае інакш...

– Гэй, Мілава! Чаму ты адна? Дзе твая сяброўка? – акружылі хлопцы вясковую прыгажуню.

– А Пярун яе ведае! – смяецца ў адказ Мілава. – Відаць вас, блазнаў, спалохалася, недзе хаваецца. Але вы знайдзіце яе абавязкова, не пайду ж я адна папараць-кветку шукаць!

– Вазьмі мяне! Мяне вазьмі ў праважатыя! Са мной не прападзеш! Абара-

ню ад любога д’ябла! – перабіваючы адзін аднаго, загаманілі хлопцы. І ніводзін з іх, безнадзейна закаханых у дзяўчыну, не спяшаўся гукаць яе сяброўку. Адно, што кожны сам спадзяваўся стаць яе спадарожнікам у гэту чароўную ноч, а другое, надта ж непрыгожа, нават злавесна, асабліва, калі падхопіць яго рэха, гучала імя яе сяброўкі – Мыш. Такое дзіўнае імя даў ёй бацька, дзікаваты млынар-удавец Мышак.

Магчыма, людзі з гадамі звыкліся б з такім незвычайным імем, дый хлопцы, заўсёды гатовыя падражніцца з дзяўчатамі, часцей называлі яго, калі б дачка млынара была вясёлай і прыгожай. Але лёс не да ўсіх бывае літасцівы: Мыш была непрыгожай.

Сказаць па праўдзе, з выгляду дзяўчына была не такая ўжо і брыдкая, але маленькія, хваравітыя вочкі, вузенькі тварык і вялікі рот быццам знарок былі створаны для таго, каб выклікаць шкадаванне ў тых, хто глядзіць на дзяўчыну. Выбраўшы Мыш у сяброўкі, Мілава спадзявалася тым самым увесь час падкрэсліваць сваю прывабнасць.

Але якім бы чалавек ні быў прыгожым ці непрыгожым, ён меў права святкаваць Купалле.

Мыш таксама спляла свой вяночак з лясных рамонкаў і васількоў. Што яна шаптала над ім, чаго прасіла ў добрых купальскіх багоў – невядома. Але калі вяночак апынуўся ў вадзе, то не паплыў наўздагон за іншымі, а, пакруціўшыся нейкую хвіліну на адным месцы, пайшоў на дно. Мыш ускрыкнула і, закрыўшы рукамі твар, кінулася ў лес. Ніхто не спыніў дзяўчыну, не пабег услед – усе расступіліся перад ёю, шчаслівыя, а таму і абыякавыя да чужой бяды. Не пабегла шукаць сяброўку і Мілава – ёй было весела і без Мышы.

Мінула купальская ноч. Першыя сонечныя прамяні асвяцілі на ўзгорку сярод лесу дзве мужчынскія постаці. У багатай, далёка не сялянскай вопратцы. І сапраўды, купальская ноч застала ў дарозе князя Мсціслава і княжага ваяводу Барыса. Ці спалі яны, ці, як большасць мясцовага люду, шукалі цудоўную папараць-кветку, невядома, але толькі раніца нагадала ім, што іх чакаюць важныя справы. І вось ізноўку яны ў сядле.

– Што ж, Барыс, мне падабаецца гэта мясціна – павольна гаварыў князь. – Тут і быць майму гораду. Лес высечам, а на ўзгорку паставім палацы. Як думаеш?

– Прабач, княжа, – адказваў ваявода – я цяпер не магу ні пра што і думаць. З галавы не выходзіць той чароўны спеў, які мы чулі ўначы. Які голас! Чысты, пяшчотны...

– Купальская ноч – ноч таямніц і цудаў. Раніцою, пасля Купалля, людзі пра свой лёс у багоў пытаюцца. Ці не хочаш папытацца і ты, ваявода?

– Што ты, княжа! Нельга мне. У мяне праваслаўны крыж на шыі.

– Дык і ў мяне ж таксама. Але я ўжо задумаў свой горад назваць імем першай жывой істоты, якая зараз сустрэнецца на маім шляху. А ты?

– А я не ведаю, што загадаць. Усе мае думкі з той, чый голас мы чулі ноччу. Яна прычаравала мяне. Розум губляю...

– Дык задумай пра сваё каханне... Калі сустрэнеш зараз сваю пяюху – абмяняешся з ёй пярсцёнкам...

І раптам зноў пачулася песня, пяшчотная і самотная;

*Гэй ты рэчка-рэчанька,*
*Ты вярні вяночак мой, —*
*Упрыгожваць будзе ён*
*Мае косы русыя...*

Коннікі пераглянуліся.

– Багі пачулі нас! – сказаў князь.

– Яна там, ля ракі... – прашаптаў Барыс.

І абодва сцебанулі коней. Калі галіны дрэў расступіліся перад імі і вільготнае паветра ад рэчкі хлынула ў твар, яны ўбачылі тую, пра якую думалі.

– Ну, вось і твая нарачоная, – прамовіў князь. – Пад'едзь адзін. І не забудзься спытацца, як яе завуць, бо яна – першая жывая істота, што сустрэлася нам, і, значыць, яе імем я назаву свой горад.

У туманным паветры далёка чуваць любы гук. І нават росная трава не прыцішае тупат Барысавага каня. Зараз, пачуўшы яго, азірнецца дзяўчына...

– Азірніся хутчэй, мая прыгажуня! Цябе я сабраўся назваць жонкай, калі ты не прывід, не халодная русалка... Калі ёсць у цябе душа і сэрца – пакахай мяне!

Дзяўчына пачула. Спынілася. Азірнулася ў здзіўленні... Божа! Што гэта?..

Знерухомеў збялелы Барыс перад непрыгожай Мышшу. Дык вось якая яна, яго нарачоная!

Горкія, жудасныя думкі прамільгнулі ў галаве ваяводы. Ці не помста гэта старых паганскіх багоў яму за здраду? Адмовіўся ж ён калісьці ад іх дзеля Хрыста. Але калі гэта так, калі іх воля над ім яшчэ такая моцная, то нельга і думаць, каб адмовіцца ад свайго абяцання. Што рабіць? Весці гэтую непрыгожую дзяўчыну ў храм? Над ім жа будуць смяяцца. Ды і сам ён ніколі не зможа пакахаць яе. А ці нельга абысціся без гэтага? Ён даў слова стаць яе мужам. Ён зробіць гэта, але без шлюбу. Хай будзе так! І хай бачаць тыя, хто хацеў пасмяяцца над ім.

Барыс трымае сваё слова.

Малады ваявода саскоквае з каня і накіроўваецца да дзяўчыны. Ужо праз імгненне яна ў яго абдымках. Але хіба ж гэта ласкавыя абдымкі каханага? Ваявода рве на яе грудзях святочную сукенку, кудлаціць косы і нарэшце валіць на зямлю.

Ад страху перад ганьбай і абразай Мыш адчула сябе моцнай. Адштурхнуўшы ваяводу, узбегла на высокі бераг і адтуль кінулася ў ваду. На другім беразе ратунак! Шмат сілы ў слабой маленькай Мышы, але ў ракі – яшчэ больш. І закруціла плынь дзяўчыну, і панесла, і пацягнула ў халодную глыбіню. Яшчэ некалькі разоў паказалася над хвалямі русавая галоўка, а потым – знікла.

Здалёк убачыўшы гэта і ўсё зразумеўшы, кінуўся ў ваду князь. Толькі было позна – ён вынес на бераг мёртвае цела. І збегліся людзі, і галасілі над

горкаю доляй Мышы. А Барыс, зазірнуўшы ў вочы тапельніцы, засмяяўся:

– Цяпер мне няма перад кім трымаць сваё слова. Жывы жаніх з мёртвай нявестай не мяняецца пярсцёнкам.

– Ты пагарджаеш воляй багоў. Не думай, што загубіўшы няшчасную дзяўчыну, можаш не выконваць сваё абяцанне. Я загадваю табе – і ты мусіш заручыцца з ёй, а інакш не прызнаю цябе больш сваім ваяводам. Ідзі куды хочаш!

І пачуўшы тое, Барыс пахаладзелымі рукамі надзеў на палец тапельніцы залаты пярсцёнак.

– Пакляніся перад сваёй ахвярай, – сурова працягваў князь, – што ніколі не назавеш іншую дзяўчыну жонкай. Я ж таксама стрымаю слова, дадзенае купальскім багам. Няхай горад, які я пабудую тут, носіць імя Мыш, а рака завецца Мышанкай...

Прайшлі стагоддзі. Але па-ранейшаму маленькае паселішча на Гродзеншчыне Новая Мыш носіць імя непрыгожай дзяўчыны.

❖ **паданне** – блізкае да легенды па форме і зместу, фальклорнае апавяданне, у якім ад імя сведкі або ўдзельніка расказваецца пра розныя жыццёвыя з'явы, падзеі, герояў і іх учынкі, подзвігі. Паданне пазбаўлена фантастычнага, чарадзейнага элемента. Яно заўсёды скіравана толькі ў мінулае.

1 Знайдзі рысы падання ў прыведзеным тэксце.

2 Звярні ўвагу на імёны галоўных герояў падання. Вызнач у іх хрысціянскія і паганскія элементы. Як думаеш, у якіх стагоддзях маглі адбывацца падзеі прадстаўленыя ў паданні?

3 Што новага можна даведацца пра купальскую ноч прачытаўшы тэкст «Непрыгожая дзяўчына»?

4 Параўнай абедзве гераіні народнага падання. Звярні ўвагу на іх знешні выгляд і назаві рысы характару.

5 Уяві сябе як князя Мсціслава. Як прарэагаваў бы ты на паводзіны ваяводы Барыса? З якімі рашэннямі князя згаджаешся, ад якіх адмаўляешся?

6 У беларускай мове праз злучок пішуцца словы:
а) спалучэнні двух слоў з аднолькавай асновай : *сам-насам, дзе-нідзе*
б) спалучэнні двух аднолькавых слоў: *белы-белы, даўно-даўно*
в) спалучэнні двух семантычна блізкіх слоў: *хлеб-соль, жылі-былі*
г) складаныя словы, першая частка якіх лічэбнік, напісаны лічбамі: *50-годдзе*
Знайдзі прыклады такога напісання ў тэксце і растлумач іх правапіс.

## Дзяды

Дзяды – абрад ушанавання памяці продкаў прыпадаў на восень. У народзе Дзяды – Асяніны ладзілі ў суботу, у хаце. Загадзя прыбіралі ў хаце, мыліся ў лазні, вешалі свежыя фіранкі, ручнікі, засцілалі белым абрусам стол.

Вечарам уся сям'я збіралася вакол святочнага стала. Перад тым, як садзіцца, у хаце адчынялі ўсе дзверы, каб заходзілі памёрлыя продкі, што раней тут жылі. Абрадам кіраваў гаспадар – старэйшы член сям'і, які перш за ўсё запальваў вялікую свечку, што ставілася ў посуд з якім-небудзь зернем як сімвал памяці аб продках. Пасля агульнай малітвы пералічваліся ўголас паіменна ўсе дзяды-продкі.

Прысутныя пачыналі есці куццю (рытуальную кашу з ячменных круп), прычым, перш чым з'есці лыжку кашы, кожны з прысутных адкладаў кавалачак ежы ў «дзедаўскую міску», што знаходзілася на стале – для дзядоў.

Колькасць страў на стале магла быць рознай, але абавязкова – няцотнай і не менш пяці. Звычайна на Дзяды гатавалі (акрамя абавязковай куцці) клёцкі, аладкі з верашчакай, каўбасы, розныя поліўкі (рыбную, мясную), сушаныя яблыкі і грушы, вараныя на мёдзе, аўсяны кісель з мядовай сытой, ячменныя праснакі і інш.

У час урачыстай святочнай вячэры дазвалялася гаварыць толькі аб дзядах – іх жыцці, асобных выпадках і рысах характару; успаміналіся іх словы і настаўленні, мудрыя парады і добрыя ўчынкі. Пачыналася гэтая размова з расказа пра самага старэйшага і найбольш вядомага продка, а заканчвалася ўспамінамі аб памёршых зусім нядаўна. Пасля заканчэння вячэры ўсе павінны былі адначасова ўстаць з-за стала. Стол, за якім вячэрала сям'я, пакідаўся неприбраным на ўсю ноч, толькі накрываўся абрусам. Ежа, якая знаходзілася ў «дзедаўскай місцы», аддавалася звычайна жабракам: яны ўсведамляліся як пасрэднікі паміж «гэтым» і «тым» светам.

Даючы ацэнку гэтаму старажытнаму абраду А. С. Ліс справядліва зазначае: «Асяніны – сведчанне не столькі прыхільнасці, колькі высокай маральнасці земляробаў з іх сталым ушанаваннем памяці сваіх папярэднікаў».

*паводле С. А. Токарава*

- восеньскія Дзяды – ладзілі ў апошнюю суботу кастрычніка або першую лістапада
- няцотны – які не дзеліцца на два
- клёцкі – страва з мучнога цеста або дранай бульбы ў выглядзе галачак
- аладка – невялікі тоўсты мучны або бульбяны блін, спечаны на патэльні
- верашчака – рэдкая мучная страва з мясам, каўбасой і празнымі прыправамі
- сыта – мёд разведзены гатаванай вадой
- праснак – тоўсты блін з прэснага (без солі, кіслаты, вастрыні) цеста

1 Даўней беларусы адзначалі Дзяды – дзень памяці продкаў чатыры разы ў год. Ці ведаеш, калі Царква адзначае памінальныя дні (напр. памінальныя суботы)? Якая традыцыйная страва і да сёння прысутнічае ў час памінкаў?

2 Чаму ў прыбранай хаце завешвалі на Дзяды белыя ручнікі, прыносілі галінкі сасны, елкі і каліны? Паразважай, звярні ўвагу на тое, сімвалам чаго даўней быў белы колер, якія дрэвы раслі на пясчаных могілках ?

3 Разгадай сімволіку Дзядоў:
куцця – сімвал вечнасці жыцця
запаленыя свечкі – ..............................
посуд з зернем – ...................................
дзедаўская міска – ................................
белыя ручнікі – .......................................

4 Як думаеш, чаму пасля вячэры пакідалі непрыбраны стол? Ці падобны захад сустракаецца і ў іншых абрадах?

5 Чаму восеньскія Дзяды называюць – Вялікімі? Ці пара года магла паўплываць на гэта?

6 Складзі параду-рэцэпт, як смачна падрыхтаваць *куццю* на калядны вечар або памінкі.
Ці, па-твойму, павінна быць розніца ў кампанентах (напр. мак) і выглядзе стравы?

7 Прачытай ніжэйпрыведзеныя тэксты і адкажы, якімі сцвярджэннямі пачынаюцца выказванi. Паразважай, чаму трэба берагчы і шанаваць хлеб?

**Песня пра хлеб**

Хлеб – часцінка нашага жыцця. Хлебам-соллю нашы бацькі пачыналі зажынкі, з хлебам-соллю выходзілі насустрач самым жаданым гасцям, хлебам-соллю ў час вяселляў сустракаюць маладых.

Нашы дзяды і бацькі, бабулі і матулі ўмелі шанаваць хлеб. У іх быў такі звычай, закон: калі кавалачак хлеба падаў са стала, яго патрэбна было падняць і перад тым, як з’есці, абавязкова пацалаваць.

Я вяртаюся ў тое радаснае і незабыўнае свята, калі да нас, падлеткаў, прыходзіў на стол хлеб. Не з крамы, як зараз, а са звычайнай задымленай вясковай печы. Нярэдка чорны, з жытняй мукі, часцей за ўсё змолатай у хатніх жорнах ...

Такі духмяны, смачны, жаданы.

*паводле Уладзіміра Дзіско*

* * *

[...] Аснова ўсяго. Хлеб. Пшанічны, як на поўдні, у нас пякуць рэдка. Беларус любіць чорны хлеб і сумуе па ім, трапіўшы туды, дзе яго няма. Так што хлеб у нас жытні, вельмі духмяны. Пякуць яго на паду, на капусных або кляновых лісцях, а пасля, спырснуты вадою, астывае хлеб пад ручніком, напаўняючы хату найлепшым у свеце пахам. Няма нічога смачней, як адрэзаць гарачую лусту, густа пасаліць і з'есці.

І, як паўсюль, у славян, існаваў *зайцаў хлеб*, што бацька прыносіў з лесу ці з дарогі.

*паводле Уладзіміра Караткевіча*

**8** Слова *хлеб* мае некалькі значэнняў:
– прадукт харчавання
– зерне, якое мелецца на муку
– зерневыя расліны (жыта...)
– сродкі да існавання, заработак
Складзі 4 сказы са словам *хлеб* (у розных формах), кожнае ў іншым значэнні.

**9** Дапішы да кожнага словазлучэння яго значэнне. Для выкарыстання: не вельмі добра, быць незабяспечаным сродкамі існавання, і гэта добра, прыемнага добрага апетыту (смачна есці), лёгкая праца.
а) лёгкі хлеб –
б) хлеб ды соль –
в) не вялікі хлеб –
г) без хлеба сядзець –
д) і то хлеб –

**10** Як разумееш словазлучэнне *зайцаў хлеб*? Якія пахі мог увабраць у сябе акрайчык такога хлеба?

*Валянцін Голубеў*

## Першыя плямёны і княствы

Засяленне тэрыторыі Беларусі славянамі адбывалася паступова, на працягу доўгага гістарычнага перыяду. Канчатковае ўсталяванне славян прайшло прыкладна на рубяжы VI–VII стагоддзяў у выніку завяршэння этапу вялікага перасялення народаў. Найбольш вядомымі славянскімі плямёнамі, якія склалі асноўны масіў славянства на Беларусі былі дрыгавічы, крывічы, радзімічы. У свой час тут пражывалі балты, а са славянскіх часткова аселі тут славены, северане, валыняне і іншыя.



*Прыпяць каля Турава*

Найбольшую ролю ў фарміраванні беларускай народнасці адыгралі крывічы – адно з самых вялікіх груп усходніх славян. Жылі яны на тэрыторыі, якая ахоплівала басейны верхняга Дняпра, Заходняй Дзвіны, Волгі. Працэс фарміравання крывічоў завяршыўся прыкладна ў IX ст. у выніку асіміляцыі славянскімі плямёнамі мясцовых балцкіх і заходнефінскіх плямён. Крывічы, якія жылі па сярэднім цячэнні Заходняй Дзвіны і па рацэ Палаце, у летапісах звычайна называліся палачанамі.

Паводле летапісу, у X ст. на поўдні і паўднёвым захадзе Беларусі аселі дрыгавічы. Іх цэнтрам быў Тураў.

Трэцяя група – радзімічы. Яны жылі ў міжрэччы Дняпра і Дзясны па цячэнні ракі Сож.

*Валянцін Голубеў*

## Феадальныя княствы на тэрыторыі Беларусі

Адным з самых вялікіх і магутных феадальных княстваў на беларускіх землях і адным з самых старажытных усходнеславянскіх княстваў было Полацкае княства (IX–XIII). З канца IX ст. Полацкае княства знаходзілася ў складзе Кіеўскай Русі, але адным з першых пачало адасабляцца. Мела самастойную княскую дынастыю. Першыя вядомыя полацкія князі – Рагвалод (каля 980 г.), Ізяслаў Уладзіміравіч (з 988 г.), Брачыслаў Ізяславіч (з 1003 г.). Найбольшага росквіту Полацкае княства дасягнула пры князю Усяславе Брачыславічу

(1044 –1101 гг.). Пасля яго смерці вялікае Полацкае княства (зямля) было падзелена на шэраг удзельных княстваў: Полацкае, Менскае, Віцебскае, Друцкае, Ізяслаўскае, Лагойскае і інш. Полацкі прастол лічыўся галоўным, і гэты горад заставаўся важнейшым палітычным і гандлёва-рамесным цэнтрам.

Другое буйное княства на тэрыторыі Беларусі – Тураўскае – узнікла ў канцы IX або ў пачатку X стагоддзя на тых землях, дзе рассяліліся дрыгавічы. Першы летапісны князь – Тур, ад яго, як мяркуюць, і пайшла назва горада і княства. З 988 г. тут княжылі прадстаўнікі дынастыі Рурыкавічаў. У другой палове XII ст. Тураўскае княства ўступіла ў перыяд феадальнай раздробленасці, з яго вылучыліся асобныя Пінскае, Клецкае і іншыя княствы.

У пачатку XII ст. узнікла Гарадзенскае княства, землі якога раней уваходзілі ў склад буйнога Уладзіміра-Валынскага княства. Частка беларускіх зямель уваходзіла ў свой час у Смаленскае, Чарнігаўскае і Кіеўскае княствы.

1 Пералічы славянскія плямёны, якія засялялі беларускія землі. Вызнач тэрыторыю іх засялення.

2 Якое племя, затым княства адыграла найбольшую ролю ў фарміраванні беларускай народнасці і чаму?

3 Якое княства ўзнікла на землях дрыгавічоў, што было прычынай яго заняпаду? Якія другія феадальныя княствы існавалі на беларускіх землях?

4 Складзі пісьмовую працу на тэму: *Старажытны і сучасны Полацк*. Карыстайся прыведзенымі тэкстамі і інтэрнэтам.

**Полацк**

Самы старажытны горад на Беларусі. Буйны цэнтр Полацкага княства ўпершыню згадваецца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 862 г. Полацк – трэці горад ва Усходняй Еўропе (пасля Кіева і Ноўгарада), які меў сваю Сафію. Пабудова сабора – сведчанне сілы і магутнасці Полацкага княства і росквіту яго культуры, сімвал незалежнасці. Гэта высокі ўзор манументальнага дойлідства і тагачаснай будаўнічай тэхнікі.

Полацк быў вядомы ў свеце, з ім шукалі згоды і міру. Пазней, у трынаццатым стагоддзі для княства насталі цяжкія часы. З поўначы прыйшлі крыжакі. Тады ж палачанам давялося змагацца і з татара-манголамі. Палачане ганарацца славутымі землякамі Ефрасінняй Полацкай, Францыскам Скарынам, Сімяонам Полацкім.

*паводле К. Тарасава*

• дойлідства – мастацтва і майстэрства будавання прыгожых будынкаў
• дойлід – спецыяліст у галіне будаўніцтва





*Сафійскі сабор у Полацку. Ягоны XI-вечны кшталт захаваўся адно ў фундаментах храма. Справа: праўдападобна так выглядаў Сафійскі сабор у XI стагоддзі*

❖ Полацк – гэта раённы горад Віцебскай вобласці. Пра багатае мінулае горада нагадваюць помнікі знакамітым землякам, вядомым асветнікам. Ёсць і славуты Сафійскі сабор, які за шматвяковую гісторыю свайго існавання быў тройчы перабудоўваны, неаднойчы зруйнаваны, але кожны раз усё адраджаўся. У Спаса-Ефрасіннеўскім саборы знойдзем копію крыжа Ефрасінні Полацкай, якому пакланяюцца тысячы вернікаў. Сённяшні Полацк багаты і іншымі сакральнымі будоўлямі, асабліва ў стылі барока. Варта таксама згадаць пра полацкі Музей беларускага кнігадрукавання з увагі на багацце кніг (копіі) з эпохі Адраджэння і Рэфармацыі. Цікава наведаць Музей традыцыйнага ткацтва, паглядзець прыгожую нацыянальную вопратку, паясы, ручнікі, цікавыя вырабы з саломы.

## Першыя вядомыя постаці беларускай гісторыі

**Рагвалод і Тур** – валадары першых старажытнабеларускіх дзяржаў. Многія даследчыкі пераканальна адкідаюць іх «заморскае» паходжанне,

г. зн. нармандскае паходжанне, і выводзяць іх радавод з мясцовай княжацкай дынастыі. Пра гэта сведчаць найперш іх славянскія імёны. Адзін з летапісцаў называе іх братамі.

**Рагнеда** (год нараджэння невядомы – 1000) – полацкая князёўна, дачка князя Рагвалода. Паводле летапіснага падання, адхіліла сватанне ноўгарадскага князя Уладзіміра Святаславіча, адказаўшы яму: «Не хачу разуці рабычыча». (Маці Уладзіміра была рабыняй-ключніцай.) Уладзімір жорстка адпомсціў – заваяваў Полацкае княства, спаліў Полацк, забіў бацькоў і братоў Рагнеды, а яе гвалтоўна зрабіў жонкай. Але Рагнеда не скарылася і ў далейшым ажыццявіла замах на жыццё Уладзіміра. З Кіева яна была сасланая разам са старэйшым сынам Ізяславам на радзіму, у Ізяслаўль. Прыняла хрысціянства, заснавала першы на беларускіх землях жаночы манастыр.

**Ізяслаў** (? – 1001) – сын Рагнеды і кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча. Паводле летапіснага падання, з мечам у руках заступіўся за маці пасля яе замаху на жыццё бацькі. Сасланы разам з маці ў Полацкую зямлю, у пабудаваны і названы яго імем горад Ізяслаўль (Заслаўе). Стаў полацкім вязнем у 988 г., тым самым узнавіўшы дынастыю полацкіх князёў Рагвалодавічаў. Ніканаўскі летапіс характарызуе Ізяслава як першага на ўсходнеславянскіх землях князя-кніжніка і асветніка. Пячатка Ізяслава з'яўляецца першым помнікам усходнеславянскага пісьменства.

**Князь Усяслаў Полацкі**

Полацкае княства дасягнула найбольшай магутнасці і славы ў часы княжання Усяслава (1044–1101), праўнука князёўны Рагнеды. Каб захаваць самастойнасць Полацкага княства, Усяслаў вёў упартую барацьбу з кіеўскімі князямі. У 1065 г. ён напаў на Пскоў, які быў у залежнасці ад Кіева. Праз год захапіў Ноўгарад-Вялікі. Але ў 1067 г. Усяслава перамаглі браты Яраславічы ў бітве на Нямізе, а потым вераломна, падчас перагавораў у Оршы, яго захапіў у палон Ізяслаў Яраславіч. Усяслава Чарадзея адправілі ў Кіеў, дзе ён стаў вязнем. Болей года пакутаваў у няволі Усяслаў. За гэты час кіяўляне прагналі свайго князя, вызвалілі з турмы Усяслава і абралі яго вялікім князем кіеўскім.

Мудра княжыў Усяслаў Брачыслававіч, але не вытрымаў, вярнуўся ў свой любы Полацк.

Аўтар «Аповесці мінулых часоў», толькі для аднаго князя Усяслава пазначыў дакладны час смерці. Гэта яшчэ раз паказвае, наколькі значнай асобай была асоба полацкага князя ў тагачаснай гісторыі.

*паводле В. Голубева і Я. Куліка*




*Віцебск*

## Ці ведаеце вы, што...

Першымі вядомымі постацямі беларускай гісторыі былі князі Рагвалод і Тур. З «Аповесці мінулых часоў» мы даведваемся аб паходзе князя Уладзіміра – валадара Вялікага Ноўгарада – у 980 годзе на Полацк, дзе княжыў Рагвалод. У жорсткай бітве, пераможнай для Уладзіміра, загінулі сам Рагвалод, яго жонка, абодва іх сыны, а адзіную дачку Рагнеду Уладзімір прымусіў стаць сваёй жонкай.

З «Аповесці мінулых часоў» таксама вядома, што недзе ў той жа час на зямлі дрыгавічоў уладарыў князь Тур. На жаль, летапісы не пакінулі іншых звестак пра гэтага чалавека. Але з паданняў, што дайшлі да нашых дзён, перад намі паўстае асоба мудрага правіцеля, адважнага воіна, які загінуў у бітве, абараняючы незалежнасць роднай зямлі.

У XI–XIII стагоддзях высокага ўзроўню эканамічнага развіцця дасягнулі Полацк, Тураў, Берасце, Віцебск, Менск і іншыя беларускія гарады. З цягам часу буйных гарадоў станавілася ўсё болей. Гандлявалі з балцкімі плямёнамі, арабскімі краінамі, Візантыяй, амаль з усёй Еўропай.

Спачатку асноўнымі таварамі, якія вывозіліся з беларускіх зямель, былі футра, воск, драўніна, іншыя здабыткі лясной гаспадаркі. Пазней больш шырока сталі вывозіцца лес і лесаматэрыялы, вырабы рамеснікаў, збожжа і інш. Увозілі ў беларускія гарады ў асноўным прадметы раскошы, вострыя прыправы, некаторыя ювелірныя і рамесніцкія вырабы, зброю.

Асноўнай збожжавай культурай на Беларусі ў эпоху феадалізму, пачынаючы з IX стагоддзя, як сведчаць гістарычныя крыніцы, было азімае жыта. Акрамя таго, вырошчваліся і іншыя збожжавыя, тэхнічныя і агародныя культуры.

Са збожжавых сеялі авёс, ячмень, проса, пшаніцу (яравую і азімую), грэчку, боб, гарох, лён, каноплі і інш. Сярод агародных культур былі вядомы капуста, морква, буракі, агуркі, цыбуля, часнок, рэпа, рэдзька, мак, хмель. З садовых – яблыкі, грушы, вішні, слівы, у некаторых раёнах – дробны вінаград. З канца XVIII стагоддзя на Беларусі пачынае распаўсюджвацца бульба.

*паводле Юрася Братчыка*

1 Чаго новага з мінулага беларускіх зямель можна даведацца з тэксту? Пачні свае адказы словамі:
Я даведаўся (даведалася), што...
Я не ведаў (ведала), што...
Мне цікава было даведацца...
Мяне зацікавіў той факт, што...
Мне было невядома, што...

2 Зрабі паведамленні па наступных тэмах: Выкарыстай вышэйпрыведзеныя тэксты.
а) Князі з дынастыі Рагвалодавічаў, іх дасягненні, значэнне для ўмацавання Полаччыны.
б) Чаму князя Усяслава Полацкага пачалі зваць *Чарадзеем*?
в) Самыя вядомыя гарады часоў Сярэднявечча, прычыны іх хуткага эканамічнага развіцця.
г) Збожжавыя і агародныя культуры на беларускіх землях у эпоху феадалізму.

*Макет старадаўняга Бярэсця, які захоўваецца ў Музеі Брэсцкай крэпасці*



*Генадзь Ланеўскі*

## Рагнеда і Уладзімір

Званы не сціхаюць ні на хвіліну. Звоняць трывожна і часта ва ўсіх цэрквах. Вараннё з крыкам кружыць над дзядзінцамі. За ракой Палатой трывожна рыкаюць каровы. Над горадам на ўсё неба палыхае пажар.

З верхняга яруса княжацкага палаца відаць, як мітусяцца і адступаюць дружыннікі ў Запалоцці. Князёўна Рагнеда ў роспачы ломіць рукі. Толькі што пасыльны ваяводы паведаміў, што ў бойцы каменным молатам забіты яе бацька, загінулі абодва браты, што наўгародцы ўварваліся ў Полацк.

Як магло такое здарыцца? – думае Рагнеда. – Няўжо Уладзімір наўгародскі, які ўжо не раз дамагаўся яе рукі, адолеў полацкую дружыну Рагвалода, такога славутага палкаводца, такога адважнага князя?

Рагнеда ведае няпісаны закон: павержаны ў баі – здабыча пераможцы. Літасці не будзе. Князі забіваюць або слепяць адзін аднаго, бо кожны імкнецца пашырыць сваю ўладу, сваё багацце і сілу.

Няўжо давядзецца быць паланянкай князя Уладзіміра? А можа, жонкай? Яго ж маці была простай служанкай, – з жахам думае Рагнеда.

Ад роспачы і крыўды яна нібы скамянела, яе блакітныя, разумныя вочы на прыгожым, ганарыстым твары пацямнелі. Колькі хвілін яна сціскае далонямі скроні, збіраецца з думкамі. У бялявых валасах паблісквають залатыя падвескі, на руках пярсцёнкі і бранзалеты. Яе стройны стан падаўся наперад, і ўся яна – нібы птушка перад узлётам.

Але не, гэта не падбітая ціхмяная птушка. Гэта прыгожы драпежнік перад скачком.

Рагнеда перабірае пальцамі па невялікім кінжале з прыгожа аздобленай ручкай. Паставіць рукаяткай на падаконнік, наваліцца на вастрыё грудзьмі і... канец, – думае Рагнеда. – Але хто адпомсціць за гібель бацькі і братоў? Каму дастанецца полацкая зямля?.. Не, гэтаму ніколі не бываць!

Яна адыходзіць ад акна, стройная і напятая, як струна, поўная лютай нянавісці і злосці, і ідзе да дзвярэй, што вядуць уніз, на першы паверх. Там чуваць тупат цяжкіх мужчынскіх ботаў.

Прыдворныя зніклі. Пахаваліся дзе хто мог. Не трымаючыся за поручні, Рагнеда лёгка збягае па прыступках. Узрушана і пераможна блішчаць вочы ў наўгародцаў. Дружыннікі з вялікімі мяшкамі рабуюць пакоі, лаюцца і смяюцца. Пад уладным позіркам Рагнеды наўгародцы прыціхаюць. Воіны здзіўлены прыгажосцю маладой князёўны. Яна ідзе, дружыннікі Уладзіміра пакорліва расступаюцца і маўчаць. Рагнеда не глядзіць на іх, спяшаецца ў тронную залу князя. Адчыніўшы дзверы, яна спыняецца як укопаная. На троне бацькі сядзіць незнаёмы юнак у баявым адзенні – гэта князь Уладзімір. Паўкругам каля яго ўзброеныя людзі. Блішчыць зброя ваявод і старэйшых дружыннікаў.





*Радзівілаўскі летапіс узнік у канцы XV стагоддзя. Аздоблены 618 шматколернымі ілюстрацыямі, распавядае, між іншым, пра падзеі прэзентаваныя ў тэксце «Рагнеда і Уладзімір»*

Рагнеда бачыць, што ўсе збянтэжаны яе паяўленнем, што полацкія вяльможы апускаюць вочы. Сорамна і ганебна ім стаяць на каленях, так яны не стаялі перад яе бацькам.

Малады князь узняўся, сышоў з трона, не зводзячы вачэй з дзяўчыны. Ён здымае цяжкі шлем і нізка кланяецца Рагнедзе – Уладзімір прызнае дачку пераможанага Рагвалода гаспадыняй.

Яна нібы не бачыць ні князя, ні яго пакоры, але пагарда і злосць самі сабою крыху ўтаймоўваюцца.

Гордая князёўна сашчапіла на грудзях рукі і маўчыць. У вачах яе яшчэ палыхае агонь нянавісці, але яна прыкмеціла, што Уладзімір прыгожы і дужы. Гэта сапраўды юны волат, не вельмі, праўда, рослы, але шырокі ў плячах, з магутнымі грудзьмі. У яго чорныя як смоль валасы, праніклівыя карыя вочы, прыгожы падбародак.

Уладзімір рашуча падыходзіць да князёўны і ўладарна кладзе магутную руку на яе плячо. Не кожны дружыннік можа трымаць на сваім плячы руку князя. Кажуць, што калі Уладзімір пакладзе руку на шыю свайму каню, дык той апускае галаву да самай зямлі. Гэта бачылі самі дружыннікі. Цяпер

яны сталі дыханне ад здзіўлення. Юная князёўна стаіць, нібы не адчувае рукі Уладзіміра. Здзіўлены і князь, але тоіць гэта. Ён бярэ Рагнеду за стан і туліць дзяўчыну да сябе. Усе разумеюць: гэта знак, што князь бярэ Рагнеду за жонку.

– Няхай на полацкай зямлі зноў усталюецца мір. Усім палоннікам я дарую волю, – гаворыць князь.

Рагнеда маўчыць, сцяты яе скамянелыя вусны. А полацкія вяльможы паўзуць на каленях да княгіні, каб пацалаваць край яе адзення. Ваяводы і дружыннікі пакідаюць пакой. Рагнеда і Уладзімір застаюцца адны.

Уладзімір моўчкі сядае на трон Рагвалода.

– Разуй, – загадвае ён Рагнедзе.

Лютая злосць зноў напаўняе сэрца дзяўчыны. Разуць мужчыну, значыць, прызнаць яго ўладу над сабой. Рагнеда ледзь стрымлівае сябе, пытаецца:

– Што з маім бацькам, дзе браты?

– Яны мужна загінулі ў бойцы, – з пашанай у голасе адказвае князь. – Па вашаму звычаю загадаў пакласці іх цэлых у княжацкіх даспехах у чоўны і пусціць уніз па рацэ.

Рагнеда раптам становіцца на калені, нізка схіляе галаву. Саф’янавыя боты князя лёгка здымаюцца.

* * *

Сяло Прадслаўнае каля Кіева ўсё схавана ў вішнёвых садах. Каля ракі Лыбеды заліваюцца салаўі, іх спеў поўніць і харомы князя Уладзіміра, перашкаджае Рагнедзе думаць.

Як усё дрэнна склалася! – уздыхае Рагнеда. – Разгромлена дружына Яраполка кіеўскага, якому яна калісьці абяцала сваю руку. Яна жонка Уладзіміра і прыехала ў Кіеў вялікай княгіняй.

Яе з маленства вучылі жорстка і ўладна кіраваць гаспадаркай князя. І цяпер у яе руках агромністая гаспадарка – шмат гарадоў і весяў. Толькі ў харомах больш як трыста слуг, жыве шмат сваякоў, баяр, дружыннікаў, іншаземных паслоў і гасцей. Яшчэ ні разу Уладзімір не ўмяшаўся ў яе справы, ні разу не спахмурнеў, не выказаў незадавальнення жонкай. Перад гаспадарлівасцю, жорсткасцю і непахіснасцю характару Рагнеды дрыжаў увесь вялікі двор князя.

– Самая ганарыстая і прыгожая жанчына ў свеце! – прызналі прыдворныя.

Князь не мог нацешыцца прыгажосцю, гаспадарлівасцю і настойлівасцю княгіні.

– Ты ўся нібы выліта з паўночнага белага мармуру, – захапляўся ён, калі заставаўся ў яе пакоі. Ён быў пяшчотны і пакорны. І Рагнеда нібы пакахала гэтага дужага, як зубр, і жорсткага чалавека.

Пайшлі дзеці, і радасці князя і княгіні не было канца. А тут прыйшла новая вера – хрысціянства.

Рагнеда зразумела, што новая вера ўмацуе ўладу князя, аб'яднае дзяржаву, выхавае ў людзей пакорлівасць лёсу і волі князя. І ўсё ж Рагнеда не можа прымірыцца з такім жыццём. Дагавор аб увядзенні хрысціянства змацавалі яшчэ адной жаніцьбой князя Уладзіміра з грэчаскай царэўнай Аннай. З такой нікчэмнай мізэрнай лялькай з вялікімі сумнымі вачыма! – думала Рагнеда.

Да ўвядзення хрысціянства князь Уладзімір мог мець некалькі жонак. Але не меў, бо дужа кахаў адну Рагнеду. Пасля гэтага па царкоўнаму закону жонкай Уладзіміра стала лічыцца толькі царэўна Анна.

Жаніцьба з грэчаскай царэўнай і прыняцце хрысціянства ўзвысілі і самога князя Уладзіміра і Кіеўскую Русь. З усяго свету зараз імчаць у Кіеў паслы і купцы. Рагнеда вымушана была пераехаць у сяло Прадслаўнае. Сам жа князь застаўся ў сталіцы, у Кіеве, але кожны тыдзень ён знаходзіць прычыну, каб прыехаць да Рагнеды. Плача, пакутуе няшчасная царэўна. А Рагнеда цешыцца.

На двары голасна закрычаў юны княжыч. Рагнеда ўсхапілася з пасцелі і ў белай карункавай сарочцы падбегла да акна. Яе любімы сын Ізяслаў строіць дваровых хлопчыкаў у загоны.

Выліты Уладзімір, – з пяшчотай думае Рагнеда.

Рагнеда падышла да пасцелі, на якой, раскінуўшы рукі, моцна спаў Уладзімір. Яна прысела каля падушак і моўчкі, з замілаваннем углядаецца ў твар князя.

– Кахаеш? – ціха спытала яна і пачала гладзіць чорныя, ужо з сівізной валасы князя.

Уладзімір штосьці прамармытаў праз сон.

І тут імгненна ўспомнілася, што не яна вялікая княгіня, што ў яе каханага ёсць прызнаная Богам жонка, якой усе нясуць пашану. Рагнеда з замілаваннем узіраецца ў твар князя і шэпча праклёны, ціха моліцца і плача.

Твар яе застывае, робіцца нібы каменны. Яна выхавана княгіняй, яна не звыкла да пакорлівасці.

– Смерць! Ты памрэш! – гнеўна шэпча Рагнеда і імкліва выхоплівае з ножан, што ляжаць на крэсле, востры меч Уладзіміра. Бліскучае лязо занесена над сонным князем.

У гэтае імгненне Уладзімір раптоўна прачнуўся. Ён бачыць меч у руках Рагнеды і яшчэ не разумее, што адбываецца, толькі ўпіўся вачыма ў жонку і прачытаў у вачах Рагнеды свой смяротны прысуд. Страпянуўся і, схапіўшы сваёй жалезнай рукой запясце Рагнеды, нібы тыгр, ускочыў з пасцелі, кінуў жонку на сярэдзіну пакоя. Адскочыў, зазвінеўшы, востры меч і ўпаў каля сцяны.

Рагнеда моцна ўдарылася аб крэсла і крыкнула ад болю і роспачы.

Злосць зацямніла развагу князя. Ён схапіў меч, узняў яго над Рагнедай.

– Забіць мяне?! Сама памрэш, здрадніца – крычыць раз'юшаны князь.

Княжыч Ізяслаў, пачуўшы голас бацькі, імкліва ўбягае ў пакой маці і бачыць шалёнага ад гневу князя з узнятым мячом.

– Ты не адзін, бацька мой! Сын будзе сведкам! – ціха гаворыць княжыч.

Уладзімір уздыхнуў і апусціў меч. Паспешна апрануўся і, не прамовіўшы ні слова, сеў на каня і паехаў у Кіеў. Адвячоркам у Кіеве збіраецца баярская рада: трэба судзіць Рагнеду за замах на жыццё князя. Тым часам ахоўнікі прыводзяць Рагнеду ў пакой суда. Яе твар зноў скамянелы, як тады ў Полацку, толькі беднасць і агонь вачэй выдаюць хваляванне. Рагнеда ў пышным святочным княжацкім убранні, у дарагіх камянях і золаце. Яна апранула гэтую вопратку, каб напомніць Уладзіміру, што судзіць ён сваю жонку – вялікую княгіню Кіеўскую і Полацкую. Такой ганарыстай і прыгожай Рагнеду дворня яшчэ не бачыла. Уладзімір сядзіць на троне і не зводзіць з яе вачэй.

За што я суджу сваю любімую жонку, вялікую княгіню? – думае Уладзімір. Ваяводы і баяры сядзяць на лаўках уздоўж сцен, маўчаць. Яны ж ведаюць, як моцна кахае князь Рагнеду, колькі няшчасця прынесла гэта каханне людзям. Мітрапаліт больш за ўсё асцерагаецца, каб Уладзімір не сустрэўся паглядам з Рагнедай. Ад аднаго яе пагляду князь размякне. Ведае мітрапаліт, што ганарыстая жанчына не будзе прасіць літасці, а князь у любы момант можа ўскочыць з трона і кінуцца да Рагнеды. Тады стане непатрэбнай грэчаская царэўна Анна, а гэта пашкодзіць распаўсюджанню хрысціянства. Мітрапаліт разумее, што князь Рагнеду пакараць не зможа, і таму ідзе на хітрасць. Уздыхнуўшы, ён просіць:

– Даруй, вялікі князь цяжкі грэх сваёй жонцы. Аддай ёй ва ўдзел зямлю яе бацькі.

Баяры згодна ківаюць галовамі. А князь маўчыць, думае. Каханне і жаласць да Рагнеды сціскаюць сэрца. Ён разумее, што толькі ад рэўнасці яна схапілася за меч. Уладзіміру хочацца ўстаць і выгнаць усіх баяр за дзверы, падысці да Рагнеды, абняць яе і цалаваць-цалаваць скамянелы твар. Князь доўга вагаецца, гэта бачна ўсім.

– Няхай будзе так... – нарэшце гаворыць Уладзімір і моцна сціскае зубы, каб не выказаць тое, што на сэрцы.

Ад яго слоў Рагнеда выпрамляецца, у яе цямнее ў вачах. Жанчына горда глядзіць на Уладзіміра. Князь не вытрымлівае яе пагляду, нахіляе галаву і хапаецца за грудзі. Твар Рагнеды становіцца матава-белы, здаецца, вось-вось жанчына рухне на падлогу. З горда ўзнятай галавой яна выходзіць.

* * *

Рагнеда стаіць на ўзвале крэпасці. Ранішні туман яшчэ дзе-ндзе сцелецца па сенажаці. За сценамі крэпасці – цесныя вулачкі беднаты і рамеснікаў. У горадзе даўно пачаўся працоўны дзень. А тут, за валам і крапаснымі сценамі, што з чатырох бакоў прамавугольнікам акружаюць дзядзінец, яшчэ сонная цішыня. Узвышаецца царква і княжацкі палац. На сценах – вежы з байніцамі. Дзядзінец – цэнтральная частка горада Ізяслава – размешчаны на беразе ракі Свіслач, паміж двух яе прытокаў – Княгінькі і Чэрніцы. Яшчэ на двух узгорках бачны пасады горада. На адным – манастыр, на другім

гандлёвы пляц і будынкі купцоў. Ранішняя цішыня пануе над Ізяславам.

– Ці ўсё я зрабіла, што магла? – пакутліва думае Рагнеда кожную пагодлівую раніцу.

Князь Уладзімір усё ж не рашыўся адправіць Рагнеду ў Полацк, відаць, пабаяўся ўмацавання полацкіх зямель. Паводле яго загаду заснавалі новы горад і ў гонар сына назвалі Ізяславам. Заснавалі і манастыр. Месца для горада выбралі ўдалае, паміж лясоў, рэчак і балот. Цяжка прабірацца сюды ворагу. Незлічонае багацце Рагнеды, рашучасць і настойлівасць зрабілі сваю справу. Ваявода ўзвёў магутную крэпасць з валамі, вежамі, равамі і пад'ёмным мостам. Роўнай ёй не было ва ўсёй акрузе.

Самотная княгіня часта ўглядаецца ўдаль. За горад, дзе лес падступае да самай ракі. Потым, калі смутак развеецца, яна ідзе ў палац, да Ізяслава.

– Што, княгіня, так рана? – лагодна пытаецца сын.

– Ізяслаў, ты ўжо ўдзельны князь. Я твая маці і хачу даверыць табе свае мары-думкі. У мяне шмат каштоўнасцей і золата. Вазьмі іх і збяры вялікую дружыну, заваюй уладу ва ўсёй полацкай зямлі. Ты ж са слаўных Рагвалодавічаў. Далучы Тураўскае і Берасцейскае княствы, авалодай Менскам і Полацкам, ідзі па сцежках бацькоў і вярні ў крыжакоў выхад да мора Балтыйскага. Зробіш гэта – станеш вялікім князем полацкім. А з кіеўскім князем, з бацькам сваім, Уладзімірам, не ваюй. І зусім не таму, што ён твой бацька. Гэта я табе кажу як маці. Полацк і Кіеў павінны жыць у міры.

Сядзіць, задумаўшыся, Ізяслаў. Рагнеда кажа далей:

– Я ж пайду ў манастыр пад імем манашкі Анастасіі дапамагаць тваёй справе. Калі станеш вялікім князем, а я памру, пахавай мяне каля сцяны тутэйшага манастыра... Пакляніся, сыночак, што ўсё зробіш так.

Князь Ізяслаў становіцца на калені перад маці. Яна кладзе яму руку на галаву.

– Клянуся! – шэпча ўзрушаны Ізяслаў. У пакой даплываюць удары званоў.

**1** Якія гістарычныя факты з жыцця Рагнеды сталі асновай падання? Назаві.

**2** Складзі разгорнуты план падання, а затым паводле яго перадай змест.

**3** *Князёўна з трыма імёнамі* – так кажа пра нашу гераіню Кастусь Тарасаў. Два з іх знайдзі ў апавяданні. Трэцяе гучыць – Гарыслава. Як думаеш, чаму яе так называлі?

**4** Напішы працу на тэму: *Вобраз галоўнай гераіні – Рагнеды з апавядання Г. Ланеўскага.* Звярні ўвагу на абставіны жыцця, знешні выгляд, рысы характару, мары і подзвіг гераіні.



*Царква ў Заслаўі.*
*Заслаўе, даўней Ізяслаў. Першыя летапісныя звесткі пра паселішча паходзяць з 985- 988 гадоў. У другой палове X ст. жыла тут княгіня полацкая і адначасова вялікая княгіня кіеўская Рагнеда. Яна стала першай манашкай манастыра ў Ізяслаўі, першага на ўсходнебеларускіх землях . Прыняла імя Анастасіі. Памерла ў 1000 г.*

*Лідзія Кулажэнка*

# ХРЫСЦІЯНСТВА Ў БЕЛАРУСІ

## Хрысціянізацыя беларускіх зямель

Геаграфічнае становішча і культурна-палітычныя сувязі адкрылі хрысціянству доступ на нашы землі яшчэ да хрышчэння Русі (988) кіеўскім князем Уладзімірам. Частка купцоў і княжай дружыны маглі быць хрысціянамі яшчэ ў IX – першай палове X ст. Масавае ж распаўсюджанне хрысціянства пачалося на землях нашых продкаў – крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў у канцы X – пачатку

XI стагоддзя. Нашы продкі прынялі хрышчэнне ў форме ўсходнехрысціянскай (праваслаўнай) традыцыі, маючы сувязі з Візантыяй. Хрысціянства прымалі спачатку князі, вышэйшыя слаі грамадства і насельніцтва гарадоў, пазней – насельнікі сельскай мясцовасці і перыферыі княстваў.

Сярод полацкіх крывічоў адной з першых прыняла хрысціянства былая жонка вялікага князя кіеўскага Уладзіміра (?–1015) Рагнеда (†1000). Высланая ў Ізяслаўль (цяпер Заслаўе, непадалёк ад Мінска), яна прыняла манаства пад імем Анастасія і заснавала манастыр. Анастасія стала першай згаданай летапісамі манахіняй ва ўсходнеславянскім свеце. Яе старэйшы сын Ізяслаў (†1001), князь полацкі, шанаваў святароў і манахаў, вывучаў Свяшчэннае Пісанне. Верагодна, што ён разам з маці садзейнічаў заснаванню першай на беларускіх землях епархіі у Полацку.

Паводле ўскосных летапісных дадзеных, першы епіскап быў пастаўлены ў Полацк у 992 г. Полацкая епархія распаўсюджвала сваю духоўную ўладу на ўсходнюю і цэнтральную Беларусь з гарадамі Полацк, Віцебск, Мінск, Слуцк, Навагрудак, Орша. Пачалося стварэнне царкоўнай арганізацыі і кіраванне працэсамі хрысціянізацыі.

Каля 1005 г. заснавана епіскапская кафедра ў старажытным Тураве. Першым Тураўскім епіскапам быў Фама, улада якога распаўсюджвалася на вялікую тэрыторыю Паўднёвай і Заходняй Беларусі. Беларускія епархіі падначальваліся Кіеўскай мітраполіі, якая, у сваю чаргу, знаходзілася ў падпарадкаванні Канстанцінопальскага патрыярхата. Такім чынам, Полацк, Заслаўе і Тураў,



*Гродна. Царква святых Барыса і Глеба, вядомая як Каложская царква, надзвычайны помнік архітэктуры 80-х гадоў XII ст.*

*Благавешчанская царква ў Віцебску адбудаваная ў 90-х гадах XX ст. на падвалінах і фрагментах сцен XI-вечнага храма*



*Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку, узведзеная дойлідам Іаанам ў 1152–1161 гадах па заказе св. Ефрасінні*



якія размяшчаліся на поўначы, у цэнтры і на поўдні сучаснай Беларусі – трэба лічыць першымі і асноўнымі цэнтрамі хрысціянства ўжо на мяжы X–XI стст.

З першых стагоддзяў Царква аказвала значны ўплыў на розныя бакі жыцця грамадства. Князі надавалі вялікае значэнне царкоўнай епіскапскай уладзе як інтэгруючаму фактару ў дзяржаўна-палітычнай і ідэалагічнай сферах. Полацкі епіскап лічыўся старшым прадстаўніком усёй Полацкай зямлі. Кафедральныя гарады, храмы і манастыры станавіліся цэнтрамі не толькі царкоўнага, але і грамадска-палітычнага жыцця.

Працэс хрысціянізацыі (X–XIII стст.) суправаджаўся ўзнікненнем сеткі прыходскіх абшчын, узвядзеннем храмаў і манастыроў. Храмы і манастыры, цэнтры духоўнасці, станавіліся і культурна-асветнымі цэнтрамі, дзе назапашваліся веды, множылася пісьменнасць, кніжнасць, вялося летапісанне, узнікалі рознага віду мастацтвы. Найбольш старажытны мураваны храм на беларускіх землях – Сафійскі сабор у Полацку (захаваўся часткова, у перабудаваным выглядзе). Узведзены ў сярэдзіне XI ст. полацкім князем Усяславам, ён быў кафедральным храмам Полацкай епархіі. Сафійскі сабор з'яўляўся сімвалам адзінства Полацкай зямлі, буйным асветніцкім цэнтрам, пры ім існаваў архіў дзяржаўных актаў, багатая бібліятэка (10 рукапісаў з гэтай біліятэкі знаходзяцца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве). Да найбольш старадаўніх мураваных храмаў адносяцца таксама цэрквы ў Друцку (1001), Віцебску (XI ст.), у Мінскім замку (XI ст.) – усе яны не захаваліся.

Шырокага размаху дасягнула мураванае храмабудаванне ў XII ст. Гэта цэрквы ў Полацку, Тураве, Гродне, Ваўкавыску, Віцебску, Навагародку, Слуцку, Магілёве. Храмы ўпрыгожваліся фрэскамі, мазаікамі і іконамі. Да нашых дзён захаваліся: Спаса-Праабражэнскі манастырскі храм у Полацку, Барысаглебскі ў Гродне, Благавешчанскі ў Віцебску (адноўлены ў 1990-я гг.). У XIII ст. валынскі князь Уладзімір Васількавіч узвёў мураваныя храмы ў Бярэсці і Камянцы; каля 1265 г. заснаваны Лаўрышаўскі манастыр пад Навагрудкам (адноўлены ў 2007 г.).

Хрысціянства паспрыяла ўзнікненню храмавага дойлідства, жывапісу, разьбярства і ювелірнага мастацтва. Храмавая архітэктура спачатку была паўтарэннем візантыйскага стылю, а пазней на яго аснове ўзніклі самабытныя мясцовыя школы храмавай архітэктуры, а таксама рэгіянальныя школы іканапісу. У 1161 г. па заказе прападобнай Ефрасінні Полацкай мясцовы майстар Лазар Богша вырабіў уздзвізальны крыж з многімі хрысціянскімі святынямі. Крыж Ефрасінні Полацкай – вялікая святыня беларусаў і ўнікальны помнік ювелірнага мастацтва XII ст. Ён быў страчаны ў час Другой сусветнай вайны і ўзноўлены ў наш час майстрам Мікалаем Кузьмічом з Брэста.

Першай разнавіднасцю літаратуры на беларускіх землях было Святое Пісанне ў перакладзе на славянскую мову братоў Мяфодзія і Кірыла. У XI ст. у Тураве створана Евангелле (захаваліся 10 лістоў) – самы старажытны ўзор рукапіснай кнігі, які паходзіць з беларускіх земляў. Да XII–XIV стст. адносяцца Полацкія, Аршанскае і Лаўрышаўскае Евангеллі – рукапісныя помнікі.






*Помнік св. Елісею, заснавальніку Лаўрышаўскага манастыра ў пачатку XIII ст.*
*Лаўрышаўскае Евангелле з XIV ст.*

Хрысціянства прынесла на беларускія землі і такі від мастацтва як царкоўная музыка. Яна складвалася пачынаючы з XII ст. пад уплывам Візантыі, Балгарыі і Грэцыі, потым Германіі, Польшчы, Украіны і Расіі, але мела свой нацыянальны каларыт.

Першымі вядомымі нам святымі былі выхадцы з Полацкай і Тураўскіх земляў – гэта прападобная Ефрасіння, ігумення Полацкая, і святыцелі Кірыл і Лаўрэнцій Тураўскія, якія здзяйснялі свой подзвіг у XII ст.. Сучаснікамі іх былі святыцелі Полацкія Міна, Дзіянісій, прападобны Марцін, затворнік Тураўскі. У XIII ст. падзвізаўся прападобны Елісей Лаўрышаўскі, які паходзіў з роду князёў літоўскіх.

Да XII ст. адносіцца яўленне пад Пінскам Купяціцкай іконы Божае Маці, найбольш старажытнай цудатворнай іконы Беларусі.

У XIII–XIV стст. узмацніліся фактары, якія адмоўна паўплывалі як на грамадскае, так і на царкоўнае жыццё. У 1241 г. мангола-татарамі быў спалены Тураў, Полацк і іншыя землі перайшлі пад уладу Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), вялікія князі якога пераважна былі язычнікамі. Узмацнілася экспансія каталіцкіх ордэнаў на паўночным захадзе. У 1347 г. у Вільні былі пакараны смерцю за вызнанне хрысціянскай веры прыдворныя вялікага князя Альгерда – Антоній, Іаан і Яўстафій, пазней кананізаваныя Праваслаўнай царквой як хрысціяне-мучанікі.




*Памятная марка да 1000-годдзя хрышчэння Беларусі, адзначанага ў 1992 годзе*



*Буквар Спірыдона Собаля выдадзены ў 1634 годзе*

## Канфесійная сітуацыя на беларускіх землях у XIII – XIX стагоддзях

З сярэдзіны XIII ст., асабліва пасля хрышчэння ў каталіцтва вялікага князя Міндоўга, на беларускіх тэрыторыях распаўсюджваецца заходняя форма хрысціянства, якая істотна адрознівалася ад усходняй веравучэннем, богаслужэбнай і аскетычнай практыкай. Пазіцыі рымска-каталіцкага касцёла ўмацаваліся пры вялікім князі ВКЛ Ягайле, які ў 1386 г. прыняў каталіцтва і стаў каралём Польшчы. Ягайла здзейсніў хрышчэнне паводле каталіцкага абраду літоўцаў-язычнікаў і заснаваў Віленскае каталіцкае біскупства, якое ахоплівала літоўскія і большую частку беларускіх земляў. З канца XIV ст. пачала паступова складвацца сетка рымска-каталіцкіх прыходаў і кляштараў розных манаскіх ордэнаў.



*Касцёл св. Казіміра ва Уселюбе на Навагрудчыне з 1433 года*

Аднак асноўная маса насельніцтва Беларусі па-ранейшаму вызнавала праваслаўе. У пачатку XVI ст. былі яўлены Мінская (1500) і Жыровіцкая (1510–1520) іконы Божае Маці, якія захаваліся да нашага часу і з'яўляюцца глыбока шанаванымі святынямі беларускага народа.

Канфесійная сітуацыя ў Беларусі ўскладнілася ў пач. XVI ст. у сувязі з Рэфармацыяй – антыкаталіцкім рухам у Еўропе, падтрыманым часткай насельніцтва Беларусі. Некаторыя гараджане далучаліся да пратэстанцкага руху ў форме лютэранства, а некаторыя магнаты і шляхта, у тым ліку прадстаўнікі родаў Радзівілаў, Кішак, Сапегаў, Хадкевічаў, Тышкевічаў і інш., – да кальвінізму. У 1550-я гг. у кальвінскім духу рэфармаваны храмы ў Нясвіжы, Брэсце, Клецку, Мінску, Полацку. У выглядзе храмаў-крэпасцяў будаваліся кальвінскія зборы, пры абшчынах ствараліся шпіталі, школы, друкарні.

Пасля заключэння Люблінскай уніі 1569 г. і ўтварэння дзяржавы Рэч Паспалітая стварыліся ўмовы для контррэфармацыі, у выніку якой Каталіцкі касцёл не толькі вярнуў ранейшыя пазіцыі ў Беларусі, але і значна ўмацаваў іх. У 1569 г. на тэрыторыі ВКЛ з'явіліся прадстаўнікі каталіцкага ордэна езуітаў, якія разгарнулі шырокую дзейнасць па вынішчэнню рэфармацыі і акаталічванню праваслаўнага насельніцтва. Частка праваслаўнай знаці, якая раней далучылася да рэфармацыі, перайшла ў каталіцызм. У 1577 г. кароль Стэфан Баторый забараніў будаваць у Вільні некаталіцкія храмы і школы.



*Пінскі кляштар францысканцаў. Пінск быў магутным асяродкам латынізацыі Беларусі*

Праваслаўныя брацтвы і нешматлікія праваслаўныя роды (Алелькавічы, Агінскія, Валовічы, Хадкевічы, Астрожскія) рабілі спробы палепшыць становішча Праваслаўнай царквы.

Гэты працэс быў спынены падпісаннем Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г., у выніку якой Праваслаўная царква аказалася ў надзвычай цяжкім становішчы. Усе праваслаўныя епархіі былі падпарадкаваны ўніяцкай іерархіі. Храмы і манастыры перадаваліся ўніятам або каталікам, праваслаўнае духавенства і вернікі падвяргаліся масавым ганенням.

Унія сустрэла моцнае супраціўленне з боку духавенства і свецкіх людзей, пераважна гараджан, членаў брацтваў. У супрацьстаянні ўніяцка-каталіцкай экспансіі асаблівую ролю адыграў праваслаўны магнат, аўтарытэтны дзяржаўны дзеяч і асветнік князь Канстанцін Астрожскі (1526–1608). Ён адстойваў правы праваслаўных перад каралём, звяртаўся да папы Рымскага, на ўласныя сродкі разгарнуў шырокую асветніцкую дзейнасць (Астрожская акадэмія і друкарня). Крайняй формай пратэстаў супраць гвалтоўнага насаджэння уніі былі народныя паўстанні (Магілёў, Віцебск, Навагародак). Цэнтрам супрацьдзеяння з’яўляўся і Віленскі Свята-Духаў манастыр, брацтва і друкарня пры ім, а з 1633 года – Магілёўская праваслаўная кафедра, адзіная, што дзейнічала на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

У XVIII ст. падзвіжніцкае змаганне за захаванне праваслаўя ў Беларусі



*Фарны касцёл у Нясвіжы з канца XVI ст. пабудаваны ў стылі ранняга барока*

вёў Магілёўскі архіепіскап Георгій Каніскі. Аднак карэнныя змены ў становішчы Праваслаўнай царквы адбыліся толькі пасля далучэння беларускіх тэрыторый да Расійскай імперыі (1772–1795). Праваслаўныя атрымалі падтрымку з боку дзяржавы, пачалося ажыўленне царкоўнага жыцця, былі ўтвораны пяць епархіяльных цэнтраў – у Магілёве, Полацку, Вільні, Мінску і Гродне. З 1780 года пачаўся паступовы пераход уніятаў у праваслаўе. У 1839 г. на Полацкім царкоўным саборы прынята рашэнне аб канчатковым далучэнні ўніятаў да Праваслаўнай царквы.

Каталіцкі касцёл, згодна з указам імператрыцы Екацярыны II, кіраваўся Беларускай рымска-каталіцкай дыяцэзіяй з цэнтрам у Магілёве (1772). У XIX ст. двойчы, пасля паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гг., царскія ўлады праводзілі масавыя закрыцці каталіцкіх кляштараў з-за нелаяльнасці іх насельнікаў да дзяржавы. У 1866 г. існавалі Віленская і Магілёўская дыяцэзіі, дзейнічала Полацкая езуіцкая акадэмія.

## Хрысціянская царква ў ХХ стагоддзі – трагічныя выпрабаванні пасля рэвалюцыі, сённяшні стан

Трагічныя выпрабаванні выпалі на долю вернікаў-хрысціян Беларусі ў ХХ ст. Пасля дэкрэта аб аддзялення Царквы ад дзяржавы (1918) хрысціянскія цэрквы былі выключаны са сферы грамадскага жыцця. Храмы і манастыры былі аграблены, вялося планамернае закрыццё і знішчэнне святынь, пераследы духавенства і вернікаў. Закрываліся духоўныя навучальныя ўстановы. Новая сістэма адукацыі была падпарадкавана ідэалогіі атэізму. Многія тысячы свяшчэннаслужыцеляў і вернікаў беспадстаўна падвергліся рэпрэсіям, былі расстраляны або загінулі ў месцах зняволення. Да 1939 г. на тэрыторыі БССР (Усходняй Беларусі) не засталося ніводнага дзеючага храма (царквы або касцёла). Такім чынам, хрысціянскія цэрквы ў савецкай дзяржаве практычна аказаліся на нелегальным становішчы, а вернікі трапілі ў разрад грамадзян другога гатунку.

У Заходняй Беларусі, якая ў 1921 г. адышла пад уладу Польшчы, пражывала каля 1 млн. праваслаўных. Нягледзячы на жорсткі кантроль з боку польскіх уладаў, царкоўнае жыццё не перапынялася. На заходнебеларускіх тэрыторыях былі створаны Віленская, Гродзенская і Пінская праваслаўныя епархіі, дзейнічалі каля 500 прыходаў, пяць манастыроў, выкладаўся Закон Божы, выходзілі праваслаўныя выданні. Аднак сітуацыя пагоршылася ў 1930-я гады, узмацнілася дзяржаўная палітыка паланізацыі Праваслаўнай царквы, а ў 1938–1939 гг. польскія ўлады ініцыявалі кампанію па разбурэнню або перадачы католікам шэрагу праваслаўных храмаў.

Рыма-каталіцкі касцёл у Заходняй Беларусі знаходзіўся ў спрыяльных умовах і займаў прывілеяванае становішча. Польскі ўрад разглядаў яго як апору ў ажыццяўленні палітыкі паланізацыі і акаталічвання беларускага насельніцтва. Частка ксяндзоў беларускага паходжання, нягледзячы на пераслед уладаў, выступала супраць паланізацыі, адстойваючы нацыянальныя інтарэсы беларусаў-католікаў.

Сітуацыя змянілася з пачаткам Другой сусветнай вайны. У 1941–1945 гг. на ўсёй тэрыторыі Беларусі з дазволу акупацыйных улад многія храмы і манастыры, закрытыя ў атэістычныя часы, аднавілі сваю дзейнасць.

У пасляваенны час палітыка ўладаў на выцясненне рэлігіі з грамадскага жыцця і свядомасці людзей аднавілася. Вярнулася даваенная практыка закрыцця храмаў і капліц, жорсткага кантролю над святарствам і вернікамі, умяшальніцтва ў справы Царквы.

Аднак татальны дзяржаўны кантроль і масіраваная атэістычная прапаганда не змаглі выкараніць рэлігійных пачуццяў значнай часткі насельніцтва Беларусі. Таму пасля дэмакратызацыі палітычнай сістэмы, з узнікненнем умоў для паляпшэння адносін паміж Царквой і дзяржавай, пачалося адраджэнне хрысціянства ў Беларусі. У 1988 г. адбыліся ўрачыстасці па святкаванню 1000-годдзя хрышчэння Русі, што азначала пачатак аднаўлення царкоўнага жыцця.



*Мінск. Царква святых Пятра і Паўла з1612 года. Помнік архітэктуры ранняга барока*

Сёння, у адпаведнасці з укладам у фармаванне духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый беларускага народа, дамінуючае месца ў рэлігійным і грамадскім жыцці займае Беларуская Праваслаўная Царква. За апошнія дзесяцігоддзі ўзноўлены ўсе гістарычныя праваслаўныя епархіі, узведзены і адрамантаваны сотні новых храмаў, адроджана Мінская духоўная семінарыя, упершыню ў Беларусі адкрыта Мінская духоўная акадэмія. У 2012 г. у Беларусі дзейнічалі 11 праваслаўных епархій, каля 1500 прыходаў, 34 манастыры, 6 духоўных школ. Значна актывізавалася дзейнасць міран, аб'яднаных у сястрынствы і брацтвы.

Рымска-каталіцкі касцёл на тэрыторыі Беларусі мае 479 прыходаў, аб'яднаных у чатыры дыяцэзіі. Акрамя таго, дзейнічаюць 11 рымска-каталіцкіх місій і 9 манаскіх абшчын.

Гістарычна традыцыйным з'яўляецца лютэранства, прадстаўленае 27 абшчынамі.

Пратэстанцкія рэлігійныя арганізацыі прадстаўлены 1025 абшчынамі,

найбольш буйныя з іх – хрысціяне веры евангельскай (пяцідзесятнікі) і евангельскія хрысціяне баптысты.

Паводле Закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганазацыях» (1992), веравызнанні роўныя перад законам. Хрысціянскія канфесіі Беларусі паслядоўна падтрымліваюць традыцыі дыялогу, умацавання міжканфесійнага міру і згоды.

1 Назавіце першыя асноўныя цэнтры хрысціянства ў Беларусі.

2 Хто з беларускіх святых паўплываў на паспяховае і мірнае распаўсюджанне хрысціянскай веры?

3 Як прыняцце хрысціянства паўплывала на беларускую культуру?

4 Якія, на ваш погляд, прычыны ўскладнення міжканфесійных адносін у XVI–XVII стст.?

5 У чым праяўляўся трагізм становішча хрысціян Беларусі пасля рэвалюцыйных падзей пач. XX ст.

6 Назавіце асноўныя хрысціянскія канфесіі ў сучаснай Беларусі.



*Слонім. Касцёл св. Андрэя*

## Вялікае Княства Літоўскае – шляхі ўваходжання беларускіх зямель у склад «Літвы»


*Вежа Гедыміна ў Вільні*

Працэс стварэння адной з самых буйных дзяржаў Еўропы ў эпоху сярэдневякоўя – ВКЛ пачаўся ў першай палове XIII ст. і закончыўся недзе ў 60-я гады XIV ст. Ядром дзяржавы сталі землі Навагародскага княства разам з суседнімі літоўскімі. Шляхі ўваходжання іншых беларускіх зямель у склад гэтай дзяржавы былі розныя. Гэта дыпламатычныя пагадненні, шлюбныя сувязі, захопы. З упэўненасцю можна гаварыць аб дабравольным уваходжанні ў склад Вялікага Княства Літоўскага найбольш буйных беларускіх зямель – Полацкай і Віцебскай.

Страчваючы ў выніку аб'яднання ў пэўнай частцы свой суверэнітэт, беларускія землі тым не менш атрымалі права і на далейшае самаразвіццё і самасцвярджэнне.

Пасля далучэння да ВКЛ зямель размешчаных на ўсход ад Менска, якія мелі гістарычную назву «руськія», новая дзяржава атрымала назву – Вялікае Княства Літоўскае і Рускае.

У XIII ст., у часы князя Міндоўга, да княства была далучана Аўкштота – усходняя і заходняя часткі цяперашняй Літвы, а пасля і Жмудзь. Пасля гэтага да назвы дзяржавы дададзена слова «Жамойцкае». Балцкія плямёны аўкштота і жмудзь з'яўляюцца продкамі насельніцтва сучаснай Літвы, цяперашніх літоўцаў, ці, як яны сябе называюць – «летувісаў».

У старажытнасці ж «літоўцамі» і «літвінамі» называлі насельніцтва цэнтральнай і заходняй частак Беларусі, «русінамі», «русічамі» (у адрозненне ад «маскалёў» – жыхароў суседняй дзяржавы) звалі насельніцтва ўсходу Беларусі.





*Навагрудак. Руіны замка на Замкавай гары. Замак-крэпасць, рэзідэнцыя вялікіх князёў літоўскіх, быў узведзены ў XIII ст. Князь Міндоўг прыняў тут званне караля ад папы рымскага Інакенція IV. Варта ведаць, што Міндоўг быў ахрышчаны ў праваслаўным абрадзе (1246 г.), каталіцтва прыняў у 1251, у 1261 г. вярнуўся да паганства*

*Навагрудак. Фарны касцёл*

Першай сталіцай ВКЛ быў Новагародак (Навагрудак), які да сярэдзіны XIII ст. вырас у буйны эканамічны і культурны цэнтр так званай Чорнай Русі. У 1323 г. вялікі князь Гедымін перанёс сталіцу ў Вільню.

Дзяржаўнай мовай у ВКЛ была мова старабеларуская. На ёй гаварыў велікакняскі двор, гэта была мова судоў, дзяржаўных актаў, у адным з якіх – Статуце ВКЛ 1588 г. замацоўваўся яе дзяржаўны статус.

*паводле В. Ф. Голубева, У. П. Крука, П. А. Лойкі*

## Першая сталіца летапіснай Літвы

Пасля раздрабнення, а затым і аслаблення Полацкага княства, на захадзе Беларусі, паміж Менскам і Наваградкам – гэта значыць на землях Навагародскага княства пачаў фармавацца новы палітычны цэнтр – старажытная Літва, а затым моцная дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае.

Сталіцай Вялікага Княства Літоўскага князь Міндоўг зрабіў Новагародак, цяпер Навагрудак. Верагодная дата заснавання паселішча гэта палова XI стагоддзя. Тады на Замкавай гары паўстала крэпасць. У XII ст. вядомыя звесткі пра першую царкву ў горадзе.

Сярэдзіна XIII ст. гэта часы княжання Міндоўга і будаўніцтва мураванага замка. На гэтым замку князь прыняў хрысціянства ў каталіцкім абрадзе. На памяць панавання Міндоўга суседнюю з замкам гару назвалі яго імем.

У XIV стагоддзі паўтараліся нападзенні крыжакоў, якія двойчы палілі горад, але ніколі не ўдалося ім здабыць замак. Навагрудскі замак разбурылі шведы ў 1706 годзе. Сёння на гэтым месцы ўбачым руіны дзвюх вежаў, зямны вал, фундаменты замкавай царквы.

У сярэднявеччы гербам Навагрудка была Пагоня, малюнак конніка з мячом, які гатовы абараняць сваю зямлю ад ворага.

XIV стагоддзе падаравала гораду фарны касцёл, у якім павянчаўся (чацвёрты раз) кароль Ягайла, а ў самым канцы XVIII ст. ахрышчаны быў вядомы паэт – Адам Міцкевіч.

Пасля перанясення князем Гедымінам сталіцы ВКЛ у Вільню, Навагрудак стаў цэнтральным горадам ваяводства, дзе вяліся праз доўгі час абрады сойму ВКЛ. Ад XVII ст. пачынаецца заняпад першай сталіцы літоўска-беларускай дзяржавы.

Цяпер Навагрудак больш вядомы як горад Адама Міцкевіча, які ў сваіх творах апяваў летапісную Літву. Тут знаходзіцца дом-музей паэта, яго помнік адкрыты ў 1992 годзе, а побач Замкавай гары – Курган Бессмяротнасці ў гонар Адама Міцкевіча. Мястэчка налічвае дваццаць дзевяць тысяч жыхароў.

*апрацавала Вольга Сянкевіч*

*Уладзімір Караткевіч*

## Літва. Белая Русь

(«Зямля пад белымі крыламі», урывак)

Яднанне ўласна літоўскіх земляў (Жэмайціі і Аўкштайціі) з землямі беларускімі стала гістарычнай неабходнасцю. Рускія княствы былі захоплены татарамі, якія былі страшнай пагрозай для княстваў паўночна-заходняй Русі. З поўначы і Беларусі, і Літве пагражаў ордэн крыжакоў.

Без яднання было не жыць. Без яднання заставалася толькі адно: знікнуць, згінуць, не пакінуўшы нават імя на твары зямным.

Дальнабачлівыя людзі з Беларусі, якія прагнулі спакою і парадку для пашматаванай, абяскроўленай роднай зямлі, не памыліліся. Нічога новага літоўцы не ўнеслі, акрамя жыццёва патрэбнай моцнай вярхоўнай улады, нічога не змянілі. Наадварот, праводзілі палітыку цярпімасці, асядалі на новай зямлі, жаніліся на славянках, прымалі хрысціянства. Ужо ў другім-трэцім пакаленні старабеларуская мова стала іхняй мовай, мовай суда, мовай дзяржаўных актаў.

Яны, нешматлікія, растварыліся ў славянскім моры ва ўсіх мясцінах, куды прыйшлі. І толькі на землях, адкуль яны былі родам (у Жэмайціі і Аўкштайціі) засталася (і то пераважна сярод сялян, мяшчан і часткі дробнай шляхты) жывая літоўская мова.

На стварэнні Вялікага Княства Літоўскага беларусы нічога не страцілі, хутчэй прыдбалі. Прынамсі, на першы час, да уніі. Пазбавіліся жудаснага татарскага і крыжацкага рабства, якое сушыла самы дух, зберагл кнігу, навуку, родную мову ў судзе і дзяржаўных установах, законы на роднай мове і, прытым, больш дасканалыя, чым у многіх суседзяў.

Стварыўся баявы саюз, федэрацыя розных народаў.

У гэтай федэрацыі пачалі складвацца ў XIII ст. асобная беларуская мова і сам беларускі народ.

1 Вызнач шляхі ўваходжання беларускіх зямель у склад Вялікага Княства Літоўскага.

2 Як называлі беларускія землі на захад ад Менска, пачаўшы ад сярэдніх вякоў да паловы XIX стагоддзя? Як звалі тады жыхароў усходняй часткі Беларусі?

3 Які быў статус старабеларускай мовы ў ВКЛ?

4 Прафесар Усевалад Ігнатоўскі ў сваёй кніжцы «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» карыстаецца назвай «Літоўска-Беларускае гаспадарства», у эміграцыйных выданнях выступае «Вялікае княства Літоўска-Беларускае». Чаму, на тваю думку, аўтары карыстаюцца рознымі назвамі на абазначэнне ВКЛ? Якое вызначэнне найбольш раскрывае сутнасць паняцця?

**5** Адшукай у тэксце Караткевіча сказы, у якіх гаворыцца пра значэнне з’яднання літоўскіх зямель з землямі беларускімі. Як аўтар ацэньвае гэты факт? Прывядзі аргументы.

❖ У 1569 г. быў зацверджаны ў Любліне міжнародна-прававы акт аб’яднання ВКЛ з Польшчай у федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую. Суверэнітэт ВКЛ быў умацаваны статутам з 1588 г. На чале дзяржавы знаходзіўся польскі кароль. Кожная з дзяржаў мела сваю дзяржаўную мову ВКЛ – беларускую, Польшча – лацінскую. Унія замацавала іх палітычнае адзінства, узмацніла працэсы іх эканамічнага і культурнага збліжэння. Пасля Люблінскай уніі тэрыторыя Княства значна звузілася. Да Польшчы, міма пратэсту паслоў з Літвы і Беларусі, былі далучаны: Падляшша, Валынь, Падолле і Кіеўшчына. Фактычна унія існавала да падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г.

*паводле Энцыклапедыі гісторыі Беларусі*

*Усевалад Ігнатоўскі*

**Стан Беларусі пасьля вуніі з Польшчай**

(«Кароткі нарыс гісторыі Беларусі», урывак)

Тэкст У. М. Ігнатоўскага друкуецца па выданні з 1926 г.

[...] Пасьля рэлігійнай вуніі 1596 году каталіцтва на Беларусі было абвешчана дзяржаўнай верай, як у Польшчы. Каталіцтва давала права для заняцьця вышэйшых урадавых пасад у Літве і Беларусі. Рэформацыйны рух сярод паноў зьнік. Яго зьмяніла каталіцтва, каторае было для беларускай шляхты тым шляхам, каторы правадзіў да вышэйшых пасад і да злучэньня з польскаю шляхтаю. Калі адбылася царкоўная вунія, то ўсім стала ясна, што яна мела не рэлігійны, а палітычны кірунак, што яна таксама была шляхам ня толькі для пашырэньня каталіцтва, але і польскага ўплыву.

[...] Разам з палітычным і рэлігійным уплывам польскасьці, а таксама і асобна ад яго ішоў уплыў і культурна-нацыянальны. Беларуская шляхта, атрымаўшы палітычныя правы і веру Польшчы, пачала пераймаць польскі лад жыцьця. Польскія звычаі і мова сталі яе ідэалам. Езуіты дзеля рэлігійных мэт закладалі польскія школы і друкавалі кнігі ў польскай мове. Пашыралася польская адукацыя і польская кніга [...]

Культурны і рэлігійны ўплыў пайшоў толькі на вышэйшыя грамадзянскія клясы. Ніжэйшая кляса атрымала ад Польшчы прыгон, астаўшыся пры сваёй беларускай мове і нацыянальнасці [...]

• рэлігійная унія (1596 г.) – у Берасці быў зацверджаны акт пра арганізацыйнае

аб’яднанне каталіцкай і праваслаўнай цэркваў на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Уніяцкая (грэка-каталіцкая) царква ахапіла сваёй дзейнасцю шырокія масы насельніства. У 1839 г. была ліквідавана Полацкім царкоўным саборам.

• прыгон – дармовая прымусовая праца сялян на памешчыка
• памешчык – землеўладальнік-дваранін

1 Як прафесар У. М. Ігнатоўскі ставіцца да рэлігійнай уніі? Як яна паўплывала на стан беларускай мовы і нацыянальнасць насельніцтва?

2 Што, паводле аўтара, было прычынай асіміляцыі вышэйшых слаёў грамадства Беларусі з усім, што польскае?

3 Як думаеш, чаму ніжэйшыя грамадскія класы не паддаваліся польскім уплывам?

4 Карыстаючыся «Энцыклапедыяй гісторыі Беларусі», напішы кароткую біяграфічную даведку пра Усевалада Ігнатоўскага.

## Герб Вялікага Княства Літоўскага

Герб «Пагоня» ў летапісных крыніцах упершыню ўпамінаецца ў канцы XIII ст. у Іпацьеўскім летапісе. За дзяржаўны герб Вялікага Княства Літоўскага «Пагоня», выява сярэбранага колеру вершніка на чырвонага колеру шчыце, была прынята ў 1384 годзе.

Малюнак конніка з мячом азначаў воіна, які гатовы абараняць сваю радзіму ад ворага. Трэба заўважыць, што тэрмінам «пагоня» ці «пагоняй» ад беларускага слова «гнаць, праганяць» звалася і сама ваенная павіннасць па абароне дзяржавы, «апалчэнне». Беларусы складалі большасць насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім, таму не дзіўна, што менавіта гэтым беларускім словам і назвалі ваенную павіннасць па абароне дзяржавы. Пацверджвае гэта і тэкст граматы вялікага князя літоўскага і караля польскага Ягайлы ад 20 лютага 1387 г., дзе гаворыцца, што для праследавання ворага, «якое па-народнаму завецца пагоняй, абавязаны адпраўляцца не толькі рыцары, але і кожны мужчына, якога б ён ні быў паходжання ці стану, толькі б быў здольны насіць зброю». Верагодна, што і сам герб выкарыстоўваўся спачатку толькі як ваенны.

Збройны коннік стаў сімвалам усяго народа ў яго барацьбе з крыжакамі. Існуе меркаванне, што выява вершніка з мячом, звернутая ў левы бок, ёсць сімвал супраціўлення надыходзячай з Захаду пагрозе. У Грунвальдскай бітве 1410 г., калі былі ўшчэнт разбіты крыжакі, «Пагоня» была на 30 з усіх 40 баявых харугваў войска Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта гэтыя 30 харугваў былі вылучаны з беларускіх зямель. Польскі гісторык XV ст. Ян Длугаш адзначаў, што «гэтыя харугвы былі ўсе амаль аднолькавыя, таму што



*Герб «Пагоня» на Вострай браме ў Вільні*

амаль кожная з іх мела на ім воіна з мечам у панцыру на белым, рэдка чорным, ці гнедым кані ў чырвоным полі».

Адлюстраванне «Пагоні» як адной з асноўных эмблем беларускай геральдыкі ў XVI–XIX стагоддзях было на ваенных сцягах і гербах многіх беларускіх гарадоў. Яшчэ больш распаўсюджаным стаў герб «Пагоня» на Беларусі пасля яе далучэння да Расіі, калі ён перастаў быць толькі ваенным гербам. Новыя губернскія, павятовыя і гарадскія гербы зацвярджваліся з улікам гістарычных асаблівасцей розных мясцін і з захаваннем геральдычных традыцый Вялікага Княства Літоўскага. Для геральдыкі княства былі характэрнымі два колеры – чырвоны і белы (сярэбраны). Чырвоны колер азначаў смеласць, адвагу, пралітую за Айчыну кроў; белы – сумленнасць, чысціню, нявіннасць.

Гісторыя старадаўняга герба «Пагоня» – наша спадчына, памяць аб гераічным мінулым Бацькаўшчыны.

*паводле В. Ф. Голубева, У. П. Крука, П. А. Лойкі*

• эмблема – умоўнае або сімвалічнае выражэнне якога-небудзь паняцця, ідэі

• геральдыка – дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая займаецца вывучэннем гербаў

## Беларускія гістарычныя нацыянальныя сімвалы



*Бел-чырвона-белы сцяг*

Пагоня – адзін з найбольш старажытных дзяржаўных гербаў у Еўропе і свеце. Быў сімвалам дзяржавы да канца XVIII ст., часу яе гвалтоўнага ўключэння ў склад Расійскай імперыі.

Ад старажытных часоў вядомыя характэрныя колеры беларусаў – белы і чырвоны. Гэта колеры і герба і гістарычнага нацыянальнага сцяга. Сцягі з белымі і чырвонымі паласамі вядомыя на нашай зямлі з пачатку XVI ст., калі іх выявы былі зафіксаваныя на алейным палатне «Бітва пад Воршай 1514 г.» невядомага мастака – сведкі падзеі. І пазней іх выявы неаднойчы фігуруюць у розных выяўленчых матэрыялах.

Абодва гістарычныя сімвалы ўжываліся і пасля XVIII ст. як адзнакі незалежнасці і змагання, падчас паўстанняў. Выкарыстоўваліся яны і нашаніўскім адраджэнскім рухам. Беларуская Народная Рэспубліка зрабіла Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг дзяржаўнымі. А ў 1991–1995 гадах яны былі дзяржаўнымі гербам і сцягам Рэспублікі Беларусь.

*паводле Я. Куліка, А. Мірановіча*

1 Чаму, ад якога слова герб Вялікага Княства Літоўскага атрымаў назву «Пагоня»?

2 Калі, у які гістарычны перыяд узнік гістарычны герб беларусаў? Што ён прадстаўляе?

3 Чым у Грунвальдскай бітве вылучаліся сярод войск ВКЛ харугвы з беларускіх зямель? Што піша пра іх польскі гісторык?

4 Разгадай значэнне колераў, белага і чырвонага, характэрных для нацыянальнай гістарычнай беларускай сімволікі?

5 Калі паявіліся бел-чырвона-белыя сцягі? Які матэрыял сведчыць пра іх існаванне ўжо некалькі стагоддзяў назад?

6 «Пагоняй» і бел-чырвона-белым сцягам, як нацыянальнымі сімваламі карыстаюцца беларуская эміграцыя, беларуская апазіцыя. Якія сімвалы ўшаноўвае ад 1995 года Рэспубліка Беларусь?

## Горад на Нямізе

З утварэннем у 1919 годзе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі сталіцай Беларусі становіцца Менск, пераназваны бальшавікамі ў Мінск. Гэта і сённяшняя сталіца Рэспублікі Беларусь.

Першыя ўспаміны пра Мінск датуюцца на 1067 год, у сувязі з бітвой на рацэ Нямізе. Тады горад прыналежаў Полацкаму княству. Варта ведаць, што старажытны Менск згадваўся ў летапісах на восемдзесят гадоў раней Масквы. Тады, у XI ст. на беразе ракі Свіслач, у якую ўпадала балотністая Няміга, быў узведзены абарончы замак. На працягу наступных стагоддзяў вакол замчышча пасяліліся рамеснікі, гандляры, паўстаў так званы Ніжні рынак, а цэнтральнай вуліцай была Няміга, на вялікі жаль знесена ў савецкі час.

У сярэднявечным Менску вызначалася некалькі раёнаў горада: Замчышча, Стары рынак, Верхні рынак, Троіцкае і Ракаўскае прадмесці. Яшчэ ў XVI ст.

*Мінск. Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Помнік ахвярам Афганскай вайны на Востраве слёз (Траецкае прадмесце). Унізе – ратуша*











*Мінск. Палац Рэспублікі. Унізе Праспект Незалежнасці*

горад быў драўляны, таму замак часта гарэў, але яго адбудоўвалі. Замак – гэта галоўнае грамадскае месца горада. У XVI ст. стары Менск гарэў тры разы. Новыя будоўлі часцей за ўсё былі з каменя і цэглы. Пасля Люблінскай уніі (1569) горад становіцца цэнтрам вялікага Менскага ваяводства. Гэта спрыяла яго развіццю. Да канца XVII ст. увесь Верхні горад быў прыгожа забудаваны. Тут на ўзгорку была манументальная царква, гарадская ратуша, касцёлы і будынкі двух кляштараў.

У гады расійскай імперыі, асабліва пасля паўстанняў XIX ст., царскія ўлады пачалі знішчаць сярэдневяковыя ўтульныя пабудовы, якімі ганарыўся Менск, між іншым ратушу – сімвал былой незалежнасці горада.

Сапраўдны – архітэктурны і тапанімічны – генацыд (палітыка знішчэння) у адносінах да старога Менска наступіў у савецкі час. Камуністычныя ўлады пазбавілі мінчукоў цэлы пласт гістарычнай памяці.

Гісторыю горада, так як і ўсёй беларускай краіны нахальна рвалі: рэвалюцыя, саветы, камсамол, пра што сведчаць нават сённяшнія, чужыя назвы вуліц і завулкаў, напрыклад: Камуністычная, Савецкая, Маркса, Кірава.

Мінск, агульна, гэта ўжо новы горад, помнік сацрэалістычнай архітэктуры – доказам гэтага стылю ёсць галоўная вуліца Мінска – Праспект Незалежнасці (раней Францыска Скарыны), будынкі музеяў і дзяржаўных устаноў. Сучасная архітэктура горада – гэта Чыгуначны вакзал, які захапляе найбольш патрабавальных ці Нацыянальная бібліятэка. Бясцэннымі ў сталіцы Беларусі з'яўляюцца: частка аднаўленага Старога горада – Траецкае прадмесце і капліца на Востраве слёз у гонар салдат загінуўшых на афганскай вайне, Верхні горад, сабор Святога Духа і Чырвоны касцёл.

Мінск – цяпер галоўны горад дзяржавы, месцазнаходжанне ўрада і ўрадавых устаноў, таксама навуковы, культурны і прамысловы цэнтр краіны. Ён самы прыгожы, самы багаты горад Беларусі, уражвае чыстатой і дбайнасцю пра наваколле. У ім пражывае пад два мільёны жыхароў.

*апрацавала Вольга Сянкевіч на аснове артыкула С. Асіпоўскага*

1 *Мінулае і сённяшні дзень горада на Нямізе* – складзі пісьмовую працу на гэтую тэму. Выкарыстай даступныя табе інфармацыі пра сталіцу Беларусі.

## Кнігадрукаванне на беларускіх землях у XVI – XVII стагоддзях

Найбольш значнай з'явай духоўнай культуры Беларусі першай паловы XVI ст. стала ўзнікненне беларускага кнігадрукавання, першага сярод усходніх славян. Заснавальнікам беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання стаў вучоны і пісьменнік, доктар філасофіі і медыцыны з горада Полацка Францыск Скарына. Кнігі Скарыны вызначаліся гуманістычнай і асветніцкай скіраванасцю.

Скарынінскія выданні паслужылі далейшаму развіццю беларускай культуры, паставілі яе ўпоравень з культурай вядучых еўрапейскіх краін.

З XVI ст. пачынаецца новы этап у развіцці беларускай культуры. Ён быў звязаны з завяршэннем працэсу фарміравання беларускай народнасці і абапіраўся на значныя зрухі ў сацыяльна-эканамічным і палітычным развіцці грамадства, якія былі абумоўлены распаўсюджваннем ідэй адраджэння і рэфармацыі.

Менавіта на XVI–XVII стст. прыпадае нараджэнне і распаўсюджанне беларускага кнігадрукавання, першага сярод усходняга славянства. Знакаміты дзеяч усходнеславянскага Адраджэння, Ф. Скарына з Полацка выдаў у 1517–1519



*Гравюра з Другой кнігі Царстваў з пражскай «Бібліі» Францыска Скарыны, 1518 год*



Kronika.
tho iesth/
Historya Swiata
ná sześć wiekow/ á czterzy Monárchie / rozdzielona z rozmáitych Historykow/ ták w swiętym piśmie Krześcijáńskim żydowskim/ iáko y Pogáńskim/ wybieráná y ná Polski iezyk wypisána dostáthecznicy niż pierwey/ s przydánim wiele rzeczy nowych: Od początku Swiátá/ áż do tego roku/ ktory sie pisze 1564. s Figurámi ochędożnymi y włásnymi.

*Хроніка ўсяго свету М. Бельскага, 1564. Тытульны ліст*

гадах у Празе першыя кнігі Бібліі, перакладзеныя ім на царкоўнаславянскую мову беларускай рэдакцыі: «рускімі словамі, а словенскім языком». Францыскам Скарынам была заснавана і першая друкарня на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага – у пачатку 1520-х гг. у Вільні.

Першая на сучаснай тэрыторыі Беларусі друкарня дзейнічала ў 1550–1570-х гадах у Берасці пад апекай канцлера Вялікага Княства Літоўскага, віленскага ваяводы і старасты берасцейскага Мікалая Радзівіла Чорнага. Гэтая друкарня выпусціла больш за 40 выданняў на польскай і лацінскай мовах.

Першая на тэрыторыі Беларусі друкарня, якая карысталася кірылаўскім шрыфтам, была заснавана ў 1560-х гг. у горадзе Нясвіжы старастам Мацеем Кавячынскім і кальвінісцкім прапаведнікам Лаўрэнціем Крышкоўскім. Ідэйным яе кіраўніком быў Сымон Будны. Тут у 1562 г. была выдадзена пер-




Мамонічы, Вільня 1593, герб з «Псалтыра»




*Спірыдон Собаль, беларускі друкар, заснавальнік друкарні ў Куцейне каля Оршы, выдавец м. інш. «Буквара». Памёр каля 1645 года*

шая на тэрыторыі Беларусі друкаваная на беларускай мове кніга – «Катэхізіс» С. Буднага.

Друкарні ў XVI–XVII стст. існавалі і ў іншых гарадах і мястэчках Беларусі: Заблудаве (1568–1570 гг.), Лоску (1572–1592 гг.), Цяпіне (каля 1580 г.), Любчы (XVII ст.), Магілёве і інш.

*паводле В. Ф. Голубева*

1 Выступі перад аднагодкамі з дакладам на тэму: *Заснаванне і развіццё кнігадрукавання на Беларусі ў XVI–XVII стст.* У дакладзе выкарыстай цытаты з дадзенага вышэй тэксту і іншыя даведнікі. Складзі план выступлення.

*Аляксандр Вярбіцкі*

## Заблудаўская друкарня

Адной з найбольш яркіх постацей у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага быў Рыгор Хадкевіч. Нарадзіўся ён каля 1520 года, а ў 1556 годзе быў назначаны гетманам вялікім літоўскім. Быў ён не толькі выдатным вайскоўцам, быў таксама дзяржаўным дзеячам, патрыётам сваёй дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, аб'яднанню якога з Каронай ён адчайна супраціўляўся; пасля падпісання акту Люблінскай уніі ў 1569 годзе ён адмовіўся ад усіх дзяржаўных пасад. Быў таксама гарачым прыхільнікам афіцыйнага ўжывання тадышняй беларускай мовы, мовы большасці насельніцтва ягонай краіны.

У 1568 годзе ў сваіх уладаннях, якія ахоплівалі Гарадок, Супрасль і Заблудаў, у апошняй мясцовасці Рыгор Хадкевіч закладае друкарню пры манастыры. У Заблудаў трапляюць Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец, якія раней займаліся друкарскай справай у Маскве, але іхняя праца не знайшла прызнання тамашніх царкоўнікаў, умовы працы ў Маскве станавіліся невыноснымі і яны былі вымушаны адтуль з'ехаць. Трапілі яны ў 1566 годзе ў Слуцк, а адтуль у Заблудаў, да Рыгора Хадкевіча, які добра разумеў важнасць новай асветнай тэхнікі – кнігадрукавання. Да заснавання друкарні падштурхоўвала Хадкевіча і ягоная праваслаўная рэлігійнасць – шляхам друкавання праваслаўных кніжак на зразумелай насельніцтву старабеларускай мове ён хацеў супрацьставіцца распаўсюджванню кальвінізму, якім займалася заснаваная Мікалаем Радзівілам Чорным у 1553 годзе друкарня ў Берасці, якая выпускала не толькі рэлігійную, але і свецкую літаратуру, у тым ліку польскі пераклад поўнага зводу Бібліі. У Заблудаве духавен-



*Помнік першадрукарам Пятру Мсціслаўцу і Івану Фёдараву пры Успенскай царкве ў Заблудаве. Беларускі друкар Пётр Мсціславец заснаваў у Вільні ў 1569 годзе друкарню з кірыліцкім шрыфтам. У 1582 годзе друкарня стала ўласнасцю братоў Кузьмы і Лукаша Мамонічаў, а ў 1625 – уніяцкіх манахаў-базыльянаў. У друкарні Мамонічаў выдадзена звыш 80 кніг, у тым ліку больш за 50 на старабеларускай мове*



И трудившися многогрѣш-
ный и непотребный рабъ,
наимя. Иванъ Федоровичъ
москвитинъ. молю убо
всякого благочестиваго правосла-
внаго христіанина, прочитающихъ
или преписующихъ книгу сію ѿ па-
лтырь. аще гдѣ что погрѣшено
будетъ моего ради небреженія.
Бога ради исправляйте, благвите
а не кленѣте. поне же не писа духъ
святый ни ангелъ, но рука грѣшна
и бренна. да и сами тоже благвеніе
обрящете ѿ вседержащаго
Бога, нынѣ и присно и въ вѣ-
ки вѣкомъ
аминь
+

Старонка з «Евангелля вучыцельнага», надрукаванага ў 1569 годзе ў Заблудаве






Рыгор Хадкевіч.
Унізе Прадмова Масквіціна

ства крыху змяніла планы Хадкевіча, супраціўляючыся ўжыванню простай мовы і патрабуючы карыстацца царкоўнаславянскай. Аднак праект друкарні спрацаваў і ўжо ў 1569 годзе Фёдараў і Мсціславец выпусцілі ў Заблудаве „Евангелле вучыцельнае”. Кніга ўяўляла сабою зборнік гутарак і павучанняў з тлумачэннем евангельскіх тэкстаў. У кнізе было таксама змешчанае і „Слова на Ушэсце” Кірылы Тураўскага, беларускага царкоўнага дзеяча з XII стагоддзя.

Незадавальненне выклікае і дзейнасць Рыгора Хадкевіча ў Заблудаве, але гэтым разам з боку каталіцкага духавенства, і ён, зняможаны хваробамі, адхіляецца ад свайго праекта ды неўзабаве, у 1572 годзе, памірае. Яшчэ пры



*Астрожская Біблія са збораў Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску*

ягоным жыцці пакінуў Заблудаў Пётр Мсціславец, параязджаючы ў Вільню і ўладкоўваючыся на працу ў друкарні братоў Мамонічаў. Іван Фёдараў сам друкуе ў Заблудаве ў 1570 годзе „Псалтыр з Часасловам” і таксама пакідае гэтую мясцовасць, параязджаючы ў Астрог пад апеку князя Канстанціна Астрожскага. Псалтыр умяшчае ў сабе старазапаветныя псалмы, часаслоў жа гэта богаслужэбная кніга прызначаная праваслаўным царкоўным чытальнікам і пеўчым, у якой змешчаны малітвы, песнапенні і іншыя рэлігійныя тэксты, апрача літургічных.

Друкарня ў Заблудаве была першай на цяперашняй Беласточчыне. Для параўнання варта дадаць, што першая друкарня ў Беластоку ўзнікла пад прускім панаваннем каля 1800 года, у Гародні першая друкарня пачала працу ў 1776 годзе, а ў Варшаве – у 1578 годзе. Першай у межах гістарычнага Падляшша была арыянская друкарня ў Вэнграве, заснаваная ў 1590 годзе.

1 *Яркай постаццю ў гісторыі ВКЛ і патрыётам сваёй зямлі* называе аўтар гетмана Рыгора Хадкевіча. Дакажы чаму.

2 Рыгор Хадкевіч, як прыхільнік самастойнасці ВКЛ, бачыў патрэбу выкарыстання старабеларускай мовы ў рэлігійным жыцці. Чаму?

3 Што магло некарысна паўплываць на працу заблудаўскай друкарні? Як ставілася духавенства да планаў гетмана Рыгора Хадкевіча?

## Квітнеюць рамонкі на залатых паясах

У XVIII стагоддзі шырокія, па-мастацку аздобленыя шаўковыя паясы былі неабходнай часткай мужчынскага касцюма заможных слаёў насельніцтва Рэчы Паспалітай.

Па сваім прызначэнні і арнаментальна-дэкаратыўным вырашэнні такія паясы падзяляліся на будзённыя, святочныя, жалобныя, вясельныя і іншыя. Яны дасягалі даўжыні звыш чатырох метраў, шырыні ад 20 да 40 см.

Спачатку каштоўныя шаўковыя паясы завозіліся ў Беларусь з розных краін Усходу. [...]

Фабрыку шаўковых паясоў у Слуцку заснаваў у 50-я гады XVIII ст. князь Міхал Казімір Радзівіл, ваявода віленскі.

Спачатку на фабрыцы працавалі персы і туркі, якіх прывёз у Слуцк князь. Але літаральна праз 10–15 гадоў слуцкая фабрыка пачынае абслугоўвацца мясцовымі майстрамі.

Выраб слуцкіх паясоў быў вельмі працаёмкім, тым не менш, паводле рапар-



*Слуцкі пояс*

та мінскага губернатара за 1793 год, фабрыка выраблялa «шаўковых паясоў з золатам» да 200 штук у год.

[...] Часта ў арнаментальны дэкор слуцкіх паясоў уключаліся матывы мясцовай флоры – валошкі, незабудкі, рамонкі і іншыя.

У другой палове XVIII стагоддзя паясы мясцовай вытворчасці выціснулі ўсходнія і шырока распаўсюдзіліся сярод заможных слаёў насельніцтва Рэчы Паспалітай.

Слуцкая фабрыка працавала да 1844 года, але ў апошнія гады замест паясоў на ёй пачынаюць выпускаць узорыстыя і залотныя тканіны для патрэбаў царквы. Гэта адбылося таму, што пасля анексіі Беларусі Расіяй было забаронена насіць кунтушы, якія падпярэзваліся поясам. Але і нават пасля таго, як паясы перасталі ўжывацца ў побыце і страцілі сваё практычнае прызначэнне, попыт на іх не зменшыўся; трэба зазначыць, што каштаваў адзін пояс ад 50 да 100 рублёў, па тым часе – вялікія грошы. Яны сталі прадметам збору аматараў даўніны, а таксама дзякуючы сваім высокім мастацкім якасцям пачалі шырока ўжывацца ў царкоўным побыце.

• рамонак – травяністая расліна (кветка) з белымі пялёсткамі і жоўтай сярэдзінай
• кунтуш – старадаўняя адзежына ў выглядзе кафтана з шырокімі рукавамі
• шоўк – jedwab
• мануфактуры – прадпрыемствы, якія былі заснаваны на ручной працы і шырокім яе падзеле. На Беларусі з'яўляюцца на пачатку XVIII стагоддзя – шкляныя, фаянсавыя, шаўковых паясоў, суконныя, палатняныя, па вырабе люстэркаў і гэтак далей, усяго 53 мануфактуры. Аздабленні на іх вырабах – гэта высокага ўзроўню народнае мастацтва. Сусветную славу мелі і маюць слуцкія паясы

1 Хто, якія роды, закладалі мануфактуры на беларускіх землях?

2 Раскажы ў 6–8 сказах пра выгляд шаўковых паясоў са Слуцкай персіярні. Выкарыстай іншыя даведнікі.

3 У чым памяняўся характар слуцкай фабрыкі пасля падзелу Рэчы Паспалітай? Які быў лёс слуцкіх паясоў?

4 Як разумееш метафарычны загаловак тэксту П. Абрамовіча?

## Марыя Магдалена Радзівіл

– дзеячка беларускага адраджэнскага руху канца XIX – пачатку XX ст.

Землеўласніца – Марыя Магдалена Радзівіл нарадзілася ў Варшаве. Атрымала выдатную хатнюю адукацыю, выхоўвалася ў павазе да культуры і гісторыі беларускага народа. Пасля смерці бацькі стала ўладальніцай шэрага маёнткаў, у тым ліку і на Беларусі (Кухцічы і Жарноўка ў Ігуменскім павеце). Займалася дабрачыннай дзейнасцю. У прыватнасці, аказвала дапамогу ў будаўніцтве дзіцячага прытулку і шпіталя ў Мінску.

У1906 г. выйшла замуж за князя Мікалая Радзівіла – вядомага знаўцу і збіральніка беларускага фальклору. Магдалена Радзівіл падтрымлівала першыя беларускія выдавецтвы: «Загляне сонца і ў наша ваконца», «Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні», газеты «Наша ніва», «Беларус». У Жарноўцы адкрыла беларускую школу. Для студэнтаў-беларусаў устанавіла стыпендыі. Яе дом у Мінску і палац у Кухцічах былі месцамі сустрэч дзеячаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Таму не выпадковай была заява Магдалены Радзівіл у 1912 г. у адной з мінскіх газет: «Лічу сябе беларускай... таксама як і мой муж, полькай жа зусім сябе не лічу».

Калі 25 сакавіка 1918 г. была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, яна стала яе вернай прыхільніцай. У канцы 1918 г. Магдалена Радзівіл вымушана была пакінуць Мінск і пераехаць у Варшаву. Нядобразычліва сустрэтая там польскім грамадствам, яна спрабавала зноў вярнуцца ў Мінск, але беспаспяхова. У далейшым лёс кідаў Магдалену Радзівіл па розных краінах, пакуль канчаткова месцам жыхарства не стала ў 1932 г. Швейцарыя. Адсюль яна аказвала фінансавую дапамогу беларускім арганізацыям у Польшчы. Памерла Магдалена Радзівіл 6 студзеня 1945 г. у Фрыбургу ў кляштары дамініканак.

*паводле В. Ф. Голубева, У. П. Крука, П. А. Лойкі*

1 На аснове тэксту і энцыклапедычных даведнікаў падрыхтуй вуснае выступленне на тэму мецэнацкай дзейнасці аднаго з прадстаўнікоў арыстакратычнага роду, якія пражывалі на беларускіх землях (Сапегі, Радзівілы, Агінскія ...).

2 Адкажы, якім стылем карыстаюцца аўтары прыведзенага тэксту. Адзнач добры адказ.

а) размоўна-гутарковым

б) справавым (афіцыйным)

в) публіцыстычным




*«Жніво», тытульны ліст з пражскай «Бібліі» Францыска Скарыны, 1519 год*

## Біблія

Біблія – збор духоўных кніг хрысціянскай і іудзейскай рэлігій, цудоўны помнік старажытнага пісьменства і сусветнай культуры.

*У сей кнізе ўсяе прыроджанае мудрасці начала і канец ...*
*У сей кнізе ўсі законы і правы ... У сей кнізе ўсі лякарствы душэўныя і цялесныя зупольна знайдзеце.*

*Ф. Скарына*

Стваралася Біблія на працягу многіх стагоддзяў на тэрыторыі Палесціны і ў месцах яўрэйскай дыяспары. Поўная Біблія складаецца з дзвюх частак: Старога і Новага Запаветаў, напісаных на старажытнаяўрэйскай, арамейскай і старажытнагрэчаскай мовах. Слова *запавет* паводле багаслоўнага тлумачэння азначае *наказ Бога выбранаму народу*, а праз яго – усяму чалавецтву. Стары Запавет складаецца з 50 кніг (39 кананічных і 11 некананічных). У ім расказваецца пра стварэнне свету, гісторыю ізраільскага народа, прарокаў і прароцтвы. Паводле зместу, кнігі Старога Запавету падзяляюцца на: заканадаўчыя, прароцкія, гістарычныя і павучальныя.

Новы Запавет складаецца з 27 кніг, якія аб'ядноўваюць Дабравесце (4 Евангеллі – ад Мацвея, Марка, Лукі і Іаана), зборнік з 22 твораў пад агульнай назвай Апостал і Апакаліпсіс. Кнігі гэтыя прысвечаны жыццю і дзейнасці Ісуса Хрыста і яго апосталаў, станаўленню хрысціянскай царквы.

У Апакаліпсісе апісваюцца карціны канца свету і страшнага суда.

На працягу амаль тысячагоддзя кнігі Бібліі распаўсюджваліся ў шматлікіх рукапісах. Пераклад Бібліі на стараславянскую мову быў зроблены братамі-асветнікамі Кірылам і Мяфодзіем у IX стагоддзі. Гэты пераклад лёг у аснову многіх біблейскіх кніг, якія бытавалі на ўсходнеславянскіх землях

Надрукавана Біблія ўпершыню ў Германіі ў гадах 1452–1455. Першымі сярод славян друкаваную Біблію выдалі чэхі – 1488 год. На пачатку XVI стагоддзя друкаваныя біблейскія кнігі з'явіліся і на Беларусі. Першая кніга Бібліі (Псалтыр) на старабеларускай мове была надрукавана *Францыскам Скарынам* у1517 годзе ў Празе.

Біблія стала адным з найвялікшых помнікаў сусветнай літаратуры і культуры і па сваім уплыве на развіццё многіх нацыянальных літаратур зблізаецца з антычнай літаратурай.

*паводле Л. Кушнярова*

## ЛІТАРАТУРА СЯРЭДНЯВЕЧЧА
(XI–XV стст.)

Якімі былі творы літаратуры, напісаныя сем-восем стагоддзяў назад? Яны вельмі непадобныя да сучасных твораў і, на першы погляд, могуць здацца цяжкімі і нецікавымі. Для таго, каб зразумець іх, трэба ведаць, што нашаму далёкаму продку свет уяўляўся загадкавым, поўным таямніц. Зямное жыццё рыхтавала чалавека да «сапраўднага», вечнага жыцця, якое чакала яго пасля смерці. З гэтым звязаны той факт, што многія творы старажытнасці не падпісаны, яны ананімныя. Аўтар лічыў сябе маленькім чалавекам, нявартым таго, каб пакідаць сваё імя для нашчадкаў. Хто ён у параўнанні з Богам? У поўную залежнасць ад

Усявышняга былі пастаўлены фізічны і маральны свет чалавека. Мы, відаць, ужо ніколі не даведаемся, хто напісаў «Жыццё Ефрасінні Полацкай», многія летапісы.

Паводзіны і ўчынкі чалавека ацэньваліся па маральна-этычным кодэксе, закладзеным у Бібліі. Таму большасць галоўных герояў старажытных твораў ідэальныя, пазбаўленыя недахопаў: яны былі ўзорам і прыкладам для тагачаснага чытача. Аўтар імкнуўся да максімальнай праўдзівасці, аб'ектыўнасці, ён амаль не дапускаў вымыслу. Гэта звязана яшчэ і з тым, што даўнія творы мелі не толькі пазнавальную функцыю, але і службова-дзелавую. Так, летапісы выкарыстоўваліся і як займальныя гістарычныя аповесці, і як важныя палітычныя дакументы, без якіх немагчыма было вырашыць спрэчныя дыпламатычныя пытанні.

Найбольш распаўсюджанымі жанрамі літаратуры гэтага часу былі жыціі («Жыццё Барыса і Глеба», «Жыццё Аўрамія Смаленскага», «Жыццё Ефрасінні Полацкай»), хаджэнні («Хаджэнне ігумена Данііла»), летапісы («Аповесць мінулых гадоў», «Полацкі летапіс», «Кіеўскі летапіс»), павучанні, пропаведзі (творы Клімента Смаляціча, Кірылы Тураўскага).

Вельмі шырока ў рэлігійнай літаратуры выкарыстоўвалася іншасказальнасць, сімвалічнасць і алегарычныя вобразы, што мелі патаемны, прыхаваны сэнс, патрабавалі вельмі засяроджанага чытання, асаблівага тлумачэння.

У часы Сярэднявечча ў Еўропе культура хрысціянства была адной, але не адзінай крыніцай, што жывіла развіццё літаратуры. Акрамя гэтай крыніцы, была народная творчасць, якая здаўна бытавала ў духоўным жыцці насельніцтва розных мясцовасцей, дзе пасяляліся розныя плямёны. Прычым у той час, калі царкоўна-хрысціянская літаратура ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе развівалася пераважна на лацінскай мове, а ў паўднёвых і ўсходніх славян – на царкоўнаславянскай мове, вусная народная творчасць з самага пачатку развівалася на той мове, якой карысталіся людзі паўсядзённа. Вобразна-мастацкія формы гэтай творчасці былі непасрэдна звязаны з уяўленнямі і вераваннямі яшчэ дахрысціянскіх часоў.

У яшчэ маладой (XI–XII стст.) літаратуры ўсходніх славян з'яўляецца надзвычай арыгінальны твор, які верагодна ўзнік у Кіеве – *Слова пра паход Ігаравы (Слово о полку Игореве)*.

«Слова пра паход Ігаравы» – помнік кіеўскага пісьменства – было напісана прыкладна ў 1185–1187 гадах. У цэнтры ўвагі невядомага аўтара – апісанне няўдалага паходу (старажытнарус. «полк» – паход) ноўгарад-северскага князя Ігара супраць полаўцаў. Прычыны вайсковых няўдач старажытны аўтар бачыць у княскіх міжусобіцах, асуджае іх. У процівагу ім успамінаецца той слаўны час, калі Полацкім княствам кіраваў Усяслаў Полацкі (1044-1101). Вобраз Усяслава займае асобае месца ў паэме. Ён паказаны як смелы і здольны палкаводзец, мудры валадар, які ўсё сваё доўгае жыццё прысвяціў барацьбе за ўмацаванне магутнасці і незалежнасці княства.

У 1067 годзе пасля бітвы на Нямізе сыны Яраслава Мудрага падманным шляхам паланілі Усяслава і кінулі ў цямніцу. Аднак праз год жыхары Кіева вызвалілі яго і ўзвялі на вялікакняскі пасад.

Усяслаў падобны да казачнага героя і надзелены чарадзейнымі якасцямі: можа нечакана знікаць і з'яўляцца ў самых розных месцах Русі. Нездарма яго празвалі Чарадзеем. Асуджаючы іншых князёў, аўтар падае Усяслава як легендарнага, авеянага славай героя.

*паводле В. В. Кушнярэвіча, У. А. Рагулі*

• полаўцы – група плямён, якія качавалі на паўднёвым усходзе Еўропы
• міжусобіцы – варожасць паміж князямі

❖ **жыціі** – жанр старажытнай царкоўна-рэлігійнай (агіяграфічнай) літаратуры, які апавядае пра жыццё духоўнай ці свецкай асобы, прызнанай Царквой святой. Героі гэтых твораў – падзвіжнікі хрысціянства. Іх жыццё павінна было служыць прыкладам для веруючых. Звычайна жыціі ствараліся па пэўнай схеме. Ва ўступе гучала пахвала Богу. У асноўнай частцы апавядалася пра дзяцінства, юнацтва, подзвігі, пакуты і смерць святога. Заканчваўся твор традыцыйным пахвальным словам у гонар галоўнага героя.

❖ **хаджэнні** – гэта апісанні падарожжаў у Святую Зямлю, як называлі Палесціну. Пабачыць святыя месцы было для многіх веруючых найвышэйшай марай жыцця, а сустрэча з Іерусалімам выклікала ў іх глыбокае душэўнае ўзрушэнне.

❖ **апокрыфы** – асобны від царкоўна-рэлігійнай літаратуры, розныя легендарныя аповесці і апавяданні ў якіх больш ярка, падрабязна і свабодна распрацоўваліся біблейскія сюжэты, матывы. Гэтыя творы афіцыйна не прызнаваліся хрысціянскай царквою, нават забараняліся.

❖ **летапісы** – гэта запісы пра важныя, палітычныя, грамадскія, нават лакальныя падзеі жыцця. Запісваліся яны лаканічна, сцісла, у храналагічнай паслядоўнасці.

1 Што вырашала аб ананімнасці твораў Сярэднявечча?

2 Які тып літаратурнага героя стварыла гэтая эпоха?

3 Якую функцыю выконвала ў перыяд Сярэднявечча літаратура?

4 Прывядзі прыклады свецкай літаратуры Сярэднявечча.

**5** Якія беларускія элементы знаходзім у помніку кіеўскага пісьменства, «Слове пра паход Ігаравы»?

Пераклады ўрыўка «Слова...» пра бітву на Нямізе

Старажытны тэкст (1185)

На Немізѣ снопы
Стелют головами,
Молотят чепи
харалужными,
на тоцѣ живот кладут,
вѣют душу от тѣла.
Немизѣ кровавы брезѣ
не бологом бяхуть
посѣяни –

Пераклад Я. Купалы (1921)

На Нямізе снапы
сцелюць
Галавамі,
А малоцяць жа
стальнымі
Іх цапамі.
На таку жыццё
кладзецца
Неспадзейна.
І душу ад цела веюць
Безнадзейна.
Берагі ў крыві Нямігі
Па калені;
Не дабро на іх пасеяў
Сейбіт жменяй.

Пераклад Р. Барадуліна (1985)

На Нямізе галовы
сцелюць снапамі,
харалужнымі
малоцяць цапамі,
жыццё кладуць на
таку злюцела,
веюць душу ад цела.
Нямігі крывавыя
берагі
не збожжам былі
засеяны зноў –

*Яўген Кулік*

## Найстаражытнейшыя надпісы – помнікі пісьменства на Беларусі

Першыя надпісы – помнікі ўсходнеславянскага пісьменства – маюць беларускае паходжанне. Гэта надпіс на пячатцы полацкага князя Ізяслава, сына Рагнеды (датаваны X ст.). Таго ж часу і надпіс «Гороўшна» на глінянай карчазе, знойдзенай у кургане каля Смаленска. XI ст. і пазнейшымі датуюцца шматлікія выяўленыя на Беларусі кірылічныя надпісы на камянях, костках, прадметах побыту, пячатках, крыжах, сценах храмаў і г. д. Вядомыя на нашай зямлі і нерасшыфраваныя старажытныя надпісы-знакі.

• карчага – вялікая , звычайна з гліны пасудзіна, якая выкарыстоўвалася для трымання він
• кірылічны – пісаны адной з дзвюх старaславянскіх азбук, якая лягла ў аснову рускага, беларускага, украінскага і іншых алфавітаў

У часы пашырэння хрысціянства на Беларусі рукапісныя кнігі ствараліся ў праваслаўных манастырах і прызначаліся ў большасці для царкоўнай службы. Да нашага часу дайшлі Тураўскае евангелле XI ст. (захавалася часткова), Полацкае евангелле з XII ст., Аршанскае евангелле канца XII – пачатку XIII ст. (аздобленае дзвюмя мініяцюрамі і больш чым трымастамі ініцыяламі). Шэраг іншых рукапісных кніг рэлігійнага зместу XI–XIII стст. паходзіць, паводле меркаванняў даследчыкаў, з беларускіх земляў, але яны менш вядомыя. У пазнейшых спісах захаваліся творы старажытнай беларускай літаратуры гэтага часу – жыціі святых, хаджэнні, казанні, словы, летапісы.

*Аляксандр Вярбіцкі*

## Супрасльскі кодэкс

Адным з найбольш цікавых скарбаў славянскай пісьменнасці, які захоўваўся ў супрасльскай манастырскай бібліятэцы быў г.зв. Супрасльскі кодэкс, які шырэйшую вядомасць набыў пад лацінскай назвай Codex Suprasliensis. Ягоная назва крыху ўводзіць у зман, бо з Супраслю ён асацыюецца даволі выпадкова.

Супрасльскі кодэкс гэта старабалгарскі кірылічны рукапіс, бадай найстарэйшы з усіх захаваных старaславянскіх рукапісаў, якога паўстанне навукоўцы адносяць да паловы X стагоддзя. На сёння захавалася яго 285 аркушаў высакаякаснага пергаменту; не захаваліся пачатак і канец рукапісу. Ягоным зместам з'яўляецца мінея-чэцця на сакавік. Мінеі-чэцці гэта месячныя чытанні, якія ўключалі жыціі святых, павучанні, пропаведзі, складзеныя ў адпаведнасці з днямі ўшаноўвання Царквою святых. Супрасльскі рукапіс, які балгары называюць таксама Пецькавым зборнікам ад імя пазначанага ў ім перапісчыка, з'яўляецца найбольшым па аб'ёме старабалгарскім рукапісам, якога змест складае найстарэйшая з дасюль вядомых старабалгарскіх і візантыйскіх мінейчэццяў. Ягоны змест сходны са зместам візантыйскіх рукапісаў ад X–XII стагоддзяў. Аналіз ягонай мовы дазваляе меркаваць, што быў ён напісаны на ўсходзе Балгарыі, праўдападобна ў Прэславе, які ў той час лічыўся цэнтрам балгарскага пісьменства. У ліку твораў, якія ў ім апынуліся, маем „Жыціе святых сарака севастыйскіх мучанікаў" ці „Пропаведзь на Вербніцу" Іаана Златавуста.

Якім чынам гэты выдатны помнік старабалгарскай рэлігійнай творчасці трапіў у Супрасль – дакладна невядома. Мяркуецца, што прынеслі яго балгарскія манахі, якія ў Вялікім Княстве Літоўскім шукалі сховішча перад туркамі пасля захопу апошнімі балгарскіх зямель. Рукапіс спакойна праляжаў у Супраслі да 1823 года, калі яго знайшоў Міхал Баброўскі, прафесар Віленскага ўніверсітэта.

Старабалгарскі рукапіс, знойдзены ў фондах Супрасльскай бібліятэкі,

Супрасльскі кодэкс



Бабро́ўскі выслаў у Любляну Ернею Копітару, славенскаму вучонаму, з якім пазнаёміўся ў час замежнай камандзіроўкі і які займаўся менавіта вывучэннем стараславянскіх рукапісаў; Копітар, даведаўшыся ад Бабро́ўскага пра ягоную знаходку, вельмі настойваў, каб Бабро́ўскі прыслаў яе ў Любляну. Бабро́ўскі падзяліў рукарïс на дзве часткі і першую выслаў Копітару, а калі той вярнуў яе, выслаў другую. Аднак Копітару не ўдалося вярнуць той другой часткі, ён памёр не дакончыўшы расследавання яе. І тая частка Супрасльскага кодэкса – 118 аркушаў – астаецца ў Любляне, дзе ва ўніверсітэцкай бібліятэцы захоўваецца да сёння. Вернутая Бабро́ўскаму частка адбывае небяспечную вандроўку па тадышняй часапрасторы, зноў раздзяляючыся на чарговыя дзве. Частка – 151 аркуш – трапляе ў Варшаву і прападае ў 1944 годзе, але ў 1967 годзе выяўляецца ў ЗША, у славутым Гарвардскім універсітэце, адкуль вяртаецца ў Польшчу ў варшаўскую Нацыянальную бібліятэку. Трэцяя частка з 16 аркушаў трапляе ў пецярбургскую Публічную бібліятэку і там захоўваецца да сёння.

**1** Раскажы пра Супрасльскі кодэкс паводле плану:

а) час паўстання

б) мова дакумента

в) змест

г) меркаванні аб месцы паўстання, прычыны знаходжання ў Супраслі

д) гісторыя кодэксу пасля яго адкрыцця прафесарам Бабро́ўскім



*Берасцяная грамата з Віцебска*

*Мікалай Прыгодзіч*

## Берасцяныя граматы

Першая беларуская грамата на бяросце была знойдзена 20 жніўня 1959 г. пры земляных работах на плошчы Свабоды ў Віцебску.

Грамата напісана на кавалку бяросты добрай захаванасці памерам 17 х 4,5 см., для пісьма выкарыстаны ўнутраны бок. Тэкст складаецца з шасці радкоў і напісаны вельмі выразна. Палеаграфічны аналіз дазваляе датаваць грамату XIII–XIV стст.

У адаптаванай арфаграфіі тэкст мае наступны выгляд:

*От Степана къ Нежилови. Оже еси продаль порты, а купи ми жита за 6 гривень. А ли цего еси не продаль, а посли ми лицемь. А ли еси продалъ, а добро сътворя, у купи ми жита.*

У перакладзе на сучасную беларускую літаратурную мову гэта гучыць так: *«Ад Сцяпана к Няжылу. Калі ты прадаў адзенне, то купі мне жыта за 6 грыўняў. А калі чаго не прадаў, то прышлі мне ў наяўнасці. Калі ж прадаў, то, дабрадзей мой, купі мне жыта».*

Яшчэ адна беларуская берасцяная грамата была знойдзена ў 1980 г. у Мсціславе. У адрозненні ад Віцебскай яна паходзіць з дакладна датаванага паводле даных дэндрахраналогіі (на спілах старажытных дрэў добра відаць гадавыя кольцы) культурнага пласта канца XII – пачатку XIII стст.

Гэтая грамата захавалася толькі часткова. На асобныя словы мсціслаўская грамата разбіваецца не без цяжкасці:

ПШЕNИЦЕ ПОЛУПАТЬ ГРИВN... ИNИЛО СМЬNА...

У навуковай літаратуры сустракаецца некалькі варыянтаў прачытання гэтага ўрыўка. Найбольш верагодна, што гутарка ішла пра пшаніцу, кошт якой 4 з паловай грыўны. У другім радку гаварылася, відаць, пра нейкага Сямёна (так прапанаваў чытаць СМЬNА акадэмік В. Л. Янін). Дакумент знойдзены на мсціслаўскім княжацкім дзядзінцы і, на думку беларускага даследчыка Л. В. Аляксеева, гэта было пісьмо князю або яго набліжаным з паведамлен-

нем аб набыцці на ўказаную суму пшаніцы і, магчыма, пакаранні за нейкую правіннасць другой службовай асобы (Сямёна). Такім чынам, перад намі ўзор тагачаснай гандлёвай аперацыі.

Берасцяныя граматы, да ліку якіх адносяцца пісьмы, запіскі і іншыя дакументы XI–XV стст., выяўленыя пры археалагічных раскопках старажытных паселішчаў, сведчаць аб значным пашырэнні пісьменства ва ўсходніх славян. Сярод аўтараў берасцяных пасланняў былі не толькі баяры і купцы, святары і ліхвяры, але і простыя гараджане – рамеснікі, рыбаловы, паляўнічыя. Некаторыя берасцяныя дакументы складзены цэлымі калектывамі сялян. Цікава, што з ліку ўсіх знойдзеных берасцяных грамат толькі 3-4 маюць дачыненне да рэлігіі.

Граматы на бяросце дазволілі па-новаму глянуць і на саму мову ўсходніх славян. Для абсалютнай большасці берасцяных грамат характэрна амаль поўная адсутнасць царкоўнаславянскай кніжнай лексікі; у іх адлюстраваліся шматлікія народна-дыялектныя рысы фанетыкі, марфалогіі і сінтаксісу. Напрыклад, у віцебскай грамаце выразна заўважаюцца сляды цокаючага паўночна-заходняга вымаўлення («цего», «послі»), якое адзначаецца ў многіх пісьмовых помніках старабеларускага перыяду.

Дайшоўшыя да нас праз глыбіню вякоў берасцяныя граматы сталі адметным здабыткам пісьмовай спадчыны ўсіх усходніх славян, у тым ліку і беларускага народа.

- грамата – афіцыйны дакумент
- бяроста – верхні слой бярозавай кары
- наяўнасць – фактычная колькасць чаго-небудзь у дадзены момант, прысутнасць

1 Назаві найстарэйшыя пісьмовыя помнікі на Беларусі.

2 Якія самыя даўнія рукапісныя кнігі называе аўтар? Які яны мелі характар?

3 Пералічы літаратурныя жанры, якімі карысталася пісьменства на беларускіх землях у часы Сярэднявечча.

4 Скажы, пра якія дасягненні ў галіне беларускага пісьменства гаворыцца ў артыкуле М. Прыгодзіча.

5 Што можна сказаць пра тагачасную мову берасцяных дакументаў?

6 Складзі разгорнутае акрэсленне словазлучэння *берасцяныя граматы* і запішы.

Асветнікі часоў Сярэднявечча – гэта Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Клімент Смаляціч, Расціслаў Смаленскі, Аўрам Смаленскі.

**Ефрасіння Полацкая** (каля 1101–1173) – полацкая князёўна Прадслава, дачка князя Святаслава-Георгія, унучка Усяслава Чарадзея. Яшчэ ў дзяцінстве абрала шлях служэння Богу і людзям, прыняла манаства пад імем Ефрасінні. Перапісвала і перакладала кнігі, верагодна, вяла Полацкі летапіс, пісала арыгінальныя творы. Заснавала ў Полацку жаночы і мужчынскі манастыры – асяродкі асветы Полаччыны, майстэрні па перапісванні кнігаў, стварала школкі для дзяцей і прытулкі для старых і нямоглых. Па яе замове і фундацыі полацкім дойлідам Іаанам пабудаваны шэдэўр полацкай архітэктуры – Спасаўская царква, майстрам Лазарам Богшам выраблены ўнікальны крыж – нацыянальная святыня беларусаў. Пад канец жыцця здзейсніла паломніцтва ў Святую Зямлю – Іерусалім, дзе і памерла.

Ефрасіння Полацкая – беларуская святая, нябесная заступніца гэтай зямлі.



*Ікона св. Ефрасінні Полацкай (каля 1101–1173). Св. Ефрасіння была асветніцай старабеларускіх зямель, ігуменняй полацкага манастыра св. Спаса*

**Кірыла Тураўскі** (каля 1130 – каля 1182) – нараядзіўся ў Тураве ў сям'і багатых мяшчан, атрымаў выдатную адукацыю. У маладым веку пастрыгся ў манахі, заняўся літаратурнай творчасцю. Пісаў малітвы, творы пра манаства. Пазней абраны тураўскім біскупам. У гэты час стварыў шэраг бліскучых пропаведзяў, казанняў, прыпавесцяў. Пакінуўшы біскупскую кафедру, працягваў плённую творчую дзейнасць. Большасць яго твораў загінула, але тое, што ацалела, складае значную літаратурную спадчыну. Тураўскаму

бясспрэчна належаць 8 слоў – пропаведзей, некалькі аповесцей – прытчаў, два каноны, каля 30 малітваў. Асобныя яго творы ўвайшлі ў выдадзенае І. Фёдаравым і П. Мсціслаўцам «Евангелле вучыцельнае» (Заблудаў, 1569), «Малітвы паўсядзённыя» (Еўе, 1615), іншыя беларуска-літоўскія выданні XVI–XVII стагоддзяў. Пісьменнік імкнуўся не павучаць, а мастацкімі сродкамі раскрываць сутнасць той ці іншай рэлігійна-маральнай праблематыкі, у форме намаляванай словамі карціны ўзнавіць перад слухачамі тую ці іншую падзею новазапаветнай гісторыі. Ён шырока выкарыстоўваў артыстычна апрацаваныя прыёмы іншасказання, алегорыі, сімвалізацыі. Вобразы пісьменніка звычайна маюць непасрэдны, рэальна-прыродны і пераносны, духоўны сэнс. Сучаснікі называлі Тураўскага – *Златоуст*.

Мова твораў Кірылы Тураўскага, на думку даследчыкаў – тыпова старажытнарускай разнавіднасці (І. П. Яромін), узор узнёслага, класічнага «кніжнаславянскага» стылю. У пазнейшых спісах яго твораў трапляюцца беларусізмы.

Кірыла Тураўскі – асветнік, пісьменнік-прапаведнік і царкоўны дзеяч у ліку найслаўнейшых беларускіх святых, вядомы ва ўсім усходнеславянскім свеце.

**Аўрам Смаленскі** (канец XII ст. –1221) – паходзіў са Смаленска з багатай сям'і. Пасля смерці бацькоў раздаў маёмасць бедным, паступіў у манастыр, прыняў святарства, перапісваў і распаўсюджваў кнігі. Меў бліскучую адукацыю, валодаў выдатным талентам прамоўцы-палеміста, быў «хитр божественным книгам». Маляваў таксама царкоўныя абразы. Кананізаваны Царквою.

*паводле У. Конана, Я. Куліка*



Кірыла Тураўскі, помнік на Замкавай гары ў Тураве

• паломніцтва – вандраванне, падарожжа ў якасці паломніка, пабожнага чалавека, які вандруе па святых мясцінах
• канон – тут царкоўнае песнапенне ў пахвалу святога або свята
• прытча – іншасказальнае апавяданне з павучальным вывадам, апрача дыдактычнага прызначэння мела і тлумачальнае
• слова – літаратурны твор у форме аратарскай прамовы ці паслання, жанр, які дазваляе ў межах акрэсленай тэмы аўтарскую імправізацыю

## Вялікая асветніца Ефрасіння Полацкая

Ефрасіння Полацкая – наша святая, якую здаўна шануюць як нябесную заступніцу беларускае зямлі. Вечную памяць і любоў народа яна заслужыла сваім ахвярным жыццём, прысвечаным асвеце нашых продкаў.

Яна прыйшла на свет на пачатку XII стагоддзя ў Полацку. Дзяўчынку назвалі старажытным крывіцкім імем Прадслава. Слава пра розум і прыгажосць полацкай князёўны разнеслася далёка па славянскіх землях. Калі Прадславе споўнілася дванаццаць гадоў (у такім веку дзяўчынка ўжо лічылася тады нявестаю), у Полацк зачасцілі сваты. Бацькі меркавалі выдаць князёўну замуж за сына нейкага слаўнага сваім багаццем і княжаннем уладара.Аднак Прадслава абрала сабе іншы шлях: вырашыўшы стаць Хрыстовай нявестаю, яна пайшла ў манастыр і прыняла пострыг пад іменем Ефрасінні.

Спачатку маладая манашка пасялілася ў келлі Сафійскага сабора. Тут яна перапісвала і перакладала з іншых моў кнігі і, як лічаць некаторыя гісторыкі, вяла Полацкі летапіс. Праз колькі гадоў духоўнага ўдасканалення яна заснавала ў Полацку жаночы, а затым і мужчынскі манастыры. Пры іх Ефрасіння адчыніла скрыпторыі – майстэрні па перапісванні кніг, а таксама школы, у якіх дзеці авалодвалі граматай.

Асветніца збірала вакол сябе таленавітых людзей, і таму яе можна назваць нашай першай мецэнаткаю. На яе заказ полацкі дойлід Іаан пабудаваў сусветна вядомую царкву Спаса, а ювелір Богша (хрысціянскае імя Лазар) стварыў крыж – бясцэнную святыню беларусаў.

Унучка Усяслава Чарадзея ўздымала свой голас супраць княжацкіх міжусобіц, папярэджвала, што братазабойчыя войны могуць прывесці Бацькаўшчыну да гібелі. Прыклад асветніцы натхняў Францішка Скарыну, Васіля Цяпінскага, Сымона Полацкага...

Мошчы святой Ефрасінні спачываюць у Спаскай царкве полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. Дзень памяці нябеснай заступніцы Беларусі святкуецца пятага чэрвеня паводле новага стылю.

*паводле У. Арлова*

- мошчы – высахлыя астанкі людзей, якія лічацца Царквою святымі і цудатворнымі
- подзвіг – гераічны, самаадданы ўчынак

**1** Раскажы пра багатае жыццё і дзейнасць Ефрасінні Полацкай. Звярні ўвагу на час дзейнасці, паходжанне, жыццёвы выбар, лад жыцця, асветніцкую дзейнасць, працу ў карысць Праваслаўнай царквы і культуры.

**2** Пералічы літаратурную спадчыну Кірылы Тураўскага. Чаму называюць яго пачынальнікам аратарскай прозы?

**3** Звярні ўвагу на прозвішчы першых беларускіх асветнікаў. Высветлі іх паходжанне.

## Крыж Ефрасінні Полацкай

Славуты крыж – шэдэўр старажытнабеларускага мастацтва – зроблены па замове Ефрасінні Полацкай майстрам Лазарам Богшам у 1161 г.

Крыж шасціканцовы, каля 52 см., з дрэва, аздоблены выявамі святых, а таксама каштоўнымі камянямі. Бакавіны крыжа таксама абкладзены сярэбранымі і залочанымі пласцінкамі.

Крыж уяўляе каштоўнасць і як помнік старажытнабеларускага пісьменства. На сярэбраных бакавінах майстрам выбіты вялікі тэкст. У першай яго частцы распавядаецца, калі, для каго і чыім коштам рабіўся крыж. У другой – малітва, завяшчальны надпіс – праклён таму, хто ўкрадзе, аддасць ці прадасць святыню ў іншыя рукі. Змешчанае было на крыжы і імя самога майстра. Але лёс крыжа стаўся неверагодна цяжкім. Неўзабаве, ужо ў трынаццатым стагоддзі ён быў вывезены з Полацка, потым двойчы апынуўся ў Маскве, вяртаўся на месца, пры бальшавіках быў рэквіраваны з манастыра, трапіў у Магілёўскі краязнаўчы музей, а ў часы другой сусветнай вайны знік бясследна.

У 1997 годзе брэсцкі мастак-ювелір Мікалай Кузьміч завяршыў сваю шматгадовую працу пры вырабе крыжа, створанага накшталт крыжа Ефрасінні Полацкай.

*паводле Я. Куліка*

- шэдэўр – выключны па сваіх вартасцях твор мастацтва
- пласцінка – шкло са святлоадчувальным слоем

1 Крыж Ефрасінні Полацкай называюць беларускім крыжом; назаві яго адметнасці, параўнай з лацінскім (чатырохканцовым) і расейскім (васьміканцовым).

2 Дакажы, што крыж святой Ефрасінні з'яўляецца не толькі помнікам мастацтва, але і старабеларускага пісьменства

## Аповесць пра жыццё святой Ефрасінні

*«Жыціе Ефрасінні Полацкай» – твор, напісаны ў канцы XII – пачатку XIII стагоддзя невядомым аўтарам, у храналагічнай паслядоўнасці падае біяграфію Ефрасінні Полацкай.*

[...] Быў у горадзе Полацку князь Усяслаў, і меў ён многа сыноў. І быў у яго сын імем Георгій, ад якога і нарадзілася шчаснае тое дзяўчо. І ўзрадаваліся бацькі яе нараджэнню разам з усімі роднымі. А праз колькі дзён наказалі хрысціць яе, і хрысцілі яе ў імя Айца, Сына і Духа Святога. І гадавала яе





*Крыж св. Ефрасінні Полацкай. Полацкі ювелір Лазар Богша зрабіў яго па заказе Ефрасінні Полацкай для царквы Спаса, знакаміты шэдэўр старабеларускага мастацтва. Крыж загінуў бясследна ў 1941 годзе з Магілёва. У 1997 годзе брэсцкім ювелірам Мікалаем Кузьмічам створана была яго копія і размешчана ў Спаса-Ефрасіннеўскай царкве ў Полацку*

*Фрэска ў Спаса-Ефрасіннеўскай царкве ў Полацку. XII ст.*

карміцелька, і расло дзень за днём немаўля, жывячы малаком цела, а душу напаўняючы Духам Святым. І дзяўчына была вельмі здольная да кніжнай навукі, нават не дасягнуўшы яшчэ паўналецця, і было гэта плёнам малітвы. Так любіла вучэнне яна, што дзівіўся бацька яе з любові такой да навук. І па ўсіх гарадах разышлася слава пра яе мудрасць, і добрыя здольнасці да навук, і красу цялесную, бо была яна прыгожая надта аблíччам. Хараство ж яе многіх слаўных князёў прыводзіла да бацькі яе: хацеў кожны з іх заручыць яе сыну свайму. І многія часта прасілі згоды на гэта ў бацькі яе, але адказваў той: «Няхай спраўдзіцца воля Госпада!»

Адзін жа з князёў, найбольш слаўны княжэннем сваім і багаццем, паслаўшы да бацькі яе, папрасіў выдаць дачку за сына свайго. І калі споўнілася дзяўчыне дванаццаць гадоў, пачаў казаць бацька яе да княгіні: «Варта аддаць ужо за

князя Прадславу» (так бо назвалі яе да хрышчэння). Яна ж адказала: «Хай спраўдзіцца воля Бога і твая, княжа!» Прадслава ж, пачуўшы ўсё тое, падумала, – ці скажу болей: Святым Духам напоўніўся розум яе, – і сказала сабе: «Што будзе, калі бацька надумае аддаць мяне замуж? Калі здарыцца так, смутку гэтага свету нельга будзе пазбыцца!» І яшчэ казала сабе: «Што ж учынілі нашыя роды, якія былі да нас? Жаніліся і выходзілі замуж, і княжылі, але не вечна жылі; жыццё іх праплыло, і загінула іхняя слава, быццам прах, горай за павуцінне. Затое жанчыны, што жылі раней і, узяўшы мужчынскую моц, пайшлі следам за сваім Жаніхом, і целы свае аддалі на пакуты, і паклалі галовы пад меч, а іншыя хоць і не схілілі шыі свае пад жалеза, але мечам духоўным адсеклі плоцкія асалоды, аддаўшы целы пасту, чуйнаванню, і малітоўнаму кленчанню, і зямельнаму ляжанню, – тых памятаюць на зямлі, іх імёны напісаны на нябёсах, дзе яны з ангеламі Бога ўсхваляюць. А слава гэтая – пыл і попел, быццам дым разыходзіцца [...]».

І гэтак вырашыўшы, пайшла ў манастыр пакрыёма ад бацькі і маці і ад усіх родных. У тыя гады ігуменняю была княгіня Раманава. Прыйшоўшы да яе, Ефрасіння прасіла, каб дазволіла тая прыняць ёй ангельскі воблік і далучыцца да інакіняў, што жылі там, і быць пад Хрыстоваю ўладай. І ўгледзела шчасная тая жанчына яе маладосць і квітучы ўзрост, і сумелася, і стала пакутаваць целам, і сэрцам жахнулася, і схіліла твар да зямлі, і надоўга ўкленчыла, і схілілася, і ўбачыла маладосць яе, уздыхнула і, плачучы, гэтак сказала: «Дзіця! Як магу я такое ўчыніць? Твой бацька даведаецца і гнеў свой абрыне на маю галаву. Ды і маладая ты яшчэ векам, каб несці цяжар манаскага жыцця. І як здолееш ты пакінуць княжанне і славу гэтага свету?» І адказала ёй шчасная тая дзяўчына: «Панна і маці! Усё відочнае на гэтым свеце прыгожае і слаўнае, але хутка мінае, як сон, альбо вяне, бы квет; вечнае і невідочнае ў вяках жыве, як гаворыць Пісанне: Вока не бачыць і вуха не чуе, і на сэрца чалавеку не прыйдзе, што рыхтуе Бог тым, хто любіць Яго. Ці дзеля бацькі майго не хочаш пастрыгчы мяне? Не яго бойся, панна мая, а Бога бойся, Які ўладарыць над усімі стварэннямі; не пазбаў мяне ангельскага чыну!»

Шчасная ж тая княгіня здзівілася розуму дзяўчыны і яе любові да Бога і загадала выканаць волю яе. І абвясціў яе іерэй, і пастрыг яе, і даў ёй імя Ефрасіння, і апрануў яе ў чорныя рызы. І багаславіла яе ігумення багаславеннем святых айцоў, гэтак мовячы: «Наследуй, дзіця, жанчынам, што жылі раней за цябе: Фяўронні і Еўпраксіі і многім іншым, якія цярпелі дзеля Хрыста, і дасць Госпад табе перамогу і сілу на супраціўніка нашага – д'ябла!» І так ёй сказаўшы, адпусціла яе ў сваю келлю. І калі ўведаў усё тое бацька яе, адразу ж пайшоў у манастыр і ў роспачы рваў на сабе валасы, і цалаваў дачку замілавана, і казаў: «Гора мне, дзіця маё! Што ж учыніла ты мне, прынёсшы душы маёй смутак! [...]»

Так жыла яна нейкі час у манастыры, а пасля папрасіла епіскапа Іллю, што кіраваў пасадам Святой Сафіі ў Полацку, каб той дазволіў ёй жыць у царкве Святой Сафіі ў мураванай келлі. І ён дазволіў ёй жыць там. І яна ўвайшла

туды, і ўчыніла найпадзвіжнейшы подзвіг посту, і пачала пісаць кнігі сваімі рукамі, і прыбытак ад продажу іх аддавала тым, хто папросіць.

Пажыўшы тут нейкі час, паслала яна да бацькі свайго з такімі словамі: «Пусці да мяне сястру маю Градзіславу, – так назвалі яе бацькі, – каб навучылася грамаце». І пусціў яе бацька. І Ефрасіння рупна вучыла яе ратаванню душы, а тая рупна прымала, нібы ўрадлівая ніва, памякчыўшы сэрца сваё і кажучы гэтак: «Госпад Бог хай наставіць мяне на ратунак душы тваімі святымі малітвамі, панна!» Так казала яна, найпадобнейшая ж Ефрасіння, прывёўшы яе ў царкву, наказала іерэю, каб, абвясціўшы, апрануў яе ў рызы манаскія, і дала ёй імя Еўдакія. Праз колькі дзён прыслаў па яе бацька, кажучы: «Адпусці ўжо сястру да мяне». Тая ж так адказала: «Не навучылася яшчэ ўсёй грамаце». [...]

Была ж у месце Полацкім князёўна Звеніслава Барысаўна, якая прынесла аднойчы ўсе свае рэчы, залатыя шматкаштоўныя шаты да Ефрасінні і сказала: «Панна і сястра! Не патрэбная мне гожасць гэтага свету. Аддаю ўсё Святому Спасу, а сама хачу схіліць галаву сваю пад Хрыстова ярмо!» Яна ж прыняла сястру з радасцю і наказала іерэю пастрыгчы яе, і назвала яе Еўпраксіяй. [...] Пасля ж гэтага паставіла Ефрасіння царкву каменную Святога Спаса, і збудавалі тую царкву за 30 тыдняў.

Найпадобнейшая ж Ефрасіння, угледзеўшы завершаную царкву, узрадавалася душою. І абвясцілі царкву, і была радасць вялікая ўсім хрысціянам. І сабраліся князі і ўладарныя мужы, і інакі з інакінямі, і просты люд, і адбылося вялікае свята, і святкавалі яго шмат дзён, а пасля разышліся. [...]

Але ж вернемся да ранейшага. Бачыла найпадобнейшая Ефрасіння манастыр свой аздоблены і поўны ўсялякага дабра, і задумала паставіць другую царкву, мураваную, Святой Багародзіцы. І, завяршыўшы яе, аздобіла абразамі, асвяціла і аддала манахам; і быў там вялікі манастыр. І ўбачыла шчасная два ўзведзеныя манастыры, вельмі вялікія і багатыя, і сказала ў сабе: «Слава Табе, Уладару, дзякуй Табе, Святы! Што хацела я – даў мне і спраўдзіў, Госпадзе, жаданне сэрца майго!» І зноў мовіла: «Памілуй мяне, Госпадзе, спраўдзі прашэнне маё, каб жа бачыла я Найсвяцейшую Багародзіцу Адзігітрыю ў гэтай святой царкве!»

І паслала слугу свайго Міхаіла ў Царград да цара Мануіла і да патрыярха Лукі з дарамі каштоўнымі, просячы ў іх абраза Святой Багародзіцы. Напісаў жа евангеліст Лука тры абразы яшчэ пры жыцці Святой Багародзіцы і паставіў адзін у Іерусаліме, другі – у Царградзе, а трэці – у Эфесе. Яна ж прасіла Эфескі вобраз Святой Багародзіцы. І бачыў цар любоў яе, і паслаў у Іерусалім семсот вояў сваіх. І тыя пайшлі і прынеслі абраз Святой Багародзіцы ў Царград. Патрыярх жа Лука сабраў епіскапаў і ўвесь сабор у Святую Сафію і, багаславіўшы, аддаў той абраз слузе найпадобнейшай Ефрасінні. А яна, унёсшы ў царкву Святой Багародзіцы, паставіла яго і, узняўшы рукі, мовіла: «Слава Табе, Госпадзе, слава Табе, Уладару, што даў мне сёння бачыць аблічча маці Сваёй!» І, сказаўшы так, аздобіла яго золатам і самацветамі, і ўстанавіла

насіць яго кожны аўторак па святых цэрквах. І аздобіла ўсю зямлю Полацкую сваімі багалепнымі манастырамі.

І, бачачы, як прасвятліў Бог манастыры яе, пажадала, молячыся: «Каб дайсці да святога горада Іерусаліма і пакланіцца гробу Госпадаву і ўсім мясцінам святым, бачыць іх і цалаваць, і там скончыць жыццё сваё!» [...]

І пайшла Ефрасіння ў Іерусалім, узяўшы з сабою брата свайго Давіда і сястру сваю Еўпраксію. [...]

О, дзіўны цуд! Не была яна раней ні ў якой старане: ні ў горадзе, ні ў сяле; цяпер жа з нежаночаю сілай прайшла ўсе гарады і ўладанні, прымаючы ад усіх князёў пашану вялікую. Так прайшла яна ўсе краіны. І сустрэў яе цар, што ішоў вайною на ўграў, і паслаў яе з вялікаю пашанай у Царград. Яна ж, прыйшоўшы туды, увайшла ў вялікую царкву Святой Сафіі, пакланілася ёй і ўсім святым цэрквам, і прыняла багаславенне ад патрыярха. І, купіўшы разнастайныя фіміямы і залатое кадзіла, пайшла ў Іерусалім.

Прыйшоўшы ж у Іерусалім, паслала слугу свайго Міхаіла да патрыярха, кажучы: «Уладыка святы! Зрабі мне міласць: скажы, каб адчынілі мне браму Хрыстову!» І ён загадаў учыніць па прашэнні яе. Тады прыйшла яна да брамы і ўпала на зямлю, кажучы: «Госпадзе Ісусе Хрысце! Не залічы мне за грэх, што хаджу па Тваіх слядах, уваходзячы ў град святы!» І цалавала браму з усімі, хто з ёю быў. І пакадзіла гроб залатым кадзілам, размаітымі фіміямамі. Потым пайшла ў Рускі манастыр Святой Багародзіцы і жыла там. А на другі дзень зноў пайшла да гроба Госпадава, і зноў пакланілася, і цалавала яго і, пакадзіўшы, адышла. І на трэці дзень тое зрабіла і, даўшы шмат золата, узняла свае вочы да неба, і рукі ўзняла, і са слязамі ўздыхнула з глыбіні сэрца, і мовіла: «Госпадзе Ісусе Хрысце, сыне Божы, Які нарадзіўся ад Вечнадзевы Марыі дзеля нашага паратунку! Ты казаў: «Прасіце і атрымаеце». Я ж, грэшная, што прасіла, атрымлівала ад Цябе, Уладару. Вось жа яшчэ прашу ў Цябе, Міласцівы, і на гэтым скончу прашэнні свае: перасялі мяне ў нябесны Твой Іерусалім, супакой мяне на ўлонні патрыярха Аўраама з усімі, хто Табе дагадзіў! Амін».

Так сказаўшы, пайшла яна ў раней згаданы манастыр Святой Багародзіцы, дзе жыла. І тут Божым наканаваннем занядужыла і пачала хварэць. І, лежачы на пасцелі, казала: «Слава Табе, Уладару: што ўжадаў, тое мне і ўчыніў, рабе Сваёй!». І праз тую хваробу не змагла пайсці да Іардана, а пайшлі брат яе Давід і сястра яе Еўпраксія, і тыя, хто з імі быў. Яна ж, лежачы на пасцелі сваёй, славячы Бога, казала: «Госпадзе, зірні на рабу Сваю Ефрасінню і памілуй мяне!» І вярнуліся тыя, хто быў на Іардане, і прынеслі вады Іарданскай. Яна ж з радасцю ўзнялася, прыняла і піла, і абліла ўсё цела сваё і, лёгшы на ложак, прамовіла: «Пахвалены Бог, Які прасвятляе кожнага чалавека, што прыходзіць у свет! Заўжды малюся чалавекалюбнаму Богу, раўнуючы Пятроваму пакаянню, калі той не ўпаў у роспач пасля адрачэння свайго, але плакаў горка. Госпадзе! Калі Ты прыняў пакаянне ягонае, дык прымі і мяне, нявартую рабу Сваю Ефрасінню, што моліцца, каб вораг яе д’ябал нічога перад Табою,

Госпадзе, не сказаў супроць яе на Страшным Судзе Тваім, бо яна наступіла на змяіную галаву гэтага злога раба і процістаяла дзёрзкасці яго акаяннай, спадзеючыся на тваё, Госпадзе, чалавекалюбства!»

І пачуў Бог малітву яе, і паслаў да яе Свайго ангела, які казаў: «Шчасная ты сярод жанчын і шчасная праца твая! Вось ужо расчынілася райская брама, і сабраліся ангелы, трымаючы свечкі і чакаючы сустрэчы з табою. Дар жа, які просіш у Бога, дадзены будзе табе!». Так ангел прамовіў і адышоў ад яе. Шчасная ж Ефрасіння ўзрадавалася душою і хутка паслала ў лаўру Святога Савы, кажучы: «Вось ужо надышла часіна, калі мяне Бог супакоіць. Ці прымеце мяне, каб я легла ў царкве Святога Савы?». Адказвалі ж манахі, што былі там: «Забараніў святы Сава нам прымаць тут жанчын. Але ёсць паблізу манастыр Святой Багародзіцы Феадосіеў агульнабытны, дзе пахаваны святыя жанчыны: маці святога Савы і маці святога Феадосія; і маці святых бяссрэбранікаў Кузьмы і Даміана імем Феадоція, і шмат якія святыя; тут і табе легчы належыць». І вярнуўся яе пасланец, і абвясціў тое ўсё Ефрасінні. Тая ж уславіла Бога, і паслала купіць сабе дамавіну ў камары Святой Багародзіцы. І ляжала, хварэючы, 24 дні, і, даведаўшыся пра сваю смерць, сказала: «Паклічце да мяне прасвітэра, каб даў мне прычасць тайнотаў святых, бо звястун стаіць ужо блізка, чакаючы наказу Уладара». І прыйшоў прэсвітэр, несучы прычасць. Ефрасіння ўзнялася, і пакланілася тройчы, і прыняла найчысцейшае цела і кроў святую Хрыстову, і легла на ложак свой, і аддала душу ў рукі Бога жывога 24 траўня і ўвайшла ў пакоі нябесныя. Давід жа з Еўпраксіяй і з іншымі пахавалі святое цела яе. [...]

*пераклад са старажытнарускай А. Мельнікава*

• камара – ніша

1 Чаму Прадслава выбрала шлях Хрыстовай нявесты?

2 Якія факты з жыцця Прадславы найбольш зацікавілі цябе?

3 Як прайшло падарожжа паломнікаў у Святую Зямлю?

4 Які момант у творы з'яўляецца, па-твойму, кульмінацыйным? Чаму?

5 Скажы, з якой мэтай ствараліся творы пра жыццё асоб, што выбралі дарогу служэння Богу.

6 Якая (якія) з ідэй прысвячала падзвіжніцтву Ефрасінні:
– ідэя высокага прызначэння чалавечага жыцця
– ідэя ўдасканалення асобы праз веру і ўчынкі, якія адпавядаюць хрысціянскай этыцы, іншыя

## Старабеларуская літаратурная мова

У XI–XIII стагоддзях усходнія славяне карысталіся дзвюма блізкімі пісьмовымі мовамі: старажытнарускай і царкоўнаславянскай. Апошняя і пазней служыла мовай Праваслаўнай царквы і рэлігійнай літаратуры. З XIV – XV стст., у перыяд фарміравання беларускай народнасці і беларускай мовы, літаратурнай мовай на Беларусі стала старабеларуская, якая дасягнула высокай ступені развіцця і дасканаласці. З'яўлялася яна афіцыйнай мовай Вялікага Княства Літоўскага, гэта значыць выкарыстоўвалася ў заканадаўстве і дзяржаўнай перапісцы, на ёй пісаліся мастацкія арыгінальныя творы (летапісы) і справачныя граматы, рабіліся пераклады, а з XVI ст. пачала выкарыстоўвацца ў рэлігійных тэкстах. З сярэдзіны XVII ст. пад уплывам пашырэння на беларускіх землях польскай культуры і паланізацыі значнай часткі тагачаснага грамадства старабеларуская мова прыйшла ў заняпад. У XIX ст. яна афіцыйна была забаронена царскім урадам.

Да паловы XX ст. даследчыкі, асабліва рускія, называлі яе *заходнярускай мовай*. У помніках па традыцыі называецца *рускай* (не расейскай), *простай*, *простым рускім дыялектам*. Зрэдку, галоўным чынам па-за межамі краіны, старабеларускую мову называлі *літоўскай* – ад назвы дзяржавы, у якой яна выкарыстоўвалася.

*паводле М. Лазарука, Л. Шакуна*

## Беларускія летапісы як жанр сярэднявечнай эпічнай прозы

Летапісамі, або хронікамі, называюцца запісы сучаснікаў пра важныя палітычныя, грамадскія і іншыя падзеі жыцця. У іх лаканічна, сцісла, у пагадовай форме апавядалася пра найбольш значныя падзеі з жыцця краін, княстваў, гарадоў, гістарычных асоб. Летапісанне на Беларусі існавала амаль восем стагоддзяў (XII–XVIII), але найстарэйшыя беларускія летапісы (як, напрыклад «Полацкі летапіс») загінулі ў віры войнаў і пажараў. Аднак яны часткова ўвайшлі ў іншыя летапісныя зводы, якія ствараліся, напрыклад, на Кіеўскай Русі.

Многія іх старонкі не застаюцца сухімі гістарычнымі дакументамі, а ўзбагачаюцца мастацкімі дэталямі, эмацыйнымі ўступленнямі аўтараў і г. д.

Летапісы складаліся, як правіла, свецкімі або духоўнымі асобамі, якія паходзілі з розных сацыяльна-культурных асяроддзяў.

Нямала цікавых, выкладзеных у мастацкай форме старонак з жыцця нашых продкаў, можна знайсці ў «Аповесці мінулых гадоў», складзенай у Кіеве летапісцам, пісьменнікам і мысляром Нестарам.

Вось, напрыклад, фрагмент апавядання пра славутую бітву на Нямізе 3 сакавіка 1067 года: *«Зарацістя Усяслаў, сын Брачыслаўля, Полача-*

*ске і зая Ноўгарад. Яраславічы жа трыя – Ізяслаў, Святаслаў, Усевалод – савакупіўшыся воі, ідокша на Усяслава, зіме сушчы веліцы. І прыйдоша ка Меньску, і меняне затварышася ў градзе. Сі жа брацця ўзяша Менеск, і ісекоша мужы, а жоны і дзеці ўдаша на шчыты, і паідоша к Нямезе, і Усяслаў паідзе проціву. І савакупішася абоі на Нямізе, месяца марта ў трэці дзень; і бяша снег вялік, і паідоша проціву сабе. І быць сеча зла, і мнозі падоша, і адалеша Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад. Усяслаў жа бяжа. Па сем жа, месяца юля ў 10 дзень, Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад, цалаваўшы крэст чэсны к Усяславу, рэкоша яму:*

*– Прыдзі к нам, яко не створым ці зла.*

*Ен жа, надзеяўся цалаванню храста, пераеха ў ладдзі чэрас Днепр. Ізяслаў жу шацёр прад'ідушчу, і така яша Усяслава на ршы ў Смаліньска праступіўшы крэст. Ізяслаў жа прывед Усяслава Кыеву, усадзі і ў поруб з дзвема сынома...»*

Арыгінальным апавяданнем пра Літоўска-Беларускую дзяржаву за часамі Вітаўта з'яўляецца «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх» 1446 г., напісаны на старабеларускай мове. Гэты летапіс уключае ў сябе сапраўды літаратурны твор – «Пахвалу вялікаму князю Вітаўту».

Гэта не традыцыйны аповед пра пэўныя гістарычныя падзеі, а ўсхваляванае лірычнае слова пра славутага князя, апафеоз пераканаўчых вынікаў яго ўладарства. Князь Вітаўт паказаны тут як мудры і ўсемагутны ўладар:

*[...] І Вялікі Ноўгарад, і вялікі Пскоў –*
*усі былі паслушны вялікага князя Вітаўта.*
*Цары і князі ў вялікай ласцы з ім былі,*
*а іныя служылі яму*
*і чэсць вялікую, і дары многія прыносілі яму*
*не толька па ўсі лета, але на кожны дзень.*
*І быў князь вялікі Вітаўт сільны гаспадар*
*і славен па ўсім землям,*
*і многа царэй і князей служылі ў двару яго,*
*а іншыя, прыяжджаючы, кланяліся яму,*
*просячы сабе ў яго на царства Ардынскае[...]*

Этапным творам беларуска-літоўскага летапісання, помнікам грамадска -палітычнай думкі і літаратуры з'яўляецца адзін з пазнейшых летапісаў – створаная ў першай палове XVI ст. «Хроніка Быхаўца». Аўтарам гэтага твора хутчэй за ўсё быў патрыятычна настроены, адукаваны беларускі шляхціц. «Хроніка Быхаўца» – своеасаблівы цыкл вострасюжэтных белетрызаваных апавяданняў, аб'яднаных адзінствам тэмы. Добрай моваю і досыць займальна тут расказваецца пра сапраўдныя гістарычныя падзеі: дзейнасць вялікіх літоўскіх князёў Міндоўга, Войшалка, Альгерда, Вітаўта, славутых шляхецкіх родаў Гаштольдаў, Гальшанскіх, Слуцкіх. Найбольш выразна гучыць ваенна-

патрыятычная тэма (апавяданні пра паход князя Альгерда на Маскву, апісанне бітвы з крыжакамі пад Грунвальдам, з татарамі пад Клецкам і інш.).

Старабеларускія летапісы, жыцці, хаджэнні – невычэрпная крыніца тэм, сюжэтаў, вобразаў для пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў. Напрыклад Максім Багдановіч стварыў вобраз старажытнага летапісца ў аднайменным вершы:

*Душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах,*
*Свой век канчаю я ў манастырскіх мурах...*

*паводле Л. Баршчэўскага*

1 На аснове прыведзеных тэкстаў складзі дэфініцыю летапіса. Падай найбольш істотныя яго рысы. Звярні ўвагу на тое, што гэта самы багаты жанр свецкай літаратуры.

2 Калі ўзнікла летапісанне на Беларусі і што гэтаму паспрыяла? На якіх мовах яно вялося? Выкарыстай таксама ніжэйпрыведзены тэкст.

❖ Першыя летапісы, што ўзніклі на тэрыторыі Беларусі, маюць выразны мясцовы характар, напр. *Полацкі летапіс* з XII стагоддзя. У цэнтры ўвагі былі падзеі звязаныя з асобным княствам, горадам. Найбольшага росквіту беларускае летапісанне дасягнула ў XV – XVI стагоддзях, калі ў цэнтры Еўропы набыла палітычную і нацыянальную незалежнасць беларуская дзяржава. На Беларусі часоў Вялікага Княства Літоўскага найбольш выразна выявіліся так званыя беларуска-літоўскія летапісы і мясцовыя хронікі, напр. *Беларуска-літоўскі летапіс, Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага* і іншыя. Гэтыя арыгінальныя творы пісаліся на старабеларускай мове.

Страта ў другой палове XVI ст. ВКЛ дзяржаўнай незалежнасці абумовіла заняпад летапісання, хаця гэтыя творы яшчэ доўга бытавалі на тэрыторыі Беларусі. У XVII ст. пачынаюць узнікаць новыя летапісныя творы – дыярыушы (дзённікі) і хранаграфы. Тут шырока выяўляецца ўласны падыход аўтараў на характар адлюстравання мі-

нулага і моўныя разнавіднасці. У адных пераважаюць рысы беларускай мовы, у другіх шырока выкарыстоўваецца традыцыйная агульнаўсходнеславянская і стараславянская лексіка. У XVII – XVIII стагоддзях былі створаны на польскай мове *Віцебскі летапіс, Магілёўская хроніка, Лісты* Ф. Кміты-Чарнабыльскага і іншыя.

Шкада, што большасць з амаль 50 спісаў беларускіх летапісаў захоўваецца па-за межамі краіны – у Маскве і Санкт-Пецярбургу.

*паводле М. Прыгодзіча*

• спіс – рукапісная копія, перапісаны тэкст чаго-небудзь, напр. Супрасльскі спіс *Беларуска-літоўскага летапісу*



*Рэканструкцыя бітвы пад Грунвальдам у яе 600-годдзе. Беласток, 2010 год*

## Летапісная аповесць пра Грунвальдскую бітву
(З «Хронікі Быхаўца»)

*«Летапісная аповесць пра Грунвальдскую бітву» – патрыятычнае апавяданне, заснаванае на ўспамінах удзельнікаў вялікай баталіі, было ўключана ў змест «Хронікі Быкаўца» – найбольш выдатнага помніка агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання XVI стагоддзя. Хроніка названа па імені памешчыка А. Быхаўца з-пад Ваўкавыска, якому належаў адзіны вядомы рукапісны экземпляр. Твор гэты – вельмі каштоўнае дапаўненне да «Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага».*

У год ад пачатку свету шэсць тысяч дзевяцьсот дваццаць першы, а ад Божага нараджэння тысяча чатырыста дванаццаты, пачалася вайна караля польскага Уладзіслава Ягайлы і яго брата, вялікага князя літоўскага Вітаўта з прускімі немцамі. І сабралі з абодвух бакоў вялікае войска: кароль Ягайла ўсе сілы Кароны польскае, вялікі князь Вітаўт усе сілы літоўскія і рускія, і шмат ардынскіх татараў, магістр жа прускі таксама сабраў сваё войска з Прусіі і з усяе Нямеччыны. І калі ўжо ўсе войскі з абодвух бакоў былі гатовыя, тады кароль Ягайла і вялікі князь Вітаўт рушылі да месца бітвы цяжкімі ляснымі дарогамі, але ніяк не маглі знайсці роўнага і шырокага поля,

дзе можна было б для бітвы спыніцца. Толькі ля нямецкага гарадка Дуброўна знайшліся такія роўныя і вялікія палі. І заўважылі немцы, што ляхі і літва з такім вялікім войскам не змогуць выйсці на іншае месца, толькі на тыя Дубровенскія палі, і пачалі яны капаць ямы і прыкрываць іх зямлёю, каб у іх коні і людзі падалі.

І калі ўжо кароль Ягайла і вялікі князь Вітаўт са сваімі войскамі прайшлі тыя лясы, выйшлі яны на тыя Дубровенскія палі. Гетманам найвышэйшым у войску Ягайлавым быў тады пан Сокал, чэх, а гетманам дворным пан Спытка Спыткавіч, у Вітаўскім жа войску старшым гетманам быў князь Іван Жэдзевіч, брат Ягайлы і Вітаўта, а дворным гетманам пан Ян Гаштольд. І як пачалі тыя гетманы людзей да бітвы рыхтаваць, а пра тыя ямы нічога не ведалі, што немцы панакапалі, і так, рыхтуючы войскі, найвышэйшыя гетманы, князь Іван Жэдзевіч і пан Сокал, у ямы пападалі і ногі паламалі, і вельмі параніліся, ад чаго і памерлі. І не толькі гетманам, але і многім іншым людзям ад тых ям вялікая бяда ўчынілася. І, убачыўшы, што з іх найвышэйшымі гетманамі такое здарылася, кароль Ягайла і вялікі князь Вітаўт абралі на іх месца двух гетманаў: кароль прызначыў пана Спытку на Сокалава месца, а князь Вітаўт Яна Гаштольда на месца Івана Жэдзевіча. Абралі і загадалі рыхтаваць войскі і атрады ставіць да бітвы, а тых каварных ям сцерагчыся. І затым гэтыя гетманы, падрыхтаваўшы войскі, рушылі на бітву. Немцы ж, убачыўшы гэта, пачалі з імі сутычкі. І пачалася з раніцы бітва паміж немцамі і літоўскімі войскамі, і шмат з абодвух бакоў войска літоўскага і нямецкага палегла.

Пасля вялікі князь Вітаўт, убачыўшы, што яго войска моцна пабіта, а ляхі ім ніякай дапамогі не хочуць чыніць, прымчаўся да свайго брата, караля Ягайлы, а ён імшу слухаў. І сказаў так Вітаўт: «Ты імшу слухаеш, а князі і паны, браты мае, амаль ці не ўсе забітыя ляжаць, а твае людзі ніякай дапамогі ім не хочуць чыніць››. А Ягайла яму адказаў: «Мілы браце, ніякім чынам не магу зрабіць інакш, толькі даслухаць мушу». І, даслухаўшы імшу, загадаў свайму атраду каморнаму рушыць на выратаванне. І той атрад, прыйшоўшы на дапамогу войску літоўскаму, пайшоў з войскам літоўскім на немцаў, і разбілі нагалаву немцаў, і самога магістра, і ўсіх яго комтураў забілі, і безліч немцаў пабілі і ўзялі ў палон; а іншыя ляшскія войскі ім нічым не дапамагалі, толькі на тое глядзелі. І затым усіх іх (немцаў) разграміўшы і шмат гарадоў і зямель іх пабраўшы, а астатнія паланіўшы і дашчэнту выпаліўшы і спустошыўшы, з вялікаю пашанаю і незвычайнаю перамогаю, заслужыўшы на ўвесь свет выдатную славу, вярнуліся ў свае землі. Палову ж нямецкіх харугваў і палову абадраных барадаў магістра і ўсіх мёртвых комтураў узялі ў Польшчу, а другую палову ў Літву, дзе тыя бароды і харугвы павесілі ў замку Кракаўскім у касцёле святога Станіслава, а ў Вільні таксама ў касцёле святога Станіслава яны вывешаны.

*пераклад са старабеларускай В. Чамярыцкага*

1 Звярні ўвагу, у які спосаб падаецца ў хроніцы дата Грунвальдскай бітвы. Правер, ці правільна запісаў летапісец дату бітвы пад Грунвальдам.

2 Скажы, ці прыведзены ў «Хроніцы Быхаўца» аповед пра Грунвальдскую бітву спаўняе ўсе патрабаванні летапісных запісаў.

3 Як успрымаеш гэты тэкст:
а) як дакумент
б) як гістарычнае паданне
Абгрунтуй свой адказ.

4 Пра якія дэталі адносна бітвы можна даведацца з летапісу?

5 На чыім баку сімпатыі аўтара? Як думаеш, чаму?

6 Што табе вядома пра Грунвальдскую бітву з іншых крыніц (у тым пра ўдзел беларускіх харугваў)?

## АДРАДЖЭННЕ
(XVI – пачатак XVII стст.)

XVI стагоддзе пазначана ў гісторыі краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы як час вялікіх змен, навуковых адкрыццяў. Растуць гарады, удасканальваюцца таварна-грашовыя адносіны, складваюцца нацыянальныя дзяржавы. Чалавечая думка сягае ў раней недасяжныя вяршыні. Джардана Бруна, Галілео Галілей, Мікалай Капернік зрабілі незвычайныя адкрыцці ў астраноміі. Хрыстафор Калумб і Фердынанд Магелан адкрылі новыя мацерыкі і даказалі, што Зямля мае шарападобную форму. Леанарда да Вінчы сканструяваў лятальны апарат, а Ёган Гутэнберг вынайшоў друкарскі станок.

Мастакі, пісьменнікі пачалі адраджаць гуманістычныя традыцыі і ідэі класічнага мастацтва і літаратуры старажытных Грэцыі і Рыма. Яны адкрылі ў іх ісціны, якія дапамагалі па-новаму ўбачыць рэальны, зямны свет, рэальнага чалавека. У процівагу сярэднявечным поглядам аказалася, што чалавек прыгожы, прыгожыя яго думкі, знешні воблік, яго імкненне пазнаць свет і самога сябе. Ён павінен быць вольны ў сваіх творчых памкненнях, выяўленні думак, ідэй, радавацца жыццю, імкнуцца да дасканаласці, быць дзейным, актыўным. Перадавыя людзі пачалі разумець, што чалавек і яго жыццё з’яўляюцца галоўнай каштоўнасцю на зямлі.

Гэты час пазней назвалі эпохай Адраджэння (Рэнесансу), асноўным прынцыпам якой стаў гуманізм (ад лацінскага слова «гуманус» – чалавечы, чалавечны).

На Беларусі ў XIV–XVI стагоддзях ішоў актыўны рост гарадоў і мястэчак, будаўніцтва замкаў. Менавіта на эпоху Адраджэння прыпадае фарміраванне беларускай народнасці і беларускай мовы, узмацненне і цэнтралізацыя Літоўска-Беларускай дзяржавы. Беларуская мова выконвала ролю дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім. Былі створаны выдатныя творы летапісання «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх», «Хроніка Быхаўца», узмацняецца цікавасць да сусветнай свецкай літаратуры.

Беларускі тагачасны чытач мог пазнаёміцца ў перакладзе на сваю мову са старажытнымі творамі сусветнай літаратуры: «Александрыяй», «Аповесцю пра Трышчана», «Гісторыяй пра Атылу».

Эпоха Адраджэння дала чалавецтву выдатных вучоных, мастакоў, пісьменнікаў: Дантэ, Петрарку, Бакачыа, Сэрвантэса, Рабле, Шэкспіра. І сёння ўвесь свет захапляецца творамі Рафаэля, Мікеланджэла, Леанарда да Вінчы.

Беларусы пабагацелі ў гэты час на Францыска Скарыну, Міколу Гусоўскага, Сымона Буднага, Льва Сапегу і іншых волатаў думкі, мастакоў слова. Дзякуючы ім, асветнікам, гуманістам, патрыётам, людзям, якія апярэдзілі свой час, наша літаратура заняла сваё пачэснае месца сярод іншых літаратур свету.

*паводле В. В. Кушнярэвіча, У. А. Рагулі*

1 Чым выдзяляецца XVI ст. у гісторыі краін Еўропы?

2 Да якіх ідэй і чаму пачалі звяртацца мастакі і пісьменнікі таго часу?

3 Якое было стаўленне да чалавечай асобы ў эпоху Адраджэння?

4 Чаму часы Рэнесансу былі так істотнымі для беларускай нацыі?

## Залаты век

XVI ст. – гэта быў час незвычайнага ўздыму культуры, развіцця асветы, грамадскай думкі Вялікага Княства Літоўскага – адной з найбуйнейшых і наймагутнейшых дзяржаваў Еўропы – краіны з дэмакратычным (па тым часе) грамадскім ладам, з высокім узроўнем прававой культуры, з рэлігійнай і этнічна-культурнай цярпімасцю. Гэта час пашырэння ў княстве ідэяў Рэнесансу і Рэфармацыі, час, асвечаны імёнамі выдатных дзяржаўных, грамадскіх, рэлігійных дзеячаў: Жыгімонта Старога, Стафана Баторыя, Канстанціна

Астрожскага, Рыгора Хадкевіча, Мікалая Радзівіла Чорнага, Астафія Валовіча, Льва Сапегі.

Росквіт культуры XVI ст. справядліва атаясамліваецца найперш з дзейнасцю першадрукара Беларусі і ўсіх усходніх славян Францішка Скарыны, выданнем ім кнігаў у 1517–1525 гг. у Празе і Вільні і з далейшым развіццём кнігадрукавання ў краіне яго паслядоўнікамі Сымонам Будным і Васілём Цяпінскім. З варштатаў, паўсталых у Нясвіжы, Берасці, Лоску, Любчы, Цяпіне, Заблудаве, віленскіх друкарняў на працягу стагоддзя сышлі больш за 320 выданняў самага разнастайнага зместу: рэлігійных, палемічных, навучальных, асветных. Віленскай друкарняй Мамонічаў у 1588 г. выдадзены «Статут Вялікага Княства Літоўскага», першая канстытуцыя нашай дзяржавы, найстарэйшы і самы дасканалы збор законаў у Еўропе.

Развіваецца літаратура: рэлігійная, перакладная (рыцарскія раманы, гістарычныя аповесці) і арыгінальная свецкая – летапісанне (хронікі).

Прыгожае пісьменства сягае вышыняў не толькі на старабеларускай і царкоўнаславянскай мовах, але і на лацінскай – мове навукі і літаратуры сярэднявечнай Еўропы. Ян Вісліцкі і Мікола Гусоўскі – найярчэйшыя зоркі лацінамоўнай паэзіі Беларусі XVI ст.

Развіваюцца існуючыя, інтэнсіўна ствараюцца шматлікія новыя навучальныя ўстановы – школы, калегіумы, а ў 1579 г. расчыняе свае дзверы першы на Беларусі і ва Усходняй Еўропе ўніверсітэт – Віленская езуіцкая акадэмія. Развіццё навукаў – лінгвістыкі, гісторыі, геаграфіі, астраноміі, матэматыкі, медыцыны, вайсковай справы – дасягае высокага еўрапейскага ўзроўню, а юрыдычнае права – пераўзыходзіць яго. Узнікаюць тэатры – школьныя, першыя прафесійныя, народны лялечны тэатр – батлейка, ствараюцца вакальныя ды інструментальныя музычныя творы («Полацкі сшытак»).

Рэнесансныя праявы вельмі выразныя ў гэты час ва ўсіх відах выяўленчага і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва Беларусі. Складаецца адметная беларуская іканапісная школа. Развіваецца свецкі жывапіс, у першую чаргу партрэтны жанр (партрэты Юрыя Радзівіла, Кацярыны Слуцкай). Высокага мастацкага ўзроўню дасягнулі майстры скульптуры.

*паводле Яўгена Куліка*

**1** Закончы сказы.

Першая канстытуцыя на беларускіх землях ...................

Ф. Скарына запачаткаваў ...................

Доказам на інтэнсіўнае культурнае развіццё ...................

**2** Ахарактарызуй XVI стагоддзе на Беларусі.

**3** Назаві прозвішчы вялікіх дзеячаў «*залатога веку*».



*Супрасльскі ірмалогій*

*Аляксандр Вярбіцкі*

## Супрасльскі ірмалогій

Супрасльскі ірмалогій гэта музычны рукапіс створаны ў 1598–1601 гадах у Супрасльскім манастыры. Верагодна быў ён запісаны для адзначэння стагоддзя існавання манастыра, заснаванага ў 1498 годзе. Ірмалогій змяшчае рэлігійныя тэксты прызначаныя для спявання ў царкве на ўсіх малебнах літургічнага года. Аўтарам большасці запісаў лічыцца Багдан Анісімовіч родам з Пінска; аўтарства шматлікіх твораў ананімнае. Так запісы Анісімовіча, як і творы іншых аўтараў, выконваліся на месцы манастырскім хорам. Хор гэты меў высокае рэнамэ, бо слухаць спевы ў ягоным выкананні прыязджаў у 1543 годзе ў Супрасль сам кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт Аўгуст.

Супрасльскі манастыр распаложаны на сутыкненні дзвюх культур, Усходу і Захаду, а гэта дазваляла працуючым у ім творцам карыстацца здабыткамі абедзвюх культурных плыняў. Мелодыі Супрасльскага ірмалогія адлюстроўваюць амаль усе музычныя дасягненні тагачаснага праваслаўнага свету. Ірмалогій

запісаны на 576 старонках наватарскім на той час нотным запісам. Ёсць там песнапенні гадавога літургічнага цыкла Праваслаўнай царквы.

Далучэнне Супрасльскага манастыра да Брэсцкай уніі парушыла дагэтуляшні ход тамашняга музычнага жыцця. Новыя яго кіраўнікі ў 1630 годзе выганяюць з манастыра Багдана Анісімовіча. Прыблізна ў той жа час знікае адтуль і ірмалогій; неўзабаве апынаецца ён у Кіева-Пячэрскай лаўры, дзе служыць спевакам некалькі дзесяцігоддзяў. У 1718 годзе Супрасльскім ірмалогіем перастаюць карыстацца і пераносяць у манастырскую бібліятэку і музей. Мабыць быў ён там глыбока схаваны, бо захаваўся нягледзячы на тое, што бальшавікі спалілі большасць фондаў Кіева-Пячэрскай лаўры. Знайшоў яго ў пачатку 1970-х гадоў прафесар-музыколаг Анатолій Канатоп.

Прафесар Канатоп даведаўся пра існаванне Супрасльскага ірмалогія выпадкова. Даведаўся з карэспандэнцыі паміж расійскімі музыколагамі з пачатку XX стагоддзя, але толькі пра яго наяўнасць у Кіеве. Трапіла таксама ў ягоныя рукі кніжка аднаго з тых вучоных, у якім была памешчана копія тытульнай старонкі вельмі даўняга ірмалогія; прафесара Канатопа ахапіў запал знайсці ўнікальны помнік славянскага музычнага пісьменства. Падаўся ён у Кіеў, ведаючы, што ў 1930-х гадах бальшавікі нішчылі захаваныя ў тамашніх царкоўных фондах усе незразумелыя ім даўнія рукапісы, у тым ліку і музычныя, запісаныя архаічнымі кручковымі нотамі; выкідалі іх на вуліцу, у балота, зніштажаючы такім чынам амаль усю шматвяковую культурную спадчыну Кіева-Пячэрскай лаўры. Але Супрасльскі ірмалогій цудам захаваўся, а прафесар Канатоп заняўся поўняй яго даследавання. Бо не захаваліся ўсе тонкасці даўняй натацыі і трэба было карпатліва, кручок за кручком іх расчытваць і разгадваць. Супрасльскі спеўнік, як легендарны Фенікс, падняўся да новага жыцця. Каштоўнейшыя здабыткі даўняй музыкі, запісаныя ў Супрасльскім ірмалогіі, зноў уваходзяць у цэрквы, канцэртныя залы ды на фанаграфічныя запісы.

1 Што гэта – Супрасльскі ірмалогій? Звярні ўвагу на першы абзац артыкула.

2 Як склалася гісторыя музычнага рукапісу створанага Багданам Анісімовічам пасля рэлігійнай уніі і лёс самога аўтара?

3 Дзякуючы каму, чыім намаганням каштоўны спеўнік вярнуўся да сучаснікаў? Якое яго значэнне?

3 Дапоўні фразы:
Унікальны помнік музычнага пісьменства ........................................................................ .
Каштоўныя здабыткі даўняй музыкі ........................................................................ .

*Аўтапартрэт Францыска Скарыны, заснавальніка беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Францыск Скарына выдаў у Празе 6 жніўня 1517 года Францыск Скарына выдаў у Празе першую друкаваную беларускую кнігу, да 1519 года выдаў 23 кнігі «Бібліі». У 1522 годзе Францыск Скарына заснаваў у Вільні друкарню – першую на землях Усходняй Еўропы. У ёй у 1522 годзе была надрукавана «Малая падарожная кніжка», а ў 1525 «Апостал»*



## Францыск Скарына (каля 1490 – 1552)

Францыск Скарына нарадзіўся і жыў у цікавы час, які сёння мы называем эпохай Адраджэння (Рэнесансу). Тады адраджаліся краіны і народы, людзі пачалі больш глыбока спасцігаць сваё мінулае, вывучаць і ўзнаўляць культурна-гістарычную спадчыну.

Скарына быў адным з першых дзеячаў Усходняй Еўропы, які добра зразумеў вялікую гістарычную місію друкаванай кнігі як магутнага сродка культурнага прагрэсу чалавецтва і глыбока адчуў, што кніга патрэбна яго народу не менш, чым хлеб. Яна – неацэнны скарб чалавечай мудрасці, «маці і настаўніца ўсіх добрых спраў», гаючыя лекі для душы – так казаў Скарына.

Пабываўшы ў многіх краінах, шмат чаго пабачыўшы і спазнаўшы, дасягнуўшы вяршынь еўрапейскай адукаванасці і вучонасці (у 1506 годзе ён скончыў Кракаўскі ўніверсітэт, а ў 1512 годзе ў італьянскім горадзе Падуя бліскуча здаў экзамены на годнасць доктара медыцыны, сын полацкага купца аддаў усе свае сілы, веды і энергію той вялікай справе, якую палічыў самай высокай і ў якой убачыў галоўны сэнс свайго жыцця – перакладу Бібліі на родную мову і заснаванню ўсходнеславянскага кнігадрукавання.

За кароткі час ён падрыхтаваў і выдаў на працягу 1517–1519 гадоў у чэшскай Празе 23 кнігі Бібліі. 6 жніўня 1517 года з друкарскага станка сышла першая кніга «Псалтыр». Пасля ў Вільні ён выпусідў яшчэ «Малую падарожную кніжку» (1522) і «Апостал» (1525). Такім чынам беларускі гуманіст здзейсніў свой самы вялікі, сапраўды тытанічны подзвіг.

Дзякуючы Скарыне беларускі народ і ўсе славяне пабагацелі адразу на тысячы новых кніг, кніг незвычайных, друкаваных, шырокадаступных, адрасаваных простаму чытачу. Дзякуючы нашаму першадрукару ўсходнеславянская кніга атрымала сучасны выгляд: з тытульным лістом і пранумараванымі старонкамі, са змястоўнай прадмовай і пасляслоўем, з ілюстрацыямі.

У сваёй друкаванай «Бібліі» побач з біблейскімі героямі Скарына змясціў свой уласны партрэт. Гэты ўнікальны ў еўрапейскім кнігадруку партрэт захаваў нам праз стагоддзі сапраўдны воблік беларускага гуманіста.

Жыццёвы шлях Скарыны, яго лёс – вельмі тыповыя і характэрныя для чалавека, які апярэдзіў час. Нам сёння немагчыма нават уявіць, колькі розных цяжкасцей і гора яму давялося перажыць, колькі розных несправядлівых абвінавачванняў і пакут вынесці.

Ён – слава і гонар свайго народа, поўны творчых сіл і энергіі, планаў і задум – не знайшоў неабходнай падтрымкі ў кіруючых колах Вялікага Княства Літоўскага і ў рэшце рэшт быў вымушаны пакінуць родную зямлю і шукаць сабе прыстанішча на чужбіне, у Чэхіі, дзе ён і знайшоў свой вечны спачын.

Але засталіся Скарынавы кнігі, якія даходзілі да сэрца і розуму суайчыннікаў, несучы святло асветы, цяпло і сілу жыватворнай духоўнай энергіі вялікага палачаніна. З далёкага XVI стагоддзя даносіцца да нас голас нашага славутага папярэдніка, як запавет нашчадкам гучаць яго мудрыя і пранікнёныя словы: любіце кнігу, бо яна – крыніца мудрасці, ведаў і навукі, «лекі для душы»; любіце і шануйце, як святыню, роднае слова, з якім вас «літасцівы Бог на свет пусціў»; любіце бацькаўскую зямлю, дзе вы былі ўскормлены і ўзгадаваны, і не шкадуйце сваіх сіл, каб дзейна і годна, «во великих послужити» свайму народу, бо «вера без спраў мёртвая». А яшчэ завяшчаў нам вялікі беларускі гуманіст-патрыёт захоўваць і абараняць сваю чалавечую і нацыянальную годнасць, быць вартымі высокага звання – Чалавек.

*паводле В. Чамярыцкага*

**1** Раскажы пра Ф. Скарыну. Выкарыстай прыведзеную схему:

а) Скарына а эпоха Адраджэння на Беларусі
б) гады навукі ў Кракаве і Падуі
в) пражскія і віленскія выданні
г) на службе па-за межамі ВКЛ
д) Скарына, як наватар кнігадрукарскага мастацтва
е) імкненне наблізіць Біблію простаму чалавеку
ж) уласналітаратурная спадчына (прадмовы, Акафіст Іаану Прадцечы)
з) вучэнне Скарыны аб грамадстве (заклік да ўмацавання правапарадку, «добрыя справы» як мэта стваральнай дзейнасці чалавека)

**2** Падрыхтуй кароткае выступленне на тэму: *Францыск Скарына – чалавек Рэнесансу.*

## Прадмова да ўсёй Бібліі

Біблія – грэчаскае слова, па-руску гэта азначае – кнігі. Так святы апостал Мацвей пачынае Хрыстова дабравесце: «Біблос генезеос Ісус Хрысту», па-руску гэта значыць «Кніга народзін Ісуса Хрыста». Так з-за іх асаблівай значнасці можаце называць усе кнігі Старога і Новага запавету, бо поўная Біблія ўсё гэта змяшчае.

Біблія дзецям і людзям простым – кніга для навучання, настаўнікам і людзям мудрым – для захаплення.

Біблія – дзівосная рака! Яна бывае мелкай, і нават авечка можа яе перайсці! Але адначасна – і глыбокай, калі і слон змушаны плысці цераз яе! У гэтай кнізе – пачатак і канец усёй існуючай мудрасці, бо толькі праз яе можна спасцігнуць Богаўсётрымальніка! У гэтай кнізе – усе законы і правы, якімі карыстаюцца людзі ў зямным жыцці! У гэтай кнізе – усе лякарствы душэўныя і цялесныя разам знойдзеце! Тут – навучанне філасофіі дабранраўнае: як Бога любіць для самога сябе і для бліжняга свайго! Тут – справа ўсялякага збору людскога і гораду, якія праз веру, ласку і згоду паспалітую дабро памнажаюць. Тут – поўнае навучанне сямі навук вызваленых!

Жадаеш ведаць Граматыку, ці па-нашаму кажучы, грамату, якая вучыць правільна чытаць і гаварыць, – звяртайся да Бібліі. Чытай у ёй кнігу «Псалтыр».

Наважышся асвоіць Логіку, што вучыць пры дапамозе аргументаў адрозніваць праўду ад хлусні, – чытай «Кнігу святога Іова» або «Пасланні святога апостала Паўла».

Задумаеш авалодаць Рыторыкай, якая ёсць само Красамоўства, – чытай кнігі Саламонавы.

Гэта ўсё навукі славесныя.

А калі захочаш вучыцца Музыцы, гэта значыць, Пеўніцы, – шматлікія вершы і песні святых ва ўсёй гэтай кнізе знойдзеш!

Спатрэбіцца табе Арыфметыка, якая вучыць хутка і без памылак лічыць, – чатыры кнігі Майсеевы часта чытай.

Хочаш засвоіць навуку Геаметрыю, якая па-нашаму завецца Землямеранне, – чытай кнігі Ісуса Навіна. А калі патрэбна Астраномія, альбо інакш Зоркалічэнне, – знойдзеш на пачатку гэтай кнігі аб стварэнні сонца, месяца і зорак. У «Ісусе Навіне» прачытаеш аб тым, як сонца стаяла на адным месцы. У кнігах «Царстваў» – як сонца вярнулася назад на некалькі ступеняў. У святым «Евангеллі» Мацвея паведамляецца аб сатварэнні новай зоркі ў час нараджэння Спаса нашага Ісуса Хрыста.

Ваісціну, мусіш болей дзівіцца з незвычайнай боскай моцы, чым вучыцца! У «Бібліі» – сутнасць сямі навук вызваленых!

Узнікае жаданне ведаць аб ваенных і багатырскіх справах – чытай кнігі


Еремиа Пророкъ глаголеть плачеть Глаголем На Ерусалим

Книжка рекомая плачь Еремиинъ
починаеться. Зуполне выложе
на нарускии языкъ доктором
Францискомъ Скориною сполоцька
напредъ богу втроици единому кучьти
и людем посполитым кдоброму навчению


Починаються
епистолы све
того славного и ве
рховняго внебе ня
вченяго апостоля
хр҃твя пявля

Гравюра з кнігі «Плач Іярэміі» з пражскай «Бібліі» Францыска Скарыны, 1519 год

Тытульны ліст Пасланняў апостала Паўла з кнігі «Апостал», 1525 год

«Суддзі» ці кнігі «Макавеяў». Яны значна шырэй і больш праўдзівыя, чым «Александрыя» і «Троя».

Пажадаеш прасачыць гісторыю за тысячы год, летапісанне – чытай кнігі «Параліпаменона». Там выпісаны ўсе роды, пачынаючы ад Адама, да Седэхіі, апошняга цара Іудзіна.

Спатрэбіцца мудрасць і навука добрых нораваў – часта чытай кнігі «Ісус Сірахаў» і «Прытчы Саламонавы».

Над усім тым мы, хрысціяне, патрабуем рэч вечную – душэўнае выратаванне. Таму мы чытаем для настаўлення святое «Евангелле» і імкнемся ў справах трымацца прыкладу збавіцеля нашага Ісуса Хрыста. З яго дапамогай шукаем шляхі ў вечнае жыццё і царства нябеснае, падрыхтаванае для абраннікаў божых.

Патрэбна таксама ведаць, што Біблія складаецца з дзвюх частак: Старога запавету і Новага.

Стары запавет уключае дваццаць чатыры кнігі.

Першая кніга – «Быццё» Майсея. У ёй апісваецца стварэнне свету і зямлі, пачатак людскога роду, узнікненне розных народаў і моў, распавядаецца аб яўрэйскім народзе аж да зыходу яго ў Егіпет.

Другая кніга – «Выхад». У ёй гаворыцца аб нараджэнні Майсеевым, аб дзесяці язвах фараонавых, аб выхадзе з Егіпта сыноў Ізраілевых, аб дзесяці запаведзях божых і многіх іншых судах яго.

Трэцяя кніга – «Левіт». Пішацца ў ёй аб храме божым, аб рызах Ааронавых, аб ахвярах і службах левітаў.

Чацвёртая кніга – «Лічбы». Гаворыцца ў ёй аб злічэнні сыноў Ізраілевых, аб дарах князёў, аб прароцтве Валаама і аб 42 станах, дзе адпачывалі яўрэі ў пустыні.

Пятая кніга Майсеева называецца «Другі закон». У ёй прадказваецца святое «Евангелле», а таксама скарочана паўтараецца ўсё тое, аб чым падрабязна гаварылася ў ранейшых кнігах.

Гэта і ёсць па-грэчаску «Пентацеўхас», альбо «Пяцікніжжа» Майсеева. Аб ім апостал Павел піша наступнае: «Лепш у царкве пяць слоў розумам спасцігаць ды іншых вучыць, чым шмат слоў языком паўтараць!»

Затым – кніга святога Іова – Зерцала доўгацярпення. Усе словы ў ёй поўныя розуму. Вершамі і загадкамі напісана. І аб уваскрэшанні цел нашых з мёртвых у ёй ёсць.

Пасля – «Ісус Навін». Апавядаецца ў кнізе аб пераходзе Іардана, вяртанні сыноў Ізраілевых на зямлю абяцаную, атрыманні Ерыхона-горада, разгроме цароў шматлікіх, падзеле зямлі паміж многімі людзьмі.

Кніга «Суддзяў»: Гафаніэля, Аода, Варака, Гедэона, Іефая і Самсона – апісваюць смеласць багатыроў і мужоў магутных. Пры іх змешчана кніжка «Руф», прабабкі цара Давыда.

Пасля ў Бібліі знаходзяцца кнігі «Чатырох Царстваў» сыноў Ізраілевых. Першыя дзве – па-яўрэйску завуцца «Шмуэль». У іх пішацца аб нараджэнні Самуіла, аб царстве Саула, аб пабоішчах і царстве Давыдавым. Дзве другія – па-яўрэйску завуцца «Млохім». У іх знойдзеш апісанне падзей ад цара Саламона да Ехоніі і ад Ераама – сына Наватава – да цара Осіі, ад яго пляненя – да Асірыі. Тут таксама выпісаны сорак спраў цароў Іудзейскіх і цароў Ізраільскіх.

Затым – дзве кнігі «Параліпаменона». У іх тое, што прапушчана ў кнігах «Царстваў». У прыватнасці, тут можна прачытаць пра многія роды ад Адама да пляненя Ерусаліма царом Навухаданосарам.

Дзве кнігі «Ездры» апавядаюць аб вызваленні з перскай няволі людзей яўрэйскіх, аб другім адыходзе з Ерусаліма, аб храме Святая Святых. Асобна апісваюцца народы суседнія, іх справы. Таксама гаворыцца аб выйшаўшых левітах.

Потым – кніжка «Тавіёт», у якой выкладзена навука аб тым, як бацькі павінны вучыць сваіх дзяцей.

Пасля – кніжка «Юдзіф». Гэта была жанчына незвычайнай прыгажосці, якая для вызвалення Айчыны не пашкадавала нават свайго жыцця.

За ёй – кніжка «Эсфір». Гэта царыца, якая пазбавіла людзей ізраілевых ад смерці.

Услед за гэтымі кнігамі ідуць «Песні цара Давыда». Завецца кніга па-грэчаску «Псалцірон», а па-яўрэйску – «Цілім». «Песні» падзяляюцца на дваццаць кафізмаў, сто пяцьдзесят псалмоў, дзве тысячы шэсцьсот вершаў альбо прыпеваў.

Пасля «Псалтыра» змешчаны тры кнігі Саламонавы: «Прытчы», «Эклезіяст» і «Песня песняў». У першай – навука малалетнім, у другой – мужам, у трэцяй – старым.

За імі – «Кніга Ісуса, сына Сірахава», якая завецца яшчэ «Царкоўнік». Яна ўтрымлівае навуку аб добрых норавах.

Побач з ёю – кніга «Прамудрасць божая». Там пераважна пішацца аб цярпенні пакутнікаў божых і аб жыцці святых.

Пасля – кнігі шаснаццаці пракракаў госпадніх. Ісайя – першы. Ён не толькі прарakуе аб Хрысце, але і падобен евангелістам. Другі прарок божы – Іярэмія. Яшчэ ў чэраве маці ён быў прасветлены і ўжо ў маладосці пачаў прарakаваць. Да ўсяго, ён напісаў кніжку «Плач Іярэміі». Трэці прарок вялікі – Езекія. Гэты ў пачатку кнігі сваёй прарakуе аб чатырох евангелістах Хрыстовых, а ў канцы – аб храме божым, хаця і надта таямніча. Чацвёрты прарок вялікі – Данііл, знаўца гісторыі і апавядальнік пра ўсе царствы. Ён прадказаў сапраўдны час прыходу Хрыста на зямлю і яго смерць.

Іншыя прарокі меншыя. Осія, сын Верыя – першы. Іаіль, сын Фатуілеў – другі. Ён пісаў аб сашэсці Святога Духа на апосталаў. Амос, пастыр і прарок госпадні – трэці. Аўдзій, ён жа завецца раб госпадні – чацвёрты. Іона, сын Амафаў – пяты. Ён, будучы тры дні ў чэраве кітовым, трохдзённае ўваскрэшанне Хрыстова сімвалізаваў. Міхей ад Марасхі – шосты прарок сярод меншых; аб ім пішацца ў кнігах «Царствы». Навум – сёмы. Ён, прарakуючы аб Хрысце, гаварыў: «Тут на гарах ногі таго, хто паспавядае і благавесціць свет». Авакум – восьмы. Гэты, прарakуючы, абвясціў: «Бог з поўдня прыйдзе і святы ад гары Фаран. Прыкрыла нябёсы слава яго, і хвалой яго зямля поўніцца!» Сафонія, сын Хузіеў – дзевяты. Агей – дзесяты. Ён пісаў: «Вось яшчэ крыху і парушу і зямлю, і мора, і сушу, прыгну ўсе народы, і прыйдзе той, каго чакаюць народы!» Захарыя – адзінаццаты, прадказаў прышэсце ў Ерусалім Хрыста сядзячым на асле. Малахія – дванаццаты.

На канцы Старога запавету змешчаны дзве кнігі «Макавеяў».

Вось такія кнігі ўваходзяць у склад першай часткі «Бібліі».

Другая частка «Бібліі» – выратавальны Новы запавет. У ім спачатку ідуць кнігі чатырох евангелістаў, альбо «Святое Благавешчанне»: Мацвея, Марка, Лукі, Іаана, якія, нібы калясніца, нясуць на ўсе чатыры бакі свету святое імя Госпада і прастол жыццядайнай Тройцы.

Потым – «Дзеянні» апосталаў. Святы евангеліст Лука, лекар душы, вучыць аб распаўсюджванні царквы Хрыстовай.

Затым – «Пасланні апостала Паўла», напісаныя да сямі цэркваў. Восьмае – да яўрэяў. Ён таксама навучае Цімафея, Ціта, Філімона. Крыніца невычэрпная і настаўнік усіх народаў!

Пасля – святых: Якава, Пятра, Іаана, Іуды. Яны пакінулі нам вялікія павучанні: сем саборных пасланняў напісалі кароткімі словамі.

У канцы Бібліі змешчана кніга святога Іаана – «Апакаліпсіс», альбо «Адкрыццё».

Колькі слоў, столькі і тайнаў!

Аб усіх кнігах Бібліі, наколькі дазваляў мне мой розум, я напісаў кароткія звесткі. А калі ў нечым памыліўся, прашу разумнейшых, каб выправілі, прашу вас, дзеля Бога і людзей.

Канец прадмовы да ўсёй Бібліі.

*пераклад са старабеларускай І. Саверчанкі*

*Францыск Скарына*

## З Прадмовы да кнігі «Юдзіф»

[...] Як ад нараджэння звяры, што ходзяць у пустыні, ведаюць ямы свае; птушкі, што лятаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і тым падобныя бароняць вуллі свае, – так і людзі, дзе нарадзіліся і ўскормлены, да таго месца вялікую ласку маюць.

1. Чаму Францыск Скарына выбраў да друку Біблію? Знайдзі ў тэксце адпаведную цытату.
2. Якія параўнанні выкарыстоўвае аўтар у адносінах да Бібліі?
3. Якую структуру (будову) выказвання прыняў аўтар у «Прадмове...»?
4. Якім спосабам Ф. Скарына абгрунтоўвае патрыятычныя ідэі ў прадмове да кнігі «Юдзіф»?
5. Скажы, на што звяртае ўвагу аўтар «Прадмовы...». Да чаго заклікае чытачоў Бібліі?

## Мікола Гусоўскі



*Паэзія Міколы Гусоўскага – гэта нашы вочы ў мінулае. Яна, нібы машына часу, дапамагае нам сягаць праз стагоддзі, у даўніну, каб адчуць і нават убачыць, як жылі нашы продкі, чым займаліся, што іх радавала і што засмучала.*

*Я. Сіпакоў*

Мікола Гусоўскі (каля 1480-1533) напісаў паэму «Песня пра зубра» ў 1522 годзе, калі знаходзіўся ў Рыме ў складзе дыпламатычнай місіі Вялікага Княства Літоўскага. Твор быў напісаны на лацінскай мове па заказу папы Льва X Медычы, які пажадаў больш даведацца пра Вялікае Княства Літоўскае і незвычайнага звера зубра, што вадзіўся там у лясах.

З'яўляючыся сынам вялікакняскага палясоўшчыка, паляўнічага, Мікола Гусоўскі з веданнем справы, падрабязна і дэталёва апісаў знешні выгляд, звычкі і паводзіны зубра, паляванне на яго.

Аднак Мікола Гусоўскі не быў бы сапраўдным паэтам, калі б спыніўся на гэтым. Паэма стала песняй пра свой край і народ, роздумам і трывогай за Вялікае княства, пра месца радзімы на шляхах гісторыі.

Гледзячы на сваю краіну з далёкай Італіі, паэт выразна бачыў тую небяспеку, якую неслі княству міжусобныя войны, аслаблялі яго: «І ад сваіх міжусобіц мы ўсе не дужэем...» Паэт-гуманіст асуджае іх і шукае падтрымку сваім думкам у мінулым, шукае ўзор мудрага гаспадара дзяржавы. І знаходзіць яго ў асобе князя Вітаўта, пры якім княства дасягнула найбольшага ўздыму. Аўтар малюе яго як сумленнага і аб'ектыўнага князя, абачлівага і ўдумлівага палітыка, няўтомнага дзеяча, які адчувае адказнасць за лёс сваёй дзяржавы і народа. Для яго няма розніцы, хто ты – багаты магнат ці просты селянін. Галоўнае, каб ты ўмеў трымаць сваё слова, адказваць за свае ўчынкі. Мікола Гусоўскі ўпэўнены, што толькі такі ўладар, як Вітаўт, мог бы вярнуць яго Радзіме былую славу і веліч. Паэт уводзіць у твор разнастайныя легенды, паданні, паляўнічыя гісторыі. Апавядаючы пра зубрыныя ловы, у якіх гартавалася Вітаўтава дружына, Мікола Гусоўскі, як гуманіст, выступае супраць жорсткасці і гвалту.

*паводле В. Кушнярэвіча*

*Мікола Гусоўскі*

## Песня пра зубра

(урывак)

[...] Многа чаго ад людзей пачуеш пра нашага зубра,
Я ж не хачу падаваць тое, што сам не спазнаў.
Іншыя цешаць няхай забаўнымі плёткамі вушы,
Лес жа, звычайна, шуміць сціпла і ціха зусім.
Хай пашукаюць зуброў на дзедаўскім полі квяцістым,
Мы ж атрымалі наказ, як нам пакрочыць далей.
Блюзніць, хто мае правы і ўпіваецца воляй сваёю
Той жа, каму я пішу, ісціну любіць найперш.
Хутка расце маладняк і скора збіваецца ў статак,
Гурт свой агулам зубры ноччу пільнуюць і днём.
Сторож адзін асабліва глядзіць за бяспекай астатніх,
Зорачы грозна вакол, гурт аббягае штораз.
Права на ўладу бярэ, хто самы прыгожы і моцны,
Зверхнасць такую быкі мусяць крывёю набыць.
Бойкі адну за другой вядуць важакі-бедалагі,
Часу ім нават няма на перадых і спачын.
Прага ўладу займець у ярасны гнеў пераходзіць,
Часта кіпучую злосць толіць смяртэльны зыход.
Кончыўся жорсткі турнір з яго непрадбачаным лёсам,
Стане цяпер важаком той, хто ў баі перамог.
Хто ж перамогі не ўзяў, дык тупе прэч як выгнаннік,
Следам за любым сваім сумна зубрыца ідзе.
Двое, пакінуўшы гурт, і стрэлаў баяцца і коп’яў,
Цэлы ж зубрыны агул страхаў не мае такіх.
Прышлых аднекуль быкоў навакольныя статкі не прымуць,
Хіба што зноў да сваіх можа зубрыца прыйсці.
Бацьку заб’юць, дык з цялём і вяртаецца матка ў статак,
Там застаецца, пакуль смерць не падкосіць яе.
Грозны ўказ ашчаджае зубрыц ад ярыг-ліхадзеяў,
Найвышэйшы эдыкт скарбы лясоў беражэ,
Гэтыя скарбы народ цэніць больш, чымся золата нават,
Лепшых багаццяў няма, слушна гаворыць і князь.
Хай прыплываюць да нас караблі адсюль за набыткам,
Вечна кішаць берагі мноствам тавараў любых.
Рэкі, якія нясуць багацці на цэлыя землі,
Лайбы прыводзяць купцоў з туга набітай сумой.



Марнаю працай людзей спатоліцца плодная глеба,
Шчодры затым ураджай добрая ніва дае.
Многа ўсялякіх жывёл блукае і ў лесе, і ў полі,
Месцамі бачыш табун быстрых ліхіх скакуноў.
Поўнім розным дабром чужаземныя судны даверху,
Тое, што ёсць за мяжой, маем ад земляў сваіх.
Край наш багаты. Але з усіх наяўных багаццяў
Люд перавагу аддаў скарбам, прынамсі, лясным.
Шаты зялёных дуброў так і вабяць утульным спакоем,
Ды не за гэта адно любіць свой лес гаспадар.
Воску на поўню бяруць у нетрах адвечнае пушчы,
Шмат карабельнай смалы з чыстай жывіцы штогод.
Шкуры звяроў здабываюць лаўцы для зімовай апраткі –
Так што з манетай купец знойдзе паўсюдна тавар.
Процьму кражыстых дрэў па рэках сплаўляюць у мора,
З дрэваў пасля караблі робяць, будынне кладуць
Там, дзе бракуе лясоў і дзе лясіна патрэбна,
Каб жытло чалавек меў для радзіны сваёй.
Тут, на спрыяльнай зямлі, растуць самавітыя дрэвы,



Большых лясоў ці садоў я і не бачыў яшчэ.
Хто гаварыў, што ад іх няма аніякага плёну,
Пчолаў вунь колькі гудзе, колькі вунь мёду нясуць.
Нівы паміж гаёў духмяняцца водарам кветак,
Люду гурма на палях робіць, а недзе ўсутыч
Борці для сотаў пчаляр павыдзеўбе высока ў дрэвах –
І з дапамогай людзей мёд здабывае пчала. [...]

*пераклад з лацінскай мовы Уладзіміра Шатона*

1 У чым багацце радзімы аўтара? Адшукай карціны, створаныя асобай, якая апавядае пра іх у творы.

2 Адшукай радкі, у якіх вядзецца апісанне зубрынага статка. Звярні ўвагу на тропы ці сінтаксічныя прыёмы, напр.: параўнанні, метафары, алегорыю, сімвал, інверсію... Якая іх функцыя?

3 Цэнтральны вобраз паэмы – зубр. Што сімвалізуе ён? Выкажы свае меркаванні.

**4** Асоба, ад імя якой вядзецца расказ, ставіцца да таго, пра што пішацца:
– абыякава
– выказвае глыбокае пачуццё
– з энтузіязмам
Падбяры адказ і абгрунтуй яго.

**5** Дзе, калі, на якой мове напісана «Песня пра зубра» М. Гусоўскага? Назаві імёны беларускіх перакладчыкаў гэтага твора.

❖ Статуты Вялікага Княства Літоўскага – вядомыя тры рэдакцыі 1529, 1566, 1588 года – зводы законаў феадальнага права эпохі ВКЛ. У іх атрымалі юрыдычнае замацаванне асновы грамадскага і дзяржаўнага ладу. У наш час вядомыя 4 спісы Статута 1529 г. на беларускай мове. Ёсць яго спісы на лацінскай і польскай мовах. Статут 1566 г. папоўнены новымі палажэннямі грамадска-палітычных зносін. Рэдактарам трэцяй рэдакцыі Статута быў Леў Сапега. Статут 1588 г. быў надрукаваны ў Вільні спецыяльным курсіўным шрыфтам, які ўдала імітаваў тагачасны скорапіс. У1614 г. быў выдадзены на польскай мове, а ў XVII ст. зроблены яго пераклад на рускую мову. Статут выкарыстоўваўся на Беларусі да 1840 г. Дадзеныя ніжэй загалоўкі прыводзяцца паводле выдання 1989 года.

## Статут Вялікага Княства Літоўскага з 1588 г.
(урывак)

### РОЗДЕЛ ПЕРВЫЙ О ПЕРСОНЕ НАШОЙ ГОСПОДАРСКОЙ

АРТЫКУЛ 1
Вси обыватели Великого князства Литовского тым адным правом писаным и от нас даным сужоны быти мають.

АРТЫКУЛ 2
Мы, господар, шлюбуем никого не карати на заочное поведанье хотя бы дотыкалося маестату нашого господарского ображенья або здрады Речи Посполитое. А хто бы теж на кого што несправедливе в тех речах вел около ображенья маестату нашого господарского або здрады Речи Посполитое, а не довел, тым сам каран быти маеть.

АРТЫКУЛ 3
Ображенье маестату нашого господарского, в чом ся розумети маеть и яко за то карати.

АРТЫКУЛ 4
О ображенье маестату нашого господарского, иж кождый обвиненый справоватися винен, и о том, хто перестережеть и где таковых судити. Также и о словном мовенью або писанью о господару.

АРТЫКУЛ 5
О доводе ображенья маестату нашого господарского.

АРТЫКУЛ 6
Хто бы кольвек с паньства до земли неприятельское утекл.

АРТЫКУЛ 7
Если бы отец от детей утекл до земли неприятельское, также и которые близские. И о том, хто бы такого поймал або забил.

АРТЫКУЛ 8
Если бы здрадца кому именье заставил або продал первей, нижли з земли утекл.

АРТЫКУЛ 9
О спокойном и учтивом захованью пры дворе нашом господарском.

АРТЫКУЛ 10
О погамованью хоженья и стреляньья непотребного з ручниц и з луков при дворе нашом господарском и пры кождом вряде нашом судовом.

АРТЫКУЛ 11
Хто бы напротивку выроку нашому мовил.

АРТЫКУЛ 12
Хто бы с прыгоды до земли сусед наших утекл и о даванью таким кглейту.

АРТЫКУЛ 13
О зкгвалтованье и зламанье кглейту.

АРТЫКУЛ 14
О мандатех, в которых речах мають быть с канцелярии нашое даваны.

АРТЫКУЛ 15
О позыванье шляхты о забранье безправное имений, кгрунтов наших господарских.


Статут Великого Князства Литовского

Ѿ наяснѣйшого г(оспо)д(а)ря короля его милости
Жикгимонта третего на коронацыи
в Кракове выданы року
҂а ф пи.

Друковано [illegible],

в друкарни дому Мамоничов.

З ласки и призволенья короля его милости

Статут Вялікага Княства Літоўскага з 1588 года. Тытульны ліст

АРТЫКУЛ 16
Хто бы листы або печати наши врядовые фальшовал, чим маеть быти каран.

АРТЫКУЛ 17
О фальшованью монеты, о мынцах и о золотарох.

АРТЫКУЛ 18
Не маеть нихто ни за кого терпети, только кождый сам за себе. [...]

*Мікалай Прыгодзіч*

## «Для простых людей языка руского...»

Сымон Будны і яго «Катэхізіс»




*Сымон Будны і яго Катэхізіс*

Сярод пісьменнікаў і мысляроў-гуманістаў мінулага, якія ўнеслі значны ўклад у нацыянальна-беларускую культурную скарбніцу, адно з адметнейшых месцаў належыць Сымону Буднаму. Слынны дзеяч рэфармацыйнага руху ў другой палове XVI ст., педагог, таленавіты паэт і публіцыст, філосаф, заснавальнік рацыяналістычнай крытыкі хрысціянства, ён і сёння вабіць да сябе навукоўцаў розных накірункаў.

З імем Сымона Буднага звязана і выданне першай беларускай кнігі на беларускай зямлі (вядома, што творы Ф. Скарыны друкаваліся ў Празе і Вільні). Адбылося гэта 10 чэрвеня 1562 г. у Нясвіжы.

У той час Сымон Будны некалькі год працаваў на пасадзе катэхізіста ў Вільні, а з 1560 г. служыў прапаведнікам у Клецку. Менавіта тут ён захапіўся ідэяй адукацыі «простых людей» і ўпершыню ў гісторыі беларускага пісьменства напісаў твор, адрасаваны непасрэдна дзецям «языка руского» (тэрмін «руский» у афіцыйным і літаратурным пісьменстве Вялікага Княства Літоўскага XVI-XVII стст. ужываўся ў дачыненні да беларускага, рускага і ўкраінскага насельніцтва, што пражывала на яго тэрыторыі).

Даследчыкі мяркуюць, што Сымон Будны нарадзіўся каля 1530 г. Свае творы Будны пісаў на беларускай, лацінскай

і польскай мовах. З напісаных па-беларуску твораў да нас дайшоў толькі «Катэхізіс».

У прадмове да «Катэхізіса» ён настойліва даводзіць, што яго кніга выдаецца не толькі з асветніцкіх мэтаў, але і дзеля таго, каб звярнуць увагу на родную мову («язык руский», які ён называў «славным здавна, далеко росширенным»). Менавіта ў прадмове да «Катэхізіса» ён заклікаў феадалаў, найперш маладых князёў Радзівілаў, шанаваць беларускую мову, клапаціцца аб развіцці культуры, адукацыі, кнігадрукавання.

Пісьменнік-паленіст рашуча асуджаў імкненне Рэчы Паспалітай вывесці з ужытку беларускую мову, замяніць яе польскай. Ён быў упэўнены, што беларуская мова гэткая ж патрэбная, як і кожная іншая, што на ёй можна выкладаць любыя думкі, прапаведаваць самыя разнастайныя рэлігійныя і навуковыя ідэі. Доказам гэтаму і служыў сам «Катэхізіс».

*Яўген Кулік*

## Васіль Цяпінскі




Каму належаць словы «...хто бы не мусил плакати, видечи так великих княжат, таких панов значных, так много деток невинных, мужов з жонами в таком зацном... довстипном, учоном народе езыка своего славного занедбане, а просто взгарду...»?

Гэтыя словы належаць Васілю Цяпінскаму, выдатнаму беларускаму гуманісту-асветніку, прадаўжальніку культурна-асветніцкай дзейнасці Скарыны, пісьменніку, выдаўцу, дзеячу Рэфармацыі.

Васіль Мікалаевіч Амельяновіч-Цяпінскі (каля 1540 – каля 1603) – ураджэнец Полаччыны, паходзіў з небагатай шляхецкай сям'і. Быў паплечнікам Сымона Буднага. Падзяляў радыкальныя рэфармацыйныя і гуманістычныя асветніцкія погляды. За свае сціплыя сродкі ў заснаванай у родавым маёнтку Цяпіне друкарні выдаў на беларускай мове Евангелле. З напісанай да яго прадмовы і паходзяць прыведзеныя ў пытанні словы. Васіль Цяпінскі выявіў сябе гарачым прыхільнікам і выразнікам нацыянальных і культурных інтарэсаў беларускага народа.

1 Каму Сымон Будны адрасаваў свой «Катэхізіс»? Адказваючы, звярні таксама ўвагу на загаловак.

2 Будны пісаў на трох мовах, у 1560 годзе пераклаў *Біблію* на польскую мову. Пытанне аб яго нацыянальнасці астаецца нявырашаным. Адшукай аргументы на карысць яго беларускага паходжання.

3 Дакажы, чаму Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага называюць паслядоўнікамі Скарыны.

4 Будны і Цяпінскі ўнеслі значны ўклад у нацыянальна-беларускую культурную скарбніцу. За што, па-твойму, павінна быць ім удзячна маладое пакаленне беларусаў.

## ЧАСЫ БАРОКА
(другая палова XVII – пачатак XVIII стст.)

**БАРОКА** (іт. barocco «дзіўны, вычварны») – стыль у еўрапейскім мастацтве канца XVI – сярэдзіны XVIII ст. Узнік на аснове традыцый позняга Адраджэння і спалучаў у сабе рэнесансавыя і сярэдневяковыя традыцыі. Для беларускага барока характэрна цеснае ўзаемадзеянне ўсходніх і заходнееўрапейскіх культур. У архітэктуры барочныя формы найбольш выявіліся ў сакральным будаўніцтве, палацавых ансамблях і ратушах (Нясвіжскі касцёл езуітаў, пабудаваны ў 1593 г., Гальшанскі палац, Слонімскі Андрэеўскі касцёл, уніяцкі манастыр у Барунах), пры будаўніцтве якіх выкарыстоўваліся творы выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Мастацкія прынцыпы барока няцяжка адшукаць у графіцы (геральдычныя кампазіцыі заблудаўскіх выданняў І. Фёдарава і П. Мсціслаўца, тытульныя аркушы супрасльскіх выданняў), жывапісе (парадны шляхецкі партрэт), ткацтве (слуцкія паясы, карэліцкія габелены, шпалеры), а таксама вырабах са шкла, паліванай кераміцы, разьбе па дрэве. Барочнае мастацтва, у адрозненне ад рэнесансавага, было скіравана не да розуму, а да пачуццяў чалавека, яго эмоцый.

Паколькі рэнесанс у Беларусі быў спарадычнай з’явай і часцей за ўсе выступаў разам з готыкай (прынамсі ў дойлідстве, часткова ў іканапісе, гравюры), барока з’явілася першым агульнаеўрапейскім стылем, які сфарміраваўся ў самастойны напрамак і шмат у чым стаў пераломным у эвалюцыі беларускай выяўленчай творчасці, усіх яе відаў і жанраў! Важна і тое, што якраз ад барока ў нашай краіне засталося асабліва шмат мастацкіх помнікаў. І гэта нягледзячы на тое, што многія з іх былі знішчаны ў вайну 1654–1667 гадоў, якая вялася паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай.

У літаратуры рысы барока найбольш выразна выявіліся ў рэлігійна-філасофскай паэзіі і драматургіі. Літаратурныя творы барочнага стылю вызначаліся складанасцю выяўленчых сродкаў, спалучэннем розных традыцый і тэндэнцый, пышнай дэкаратыўнасцю, метафарычным і алегарычным выра-



*Гродна. Касцёл езуітаў у стылі барока з пачатку XVIII стагоддзя.*
*Пабудавана тады цэлы комплекс разам з манастыром, бібліятэкай, аптэкай*

жаннем сэнсу, імкненнем паўплываць на пачуцці чытача ці гледача. Найбольш значнымі прадстаўнікамі барочнай паэіі былі Сімяон Полацкі і Андрэй Белабоцкі панегірычна-гіпербалічныя творы якіх пазначаны высокім стылем, падкрэсленай эмацыянальнасцю, вобразнасцю. З цягам часу духоўна-рэлігійны змест у барочнай паэзіі выцясняецца паказам рэальнага, паўсядзённага жыцця чалавека (вершы Д. Рудніцкага, грамадска-філасофская і песенна-інтымная лірыка, гумарыстычныя і традыцыйна-сатырычныя творы). Першымі творамі беларускай драматургіі, што ўзніклі ў часы барока, былі інтэрмедыі, якія ставіліся паміж актамі драматычных ці оперных спектакляў школьных тэатраў. З часоў барока зберaглося каля 20 інтэрмедый.

*паводпе В. Дз. Старычонка*

• ансамбль – архітэктурны комплекс
• выяўленчае мастацтва – відавочны, выразны вобраз увасоблены на плоскасці ці ў прасрорах (жывапіс, графіка, скульптура, архітэктура)
• прыкладны – які мае практычнае значэнне
• прынцып – правіла, аснова
• панегірычны – хвалебны, красамоўны
• інтэрмедыя – кароткая п’еса або ўстаўная сцэна, звычайна камічнага зместу, якая ставілася паміж актамі драматычнага обо опернага твора, часцей за ўсё інтэрмедыі ставіліся на беларускай мове

• школьны тэатр – тэатр пры духоўных і асветніцкіх установах (акадэміях, брацкіх школах, калегіях), пашырэнне школьных тэатраў на Беларусі звязана з дзейнасцю езуітаў

1 У якіх галінах мастацтва стыль барока праявіўся на Беларусі найшырэй? Падай прыклады.

2 Ідэі і канцэпцыі якіх эпох сінтэзавала барока? Падумай, чаму часы барока і контррэфармацыі называюць супярэчлівай эпохай.

3 Якімі асноўнымі асаблівасцямі характарызуецца мастацкі стыль XVII стагоддзя?

4 Назаві вядомых табе пісьменнікаў часоў барока:
– высокага стылю
– сярэдняга і нізкага стыляў
Памятай, што кожны жанр патрабаваў пэўных стылявых сродкаў і меў уласцівы толькі яму стыль.

**Андрэй Рымша** (каля 1550 – пасля 1599), паэт, стварыў класічныя ўзоры вершаў-эпіграм, прысвечаных магнатам А. Валовічу, Л. Сапегу, навагрудскаму ваяводзе Ф. Тышкевічу. Асаблівую вядомасць набыла эпіграма А. Рымшы на герб падканцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі, змешчаная ў славутым Літоўскім Статуце рэдакцыі 1588 года.

*Андрэй Рымша*

## На преславные а старовечные клейноты, или гербы, ясневельможного пана, пана Лва Сапеги, подканцлерего Великого князства Литовского, Слонимского, Мядельского, Марковского и прочих старосты епиграма.

Все можем своим оком лацно обачити,
Должыню и шырокость шнуром позначити.
И чоловека можем познати по твары.
Если в собе не мает лишнее привары.
Але где цнота собе обрала оселость,
Там ростроп есть до всего и мужьская смелость,
Которая зацные завжды домы буди

*Панегірык Рымшы*

И клейноты роздаеть, тыми слынуть люди,
Бо такие николи з света не изходет,
Але один по другом вовеки славу плодет.
Хочеш же ся прысмотреть гербом праве значным,
Зараз можеш познати, иж суть в дому зацным.
Здавна славных Сапегов тые з предков своих
Заквитывали в цнотах, знать, во лилиях троих,
При которых з оружьем конный воин стоит
Знаком того, иж ся з них ни один не боит,
Служить своим сподарем ку кождой потребе,
Не литуючи скарбов, ни самого себе. [...]

Живете ж, Сапегове вси, в многие лета,
Ваша слава слыть будет, покуль станет света.
Подавайте ж потомком, што маете з предков,
Ведь же и ваших цных справ ввесь свет полон светков. [...]

1 Андрэй Рымша сваім асабістым лёсам і асветніцкай дзейнасцю быў цесна звязаны з культурнымі асяродкамі пры дварах «маентных» людзей. Каму і ў які спосаб выказвае ў вершы сваю ўдзячнасць?

2 Пры дапамозе якіх моўных сродкаў стварае аўтар узнёсла-хвалебны тон верша-панегірыка?

3 Якімі словамі канчаецца эпіграма? Звярні ўвагу на чатыры апошнія радкі.

4 Чаму верш А. Рымшы даследчыкі называюць прыдворным?

**Ян Казімір Пашкевіч** – беларускі паэт першай паловы XVII ст., праўдападобна паходзіў з Ашмяншчыны. Напісаны Пашкевічам у пачатку XVII ст. верш «Польшча слаўная лацінай...» (1621) поўніцца тымі ж самымі настроямі і пачуццямі гонару за свой народ і яго мову, што і славутая прадмова да Літоўскага Статута Льва Сапегі ці публіцыстычныя заклікі В. Цяпінскага. Нікому не вядомы ў гісторыі літаратуры паэт, пакінуў свой паэтычны аўтограф на старонках рукапіснага экземпляра Статута ВКЛ 1529 года.

*Ян Казімір Пашкевіч*

Полска квитнет лациною[1],
Литва квитнет русчизною[2].
Без той в Полсце не пребудзеш,
Без сей в Литве блазнем будзеш.
Той лацина езык дает,
Та без Руси не вытрвает[3].
Ведзь же юж, Русь, иж тва хвала
По всем свете юж дойзрала.
Весели ж се ты, русине,
Тва слава никгды не зкгине.

[1] Польшча квітнее лацінскай моваю

[2] Вялікае Княства Літоўскае квітнее старажытнабеларускай моваю

[3] Тут аўтар падкрэслівае, што ядром, асновай Вялікага Княства Літоўскага быў «рускі» народ, г. зн. беларусы і ўкраінцы

1 Прачытай уважліва верш. Скажы, якое значэнне надаў Я. К. Пашкевіч словам «Русь», «русчызна».

2 Якія асаблівасці жыцця Рэчы Паспалітай адлюстраваны ў творы?

3 Якія пачуцці і ідэалы выяўлены ў вершы?

4 Знайдзі ў творы сінтаксічныя і лексічныя іншамоўныя ўплывы.



**Сімяон Полацкі** (1629 – 1680) беларускі і рускі пісьменнік, перакладчык, педагог, асветнік, грамадскі і царкоўны дзеяч. Ён нарадзіўся ў Полацку, атрымаў выдатную адукацыю: закончыў Кіева-Магілянскую акадэмію, вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі. Добра ведаў латынь, старабеларускую і польскую мовы. Выкладаў у брацкай праваслаўнай школе пры полацкім Богаяўленскім манастыры. З 1667 года настаўнік царскіх дзяцей, першы прыдворны паэт. Большасць яго польскіх і лацінскіх вершаў належаць да т. зв. школьнай паэзіі (напр. вершаваная арыфмалогія). Таленавіты вершатворца-панегірыст, Сімяон Полацкі, быў наватарам і эксперыментатарам ў галіне верша і яго разнастайных жанравых формаў – оды, элегіі, гімна, эпітафіі, панегірыка. Яму належаць арыгінальныя графічныя кампазіцыі вершаў-віншаванняў членам царскай сям'і.

Сімяон Полацкі пачынаў пісаць на старабеларускай мове. Аднак, шукаючы апекі з боку рускага цара Аляксея Міхайлавіча, які запрасіў яго ў Маскву, паэт перайшоў на царкоўнаславянскую мову. Аб гэтым напісаў ён у прадмове да зборніка «Рыфмалагіён, альбо Вершаслоў» (1678).

«Рыфмалагіён, альбо Вершаслоў» – зборнік сілабічных вершаў, складаўся пераважна з эпіграм, панегірыкаў, элегічных формаў і драматычных твораў.

*Сімяон Полацкі*

### З прадмовы да «Рифмологиона»

[...] Писах в началѣ по языку тому,
Иже свойственный бѣ моему дому.
Таже увидѣв многу пользу быти,
Славенскому ся чистому учити.
Взях граматику прилѣжах читати,
Бог же удобно даде ми ю знати,
К тому странная сущи ей подобна,
В знании ползу бяше ми удобна,
Тако славенским рѣчем приложихся,
Елико дал Бог знати научихся [...]

1 Што паўплывала на пераход аўтара са старабеларускай на старацаркоўнаславянскую мову?

2 Адшукай у *Слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў* (апошні раздзел падручніка) значэнне назваў класічных вершаваных формаў. Чаму іх акрэсліваюць як класічныя?

**Дамінік Рудніцкі** (1676–1730) – пісьменнік і педагог. У сваёй творчасці выкарыстоўваў ён гратэск, алегарычныя вобразы, адклікаўся да фальклорнай творчасці. На польскай мове пісаў вершы, інтэрмедыі і казанні. У яго зборніках знайшліся, апрача польскіх, некалькі беларускіх вершаў, напісаных ім самім або апрацаваных народных песень. У вершах Рудніцкага відаць разбурэнне высокай барочнай паэзіі пад уплывам фальклорнай стыхіі, духоўны змест паступова выцясняецца свецкім, зямным. Твор *Птушыны баль* гэта цікавы прыклад беларускай гумарыстычна-сатырычнай паэзіі часоў барока.

*Дамінік Рудніцкі*

### Птушыны баль

Да ўчыніў верабей на прыпечку жніва,
Змалаціўшы, уварыў пшанічнае піва.
Паўтычыны хмелю даў, вельмі ж тога жалаваў,
Думных меў прахаці, гасцей частаваці.
На музыку паўтарак, вялікую суму,

Адлічыўшы: – Ну, казак, шчо б заграліі думу.
Я, худак-верабей, запрасіўшы гасцей,
Мушу весел быці, з німі вэспол піці.
Ой, прыляцеў снігірок, скрыпачок не просты,
Сказаць пану верабею: – Едуць к табе госці,
Едзець пан журавель, і дзядзька твой хрусцель,
І пані сініца, родная сястрыца.
Скочыў хутка верабей госці спатыкаці,
Гляне ў поле быстрым окам, аж іх не відаці.
Толька два пугачы, слаўныя трубачы,
І пан крук басіста, бацян варганіста.
– Мае мілы суседы, паны музыканты,
Заграйце ж мне танцы вясёлэ драганты.
Мілы кручку, заспявай, снігірочку, заскрыпай,
А ты, пане бацяне, зайграй на варгане.
Як верабей-гаспадар весела танцуе,
Запрошаных да сябе гасцей не пільнуе.
Замкі біюць, адмыкаюць, самі піва наліваюць.
Верабей не бачыць, весел в дому скачыць.
Як верабей-гаспадар перастаў скакаці,
Стануўшы пры парозе, пачаў прыймаваці:
– Ой, мая ж ты мілая, ой, дружачка любая,
Я верабей, слуга ваш, чэкаў датуль век вас.
І так думных ён гасцей садзіць каля стола,
Засадзіўшы, быў ім рад, не змаршчыўшы чола.
І сарокі і галіцы селі разам на паліцы.
Села і варона, хаця ж непрашона.
На той банкет камара з мурашкаю забілі,
З камарэнька тры полці сланіны злупілі,
Сто келбас нарабілі і тры кумпі ўвэндзілі.
Схабы прыпякана, да столу давана
І так думных гасцей усех чэнставана.
Камара з мурашкаю смачна ўжывалі.
За здароўе вераб’я елі, пілі аж да дня,
Не чыніўшы здрады, не дазнаўшы звады.
Калі блізка паўночы сава прыляцела,
Так ціхонька пад сталом на здраду ўсела
Старшы госць журавель казаў сабе слаць пасцель,
Хрусцялёк упіўся, пад стол падваліўся.
Паруець сава хрусцяля, а пул разадрала,
А спячому жураўлёві горла пракусала,
Гаспадара не зганіла, музыкантаў параніла,
А сарокі з печы муселі ўцечы.

1 Які эпізод з жыцця жыхароў «ляснога царства» раскрыты ў творы Д. Рудніцкага? Раскажы ў 5-8 сказах.

2 Цікавымі творамі беларускай паэзіі часоў барока з'яўляюцца так званыя «звярыныя гратэскі». Ці «Птушыны баль» можна аднесці да гэтага жанру? Калі так, дакажы. Звярні ўвагу на апісанне, напр. страў на стале.

3 Якія сцэны рэальнага тагачаснага жыцця нагадвае табе *птушыны баль*? Памятай пра алегарычнасць, парадаксальнасць, шматзначнасць пераказу ў літаратуры барока.

4 Якія іншыя асаблівасці мастацкага стылю барока выступаюць у вершы?

5 Скажы, чаму верш «Птушыны баль» на працягу многіх стагоддзяў успрымаўся як фальклорны твор? Што магло паспрыяць гэтаму?

## Прамова Мялешкі

(скарочана)

*«Прамова Мялешкі» – гэта літаратурная пародыя на соймавую прамову, нібыта сказаную Мялешкам у 1589 годзе ў прысутнасці караля. Востры палітычны памфлет (сатырычны твор, высмейванне пэўнай адмоўнай грамадскай з'явы), сатыра на грамадска-палітычныя парадкі, якія існавалі ў тагачаснай Рэчы Паспалітай і распаўсюджваліся на беларускіх землях польскімі і нямецкімі прышэльцамі.*

Найяснейшы літасцівы кароль і міласцівыя да мяне паны браты!..

Давялося мне з вамі радзіцца, а я на такіх з'ездах ніколі не бываў і з яго міласцю каралём ніколі не засядаў. Толькі пры князях нашых, якія і валадарылі і ваяводамі былі, такіх сентэнцый не бывала, папросту ад шчырага сэрца гаварылі, палітыкі не ведалі, а праўдаю ў рот, як соляю ў вочы, кідалі. Калі ж каралі немцаў больш за нас палюбілі, то пачалі намі пагарджаць, і што былыя нашы князіназапасілі, то нашыя гаспадары ўсё немцам раздалі. Далоў караля Жыгімонта! Яго няма чаго і за чалавека лічыць... але Жыгімонту Першаму – салодкая памяць. Ён немцаў, як сабак, не любіў і палякаў з іх хітрасцю вельмі не любіў, а Літву і Русь нашу з любоўю мілаваў. І пры ім нашы значна лепей адчувалі сябе, хоць у такіх дарагіх світах не хадзілі. Іншыя без нагавіц, як бернардынцы, гулялі, а сарочкі аж па костачкі былі, а шапкі аж да самага пояса насілі.

Дай Божа і цяпер зноў дачакацца такой пары! Я сам, калі па-дамашняму прыбяруся, то яе міласць, пані Мсціслаўская, жонка мая, нацешыцца і нагля-дзецца на мяне не можа.

Дык зірнем жа, міласцівыя панове, на ўсё гэта і на тыя нікчэмныя нямецкія штукі, што яны навыдумлялі. А некалі ж у іх бывала так: у стракатых во-пратках ходзяць і грошай безліч маюць, а колькі гарадоў трымаюць, то няма чаго і гаварыць. Дык яны ж яшчэ і змяшаліся з намі і вельмі добра ўмеюць усе дрэннае гаварыць. Каралёў, паноў і Рэч Паспалітую, як ужо было, бала-муцяць. А як немец сам ідзе ці жонка яго набліжаецца, то скуркай парыпвае, шалясціць і дарагою парфумаю пахне. Калі ж да цябе панічок прыедзе, частуй яго дастаткам [...] Ды каб гэтага чорта кулаком па мордзе, ці па твары, па хрыбце, так, каб яго міласць кароль не чуў! Няхай бы морды такой паганай не выстаўляў.

Памятаю я караля Генрыха, які з заморскага, нямецкага, краю быў, дык ён зразумеў, што мы яму сваволнічаць не вельмі дазвалялі, а немцы яго не вельмі падтрымлівалі, і ўсведамі́ўшы, што гэта не жарты, сам, нікому не гаво-рачы, прэч паехаў. Аж у сваю краіну, аж за мора сігануў.

Праўду кажучы, не так вінаваты кароль, як тыя баламуты родныя, што пры ім сядзяць і круцяць. Многа тут іх такіх ёсць, што хоць і наша костка, але са-бачым мясам абрасла і смярдзіць! Вось такія родныя нас абдзіраюць, губяць! А з-за іхніх баламутняў наш чалавек выжыць не можа, усю Рэч Паспалітую нішчаць! Валынь з Падляссем прапалі. Ведаю, дайшло ў нас да таго, што ходзім як вараныя, бо іх баімся, праўды не гаворым, ды яшчэ і ліслівымі языкамі пад-такваем. А калі б такога д’ябла кулаком у морду! Забыўся б ён баламуціць.

*пераклад Станіславы Каралевіч*

1 Кім з’яўляецца аўтар палемічнага твора? Звярні ўвагу на свет яго вартасцей.

2 Якія гістарычныя часы супастаўляе апавядальнік у «Прамове...», якую дае ім ацэнку?

3 Якія замежныя ўплывы здзіўляюць, здаюцца «дзікімі», карэнным жыхарам тага-часнай Беларусі?

4 Як разумееш словы «...хаця наша костка, аднак сабачым мясам абрасла і смярдзіць...»?

5 Звярні ўвагу на спосаб выказвання. Якія моўныя сродкі падкрэсліваюць эмацыя-нальнасць ці вобразнасць маўлення?

## ЭПОХА АСВЕТЫ Ў БЕЛАРУСІ
(XVIII ст.)

У еўрапейскіх краінах эпоха Асветы была часам, калі з'явіліся выдатныя, сусветна знакамітыя пісьменнікі і творы, а Беларусь перажывала заняпад сваёй пісьмовай літаратуры. На XVIII стагоддзе прыпадае вельмі цяжкі час у нацыянальна-культурным развіцці Беларусі.

У 1696 г. польскі сейм прымае пастанову, якая забараняла карыстацца беларускай мовай у афіцыйнай перапісцы, у дзяржаўных установах. Выцясненне беларускай мовы з афіцыйнага ўжытку вяло да таго, што мастацкая творчасць у галіне літаратуры рэзка скарачалася. Яна часткова перамяшчалася ў сферу вуснай народнай паэзіі або выяўлялася ў нейкай меры на мове іншых народаў – польскай ці рускай.

Па традыцыі працягваў існаванне школьны тэатр, актывізаваўся нават прыгонны тэатр, які нярэдка звяртаўся да пастаноўкі спектакляў па творах Мальера, Вальтэра і іншых знакамітых пісьменнікаў, вядома, не на беларускай мове. У гэтыя спектаклі, праўда, часам уключаліся сцэнкі з беларускага жыцця, як, напрыклад, у камедыі «Доктар па прымусу» М. Цяцерскага, якая з'яўлялася пераробкай мальераўскай камедыі. Аднак такія спробы нейкім чынам падключыць беларускі матэрыял да развіцця тэатральнага мастацтва істотнага выніку для беларускай культуры не мелі.

Найбольш значным і цікавым творам у жанры такой, неаднамоўнай (звычайна польска-беларускай) літаратуры канца XVIII ст. была п'еса настаўніка Забельскай дамініканскай калегіі (Полаччына) Каятана Марашэўскага, што мела назву «Камедыя». Яна ўзнікла ў другой палове XVIII стагоддзя на аснове інтэрмедый. Гэта першая беларуская камедыя.

*паводле М. А. Лазарука*

*Каятан Марашэўскі*

### Маналог Дзёмкі
(урывак з «Камедыі»)

[...] Ох, як нешчаслівое жыццё маё! Хаджу я хаджу пераз цалюхенькі дзень, аж ногі анемелі, рук не чуваць ад працы і тапара, а горш яшчо ад цапа; малачу ад самых курэй, аж мало што не да паўдня, як бы сам адзін. Праўда, што і жонка памагала, да што ж яе за работа? Ведама, – жаноцкая справа; цюкнець колька разы цапом, аж зараз яе ліхо і берэць – то сядзець

то ляжэць, то колькі падапруць, толькі чорт лоньскі ее дусіць, а потым яшчэ з гоманом і клецьбою пойдзець. Папытаюся я тылькі ее: «Куды пойдзеш?» Аж зараз скажэць: «Дзецей карміць, страву варыць»... А я сам адзін, як цюк, так цюк; малачу аж да поту. А як свет, аж жонка і тут, ужо кажэць, што і дроў трэба насеч. Хоць ты трэсні і прападзі з тапаром! Ад цэпа яшчо не адайдуць [рукі], аж тут ад тапара мало што не адсохнуць. Гэта жарт – нарубай у печ, у асець, у бровар, а ўсё як адзін, так адзін. Сына пералом удавіў, не расцець, а парабка не за што наняць. Вот і цепер у лес трэба ехаць, а не з кім. Гэта жарт, – аднаму сасну спусціць, пашчапаць, і на воз. Хоць ты трэсні, зваліць трэба, а прыехаўшы да хаты і парубаць. А усё як я, так я. Памагчы некаму. Прападзі яно нешчасліваe жыццё нашае, бо ўсё як гараваць, так гараваць мусім.

[...] А цепер як сермяжка здзярэцца, хоць ты з галавы выйдзі, не адкуль узяць, а горш, што не за што купіць. А тут і зіма надходзіць, і ўстыдно. А я і шэлега пры душы не маю, да душы ж не маю! А пан аднак на тое не глядзіць, да ўсё крычыць: «Заплаці... Заплаці, вужава кроў, мужык!»

1. На аснове прыведзенага маналогу Дзёмкі раскрый вобраз галоўнага героя. Звярні ўвагу на такія элементы як: сямейны стан, заняткі, павіннасці, стаўленне да працы.

2. Мова героя – прыклад жывой беларускай мовы канца XVIII стагоддзя. Параўнай яе з сучаснай літаратурнай мовай.

3. Пераапрацуй прыведзены маналог на кароткую сцэнку з удзелам прынамсі трох герояў. Выкарыстай незалежную мову з тэксту і ніжэйпрыведзеную інфармацыю.

❖ Галоўнымі дзеючымі асобамі ў *Камедыі* з'яўляюцца селянін Дзёмка, чорт, карчмар. Селянін і карчмар гавораць па-беларуску. Дзёмка – індывідуальнасць, характар, які мяняецца ў залежнасці ад абставін, чалавек надзелены складанымі пачуццямі, станоўчымі і адмоўнымі якасцямі. Герой, наракаючы на сваю долю, ва ўсім вінаваціць пана, карчмара і нават чорта. Чорт хоча даказаць селяніну, што чалавек слабы і бязвольны па сваёй натуры. Наўрад ці Дзёмка зможа прамаўчаць хаця б з паўгадзіны. Дзёмка тройчы прайграе заклад з чортам, які за кожным разам спакушае селяніна.

Галоўны герой ва ўсіх трох выпадках свядома парушыў маўчанне бескарысліва дапамагаючы іншым.

## З «Аршанскага зборніка»

ПЕСНЯ 27

Зара заходзіць, вечар блізенька,
Не з кім гаварыці, бедна галованька.
Ах, мой спадару, любы, міленькі,
Прыйдзі да мяне, нямаш матанькі.
Ой, прыйдзі, прыйдзі, не чыні жалю,
Ягода моя, дарагі крышталю.
Размоўлю з табою слоўка вярнэнька,
Ягода моя, красна вішэнька,
Выпушчу цябе не вельмі раненька,
Як слонца ўзыдзе, мой галубэньку.
Ой, выпусціўшы, дай заплакала,
Узяўшы за ручаньку, пацалавала.
Па полі ходжу, галасок разводжу,
Пагуківаю, цяжка ўздыхаю.
Не гуляй, галубка, твой галубочак,
Паляцеў жа ён у вішнёвы садочак.
Сеў над ракою ўвесь беляненькі,
Пагуківае свае галубанькі:
Прыляці, галубоньку, да мяне борздзенька
Пацешы маё смутна сардэнька [...]

ПЕСНЯ 31

Чаго ж маё сэрданька цяжанька ўздыхае,
Лібо ж яно на сябе вялікі жаль мае?
Чаго ж мае очкі смутненькія плачуць,
Лібо ж яны на сябе вялікі жаль бачаць?
Ой, сніўся мне сон вельмі дзіўнюсенькі,
Як бы мяне здрадзіў ах мой мілюсенькі.
Я ж бо ся таго дай не спадзявала,
Што б якую здраданьку ад мілога знала.
– Ой, у полі вербанька дай не пахілая,
Не бойся, Анусю, цябе не пакіну я.
Ой, хоць я паеду, так я вярнуся,
А для тваго іменя дай што ты Гануся.

1 У якой форме напісаны вершы (лірычны маналог, разгорнуты дыялог...)? Чаму аўтар падабраў такую форму выказвання?

2 Якая тэма лягла ў аснову твораў і што так захапіла, узрушыла асобы, якія вядуць аповед?

3 Песні з «Аршанскага зборніка» – гэта прыклад песенна-інтымнай лірыкі, якая ўзнікла на скрыжаванні «высокага» і «нізкага» стыляў. Знайдзі ў іх прыклады фальклорных уплываў. Звярні ўвагу на лексіку, эпітэты, паралелізмы і іншыя моўныя сродкі мастацкай вобразнасці.

## Песня беларускіх жаўнераў 1794 года
(друкуецца з яўнымі арфаграфічнымі прыкметамі XVIII ст.)

*Адным з найбольш значных твораў беларускай паэзіі эпохі Асветніцтва з'яўляецца «Песня беларускіх жаўнераў 1794 года», напісаная ў сувязі з паўстаннем Т. Касцюшкі. Невядомы аўтар заклікае ўзняцца на барацьбу з царскім самаўладствам.*

Возьмем косы ды янчаркі,
Пойдзем гордыя гнуць каркі.
Няхай Москаль уступае,
Няхай Беларусаў знае.

Ўжо Мазуры іх пабілі,
З сваёй зямлі выганілі.
Пойдзем з імі і злучымся,
Маскве, Немцам не дадзімся.

Ну жа, хлопцы! Ну жа жыва.
Цяпер маем для нас жніва.
Господзь Бог нам ў помац стаець,
Нашу славу нам вертаець.

Ну жа, жыва вы, сотнікі,
Вы, малойцы-десятнікі:
Дамо табе рукі ўзаем,
Бацькаўшчыну адзыскаем.

Атаманы і Казакі,
Біймa Маскву і Прусакі.
Калі ўсіх іх вытаўчэма,
Тагды ў сяло павярнема.

Помнім добра, што рабілі,
Як нас дзёрлі, як нас білі.
Дакуль будзем так маўчаці?
Годзе нам сядзець у хаце!

Коней нам пазаязджалі,
Што хацелі, то і бралі.
Пойдзем жыва да Касцюшкі,
Рубаць будзем Маскалюшкі.

Нашто землю нам забралі?
Пашто ў путы акавалі?
Дочкі, жонкі нам гвалцілі.
Трэ, каб мы ім заплацілі!..

Пагуляем, пагуляем,
Камендантаў ўсіх пазнаем.
Маскалёў, Нямцоў ў балоці
Будзем рэзаць і калоці.

Ці ўжо мы усе сабакі?
Гаспадары – не бурлакі.
Што маем крыўду знаці?
За што церпіць наша маці?

Прадавайма аўцы, волы
Жыта з свірна ды ўсе долы.
Няхай ксёндз нас пасвянцае,
Няхай Бог нам памагае.

Бывай здарова, Грыпіна!
Параска! Мая дзяўчына!
Ад вас цяпер ад’язджаем,
Да Касцюшкі ўсе прыстаем.

Калі назад павярнемся,
Тагды з вамі усціснемся.
Вольнасць для нас паны даюць
І за людзей нас прызнаюць.

Здрада ёсць ужо ў сенаце.
А мы будзем гніць у хаце?
Возьмем косы ды янчаркі,
Пачнем гордыя гнуць каркі!..

Ну жа, хлопцы, ну жа жыва.
Пагуляем, маем жніва!
Пагуляйма! Пагуляйма!
Ды Маскаля ўраз прагнайма!

1 Якія гістарычна-палітычныя факты пакладзены ў аснову верша? Да якога віду лірыкі залічыш гэты твор?

2 Хто гаворыць у гэтым творы і да каго звяртаецца? Звярні ўвагу на светапогляд лірычнага суб'екта, стаўленне да паасобных слаёў грамадства.

3 Якімі аргументамі стараецца лірычнае «мы» пераканаць адрасата да барацьбы з царскім самаўладствам? Адзнач добрыя адказы.
– адклікаецца да пачуцця годнасці беларускага народа
– пералічвае ўсе сацыяльныя крыўды, якія адчуў народ пад панаваннем маскалёў
– абяцае добрую гульню
– абяцае вольнасць

4 Прачытай уважліва цытаты, вызнач асветніцкую ідэалогію, якая адчуваецца ў вершы.

«Няхай ксёндз нас пасвянцае,
Няхай Бог нам памагае.»

«Вольнасць для нас паны даюць
І за людзей нас прызнаюць.»

5 Адшукай сінтаксічныя сродкі, якія выкарыстоўваюцца ў творы з мэтай узмацнення эмацыянальнасці выказвання ці стварэння гнеўнай інтанацыі.

# АСНОЎНЫЯ ЗАКАНАМЕРНАСЦІ ЛІТАРАТУРНАГА ПРАЦЭСУ

## Сусветныя перыяды культурнага развіцця і літаратурныя эпохі да XVIII ст.

1. Эпоха вялікіх усходніх цывілізацый
2. Эпоха Антычнасці
3. Эпоха Сярэднявечча (V – XIII стст.). Такім чынам, існуе паняцце сярэднявечча ў шырокім і больш вузкім значэнні слова
4. Эпоха Адраджэння
5. Пераходная эпоха (XVII ст.), якая ўключае ў сябе вялікія літаратурныя напрамкі – класіцызм і барока (у Беларусі эпоха барока)
6. Эпоха Асветы (XVIII ст.)

**Старабеларуская літаратура** падзяляецца на наступныя культурныя эпохі:

1. Эпоху ўсходнеславянскай агульнасці (XI–XIII стст.)
2. Эпоху перададраджэнскую (XIV–XV стст.)
3. Эпоху беларускага Адраджэння (XVI–XVII стст.)
4. Эпоху беларускага Асветніцтва (XVIII ст.)

*паводле Н. Бельскага, У. Кароткага, П. Навуменкі*

# СЛОЎНІК ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧЫХ ТЭРМІНАЎ

Літаратура падзяляецца на тры асноўныя роды: • **эпас**, **лірыку** і **драму**.

• **Літаратурны род** – гэта шырокая абагульняючая катэгорыя ў класіфікацыі літаратурных твораў. Літаратурныя роды з'яўляюцца трыма рознымі спосабамі адлюстравання мастацкай рэчаіснасці. Адрозніваюцца аб'ектам адлюстравання (падзеі – у эпасе, эмоцыі – у лірыцы, дзеянні – у драме), спосабам адлюстравання (пераважна празаічная мова – у эпасе, вершаваная – у лірыцы, дыялагічная – у драме), а таксама суадносінамі пісьменніка з прадметам адлюстравання (празаік пераважна стаіць збоку ад падзей, пра якія расказвае, лірык выяўляе пачуцці праз сваё суб'ектыўнае «я», драматург усё перадае дзейсным асобам п'есы, сваю прысутнасць абмяжоўваючы скупымі рэплікамі і рэмаркамі).

Літаратурныя роды могуць уступаць ва ўзаемасувязі. Такім спосабам паўсталі новыя віды літаратурнага мастацтва, напр. • **ліра-эпас**. У працэсе гістарычнага развіцця літаратуры ўнутры родаў склаліся розныя тыпы твораў. Спроба аб'яднання твораў паводле акрэсленых, адносна ўстойлівых правілаў стала асновай выдзялення жанру.

• **Эпас** – адзін з родаў мастацкай літаратуры. Асаблівасцю эпасу з'яўляецца апавядальнасць, знешняе (у адносінах да аўтара) прадстаўленне аб'ектыўнай рэчаіснасці, сюжэтнасць (паступова-лагічнае развіццё падзей).

• **Эпічныя творы** характарызуюцца сюжэтнасцю (паступова-лагічным развіццём падзей), аб'ектыўнасцю расказа пра падзеі, рэчаіснасць, чалавечае жыццё, прысутнасцю апавядальніка, ад імя якога вядзецца аповед і які прадстаўляе і дапускае да голасу герояў.

• **Эпічныя жанры** розняцца адзін ад другога шэрагам асаблівасцей: памерам і формай твора, ахопам падзей мастацкай рэчаіснасці і спосабам яе адлюстравання.

Галоўнымі эпічнымі жанрамі з'яўляюцца: эпапея, раман, аповесць, апавяданне, навела, нарыс, памфлет, гумарэска, эсэ, фельетон.

• **Эпапея** – буйны твор (у форме рамана-эпапеі і паэмы), які вызначаецца панарамнасцю адлюстравання жыцця і маштабнасцю, увасабляе нацыянальна-гістарычную праблематыку, перадае вялікія ідэі часу.

• **Раман** – самая вялікая (шматсюжэтная) эпічная форма. Твор, у якім шырока ахоплены складаныя з'явы і працэсы сацыяльнага асяроддзя, народа, эпохі, прадстаўлены шматлікія характары ў іх станаўленні і ўзаемадачыненні.

Раман адзначаецца таксама ідэйна-тэматычнай і сюжэтна-кампазіцыйнай ёмістасцю і сінтэтычнасцю (пастаноўка важных жыццёвых праблем, вялікая колькасць дзейных асоб, наяўнасць пазасюжэтных элементаў – лірычныя адступленні, устаўныя эпізоды, апісанні краявіду і г. д.). Па тэматычных асаблівасцях раманы могуць быць сацыяльна-бытавымі, псіхалагічнымі, філасофскімі, гістарычнымі, дэтэктыўнымі, навукова-фантастычнымі і інш.

• **Аповесць** – сярэдняя паміж раманам і апавяданнем эпічная форма. Ад рамана адрозніваецца наяўнасцю звычайна адной сюжэтнай лініі, а ў сувязі з гэтым меншым ахопам падзей, сітуацый, меншай колькасцю дзейных асоб, меншай кампазіцыйнай складанасцю і дэталёвасцю ў вызначэнні вобразаў. Гэта апавядальны мастацкі твор, у якім з дапамогай шэрагу эпізодаў і апісанняў перадаецца сутнасць пэўных падзей, выяўляецца характар аднаго ці некалькіх герояў у іх развіцці. Пісьменнікі нярэдка ствараюць цыклы аповесцей (як і раманаў), аб'яднаных адной тэмай, ідэяй, вобразамі. Такія цыклы называюцца • **дылогія** (складаецца з дзвюх частак-аповесцей), • **трылогія** (з трох твораў), тэтралогія (з чатырох твораў), • **пенталогія** (з пяці твораў) і г. д.

• **Апавяданне** – невялікі празаічны твор, у якім апавядаецца пра нейкі адзін выпадак (сітуацыю, эпізод) з жыцця чалавека. У апавяданні адна сюжэтная лінія, абмежаваная колькасць дзейных асоб, якія прадстаўляюцца са сфарміраванымі ўжо характарамі; сюжэт дынамічны са сціплымі апісаннямі (апісанні нават могуць адсутнічаць).

• **Навела** – жанравая разнавіднасць апавядання, мае больш востры, напружаны сюжэт, нечаканую завязку і развязку. Характарызуецца лаканічным паказам перажыванняў і настрою персанажаў, драматычным дзеяннем. Навела нарадзілася з • **анекдота** – жартоўнага народнага апавядання з дасціпнай, нечаканай развязкай.

Да апавядання прымыкаюць таксама • **казка** і • **легенда** – творы алегарычнага або фантастычнага характару.

• **Нарыс** – мастацка-дакументальнае апавяданне, у якім прадстаўлены падзеі, што сапраўды здарыліся ў жыцці, а персанажы маюць рэальных прататыпаў і выступаюць пад сваімі прозвішчамі.

• **Памфлет** – разнавіднасць нарыса, мастацка-публіцыстычны твор (напісаны празаічнай або вершаванай формай), у якім у востры, сатырычны спосаб высмейваюцца адмоўныя з'явы грамадскага жыцця.

• **Гумарэска** – невялікае апавяданне, у якім мякка, але дасціпна высмейваюцца нейкія грамадскія з'явы, падзеі, асобы.

• **Эсэ** – невялікі літаратурны твор свабоднай формы, у якім пісьменнік разважае аб нейкіх сацыяльна-палітычных, маральна-філасофскіх ці эстэтычна-мастацкіх праблемах. Характэрнай рысай эсэ з'яўляецца суб'ектыўнасць, вобразнасць і афарыстычнасць выказвання.

• **Фельетон** – ствараецца з мэтай актыўна ўмяшацца ў жыццё, ход падзей, паўплываць на іх. Аўтар адкрыта выяўляе сваю пазіцыю, таму стыль фельетона эмацыянальны, дасціпны.

• **Дзённік** – разнавіднасць мемуарнай літаратуры; занатоўкі, храналагічны запіс падзей, у якіх аўтар асабіста ўдзельнічаў ці быў іх сведкам, а таксама думкі і перажыванні, выкліканыя гэтымі падзеямі.

• **Лірыка** – гэта самастойны, старажытны род літаратуры, у якім рэчаіснасць прадстаўляецца праз выяўленне суб'ектыўных перажыванняў аўтара. Прадметам адлюстравання ў лірыцы з'яўляецца духоўнае жыццё чалавека, свет яго ідэй і пачуццяў.

У працэсе шматвяковага развіцця літаратуры склаліся жанры лірыкі, якія цяпер залічаюцца да класічных вершаваных форм:

- **гімн, дыфірамб, ода** (вершы ўрачыста-хвалебнага зместу);
- **стансы** (верш-роздум);
- **элегія** (сумны верш);
- **эпіграма** (кароткі сатырычны верш; у старажытнай літаратуры, у тым ліку і беларускай XVI–XVII стст., эпіграмамі называліся таксама вершы-надпісы і панегірычныя, хвалебнага характару прысвячэнні);
- **эпітафія** (вершаваны надмагільны надпіс);
- **эпіталама** (верш, прысвечаны шлюбу);
- **мадрыгал** (невялікі жартоўны або любоўны верш-камплімент) і інш.

Апрача адрозненняў у змесце, некаторыя лірычныя жанры набывалі сваю тыповую страфічную будову. Так узніклі • **санет, трыялет, тэрцына, рандо, рандэль, актава** і іншыя ўстойлівыя формы лірыкі.

• **Трыялет** – класічная форма васьмірадковага верша з дзвюма рыфмамі, якія ўкладаюцца паводле схемы *абаааабаб*. Характэрнай рысай трыялета з'яўляецца паўтарэнне першага радка ў чацвёртым і сёмым, а другога ў восьмым радку.

Многія з гэтых жанраў у сучаснай паэзіі амаль не развіваюцца. Сучасная лірыка ўсё больш і больш адыходзіць ад традыцыйных жанраў, якія не могуць задаволіць новых патрабаванняў. Выпрацоўваецца «універсальная» форма лірычнага верша, кампазіцыйна гнуткага, эластычнага, не звязанага якімі-небудзь строгімі правіламі.

У залежнасці ад канкрэтнага зместу і характару перажыванняў лірычнага героя адрозніваюць наступныя віды лірыкі: грамадзянскую, філасофскую, патрыятычную, інтымную, пейзажную, агітацыйна-палітычную і рэлігійную.

Лірыка не супрацьстаіць ні • **эпасу** як аб'ектыўнаму аповеду пра пэўныя падзеі, ні • **драме** з яе канфліктна-напружаным скразным дзеяннем, але на працягу ўсяго развіцця літаратуры суіснавала і ўзаемадзейнічала з эпасам і драмай. Элементы лірыкі (лірызм) можна знайсці і ў лірычных і драматычных творах. У сваю чаргу элементы эпасу (сюжэтнасць) і драмы (напружанасць думкі і пачуцця, дыялагічная форма выказвання) паяўляюцца ў лірычных творах. Прыкладам спалучэння элементаў лірыкі, эпасу і драмы з'яўляецца паэзія.

• **Паэзія** як від мастацтва слова – гэта перш за ўсё творы лірычныя, за-

тым паасобныя *вершаваныя творы эпічныя* (раман у вершах, вершаванае апавяданне, быліна, дума), *ліра-эпічныя* (балада, паэма, байка) і *драматычныя* (драматычная паэма).

Слова *лірыка* часта ўжываецца як сінонім паэзіі, аднак трэба падкрэсліць, што лірыка часам карыстаецца і празаічнай мовай (лірычныя адступленні ў эпічных творах, т. зв. лірычная проза).

• **Ліра-эпічныя жанры** – склаліся на мяжы эпасу і лірыкі. Яны цесна звязаны з адным і другім літаратурным родам.

Да ліра-эпічных жанраў адносяцца паэма, раман у вершах, вершаваная аповесць, вершаванае апавяданне, байка, балада, сюжэтны верш.

• **Паэма** – вялікі памерам, сюжэтны вершаваны твор, у якім важныя праблемы рэчаіснасці прадстаўляюцца і эпічнымі (сюжэт), і лірычнымі (вобраз лірычнага героя, лірычныя адступленні) сродкамі. У паэме могуць прысутнічаць таксама і драматычныя элементы (напружана-канфліктнае дзеянне, эмацыянальная вобразнасць маналогаў і дыялогаў). У залежнасці ад перавагі тых ці іншых выяўленчых сродкаў узніклі жанравыя разнавіднасці паэмы: драматычная, эпічная і лірычная. Вялікага росквіту дасягнула паэма ў эпоху рамантызму. У гэты час узнікае новы тып паэмы – рамантычная паэма. Разам з рамантычнай паэмай у беларускай літаратуры развіваецца тып рэалістычнай паэмы, для якой уласціва адлюстраванне тыповых характараў, абставін, праблем. Дасягненні беларускай літаратуры XX ст. у значнай ступені звязаны з развіццём рэалістычнай паэмы, яе розных відаў і форм (гераіка-патрыятычная, гераіка-рэвалюцыйная, сацыяльна-палітычная, сацыяльна-бытавая, гістарычная, філасофская, сатырычная).

• **Балада** – сюжэтны вершаваны твор казачна-фантастычнага, легендарна-гістарычнага ці гераічнага зместу. Калі паэма ахоплівае значны перыяд жыцця, паказвае характар герояў у развіцці, то балада расказвае пра нейкі адзін істотны, часта драматычны ці трагічны момант у жыцці героя.

У адрозненні ад балады • **сюжэтны верш** пазбаўлены гераіка-легендарнага, драматычнага элементаў.

• **Байка** – адзін з самых старажытных жанраў. Байка, як твор сатырычнага характару складаецца з дзвюх частак: лаканічнага апавядання і вываду, або маралі. Першая частка байкі асноўная, мае алегарычную форму (за ўстойлівымі вобразамі замацаваны пэўныя жыццёвыя адносіны, чалавечыя рысы і якасці). Алегорыя служыць выяўленню адмоўных з'яў жыцця. Персанажамі ў байцы могуць быць звяры, рэчы, а нават людзі. Характэрнымі рысамі байкі з'яўляюцца востры, дынамічны сюжэт, яркія вобразы і абавязкова камізм. Другая частка байкі – гэта мараль – дасціпны, афарыстычны вывад.

• **Эпіграма** – невялікі, часцей за ўсё чатырохрадковы (хаця можа быць дву- і васьміраддковы) верш. Пачаткова гэта быў верш-надпіс хвалебнага зместу, потым увабраў сатырычныя, дыдактычныя, любоўныя, філасофскія і іншыя матывы.

## Асноўныя сродкі мастацкай выразнасці (тропы)

- **Эпітэт** – слова, якое ў тэксце акрэслівае назоўнік; мастацкае азначэнне, якое вобразна характарызуе з'яву ці прадмет (*срэбразвонны* ручэй, *сярдзіта* бубніць...).
- **Параўнанне** – выдзяленне ўласцівасці прадстаўленай з'явы шляхам супастаўлення двух прадметаў, паняццяў або з'яў на аснове іх падабенства, найчасцей пры дапамозе слоў *як, нібы, быццам*. Бываюць параўнанні, выражаныя назоўнікамі ў творным склоне, напр.:

*Сілачом* стаіць
Дуб разложысты.

(Я. Колас «Дуб»)

- **Метафара** – слова ці словазлучэнне ў пераносным значэнні; уласцівасці адной з'явы пераносяцца на другую, чым-небудзь падобную да першай; часам называюць яе скрытым або скарочаным параўнаннем (*дрэмле курган, сонца днём распускае там косы свае, луг расой абмыўся*).
- **Алегорыя** – паэтычнае іншасказанне, карціна або вобраз, якія маюць пераносны, скрыты сэнс. Заўсёды алегарычнымі з'яўляюцца байкі, (алегарычны сэнс маюць зборнікі «Дудка беларуская», «Гусляр»); алегорыяй карысталіся пісьменнікі, каб схаваць сапраўдную накіраванасць сваіх твораў, пісалі яны *эзопавай мовай* (ад старажытнагрэчаскага байкапісца Эзопа).
- **Сімвал** – блізкі да алегорыі, замест назвы пэўнай з'явы дае ўмоўнае яе абазначэнне праз вобраз, які можа мець розныя тлумачэнні (вобраз дуба ў апавяданні К. Чорнага «Вялікае сэрца»)
- **Метанімія** – перайменаванне, замена аднаго слова ці выразу іншым на аснове знешняй ці ўнутранай сувязі паміж з'явамі, якія яны абазначаюць (*чытаю Коласа, хорам гудзеў, не маўчаў, лес плакаў, стагнаў*). Асобымі відамі з'яўляюцца сінекдаха і перыфраза.
- **Гіпербала** – перабольшванне, моцнае перавелічэнне ўласцівасцей, якасцей з мэтай звярнуць на іх асаблівую ўвагу, напр.:

*У яго ў крыле – трыста тры пяры:*
*У змахне крылом – быццам бор шуміць,*
*У змахне другім – што мяцель гудзіць.*

(М. Багдановіч «Страцім – лебедзь»)

- **Іронія** – літаратурны прыём, у аснове якога ляжыць адмоўная ацэнка чалавека ці грамадскай з'явы праз знешне станоўчыя, прыхільныя выказванні пра іх; затоеная насмешка. Ядавітая, здзеклівая іронія называецца сарказмам.

*Нашто век зямлі хацеці?*
*Памром – сажань будзем меці!...*

(Я. Купала «Нашто?»)

У мастацкай літаратуры вялікую ролю адыгрывае не толькі ўмелае выкарыстанне слова ў яго прамым і пераносным значэннях, але і спалучэнне слоў. У залежнасці ад будовы адна і тая ж фраза можа гучаць па-рознаму, мець розную інтанацыю. Тут важнае значэнне маюць сродкі паэтычнага сінтаксісу.

## Паэтычныя фігуры

- **Інверсія** – перастаноўка якога-небудзь члена сказа на нязвыклае для яго месца дзеля паэтычнай выразнасці. Інверсія надае фразе своеасаблівую інтанацыю, лірычную пранікнёнасць.

*А ў сэрцы музыка. Граюць цудоўныя струны аб непазнаным, таемным, і гукі музыкі дзіўнай то запальваюць кроў агнямі, то астуджваюць яе крышталькамі льдзінкамі...*

(М. Лынькоў «Над Бугам»)

- **Рытарычныя фігуры: (звароткі, пытанні, воклічы)** – робяць мову эмацыянальнай, усхваляванай, а інтанацыю – напружанай. З гэтай мэтай ужываюцца і рытарычныя пытанні, г. зн. пытанні, якія не патрабуюць адказу, а нясуць яго ў сабе.

*А ці чуў ты, аб чым там араты пяе,*
*Дзе і як жывуць гэтыя людзі?...*
*А ці ўслухаўся ты, як плыве з яе стогн,*
*Стогн пракляцця табе, твайму роду?!*

(Я. Купала «Курган»)

- **Паўторы** – узмацняюць сэнс верша, яго ідэю. Адным з відаў паўтораў з'яўляецца рэфрэн. Рэфрэн, як і іншыя паўторы, канцэнтруе ўвагу на галоўным, на тым, што аўтар асабліва хоча выдзяліць:

*Зямля не зменіць і не здрадзіць,*
*Зямля паможа і дарадзіць,*
*Зямля дасць волі, дасць і сілы,*
*Зямля паслужыць да магілы,*
*Зямля дзяцей тваіх не кіне,*
*Зямля – аснова ўсёй айчыне.*

(Я. Колас «Новая зямля»)

Паўторы ў пачатку радкоў або сказаў называюцца анафарай.

- **Антытэза** – супрацьпастаўленне, кантрастнае супастаўленне процілеглых перажыванняў, думак, вобразаў для ўзмацнення ўражання, якое выклікаюць гэтыя з'явы ці выяўлення іх супярэчлівасці.

*Любоў адкрывае скарбы,*
*Абсягі новых зямель.*
*Варожасць кідае на скалы,*
*Нянавісць садзіць на мель.*
*Любоў і лад узвышаюць,*
*Вядуць за далягляд.*
*Варожасць і злосць прыніжаюць,*
*Адкідваюць назад.*

(А. Вярцінскі «Любоў адкрывае скарбы»)

- **Лірычны герой** належыць да катэгорыі літаратурных вобразаў і з'яўляецца мастацкім вымыслам. Як правіла, вобраз лірычнага героя нельга атаясамліваць з асобай паэта, а яго перажыванні з пачуццямі і думкамі аўтара. (Так, у вершы «Музыкант беларускі» Цёткі лірычнае «я», ад імя якога вядзецца аповед, мужчынскага роду). Аднак трэба заўважыць, што паміж асобай паэта і вобразам яго лірычнага героя ёсць пэўныя суадносіны. У некаторых вершах лірычнае выказванне вядзецца ў 1 асобе, а перажыванні і факты, аб якіх расказваецца, лёгка можна знайсці ў біяграфіі аўтара. Апрача таго, калі лірычны герой не вызначаецца адметнымі рысамі, якія адрозніваюць яго ад асобы паэта – можна прыняць, што аповед вядзецца ад імя аўтара. (Напр. верш Я. Купалы «Я ад вас далёка». Лірычны герой, што расказвае пра сваю адзіноту і тугу па далёкай радзіме ў многім прыпамінае паэта, які прабываючы ў Пецярбургу, сумаваў па сваіх блізкіх і родным краю).

## Жанры драматычнай літаратуры

- **Драма** – род літаратуры, у якім жыццё паказваецца галоўным чынам праз узаемаадносіны паміж характарамі, праз дзеянне. Тут паказ жыцця цалкам будуецца на дыялогах і маналогах дзеючых асоб. Аўтарская мова амаль адсутнічае. Яна сустракаецца толькі ў форме рэмарак – асобных заўваг у тэксце п'есы. Драматычныя творы прызначаюцца для пастаноўкі на сцэне.
- **Камедыя** – твор, у якім камічна, у смешным выглядзе паказваецца розныя (часцей адмоўныя) з'явы жыцця, людскія характары; адзначаецца дынамічнасцю; найчасцей канчаецца паспяхова для літаратурных герояў («Паўлінка» Я. Купалы, «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча).
- **Трагедыя** – твор, сюжэт якога заснаваны на канфлікце, напружанасці; героямі валодае прызначэнне (фатум), якое вядзе іх часта да гібелі (напр.: «Раскіданае гняздо» Я. Купалы).
- **Драма** (у вузкім значэнні) – твор у аснове якога востры канфлікт, аднак не канчаецца трагічнай развязкай,

- **Меладрама** – твор, якому ўласціва дынаміка, займальнасць інтрыгі, павышаная эмацыянальнасць.
- **Фарс** – тэатральная п’еса лёгкага, жартаўлівага, часам фрывольнага зместу.
- **Вадэвіль** – лёгкая камедыйная п’еса; асноўная дзея спалучаецца з музыкай, песнямі, танцамі.

Этапы развіцця падзей у драме:

- **экспазіцыя** (уступная частка, у якой апісваюцца абставіны, месца і час дзеяння; даюцца першыя звесткі пра герояў; найчасцей канчаецца завязкай падзей),
- **развіццё дзеяння**,
- **кульмінацыйны пункт**,
- **развязка дзеяння**.

- **Інтэрмедыі** – невялікія, драматычныя сцэнкі камічнага характару, якія разыгрываліся паміж актамі асноўнага дзеяння спектакля. У інтэрмедыях выкарыстоўвалася жывая народная мова. У сучаснай драматургіі сустракаюцца п’есы, створаныя на матывах інтэрмедый, напр. камедыя В. Вольскага «Несцерка».
- **Батлейка** – перасоўны лялечны тэатр у Беларусі, сцэнай для якога служыла пераносная скрынка ў форме доміка або царквы з двух паверхаў, дзе разыгрываліся розныя прадстаўленні.

## Літаратура

*Анталогія беларускай паэзіі ў трох тамах*, рэдкал. Р. Барадулін і інш., уклад. А. Мальдзіс і інш., Мінск 1993, Т. 1.
Асіноўскі С, *Поле памяці: Постаці і падзеі беларускай мінуўшчыны*, Мінск 1999.
Багданава Г., *Доўгі шлях у космасе вечнасці*, «Першацвет», 2000, № 6.
Багданава Г., *Яна ў прадчуванні палёту*, «Першацвет», 2000, № 1.
Багдановіч М., *Творы: Вершы, апавяданні, нарысы*, Мінск 1957.
Баёк Р., *Беларуская музычная альтэрнатыва*, «Першацвет», 2000, № 2 - 3.
Барадулін Р., *Жыццё і паэзія*, «Першацвет», 2000, № 8.
Баршчэўскі Л., *Беларускія летапісы як жанр сярэднявечнай эпічнай прозы*, «Роднае слова», 1989, № 4.
*Бацькаўшчына: Зборнік гістарычнай літаратуры*, уклад. С. С. Панізнік, Мінск 1997.
*Белавежа: Літаратурны альманах*, пад рэд. Г. Валкавыцкага, Беласток 1988.
*Белавежа: Літаратурны альманах*, пад рэд. Я.Чыквіна, М.Шаховіча, С. Яновіча, Беласток 1980.
*Беларуская літаратура: XI–XX стагоддзі*, уклад. А. І. Бельскі, У. І. Кароткі,
П. І. Навуменка і інш., Мінск 1999.
*Беларуская літаратура*, пад рэд. В. Я. Ляшук, Мінск 1997.
*Беларускія летапісы і хронікі*, уклад. У. Арлоў, Мінск 1997.
*Беларуская мова: Энцыклапедыя*, пад рэд. А. Я. Міхневіча, Мінск 1994.
*Беларускія народныя абрады,* склад. Л. П. Касцюкавец, Мінск 1994.
Вітка В., *Дзецям: Выбраныя творы ў дзвюх кнігах*, Мінск 1986, Кн. 2.
Гаспадыніч П., *Яна і я: Тварэнне хараства*, «Першацвет», 2000, № 2 - 3.
*Гісторыя беларускай літаратуры: старажытны перыяд*, пад рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча, Мінск 1998.
*Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах*, склад. М. Р. Гнеўка, Мінск 1979.
Голубеў В. Ф. і інш., *Ці ведаеце вы гісторыю сваёй краіны?*, Мінск 1994.
Гусоўскі М., *Песня пра зубра*, Мінск 1994.
Ермаловіч М., *Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды*, Мінск 1990.
Іванюк А., Сакоўскі В., *Беларускі ліцэй у Гайнаўцы*, Гайнаўка 2000.
Івашын В. У., Лазарук М. А., *Беларуская літаратура*, Мінск 1997.
Ігнатоўскі У. М., *Кароткі нарыс гісторыі Беларусі*, Мінск 1991.
*«Кантакты і дыялогі: Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь»*, Мінск 1996, № 2.
Караткевіч У., *Зямля пад белымі крыламі*, Мінск 1992.

Калярадскі Г., *Першыя стагоддзі старажытнага Бельска*, «Беларускі каляндар 1977», Беласток 1977.
Колас Я., *Раніца ў нядзельку. Казкі жыцця*, Мінск 1997.
Кулік Я., *Гісторыка-культурныя пытанні*, «Роднае слова», 1996, № 8.
Купала Я., *Вершы*, Мінск 1988.
Кушнярэвіч В. В., Рагуля А. У., *Беларуская літаратура*, Мінск 1997.
Лазарук М. А., Ленсу А. Я., *Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў*, Мінск 1996.
Лазарук М. А, *Тэорыя літаратуры ў школе*, Мінск 1967.
Ланеўскі Г., *Паданні роднага краю*, Мінск 1986.
Ластоўскі В. Ю., *Кароткая гісторыя Беларусі*, Мінск 1993.
*Літаратурная Беласточчына: Вершы і апавяданні*, Мінск 1973.
Прыгодзіч М., *Берасцяныя граматы*, «Роднае слова», 1993, № 5.
Прыгодзіч М., *Беларускія летапісы*, «Роднае слова», 1993, № 10.
*Родная літаратура: Падручнік-хрэстаматыя*, аўтары-склад. В. Я. Ляшук, Г. М. Манец, У. А. Сенькавец, Мінск 1995.
*Родная літаратура: Падручнік-хрэстаматыя*, склад. М. А Лазарук, В. І. Русілка, І. М. Слесарава, Мінск 1997.
Рымша В., *Рэквіем*, «Першацвет», 2000, № 1.
Салавей Л., *Сягоння ў нас Купала...*, «Роднае слова», 1995, № 5.
Сачанка Б., *Выбраныя творы ў двух тамах: Апавяданні*, Мінск 1981, Т. 1.
Сачанка Б., *Сняцца сны аб Беларусі...*, Мінск 1990.
*Старажытная беларуская літаратура: Зборнік*, уклад. Л. С. Курбека, Мінск 1990.
*Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588*, пад рэд. І. Шамякіна, Мінск 1989.
Старычонак В. Дз., *Беларуская літаратура: ад А да Я*, Мінск 1998.
Сямешка Л. І. і інш., *Курс беларускай мовы*, Мінск 1996.
*Тэрмапілы: Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс*, рэд. Я. Чыквін, Беласток 2008, № 12
Ярмалковіч В., *Кароткі нарыс гісторыі Беларусі да 1914 года*, Беласток 1991.
Яромкіна Н., *Свабода*, «Першацвет», 2000, № 1.

## Fotografie

Aliaksandr Aliakseyeu i Aleh Lukashevich: 197
Marek Dolecki: 155 (u dołu), 157, 175 (z prawej), 179
Stanisław Fiedorowicz: 54
Ihar Hardzijonak: 182
Andrzej Karpowicz: 46, 115, 138, 142, 150-152, 158, 160-164, 171-172, 194, 205
Anatol Klaszczuk: 120, 221-222
Anna Miszczuk: 121
Anna Radziukiewiecz: 10, 38-41, 43-45, 48, 51, 53, 65, 69, 73, 91, 116, 123, 140, 143, 154, 156, 169, 176, 178, 210, 229
Anna Wnorowska: 55
Wiktor Wołkow: 8